Людміла Дучыц
Ірына Клімковіч

# Сакральная геаграфія Беларусі



УДК 398:913(476)
ББК 82.3(4Беи)
Д85

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі
*Людмілы ДУЧЫЦ, Ірыны КЛІМКОВІЧ, Ігара ГАТАЛЬСКАГА, Валерыя ВІНАКУРАВА, Алены ЖДАНОЎСКАЙ, Марыі ІГНАЦЕНКА, Аляксандра ЗАЙЦАВА, Юрася УНУКОВІЧА, Міколы КРЫВАЛЬЦЭВІЧА, Дайвы ВАЙТКЯВІЧЭНЕ*

***Аўтары выказваюць падзяку Юрасю ПАЦЮПУ за першую рэдактуру тэксту і літаратурную апрацоўку паданняў***

**Дучыц, Л. У.**

Д85 Сакральная геаграфія Беларусі / Людміла Дучыц, Ірына Клімковіч. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2011. — 384 с. : іл.

ISBN 978-985-6941-85-9.

Кніга з'яўляецца адной з першых спроб у нашай краіне сістэматычна асэнсаваць традыцыйную і культурную спадчыну беларусаў, захаваную нашымі продкамі ў легендах і паданнях, геаграфічных назвах, багатым фальклорным матэрыяле. Аўтары кнігі паспрабавалі вынікі сваіх назіранняў і даследаванняў, атрыманыя падчас археалагічных раскопак, этнаграфічных і фальклорных экспедыцый, размеркаваць па раздзелах, кожны з якіх прысвечаны той ці іншай сакральнай частцы нашага ландшафту.

Для шырокага кола чытачоў.

**УДК 398:913(476)**
**ББК 82.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-6941-85-9**

# Уводзіны

Каля 30 тысяч гадоў таму на поўдні нашай краіны з'явіліся першыя людзі. Чалавек асвойваў землі ў міжрэччы Прыпяці, Дняпра, Заходняй Дзвіны і Нёмана. На гэтым абшары пачынаў будавацца беларускі Дом, пачынала стварацца свая гісторыя. Гэтак мінуў каменны век, тады бронзавы і ранні жалезны. Настала Сярэднявечча, бадай што найадметнейшая і найтрагічнейшая пара нашай гісторыі. І вось мы ўжо ў XXI стагоддзі.

У кожную часіну нашы продкі пакідалі нам адметныя сляды свайго жыцця як запавет для далейшага поступу... Дзеля таго, каб сёння мы з вамі маглі знайсці сваю асобую сцяжыну, адкрыць сваю гістарычную і містычную наканаванасць. Што за сляды?

Гэта не толькі рэшткі паселішчаў і пахаванняў, памяткі пра войны, значныя падзеі і мясціны, дзе ўшаноўвалі багоў. Наша нацыянальнае багацце — паданні і балады, легенды і казкі, а таксама старадаўнія народныя назвы. Гэта той пласт культуры, які не заўсёды адшукаеш у архівах. Жывыя паданні і легенды можна пачуць толькі ад людзей, якія захавалі ў сваёй памяці даўнейшыя аповеды продкаў. Менавіта ў мікратапанімічных назвах ды паданнях замацавалася наша тоеснасць як народа.

Сакральная геаграфія — гэта перш за ўсё ландшафт, агульны выгляд мясцовасці, яе краявіды, апетыя народам, убачаныя вачыма продкаў. Які пейзаж падарылі беларусам прырода і час? Тут узгоркі і даліны, рэкі і азёры, камяні і дрэвы, гарадзішчы і курганы. І ўсе гэтыя з'явы знайшлі свае непаўторныя вобразы ў беларускай міфа-паэтычнай карціне свету. Згодна са старадаўнімі ўяўленнямі, гарадзішчы і горы насыпалі волаты, у стварэнні азёраў і рэк бралі ўдзел звяры і птушкі, а камяні і дрэвы — гэта ператвораныя ў іх людзі... У народнай памяці захаваліся імёны найстаражытнейшых паганскіх боставаў: Пярун, Вялес, Дажбог... Іх дзеянні, пададзеныя ў паганскіх міфах, перапляліся з паводзінамі біблейскіх герояў, апісаных у сярэднявечных тэкстах.

Чалавек заўсёды імкнецца даведацца пра мінулыя падзеі і людзей той зямлі, дзе жыве. На нашых землях народныя паданні сталі занатоўвацца ўжо з пачатку XIX ст. Першыя запісы рабілі вядомы этнограф З. Даленга-Хадакоўскі, прафесар Вілен-

скага ўніверсітэта І. Лабойка і інш. У сярэдзіне XIX ст. афіцэры Генеральнага штаба, працуючы над картамі рэльефу нашай краіны, фіксавалі адначасова паданні пра ўзгоркі ды азёры. Пазней народныя ўяўленні пра ландшафтныя аб'екты, помнікі археалогіі занатоўвалі члены Імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства, а таксама Імператарскай археалагічнай камісіі. Праз анкеты такія звесткі збірала кіраўніцтва епархіяў і губерняў. На анкеты найчасцей адказвалі мясцовыя святары, настаўнікі, валасныя пісары. Шмат звестак назбіралі і падчас падрыхтоўкі IX Археалагічнага з'езда, які адбываўся ў Вільні ў 1893 г. У 1920-я гады, гады ўздыму краязнаўчага руху, падобныя звесткі шырока друкаваліся ў тагачасных газетах, асабліва ў рэспубліканскім краязнаўчым часопісе «Наш край».

У нашай кнізе расказваецца пра тое, як беларусы праз міфапаэтычныя вобразы ўяўлялі сакральны ландшафт. Падаецца шмат павер'яў і паданняў, сабраных пры вывучэнні археалагічнай, этнаграфічнай і краязнаўчай літаратуры, архіўных матэрыялаў, у часе разнастайных падарожжаў і ў выніку экспедыцый этна-гістарычнага цэнтра «Явар». Перад экспедыцыямі грунтоўна распрацоўваліся маршруты, яны абапіраліся на папярэднія археалагічныя даследаванні. Супастаўляліся сучасныя звесткі і дадзеныя XIX—XX стст. Урэшце, удалося прасачыць трансфармацыю сюжэтаў беларускіх паданняў, змены народных назваў прыродных аб'ектаў, гістарычныя акалічнасці, якія маглі да гэтага спрычыніцца.

Апроч нашай супольнай Бацькаўшчыны — Беларусі, у кожнага з нас ёсць свая малая айчына: мястэчка, горад або маляўнічая вёска. І ёсць людзі, якія ўсё сваё жыццё прысвячаюць бясконцаму іх вывучэнню, робячы гэтым карысць усёй нашай Беларусі. Таму хочацца з удзячнасцю ўзгадаць тут Аляксандра Зайцава, Міхася Мацельскага, Андрэя Аляхновіча, Алеся Гарбуля, чые краязнаўчыя даследаванні дапамагалі пры напісанні нашай кнігі. Каштоўныя парады былі атрыманы ад Ігара Гатальскага.

Можа, чытачоў гэтай кнігі засмуціць пэўная мазаічнасць у пераліку паданняў ды тапанімічных назваў. Але аўтары свядома ставілі перад сабой такое заданне, каб праз багацце, збіранае не адно стагоддзе, праз архіўныя і экспедыцыйныя звесткі паспрабаваць узнавіць беларускую карціну свету. Спадзяемся, нам гэта ўдалося. Запрашаем зацікаўленых чытачоў да самастойных шуканняў у гэтым кірунку. Ад гэтага выйграем усе мы. І яшчэ ярчэй заззяе наша непаўторнае, своеасаблівае культурнае багацце.

# Святыя горы

У міфалогіі касмічная гара ўяўляе сабою трансфармацыю Сусветнага дрэва і ўспрымаецца як вось і мадэль свету, у якой адлюстраваны ўсе асноўныя элементы і параметры космасу. Міфалагічная гара трохузроўневая. На яе вяршыні жывуць вышэйшыя істоты — багі, у ніжэйшай частцы — злыя духі, а на зямлі — чалавечы род. У старажытных грэкаў святымі лічыліся Парнас і Алімп, на Блізкім Усходзе — гара Арарат і гара Сінай.

Ва ўсіх народаў вяршыня гары была месцам выяўлення волі багоў. Успомнім таго ж Майсея, які на гары Сінай прыняў ад бога Яхвэ скрыжалі, высечаныя на камені, паводле якіх мусіў далей жыць яўрэйскі народ. Ісус таксама часцей за ўсё навучаў з гары: адна з яго слынных казаней, якая акумулюе ў сабе ўвесь маральны змест хрысціянства, так і называецца — Нагорная. У беларускай міфалогіі менавіта на горах легендарныя князі Гедымін і Тур бачылі прарочыя сны, якія вешчавалі вялікія падзеі ў гісторыі нашага народа. Прыклады можна доўжыць і доўжыць. У кожнай сусветнай культуры існуе падобны сімвал.

Дык і не дзіва, што ва ўсіх народаў ёсць звычай ставіць на ўзвышшах свяцілішчы і храмы, кумірні і алтары. Дый у нас заўсёды спраўлялі і спраўляюць дагэтуль на ўзгорках Купалле, асноўныя дзеянні якога — распальванне вогнішчаў, запальванне колаў — відавочнае водгулле культу Сонца. Ад гэтага культу ў беларускім фальклоры захаваўся такі персанаж, як Гром-сын, якому трэба залезці на высокую гару, каб злавіць там Жар-Птаха — пераўвасобленае Сонца. Адсюль і паданні пра ўзнікненне саміх узгоркаў з тых камянёў, якія назбіралі легендарныя продкі беларусаў — міфічныя волаты ды асілкі. Адгалоскам біблейскіх казаней пра сусветны патоп выступаюць і беларускія легенды, паводле якіх горы і долы на нашай зямлі ўтварыліся, калі вада пасля патопу сцякала ў мора. Яшчэ і сёння, прыкладам, каля Браслава, Смілавіч (Чэрвеньскі р-н), в. Скірмунтава ў Дзяржынскім раёне, іншых мясцінах мож-



*Святая Горка паміж вёскамі Гудавічы і Верхлес, Чэрвеньскі р-н. Паводле падання, тут на камяні адпачывала Багародзіца.*

на пачуць, як тутэйшыя людзі называюць свае ўзгоркі Святая Гара. А з-пад Святой Гары каля в. Скірмунтава ў Дзяржынскім раёне пачынаецца сакральная беларуская рака Нёман.

Шмат якія падобныя ўзвышшы ў савецкія часы пазнішчалі, як, прыкладам, каля вёскі Плябань Маладзечанскага раёна. Часта побач са святымі ўзгоркамі знаходзяцца святыя азёры, крыніцы, камяні, дрэвы, што ўдвая, а часам і ўтрая падкрэслівае сакральнасць падобных мясцін. Так, каля вёскі Стралкі ў Верхнядзвінскім раёне побач са Святой Гарой ляжыць Святое Возера, дзе забараняецца лавіць рыбу, бо, паводле падання, тут праваліўся храм. Апрача таго, каля гары ёсць святая крыніца з капліцай над ёй, куды раней у якасці ахвяраванняў клалі воўну, кветкі, грошы... А на гары расла паклонная сасна, каля якой спраўлялі Купалле. Другі прыклад: на Браслаўшчыне каля хутара Каранікі ёсць гара, якая, мабыць, таму, што раней на ёй рос вялізны дуб, які ў народзе лічыўся святым, атрымала найменне Дуб. Спрадвеку тут спраўлялі Купалле і гушкаліся на арэлях.

Пра Святую, або Мір-Гару, каля вёскі Сорагі на Случчыне ёсць паданне, дзе гаворыцца, што даўней на гары расла са-

сна, і там аб'явіўся абраз Божай Маці. Неўзабаве пабудавалі царкву. На пачатку XX ст. тут заставаўся толькі пень ад той сасны, празваны ў народзе Божым пяньком. Да гэтага пянька на Пакроў сцякаліся ўсе мясцовыя багамольцы і складалі на яго ахвяры: сыр, мёд, палатно і інш. Другое паданне тлумачыць паходжанне назвы Мір-Гары. Кажуць, што два князі не маглі ўжыцца па-суседску. Не раз іх дружыны хадзілі адна на адну вайной, з-за чаго па схілах гары лілася кроў. Нарэшце ім надакучылі няспынныя бойкі ды звягі і яны надумаліся пагадзіцца. І вось князі сустрэліся на гары без зброі ды заклалі мір. Адсюль і назва — Мір-Гара.

Наогул, даўней слова «мір» значыла вялікую колькасць паселішчаў у адным месцы з цэнтрам, куды па святах збіраліся жыхары з усяго наваколля. У такім месцы зазвычай выбіралі вайсковага начальніка і «гарадскога старца», які кіраваў грамадскімі справамі, тут чыніліся мірскія суды. Натуральна, што ў цэнтры было і родавае свяцілішча.

Адна з горак каля Мазыра, на якой калісьці быў манастыр з царквой св. Міхаіла, называлася ў даўнія часы Святая Гара. У сярэдзіне XIX ст. пра яе запісалі паданне аб заснаванні горада. Паводле падання, Мазыр заснавалі два браты з Кіева, якія пасяліліся ў гэтых мясцінах, каб гандляваць рыбіным тлушчам.

*...Старэйшы брат ад нараджэння быў зусім брыдкім. Затое малодшага Бог надарыў нечуванай красой. Дык і згода між братамі нядоўга трывала. Занелюбіў старэйшы брат малодшага. Мо ад зайздрасці, што ў брата ўсё спорыцца: і гандаль ідзе рукою, і на красу яго дзеўкі злятаюцца як мухі на мёд... А каб не наклікаць бяды якой, надумаўся малодшы брат пасяліцца як мага далей ад свайго зайздросніка. Але напярод трэба было тавар падзяліць пароўну. А старэйшы — ані туды тое! — не хоча. І калі малодшы прыйшоў да яго з гандлёвым інтэрасам — наказаў сваім слугам выгнаць вон шчаслівейшага брата.*

*Тут і малодшы ўжо не стрываў, сабраў дружыну і абвясціў вайну старэйшаму. Тады зайздросны брат пайшоў да чараўніцы прасіць помачы. А чараўніца жыла тамака на самай гары. І гара на тую пару была не адхонная, як цяпер, а спічастая. Чараўніца пагадзілася. Гукнула сваё войска — незлічоных духаў — і пачаўся бой. Калі ж вядзьмарка абачыла раптам малодшага брата, здзівілася яна яго хараству і сказала спыніць бойку. Тады старэйшы брат зусім раз'юшыўся і стаў*

*біцца з духамі. А чараўніца ўзняла свой меч, і гара разышлася надвое. От і загінуў у той распадзіне няўдалы ваяка.*

*А малодшы брат зажыў разам з любай жонкаю на адной з рассечаных гораў. Чараўніца засталася на другой палове. Але каханне не давала ёй спакою. І зачала чараўніца ўгаворваць суседа перабрацца жыць у свой дом. Той, ведама, як умеў, так адмаўляўся. Не вытрымаўшы, вядзьмарка сама перасялілася на другую палову гары да свайго абранніка. Ды, не маючы жаднай радачкі, узялася яна ад злосці чараваць і здзекавацца ўсяляк з суседа. Жонка малодшага брата вельмі перажывала з усяго гэтага, аж пакуль не прыйшло ёй да галавы паставіць на сваёй палове гары святы крыж. З таго часу ўсе вядзьмарчыны чары страцілі моц, зрабіліся смешныя і немачныя. Дый сама яна неўзабаве некуды знікла. А тая палова гары, дзе паставілі крыж, стала звацца Святой Гарой.*

Падобных архаічных паданняў у сярэдзіне XIX ст. было запісана даволі шмат. Так, культавы ўзгорак у Кажан-Гарадку Лунінецкага раёна мае некалькі назваў: *Відуш-Гара*, *Відзіўш-Гара*, *Авідава Гара* і нават *Вітава гара*. Апошняя назва нібыта паходзіць ад імя славянскага бога Віта, які меў сем галоў і сем мячоў на поясе.

## Сляды язычніцкіх капішчаў

Пра некаторыя беларускія ўзгоркі ў старадаўніх паданнях захаваліся ўскосныя звесткі, што на іх вяршынях былі капішчы або свяцілішчы. Гэта і Чорная Гара ў Заслаўі, і Хоўхлава ў Маладзечанскім раёне, і хутар Раўгішкі — у Браслаўскім. Некаторыя ўзгоркі маюць нават назву Капішча, як у вёсцы Дрычын Пухавіцкага раёна. У вёсцы Караліна Мінскага раёна на беразе Пцічы пра ўзгорак Шведскі Курган кажуць, нібыта *там некалі было язычніцкае капішча, а пазней — шведская крэпасць*. Гаштольдаву Гару, або Крутагор'е, у Койданаве — цяперашнім Дзяржынску — таксама звязваюць з былым паганскім капішчам. Паводле падання, у Браславе на вяршыні Святой Гары стаялі балваны і побач з імі гарэлі вогнішчы, а на МаліБоўскай Гары каля вёскі Быстрыца ў Капыльскім раёне некалі *была кумірня*.

Аб сакральнасці ўзгоркаў сведчаць і тыя паданні, дзе гаворыцца пра закапаныя ў іх скарбы, а таксама павер'і, дзе

ўспамінаюцца агеньчыкі і полымя на вяршынях. Пра Тамілаву Гару, якая ляжала недалёка ад вёскі Чыжэвічы Салігорскага раёна, а цяпер, на вялікі жаль, пахаваная пад вялікімі салянымі горамі — тэрыконамі, у 20-я гады XX ст. расказвалі незвычайныя гісторыі. То пра нейкага невядомага француза, вельмі стомленага ад вайны, які знайшоў адпачынак на вяршыні гэтай гары, то ўжо пра шведа, які закапаў на гары акурат тры бочкі з золатам, і не простыя бочкі, а на залатых колцах. Як вядома, бочка на колцах, ды яшчэ залатая (наогул золата), у сусветнай міфалогіі лічыцца сімвалам сонца.

На гары Метка каля вёскі Плюсы ў Браслаўскім раёне падчас старадаўняй вайны, як кажа паданне, стаяў лагер, і ворагі пры адступленні закапалі там вельмі каштоўны скарб, дзе былі грошы і шмат розных залатых ды срэбных рэчаў. У вёсцы Рачэнь Любанскага раёна на Гарадку ва ўрочышчы Лясішча нібыта таксама закапаны скарб. Кажуць, быццам уначы ён выходзіць на паверхню і свеціцца яркім полымем. На гары каля вёскі Свідна Лагойскага раёна скарб лічыцца заклятым, а ўначы там з'яўляюцца агеньчыкі, якія потым знікаюць у паветры. Пра гару Пагулянку ў Бярэзінскім раёне паданне кажа, што ўсярэдзіне яе ёсць чыгунны склеп, які зачынены на віслы замок вагою каля 35 фунтаў, а дзверы ахоўвае залаты сабака на ланцугу.

Захаваліся звесткі і пра ахвяраванні на ўзгорках. У Крычаве пра гару каля Праабражэнскай царквы яшчэ ў XIX ст. казалі, што на яе вяршыні некалі прыносілі ахвяры ў выглядзе хатняй жывёлы і птушак. У сярэдзіне XIX ст. пры вёсцы Гняздзілава Докшыцкага раёна быў манастыр Барыса і Глеба. Потым яго скасавалі, а на тым месцы пабудавалі ўніяцкую царкву Пятра і Паўла. Паводле аповедаў старых, што запісаныя ў 70-я гады XIX ст., на дзень гэтых святых адбывалася храмавае свята і ладзіўся святочны кірмаш. Тады ў Гняздзілаве варылі піва, а на гары каля вёскі Верацейкі рэзалі казлоў і гатавалі іх на вогнішчы. Потым тут смажаніну або елі, або прадавалі. Вядомыя аповеды і пра тое, што некалі на Варганскай Гары (в. Варганы), якая таксама ляжыць у Докшыцкім раёне, запальвалі вогнішчы і спраўлялі свята ў гонар барана. А на Кавальскай Гары, што непадалёк, у адказ таксама адразу запальвалі вогнішча.

Пацверджаннем таго, што падобныя ўзгоркі некалі маглі быць язычніцкімі капішчамі, а пазней там будаваліся храмы, служаць паданні пра царкву ці касцёл, якія праваліліся і ляжаць пад гэтымі ўзгоркамі. Як, прыкладам, у вёсцы Мікуліна

Полацкага раёна, Навасёлкі — Маладзечанскага, Воўкаўшчына — Мёрскага, інш. Часам кажуць, што пасля таго як храм праваліўся, з-пад зямлі чуваць званы і царкоўны спеў, а на паверхню на храмавыя святы выходзяць царскія вароты. Так, у вёсцы Паўлавічы на рацэ Ракцянцы каля Клімавіч на гарыгарадзішчы некалі, згодна з паданнем, стаяла царква і правалілася, бо, маўляў, *дзяўчаты ў раўкох каля гары дазвалялі сабе непрыстойнасці.* На пачатку XX ст. сяляне лічылі гару святой і сцвярджалі, нібыта ў Велікодную ноч з-пад зямлі даносяцца гукі званоў. А ад старых людзей можна было пачуць, быццам даўней гэтая гара служыла месцам паганскіх ігрышчаў.

У вёсцы Дабрынёва каля Лагойска пра высокую гару было запісана паданне, нібыта на ёй некалі стаяла царква, а потым правалілася. З-пад зямлі можна было пачуць гукі званоў. Каля падэшвы гары цёк ручай, цераз які ішоў масток. Казалі, часам ля мастка бачылі, адпачываў салдат, а побач сядзеў сабака і стаяў поўны воз грошай. Кожнаму, хто праходзіў праз масток, салдат прапаноўваў аддаць тры душы, а за гэта абяцаў воз грошай. Але ніхто не мог гэтага зрабіць, бо не меў гэтулькі душ. Тады салдат, сабака і грошы знікалі, а потым і наогул перасталі з'яўляцца.

У вёсцы Саннікі Дзятлаўскага раёна пра гару Талерка таксама расказваюць, нібыта там правалілася царква. Памяць пра яе захавала ў народзе паданне, дзе апавядаецца пра жанчыну, якая на вяршыні гары мелася памаліцца Богу і паскардзіцца яму на сваё цяжкое жыццё. Раптам убачыла, як з'явіўся ланцуг, канцы якога хаваліся ў зямлі. Жанчына стала цягнуць за гэты ланцуг, аж пакуль не паказаўся вялікі цяжкі крыж, але выцягнуць яго цалкам у яе не было сіл. Сялянка надумала паклікаць каго-колечы на помач і закрычала: *«Людцы, дапамажэце мне выцягнуць мой крыж!».* Толькі яна гэта прамовіла, як зніклі і крыж, і ланцуг.

Маркерамі колішніх капішчаў служаць узгоркі з назвамі, якія паходзяць ужо з хрысціянскіх часоў ад назваў храмаў. Гэта *Юр'еўскія, Янаўскія, Троіцкія,* іншыя горы. Лучнасць са святым Георгіем, або Юр'ем, кажа нам пра рэлікты старажытных аграрных культаў, якія чыніліся на гарах з такой назвай. На Юр'евай Гары ў Віцебску некалі стаяла царква святога Георгія, а з-пад гары выцякала святая крыніца, над якой збудавалі капліцу. У дзень святога Георгія, а таксама Барыса і Глеба тут адбываліся фэсты. Каля вёсак Асташын Карэліцкага раёна і Крэва Смаргонскага захаваліся горкі з



*Гара Талерка, в. Саннікі, Дзятлаўскі р-н.*

назвай *Юр'ева Гара*. Свята Юр'я адзначалі на гары Весялуха каля вёскі Леанардава Мядзельскага раёна. Яшчэ і цяпер тут засталіся рэшткі ўніяцкага, а пазней каталіцкага храма.

У Барысаўскім раёне каля вёскі Смаляры ляжыць сярод лесу гара, якую завуць *Святаянскай*, або *Святы Ян*. На гэтай гары, вышынёй каля 20 м, яшчэ ў 30-я гады XX ст. стаяла драўляная скульптура Святога Яна, памерам з дарослага чалавека, над ёй была капліца. Цяпер нічога з гэтага няма, затое захавалася крынічка, якую называюць Язусік, лічыцца яна святой і выцякае проста з-пад гары. Нават сёння на Вялікдзень кідаюць у крыніцу грошы. Каля горада Сянно ёсць гара Ільінуха, або Ільіна Гара. Кажуць, на яе паверхні некалі таксама прабівалася крыніца.

У нашай мікратапаніміцы захаваліся і такія назвы, як *Траецкія Горы*. На іх ставілі храмы з назвамі ў гонар Святой Тройцы. Так, у Мінску ўсе ведаюць гару над ракой, дзе цяпер стаіць Тэатр оперы і балета. За сівой даўнінай на ёй месцілася язычніцкае капішча, там ляжаў камень са следам Святога Пятра, які карыстаўся вялікай пашанай у менчукоў. За хрысціянскім часам тут збудавалі Траецкую царкву. Сёння гэтая назва перайшла на цэлы сталічны раён — Траецкае прадмесце.

Згодна з міфічнымі поглядамі нашых продкаў, вобраз сусветнай касмічнай гары заўсёды супастаўляўся з трохчасткавай сістэмай светабудовы. Як ужо мы казалі вышэй, верхняя сфера ляжала на вяршыні гары і адпавядала свету нябесных багоў, сярэдняя — свету людзей і жывёл, а дольняя — свету падземных боствaў і свету продкаў, якая ў народнай свядомасці асацыявалася з воднай прасторай. Таму ў Беларусі вельмі часта ручаі і крынічкі, якія бяруць свой пачатак з-пад гары, абагаўляліся. Скажам, у Мсціславе пад Траецкай Гарой ёсць святая крыніца Здаравец. А пад адной з Лысых Гор недалёка ад Заслаўя таксама некалі была святая крынічка, якую пры будаўніцтве лецішчаў проста засыпалі смеццем. І якраз на вяршыні гары, з бакоў ды ў доле, там, дзе пачыналася крыніца, навукоўцы знайшлі рэшткі язычніцкага капішча.

# Лысыя Горы

На тэрыторыі Беларусі амаль што ў кожнай акрузе ёсць свая Лысая Гара. Апроч таго, сустракаюцца сугучныя назвы: Лысуха, Лыска, Лыскагор і да т. п. У народным уяўленні такія горы маюць дачыненне да нячыстай сілы, таму і «аблыселі». Прыметнік «лысы» мае тут двaякі сэнс. Гэта можа тлумачыцца і як «голы, без раслін і дрэваў», і як «ясны», «светлы», звязаны з сакральнымі рэчамі. Навукоўцы лічаць, што на такіх узгорках некалі былі паганскія свяцілішчы, а пасля прыняцця хрысціянства ўсе астаткавыя язычніцкія абрады, што адбываліся там, прылічаліся да шабашаў. У свеце найзнакаміцейшай лічыцца Лыса Гура ў Польшчы пад Сандамірам, якую нават трактуюць як польскі Алімп, за ёй — Лысая Гара каля Кіева, што супраць Выдубіцкага манастыра, і Лысая Гара блізу Заслаўя ў Мінскім раёне. Дарэчы, гара Алтарыя ў Вільні і Успенская Гара ў Віцебску таксама некалі зваліся Лысымі. На Беларусі некаторыя Лысыя Горы маюць і дублетныя назвы. Так, каля Нісімкавічаў у Чачэрскім раёне Лысая Гара завецца яшчэ і Белая Гара, а Лысую Гару ў Браславе завуць таксама Чырвонай Гарой.

На некаторых такіх узгорках ёсць курганныя могільнікі, як, прыкладам, у вёсках Усціж і Старое Сяло Асіповіцкага раёна ды Селішча Вілейскага. А на іншых, як у вёсцы Кушляны Смаргонскага раёна, ляжаць культавыя камяні. У Залессі ў Глыбоцкім раёне лічаць, быццам Лысую Гару насыпалі фран-

цузы. Пра сакральнасць многіх з такіх узгоркаў сведчаць і паданні пра храмы, якія там праваліліся (былая в. Гаравая Шчучынскага раёна), пра закапаную ў гары залатую карэту. У XIX ст. у вёсцы Крамяніца Зэльвенскага раёна пра мясцовую Лысую Гару было запісана паданне пра два вяселлі, адно з якіх вярталася з Ваўкавыска, а другое — з Крамяніцы. Сутыкнуўшыся, яны не хацелі схіляцца адзін перад адным з дарогі. Пачалася жорсткая бойка, у выніку ўсе загінулі. Іх пахавалі, а на месцы пахавання ўзнікла Лысая Гара. На Лысай Гары каля мястэчка Асвея ў Верхнядзвінскім раёне, паводле падання, пахаваныя сабакі графа Шандурскага, а каля мястэчка Целяханы Івацэвіцкага раёна — цела татарскага хана. Адсюль нібыта і назва Целяханы.

Згодна з павер'ямі, на Лысых Гарах у купальскую ноч збіраецца нячыстая сіла, здараюцца розныя цуды, нечакана з'яўляецца агонь, вакол якога танцуюць чэрці. У XIX ст. у паўднёвай Беларусі і ў Магілёўскім Падняпроўі бытавалі апоседы, што на Купалле ўсе нячысцікі збіраюцца ў асноўным на Лысую Гару блізу Кіева. У якасці ж транспартнага сродку яны выкарыстоўваюць хлебныя лапаты, качэргі, ступы, венікі, а часам і рагатую жывёлу. За тым часам у былым Чэрыкаўскім павеце ў гэтую ноч не пакідалі на полі коней, бо вельмі баяліся, маўляў, іх скарыстаюць ведзьмы для язды на кіеўскую Лысую Гару.

У ваколіцах Мсціслава верылі, быццам перад Купаллем ведзьмакі ды вядзьмаркі абяртаюцца ў лятучых жывёл з крыламі і ў такім выглядзе дабіраюцца да Лысай Гары ў вёсцы Кокатава, што за 14 вёрст ад Мсціслава, каб далучыцца там да шабаша. Апоўначы яны вяртаюцца, кожны ў свой двор, бразгаюцца аб зямлю і зноў прымаюць чалавечы выгляд. А ў Петрыкаве на Гомельшчыне лічылі, што мясцовыя ведзьмы спраўляюць на Купалле свой шабаш на Лысай Гары каля Прыпяці. На Лысай Гары ў Старым Капылі апоўначы таксама, маўляў, збіраюцца ведзьмы і ведзьмакі. На Віцебшчыне пра адну з мясцовых Лысых Гор расказваюць, быццам салдат, збіўшыся з дарогі, папрасіўся ў адну хату пераначаваць, ды гаспадыня там была вядзьмаркай. Адзін толькі пах чароўнай гаспадынінай ежы змусіў салдата апынуцца на Лысай Гары. А на Берасцейшчыне ў XIX ст. было запісана паданне пра чорта-жаніха, які сваёй дзяўчыне-нявесце прынёс у падарунак вяршыню Лысай Гары.

На Мінскім узвышшы ёсць вёска, якая называецца Лысая Гара, а каля яе — высокая гара. У паданні расказваецца:

*Даўным-даўно ў адну з купальскіх начэй ведзьма і лясун абралі сабе для скокаў найстарэйшы на гары ясень. Людзі ў вёсцы, пачуўшы вядзьмарскае галёканне і нечалавечы рогат, пахаваліся па хатах. Не спалохаўся толькі адзін малады каваль, асілак Янка, ён як шпацыраваў, так і шпацыраваў з сваёй дзяўчынай Марыйкай. Забыўшыся, яны нават зайшлі на самую гару. Раптам з ніжняй галінкі ясеня высунулася нечая белая рука, а таямнічы голас паклікаў: «Ідзі, ідзі, Марыйка, да нас у карагод!...». Дзяўчына і не заўважыла, як падала сваю руку, а невядомая сіла ўжо несла яе на вяршыню ясеня. Але Янка і не думаў пускаць дзяўчыны. Ён так раззлаваўся, што зрабіўся ў сем разоў мацнейшым. І з такой сілай цягануў Марыйку назад, што разам з ёю сцягнуў з ясеня цэлы тузін ведзьмакоў і ведзьмаў, звязаных адной вяроўкаю. Д'ябальскі рогат адразу сціх, нячысцікі сталі плакаць і прасіцца ў Янкі, каб ён пусціў іх назад на дрэва. А той — ані блізка, ухапіў ён за чупрыну аднаго лесуна і павалок цэлы карагод да стаўка пад гарой, дзе пхнуў іх у дрыгву. Балотца быццам закіпела і ўмомант высахла. Ясень пасля назвалі Янкавым. І кажуць, што ўжо ніколі там не з'яўлялася ніякай нечысці.*

У адным з паданняў, якое датычыць Лысай Гары каля вёскі Латочкі Браслаўскага раёна, расказваецца пра багатага пана, у якога не было нашчадкаў. Перад смерцю, каб яго багацце не дасталося простым сялянам, ён усё сваё золата паклаў у човен і закапаў пад каменем. На скарб ён наклаў заклён, згодна з якім човен з золатам дастанецца толькі таму, хто выканае тры ўмовы: распаліць вогнішча на Лысай Гары, здзярэ скуру з жывога каня, запражэ яго і ўзарэ тым канём тры баразны вакол каменя.

З часам старадаўнія міфы і вобразы трацілі свой сакральны сэнс і ператвараліся ў казкі ды прымхі, якія, аднак, захоўвалі некаторыя сляды старажытнага светаўспрыняцця. З цудатворнай гарой мы сутыкаемся і ў беларускай казцы, дзе героя загортваюць у скуру каня, а груганы падымаюць яго на вяршыню залатой гары, дзе ён здабывае вялізнае багацце. Конь і груганы тут невыпадковыя: гэта водгалас тых далёкіх часоў, калі паганскія святары, накінуўшы на сябе скуру святой жывёлы, як і сучасныя шаманы, чынілі ўмоўныя падарожжы на сусветную касмічную гару ў іншасвет. Тое ж датычыць і народных аповедаў пра ведзьміныя лётанні ды шабашы на Лысых Горах, якія ў нашых продкаў мелі сакральны сэнс, а за хрысціянскімі часамі набылі негатыўны арэол. Паганскія ж

боствы і іх служкі жорстка пераследаваліся ды караліся, бо абвяшчаліся д'ябальскім насеннем, служкамі д'ябла.

У выніку старажытныя жрацы страцілі колішні ўплыў. Часткова іх павынішчалі, часткова яны прытаіліся і паступова ператварыліся ў сельскіх знахароў, ведуноў, чараўнікоў і варажбітоў. Просты народ яшчэ доўга карыстаўся іх паслугамі.

# Красныя Горкі і іншыя «каляровыя» ўзгоркі

Ці не ў кожным раёне Беларусі сустракаюцца грудкі пад назвай *Красная Горка*. На думку многіх навукоўцаў, такое найменне паходзіць ад старажытнага язычніцкага свята, прысвечанага архаічнаму абраду ініцыяцыі дзяўчат, якое ў пазнейшыя часы прымяркоўвалася да свята вясны і звалася Ярылавіца, або Красная Горка. У гэты дзень — менавіта ў першую нядзелю па Вялікадні — на найвышэйшых узгорках сваёй мясцовасці збіраліся дзяўчаты і маладыя жанчыны. Яны прыносілі туды рытуальныя стравы і напоі, спажывалі іх, потым спявалі, вадзілі карагоды, гушкаліся на арэлях. Нашы продкі прымяркоўвалі на гэтую пару сватанне ці вяселле. У некаторых мясцінах у гэты дзень адбываўся абрад абворвання вёскі, г. зн., абрад правядзення вакол вёскі магічнай баразны, якая, згодна з забабонамі, ахоўвала ад эпідэмій і розных захворванняў. Месцы святкавання Ярылавіцы і правядзення падобных абрадаў замацаваліся ў мікратапаніміцы ў асноўным пад назвай Красная Горка.

Красная Горка ёсць каля вёскі Палыкавічы Магілёўскага раёна, Ражанка — Шчучынскага, Налібокі — Стаўбцоўскага, хутара Вінцантова — Шаркаўшчынскага, Купіск — Навагрудскага, інш. У вёсцы Хальч Веткаўскага раёна каля мясцовай Краснай Гары шмат яроў і крыніц. У народзе лічыцца, што там жывуць русалкі і чароўныя коні.

Па ўсёй Беларусі сустракаюцца і такія назвы, як Белая і Чорная Гара. Белыя Горы ёсць паміж вёскамі Рудня і Ліцвінавічы Кармянскага раёна, каля Рагачова, каля вёскі Чудзін Ганцавіцкага раёна, Мазурына — Мёрскага і Лукшы — Браслаўскага. Пра гару каля вёскі Рудня і Ліцвінавічы захавалася паданне, якое адлюстроўвае некаторыя падзеі вайны паміж Швецыяй і Расіяй на самым пачатку XVIII ст.

*Кажуць, закапалі швяды пад сасновым крыжам сваё злота і срэбра... Было гэта тады, як разбілі іх пад Лясной. Кінуліся яны ўцякаць праз Прапойск (Слаўгарад), а тут перавознікі спалілі паром на Сажы. Пакуль швяды на левым беразе думалі-гадалі, што рабіць, што чыніць, дык у Краснаполле заявіліся казакі. Сталі на перашкодзе і не далі перабрацца на той бераг, пагналі швядоў на Рудню. Ну й пакідалі яны рыштунак, зброю ў балота ды разбегліся па лясох. А ад шведскага злота-срэбра зямля на гары зрабілася зусім белай. От ад тае пары людзі й кажуць так: «Белая Гара».*

Недалёка ад вёскі Лукшы на Браслаўшчыне Белая Гара ляжыць якраз супраць гарадзішча, празванага *Чорная Гара*. Як кажа паданне, паміж насельнікамі гэтых узгоркаў здаўна ішла вайна. А лічыцца, што назву *Чорная Гара* маюць шмат якія беларускія гарадзішчы — ад колеру глебы іх культурнага слою. Але ёсць нямала ўзгоркаў з такой самай назвай без усякіх слядоў чалавечага пражывання. Сюжэты паданняў і забабоны пра такія горы наводзяць на думку, што на Чорных Горках таксама былі язычніцкія капішчы. Так, на Чорнай Гары каля Заслаўя, паводле падання, некалі стаяў манастыр Рагнеды-Анастасіі, а яшчэ раней — свяцілішча. У Некасецку Мядзельскага раёна, кажуць, на мясцовай Чорнай Гары пакланяліся Перуну, а на гары ў Навасёлках гэтага самага раёна быццам закапаны цэлы воз золата. На Чорных Горах каля вёсак Нурвяны і Опса Браслаўскага раёна нібыта калісьці праваліліся касцёлы.

Наогул, у сакральнай традыцыі беларусаў, як і ва ўсіх індаеўрапейскіх народаў, чорны колер уваходзіў у класічную колеравую трыяду «белы — чырвоны — чорны» і апазіцыянаваў беламу ды чырвонаму паводле прынцыпу бінарных апазіцый. У беларускай народнай вышыўцы чорны колер часта ўжываўся ў спалучэнні з чырвоным на белым фоне.

Шмат хто з навукоўцаў лічыць, што чорны колер уласцівы таксама Трыглаву — боству балтыйскіх славян, чые тры галавы сімвалізавалі яго ўладу над трыма царствамі: небам, зямлёй і дольнім светам. Некалі ў Шчэціне на галоўным з трох святых узгоркаў стаяў трохгаловы балван. А паводле звестак Масудзі, арабскага аўтара X ст., у славян такія балваны стаялі на горах, што зваліся Чорныя. Так, на этнічнай тэрыторыі беларусаў адзін з узгоркаў у Невельскім павеце на Пскоўшчыне, згодна з паданнем, называюць Чорнай Гарой з-за яго



*Гара Беленка, в. Лісаўшчына, Мінскі р-н.*

колеру, а гэты колер, у сваю чаргу, абумоўлены тым, што там раней стаяла *«паганская кумірня»* і прыносіліся ахвяры.

Каля вёскі Сіняя Гара Валожынскага раёна ёсць вялікая аднайменная гара. Згодна з паданнем, там некалі стаяў замак, які праваліўся пад зямлю. Паводле народнага ўяўлення, назва «сіняя» ад таго, што гара нібыта «дыміцца». Расказваюць таксама, быццам даўней на гары была крыніца. Вядома, што сіні колер у міфалагічнай традыцыі беларусаў звязаны з архаічнымі ўяўленнямі пра замагільны свет, з культам памерлых. На тэрыторыі нашай краіны найменні *Сіні* або *Сіняя,* датычыць не толькі ўзгоркаў, але і камянёў, рэк, азёр.

У міфа-паэтычнай карціне свету нашых продкаў ландшафтным аб'ектам нярэдка надаюцца такія паэтычныя азначэнні, як *залаты* і *срэбны*, што ў беларускім фальклоры ёсць сімвал багацця, дастатку і асацыюецца з Сонцам, Месяцам, жаночым ды мужчынскім пачаткамі, адпавядае вышэйшаму і ніжэйшаму свету, свету памерлых. Дык і не дзіва, што сустракаюцца і такія назвы, як *Залатая* і *Срэбная* Гара. Вельмі часта на іх месцяцца старыя могільнікі.

Залатыя Горкі ёсць каля вёскі Бакінічы Пінскага, Мішневічы Шумілінскага раёна, Вярба — Дрыбінскага, Прошка-

ва — Глыбоцкага, інш. Пра Залатую Горку ў Мінску існуе паданне:

*Некалі лютавала ў Менску халера. Гора і роспач агарнулі людзей. Шмат жыццяў прапала марна, нямала слёз пралілося. І от неяк раз у капліцы святога Роха, што на каталіцкіх могілках, адпявалі чарговага нябожчыка. Потым ксёндз разаслаў сваю сутану ды паклаў на яе трохі залатых грошыкаў. Людзі за ім таксама сталі класці грошы. І вырасла цэлая гара залатнікоў. А ўжо на тыя ахвяры заміж капліцы паставілі касцёл святога Роха. Ён і цяпер бароніць людзей ад страшных хваробаў.*

Як сінонім да паняцця *срэбны* сустракаюцца іншыя назвы, прыкладам, *сівы*. Так, недалёка ад вёскі Юхавічы на Расоншчыне ёсць Сівая Гара. На ёй, паводле падання, пахаваны польскі ваявода Сіва, або Сіваха.

## Дзявочыя, Бабіны і Дзедавы Горы

Шмат якія даследнікі лічаць, што ўзгоркі з назвамі *Дзявочая Гара* і падобнымі маюць дачыненне да культу жаночага боства Багіні-дзевы — ён нечым нагадвае хрысціянскі культ Божай Маці, Дзевы Марыі. Часта з такімі ўзгоркамі звязваліся вельмі архаічныя рытуальныя традыцыі і паданні, якія сягаюць культу багіні кахання. Аднак, слова *дзявочая* можа быць і трансфармаваным балцкім словам *dievas* 'бог', якое мае праіндаеўрапейскую этымалогію. Узгоркі з падобнай назвай вядомыя шмат дзе ў Еўропе: на Украіне ў Трыполлі — Дзівіч-Гара з свяцілішчам, датаваным пачаткам нашай эры; Дзявочая Гара ў Сахноўцы на рацэ Рось, дзе на вяршыні стаяць тры крыжы; Дзявочая Гара на ўскраіне сярэднявечнага Кіева; Гара Дзевін на Дунаі ў Славакіі са старажытным культавым цэнтрам. Горы пад назвай *Дзевін* ёсць у Празе над Влтавай і на поўдзень ад Плоўдзіва ў Балгарыі.

Шмат Дзявочых гораў і ў Беларусі. Прыкладам, гарадзішча Дзявочая Гара (*Дзеўя Горка, Дзеві Гарадок*) у горадзе Мсціславе на правым беразе ракі Віхры. Некалі на гэтай гары стаяла царква Святога Іллі. У XIX ст., як толькі пачынаў сыходзіць снег, на гары збіралася моладзь і праводзіла традыцыйныя ігрышчы:



*Дзявочая Гара, Мсціслаўль.*

спявалі вяснянкі, танцавалі («сеялі проса», «тапталі лён») і г. д. Паводле падання, запісанага таксама ў сярэдзіне XIX ст., гару насыпалі фартухамі дзяўчаты-багатыркі на месцы пахавання багатыра, якога яны ўсе дружна аплаквалі. Потым кожны раз у пэўны дзень дзяўчаты спраўлялі па ім трызну і ладзілі ігрышча. Паводле другога, пазнейшага сюжэта, на гары стаяла крэпасць, пабудаваная дзяўчатамі горада дзеля абароны ад шведаў.

Дзявочая Гара вышынёю каля 40 м, якую яшчэ завуць Дзявіч-Гара, ёсць каля вёскі Дуброва Маладзечанскага раёна. На гары месціцца курганны могільнік XI—XII стст. Раней на яе вяршыні святкавалі Купалле. Яшчэ ў канцы XIX ст. было апублікавана паданне, згодна з якім некалі на гары жывой закапалі дзяўчыну, а побач пахавалі двух хлопцаў, якія загінулі, змагаючыся за права стаць яе мужам. Таксама на вяршыні гары ляжаў вялізны камень, на якім нібыта сядзела дзяўчына, чакаючы свайго лёсу. На магілах хлопцаў потым выраслі два дубы, а на дзявочай магіле — бяроза.

Дзявіч-Гара, або Святая Гара, ляжыць недалёка ад вёскі Любонічы Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне. Некалі тут была Багародзічная драўляная царква. Цяпер на гэтым месцы стаяць крыжы. Унізе пад гарой — святая крыніца. Да крыжоў

і крыніцы заўсёды ідуць людзі, асабліва шмат паломнікаў на другі дзень Тройцы.

Узгорак на беразе возера Сенніца на мяжы Гарадоцкага раёна і Пскоўскай вобласці вядомы пад назвай *Дзявочая Гара*. Паводле падання, тут пахавана невядомая дзяўчына, забітая некалі асілкам. Паданне, дзе гаворыцца аб пахаванні дзяўчыны, існуе і пра Дзеўчыну Гару каля вёскі Малыя Гарадзяцічы Любанскага раёна. Гара, вышыня якой больш за сем метраў, спрэс парасла сасновым лесам. Кажуць, што неяк у вёску зайшлі старцы, разам з імі вандравала і нейкая дзяўчына. Неўзабаве яна памерла, і яе пахавалі на гары, пасля чаго і назвалі гару *Дзеўчына*, або *Дзяўчына-Гара*. Раней, паводле ўспамінаў старых, людзі пакідалі на яе вяршыні кавалкі хлеба.

Ёсць звесткі, што Замкавую гару ў Полацку некалі звалі *Дзевіна Гара*. Гара пад назвай *Дзеўкіна Гара* ёсць і каля вёскі Сарнаполле Полацкага раёна, а ўзгорак Дзявочыя Гарадкі ляжыць на беразе Шчары ў Дзятлаўскім раёне.

На ўскраіне Лагойска ёсць гарадзішча з семантычна блізкай назвай — *Паненская Гара*, на якой традыцыйна ставілі крыжы. Паводле аднаго з варыянтаў падання, нейкі князь прапанаваў адной панне пабрацца з ім шлюбам, але тая адмовілася. Тады раз'юшаны князь скінуў яе з гары. Паводле іншага варыянта, князь скінуў з гары княгіню, бо, маўляў, яна выдала ваенную тайну суседняму князю.

Побач з вышэйпералічанымі назвамі ўзгоркаў на Беларусі часта можна сустрэць і такія, як *Бабіна Гара*, *Баб'я Горка* або *Бабуліна Гара* і г. д. Прыкладам, такія назвы сустракаюцца каля вёсак Цётча і Мосар на Ушаччыне; Валеўка — Навагрудскага раёна, Лапатавічы — Клімавіцкага, Сухопаль — Пружанскага; мястэчка Кажан-Гарадок — Лунінецкага, каля г. п. Ветрына Полацкага раёна, інш. На гары каля мястэчка Ветрына ў часы позняга сярэднявечча быў могільнік з каменнымі крыжамі. Каля вёскі Хрост Барысаўскага раёна на Бабінай Гары стаіць камень з выявай крыжа, а вакол — абгарода з асобных камянёў. Паводле падання, на гэтым месцы замерзла некалі жанчына, і як памяць па ёй паставілі вялізны камень. На Палессі зафіксавана незвычайнае паданне пра адну з Баб'іх Горак, згодна з якім некалі на бераг ракі вынесла нейкую невядомую «Бабу». Яна ўскараскалася на гару, дзе і пасялілася.

У беларускай мове слова «баба» вельмі пашыранае і мае шмат значэнняў. Гэта сведчыць, што даўней, мабыць, існаваў культ Бабы-прародзічкі, гэтак званай Вялікай Багіні-Маці.



*Бабіна Гара, в. Хрост, Барысаўскі р-н.*

Пэўна, што азначэнне «бабы» як вобраза продкаў, абумовіла такі міфічна-казачны праславянскі персанаж, як Баба-Яга, якая, на думку шмат якіх даследчыкаў славянскай архаічнай культуры, сама ўспрымаецца як першапродак, як архетып найвышэйшай жаночай істоты. У вядомай рытуальнай гульнідзеі «Жаніцьба Цярэшкі» «баба» —антрапаморфная выява дажынкавага снапа. Тут варта ўспомніць, што каменныя крыжы і балваны таксама часта пазначаюць тэрмінам «Баба». Ці не ёсць яны выявамі архаічных боствау нашых продкаў?

Сугучнымі прыметнікам *Дзявочая* і *Бабіна* можна таксама лічыць такія назвы, як *Мар'іна Горка*, або *Маруленя-Гара*. Паводле падання, на Мар'інай Горцы ў Пухавіцкім раёне некалі ляжаў камень, які вельмі ўшаноўвалі язычнікі і наладжвалі там культавыя гульні. Хрысціянскі святар асвяціў паганскае месца. Гара расшчапілася, камень праваліўся. Пра Маруленю-Гару каля вёскі Пеляса Воранаўскага раёна расказваюць, што там пахавана княгіня Маруленя. Мясцовыя людзі яшчэ і сёння памятаюць пра камень з выемкамі-«талеркамі», якія некалі ляжаў на гары. На беразе Лукомльскага возера ёсць узгор'е Мар'іна Гара, якое, паводле падання, атрымала сваю назву ад імя чараўніцы Мар'і.

Тэрмін «баба» мае адпаведнік мужчынскага роду — «дзед». У некаторых рэгіёнах Беларусі назва «бабы» замяшчае сабой назву задушнага дня, наступнага за Дзядамі, і сімвалізуе продкаў. Сустракаюцца і такія назвы ўзгоркаў, як Дзедавы Горы, прыкладам, у вёсцы Навасёлкі Мядзельскага раёна. З «сівым дзедам» звязана паданне пра Гару Галубец у Гарадоцкім раёне. Расказваюць, што часам можна бачыць уначы, як з гары з'язджае сівы дзед на белым кані. А калі хто спрабуе да яго наблізіцца, адразу знікае.

# Княжыя, Каралеўскія і Царскія Горы

У розных раёнах Беларусі сустракаюцца такія назвы, як Княжыя або *Княгініны Горы*. Шырока вядома паданне пра Княжую Гару, або Княжую Магілу, каля вёскі Перавоз на паўвыспе возера Дрыса ў Расонскім раёне. У сусветных міфалагічных уяўленнях, у тым ліку і ў беларускіх, выспа і паўвыспа таксама сакральнае месца, дзе некалі адбываліся таямнічыя абрады. Можа, абрады пахавання продкаў, бо даўней мелі звычай хаваць людзей на выспах. У дадзеным выпадку гэта пацвярджае шэраг паданняў, якія захаваліся пра памянёную Княжую Гару.

Паводле аднаго з іх, на гары ўдарам каменнага молата забілі нейкага князя. Па іншай версіі, тут пахавана княгіня Рагнеда. Дадамо, мясцовыя павер'і кажуць, што напярэдадні вайны з гары на белым кані з'язджае рыцар у панцыры. Распавядаюць таксама, нібыта паводле трэцяй версіі, тут знайшоў сабе вечны спачын князь з сваімі вернымі сабакамі, які загінуў, бароначы востраў. Дарэчы, гэты варыянт выглядае вельмі старажытным. Ён нагадвае легенду пра міфічнага першага насельніка краіны, князя Бая, у якога таксама былі два сабакі. А яны, згодна з міфалагічнымі ўяўленнямі нашых продкаў, ёсць праваднікамі і ахоўнікамі між двума сусветамі: светам жывых і светам памерлых. Захаваўся і чацвёрты варыянт падання:

*Было тут некалі места. І напаў на яго страшны ваявода, празываны Княжа. А слыў ваявода як страшэнны бязбожнік. Мала, што ён рабаваў людзей. Дык узяўся яшчэ й за касцёлы,*

*пазрываў з іх абразы, дый самыя касцёлы пабурыў, а званы — патапіў у возеры. Сам жа ваявода разам з хаўруснікамі зажыў у спустошаным месце. Але не было яму тут спакою. Штодня, як усходзіла й сядала сонца, званы з возера будзілі ўсё наваколле і казалі цэламу свету пра тое страшэннае злачынства. А ў поўнач лётала па востраве жудасная чума. Неўзабаве памерла лічы ўся князева дружына. Ваявода і жменька хаўруснікаў надумаліся ўцячы з вострава. Але ўпярод ён закапаў свае багацці на гары. Праўда, далёка ўцячы не даў рады. Дагнала-такі ваяводу і яго дружыну смерць недалёка ад возера. І пахавалі Княжа тутака на гары. А гара ад тае пары завецца Княжая Магіла.*

Каля вёскі Ляхчыцы ў Кобрынскім раёне таксама ёсць Княжая Гара, або Княжа Гара. Яе вышыня каля дзесяці метраў. Пра яе таксама ёсць паданне:

*Праходзіла тут некалі ваенным паходам княгіня Вольга. Яна хацела не сілай, а хітрасцю перамагчы. І, перакаваўшы ў коней падковы задам напярод, мелася ўжо знікнуць ад пагоні. Але за вёскай Дзівін стаяў дазор непрыяцеля, і княгіню заўважылі. Тут на гары Вольга спаткала сваю смерць. Тутака яе й пахавалі. А яшчэ кажуць, што раней на гары стаяў крыж.*

Амаль такое самае паданне, толькі з іншай развязкай, запісана ў вёсцы Поціна Верхнядзвінскага раёна пра мясцовую Княгініну Гару, вышыня якой больш за трыццаць метраў. У паданні гаворыцца:

*Княгіня Вольга ў час аднаго з паходаў дайшла ажно да Асвейскага возера і стала на гары. Але ейны дазор данёс, што ідзе сюды вялікае літоўскае войска і меней як праз суткі будзе ўжо тут. Тады княгіня наказала перакаваць коней задам напярод і ўзялася адступаць. На другі дзень літоўцы прыйшлі на тое месца, а там усё пуста, толькі сляды вядуць да валоў. Сталі рада ў раду й думаюць: відаць, Вольжына войска разбеглася, дык поначы можна будзе ўсіх пералавіць. Дзень і ноч літоўцы прачэсвалі лясы і балоты, але так нікога і не знайшлі. Аж на другі дзень яны разгадалі тыя хітрыкі, ды ўжо Вольга была пад Невелем.*

Княжую Гару ў вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна паданне звязвае з тым, што на ёй паляваў князь Радзівіл. Горы пад назвай Княжая ёсць каля вёскі Красова ў Верхнядзвінскім раёне,



*Замкавая Гара ў Мсціслаўлі.*

на Слонімшчыне, каля пасёлка Рось у Ваўкавыскім раёне, каля Століна і ў іншых месцах. Апроч таго, паданні, дзе галоўным персанажам быў князь, ёсць і пра шмат якія іншыя ўзгоркі. Так, у вёсцы Княжыцы Верхнядзвінскага раёна пра гару Гарадок кажуць, нібыта на ёй нейкі князь абпальваў цэглу. Пра гару Старца, або Старын, каля вёскі Старыца Расонскага раёна кажуць, што тут жыў князь Старкін, а на гары каля вёскі Хатаевічы (сучасная назва Акцябр) Лагойскага раёна жыла княгіня Орская. Пра Вялікую Гару на беразе ракі Пціч каля вёскі Цітва Пухавіцкага раёна апавядаюць, быццам там жыла некалі княгіня, у якой не было нашчадкаў. Паміраючы, яна пракляла княжы церам з усім сваім багаццем. У вёсцы Зборск Асіповіцкага раёна ёсць Гара князя Коршака, а на гары каля вёскі Кукарава Бярэзінскага раёна свае каштоўнасці закапала княжна Рагна.

Апроч наймення Княжая Гара, на Беларусі сустракаецца і назва Каралеўская Гара. Прыкладам, каля вёскі Іжа Вілейскага раёна і каля былой вёскі Баля Велька пад Гродна. А недалёка ад вёскі Горск Бярозаўскага раёна ёсць Каралёва Гара, пра яе расказваюць такую гісторыю:

*Неяк пастушкі гулялі ў вайну і выбралі сабе караля. Потым яны нахілілі бярозу і прывязалі да яе "караля". Аж тут*

*у статак уварвауся воўк. Дзеці забыліся на свайго "караля" ды кінуліся ратаваць жывіну. Калі ж вярнуліся да бярозы, то ўжо бядак той быў нежывы. Пастушкі доўга плакалі, гаравалі, а з таго й вырасла гара.*

У Шчучынскім раёне на адной з горак нібыта палявала каралева Бона, а на гары каля Радашковічаў у Маладзечанскім раёне адпачываў шведскі кароль Карл XII.

Сустракаюцца і такія назвы, як Царавы Горы. Каля вёскі Зябкі ў Верхнядзвінскім раёне над ракой Свольнай ёсць Царава Гара. Лічыцца, што там у час лівонскіх і польскіх паходаў адпачываў рускі цар Іван Жахлівы. Царава Гара ўспамінаецца і каля мястэчка Крынкі на Гродзеншчыне — цяпер на тэрыторыі Польшчы. Некалі на гэтай гары таксама стаяў крыж. Пра гару ў лесе каля вёскі Глівін Барысаўскага раёна расказваюць, што там некалі быў замак царыцы, дзе яна і загінула.

# Міфічныя персанажы, людзі і прырода ў назвах гор

Назвы шмат якіх узгоркаў звязаны з міфалагічнымі персанажамі. Перш-наперш, з язычніцкімі боствамі, асабліва — з богам навальніцы — Перуном. Мольбішчы, прысвечаныя Перуну, згодна з паданнем, былі на Туравай Гары ў самім горадзе Тураве і на Чорнай Гары каля вёскі Некасецк на Мядзельшчыне. На востраве Асвейскага возера ёсць гара Пярунка, ці, як яе яшчэ завуць, *Пірунова Гара*. Назва ў народзе тлумачыцца тым, што сюды заўсёды б'юць перуны. Кажуць, нібыта даўным даўно жыла на гары чараўніца Княгіня, якая на Купалле перакідвалася вялізнымі бярвеннямі з сваёй знаёмай валатоўнай Даротай. Дарота ж, сваім парадкам, жыла на Дароцінай Гары каля вёскі Канчаны. Перунова, або Перынова Гара ёсць у лесе паміж вёскамі Каўгары Асіповіцкага і Буда Старадарожскага раёнаў, а Перуновы Горкі — каля былой вёскі Шчурок Лідскага і ў вёсцы Вензаўшчына Шчучынскага раёнаў, іншых мясцінах.

Дахрысціянскае паходжанне мае і вобраз чорта, які ад непаслушэнства, ілжывасці і зайздрасці сварыцца з богам-грымотнікам — Перуном. Грымотнік палюе на чорта перунамі. На думку шмат якіх навукоўцаў, вобраз чорта — гэта

адпаведнік старажытнага бога Вялеса, які заўсёды, згодна з нашай міфалогіяй, апекаваўся над светам памерлых, у той жа час адказваў за жывёлу, багацце і дабрабыт продкаў, быў антаганістам Перуна.

Назвы кшталту *Чортава Гара* сустракаюцца па ўсёй Беларусі, сюжэты паданняў пра іх вельмі падобныя. Прыкладам, пра Чортаву Гару на берагах Віліі кажуць, што чорт за нешта пакрыўдзіўся на раку і надумаўся яе засыпаць. Але ў той час, калі ён набліжаўся да ракі, раптам праспяваў певень — птушка, якая суадносіцца з Перуном. Чорт спужаўся і высыпаў з меха пясок недалёка ад рэчкі. Ад таго і ўтварылася гара з адпаведнай назвай. Падобнае паданне існуе і пра Шайтан-Гару каля Мазыра. Згодна з ім, чорт Шайтан злаваў на Мазыр і меўся яго знішчыць. Ён схапіў вялікую гару і панёс на горад, каб уначы скінуць яе туды. Але, калі нёс — таксама праспяваў певень. Ад пярэпалаху чорт скінуў гару раней часу. Тая звалілася адразу каля горада і празвалі яе — *Шайтан*.

Назва *Чортава Гара*, згодна з некаторымі паданнямі, можа тлумачыцца і зусім інакш, як, прыкладам, каля вёскі Гаравыя Полацкага раёна, дзе ёсць гара Таўкач або Таўкачык, а насупраць — Чортава Гара. Паводле зафіксаванага тут падання, два варожыя племені жылі на гэтых гарах: адно племя жыло на гары Таўкач, а другое на Чортавай Гары. Дык апошняя атрымала найменне з таго, што *тутэйшыя ваякі насілі рагатыя шаломы*.

Чортава Гара, якая ў вышыню дасягае амаль 20 метраў і дзе спрадвеку праўлялі Купалле, знаходзіцца на ўсход ад вёскі Пустошка Браслаўскага раёна. Каля вёскі Мар'янполе ў гэтым жа раёне ёсць Вялюніна Гара, што ў перакладзе з літоўскай мовы значыць Чортава Гара. Згодна з паданнем, там можна пабачыць чарцей, пачуць гоман і адметны свіст. Зусім нядаўна адзін з узгоркаў у Крэве на Смаргоншчыне меў назву Магіла Вяля. А ў Верхнядзвінскім раёне каля Асвеі ёсць гара Чортаў Човен.

Даволі шмат у нашай краіне сустракаецца і такіх узгоркаў, паданні пра якія звязаны з волатамі і валатоўнамі, багатырамі і багатыркамі. Усе гэтыя персанажы, згодна з беларускай міфалагічнай традыцыяй, сведчаць пра іх дахрысціянскае паходжанне. Прыкладам, Чортава Гара каля вёскі Варонічы Полацкага раёна, паміж вёскамі Чамярня і Вялікія Нямкі Веткаўскага раёна. У прыватнасці, на Чортавай гары каля вёскі Чамярня, паводле падання, некалі жыў велікан, які мог на дзесяць вёрст

кідаць каменныя молаты. А на суседнім узвышшы каля вёскі Стаўбун нібыта існаваў манастыр. На Мазыршчыне Каршакова Гара лічыцца магілай магутнага волата Коршака. На Расоншчыне ёсць Багатыр-Гара, пра якую расказваюць:

*Жыла некалі на гары высачэнная, страшнай сілы жанчына. Ваду на гару яна насіла за дзесяць вёрст — ад возера Нешчарда. І адразу — па два цэбры, што тоўпілі ў сабе па трыццаць вёдзер. Каромыслам ёй служыў дубовы вочап ад студні. Аднаго разу яе запынілі татары і пытаюць, як прайсці да Полацка. Жанчына ім кажа, не ведае такога места. А напраўду з гары пры яснай пагодзе заўсёды відаць Святая Сафія. Татары ўзлаваліся і накінуліся на жанчыну. А яна сваім каромыслам бадай што ўсіх і перабіла. Але адна з татарскіх стрэлаў лучыла-такі ёй у сэрца. От таму й назва такая — Багатыр-Гара. А з цэбраў пацякла вада, і сталася рэчка Багатырка.*

Вышэй мы расказвалі паданне пра Перунову Гару на востраве Асвейскага возера, дзе ўспаміналася валатоўна Дарота, што на Купалле перакідвалася бярвёнамі з чараўніцай Пяруновай Гары. Далей у тым самым паданні гаворыцца, як за адною вайною валатоўна Дарота змагалася і загінула. Яе пахавалі на гары, адсюль і назва Дароціна Гара. У беларусаў, на думку некаторых навукоўцаў, культ жанчыны-валатоўны, ці багатыркі, паходзіць ад вобраза Багіні-Маці (Дзевы), і ў большасці выпадкаў фальклорная памяць нашых продкаў звязвае яго не з стваральнай, а з разбуральнай сілай, з стыхіяй вайны і смерці. Наогул, вобраз жанчыны-валатоўны характэрны для ўсёй еўрапейскай міфалагічнай традыцыі. Нашы валатоўны маюць паралелі з кельцкай багіняй вайны — Морыган, германскімі ваяўнічымі дзевамі-валатоўнамі валькірыямі і дысамі.

У Крупскім раёне каля вёскі Кіявец ёсць узгорак пад назвай *Капказ*. Гэта, можна меркаваць, трансфармацыя старабалцкай назвы Каўкарус, што ў перакладзе значыць горка бажкоў, або Каўкас — хтанічная істота. Па-грэчаску chtonos — зямля. Хтанічная істота — істота, звязаная з вытворчай сілай зямлі. Імаверна, што на гэтай гары некалі стаялі паганскія ідалы.

У беларускім фальклоры і міфалогіі вельмі папулярныя такія персанажы, як рабаўнік, салдат, скамарох, казак, інш. Гэта адбілася ў нашай мікратапаніміцы, у тым ліку і ў назвах узгоркаў. Астахаву Гару каля Гомеля паданне звязвае з тым, што на гары нейкі час жыў злодзей Астахі. Гара Гарадок блізу



*Барыса-Глебская Гара, на яе вяршыні каплічка, в. Старыя Стайкі, Шклоўскі р-н.*

вёскі Марціянаўка Бярэзінскага раёна нібыта была ўзведзена разбойнікамі, якія потым доўгі час там жылі. А Салдатавы горы завуцца гэтак, бо згодна з паданнем там пахаваныя нейкія салдаты, забітыя за старадаўнімі войнамі.

Казацкія Горы ёсць у Лельчыцкім раёне. На Мазыршчыне пра Казацкую Гару гаворыцца, што на ёй у час вайны рускіх і турак з каралямі «Шведам» і «Шмелем» стаялі казакі. Паданне кажа:

*...каралі цэлых дванаццаць гадоў з усім сваім вайскам хаваліся ў пячорах пад зямлёю. А калі праходзілі рускія салдаты — хапалі іх за ногі і цягнулі да сябе пад зямлю. Вайна кончылася, рускія ўзялі верх, каралі здаліся у палон.*

Вылучаюцца цэлыя групы назваў узгоркаў, звязаных з імёнамі людзей, з іх заняткамі, сацыяльным ды эканамічным становішчам. Прыкладам, горы *Марцінава, Маркава, Адамуха, Корбутава, Карлава, Мацейкава, Барысава, Рымшава, Ксяндзова, Папова, Ляхава, Цыганская, Жыдоўская, Мельнікава, Кавальская, Бондарава, Магіла Рыцара* і г. д.

Пра гару Адамуху на беразе Мухаўца каля Брэста некалі расказвалі, што там стаяў замак багацея Адама. Ён не меў нашчадкаў і таму ўсё сваё багацце, усе грошы закапаў на дне Мухаўца, ды наўмысна дзеля гэтага пракапаў канал, адвёўшы

ваду ў іншае месца. Кажуць, што гэтыя грошы час ад часу ўсплываюць у куфры на паверхню вады і сушацца на сонцы. На Дзямідавай Гары на Чэрвеньшчыне нібыта адбылася бойка паміж рускімі і шведамі.

Вядомая вялікая і разнастайная роля жывёл у рэлігіях народаў свету. У вобразе той ці іншай жывёлы людзі ўяўлялі сабе бостваў. Жывёла лічылася спадарожнікам і памагатым бога. Захавалася такое ўяўленне і ў беларускай міфалогіі. Пра тое сведчаць архаічныя назвы ўзгоркаў, якія паходзяць ад найменняў жывёл. Гэта Туравы, Валовыя, Казіныя, Баранія, Барсуковы, Зайцавы, Воўчыя, Мышыныя, Бабровыя, іншыя ўзгоркі. Прыкладам, з вобразам архаічнага звера тура ў нашых продкаў быў звязаны старажытны культ сонца і ўрадлівасці, сімволіка мужчынскай сілы. У вельмі даўнія часы на некаторых адметных узгорках нашай бацькаўшчыны, паводле археалагічных і этнаграфічных звестак, адбываліся магічныя дзеянні, звязаныя з культам той ці іншай жывёлы, іх адгалоскі захаваліся ў некаторых паданнях. Так, гара каля вёскі Кавалеўшчына ў Смалявіцкім раёне, дзе некалі быў *казіны* базар, займела назву Казіная Гара.

Паміж вёскамі Крайцы (былая) і Мсціж на Барысаўшчыне ёсць Язева Гара. Паводле падання, тут была ваенная крэпасць. Зямлю на гару салдаты насілі шапкамі і харчаваліся рыбай — язямі. З птушыных назваў сустракаюцца назвы кшталту Зязюліна Гара, Петухоў Гаршчок, інш.

У беларускай міфалогіі захаваўся вобраз змея, а з ім і вобраз змагара са змеем, які ўрэшце перамагае і забівае гэтую хтанічную істоту. У выніку змагання нібыта з'яўляюцца пэўныя аб'екты, якія завуцца Змеевымі. Так, вядомая легенда пра Божых кавалёў Кузьму і Дзям'яна, што, злавіўшы змея, аралі на ім, тлумачыць паходжанне Дняпра і некаторых Змеевых гарак. У некаторых беларускіх варыянтах гэтай легенды кавалёў замяняюць простыя сяляне або нейкі герой, які з дапамогай чорнага пеўня і лапця (лучнасць з светам памерлых) перамагае Змея, або Цмока. Калі казаць больш дэталёва, то герой запрагае ў стары лапаць чорнага пеўня і такім спосабам тры разы ездзіць па зямлю, якой потым засыпае *«страшыдлу»*.

Каля дарогі з Даўтінава ў Язні на Вілейшчыне ёсць узвышша, што завецца Змеева Гара, ці Змяёўка. Кажуць, некалі на гары стаяла хата чарнакніжніка. Калі прыйшоў час аддаць Богу душу, ён ніяк не мог спакойна памерці. І гэта сталася толькі тады, калі людзі здагадаліся разабраць дах ягонай хаты.

Святар забараніў хаваць чарнакніжніка на могілках, таму пахавалі яго на гэтай самай гары і празвалі яе Змяёўкай. Пра ўзгорак у былой вёсцы Сінякі Гарадоцкага раёна расказваюць, што ён насыпаны над забітым некалі змеем.

*...змея злавілі, звязалі, а забіць ніяк не маглі. Тады надумалі засыпаць яго зямлёй, але, як ні стараліся, нараніцу — зямля раскіданая ў бакі, а змей ляжыць споверху. Ды неяк з'явіўся ў гэтых мясцінах чалавек, які ведаў, як забіць і пахаваць змея. Ён запрог чорнага пеўня ў стары лапаць. Тры разы гнаў таго пеўня ў далёкія мясціны, прывозіў па поўным лапцю зямлі і пачаў засыпаць змея. Ад першай жмені змей зароў і задрыжэў. Раскіданая ім зямля стала насоўвацца на яго. Урэшце, яна зусім пахавала змея і вырасла ў вялікую гару.*

Пра Змееву Гару на беразе ракі Лясная каля вёскі Млыны на Берасцейшчыне паданне кажа, нібыта змей пераплываў там рэчку і рабаваў вёскі. Людзям урэшце гэта надакучыла, надумалі яны забіць змея. І вось накармілі яны яго салёным мясам. Той, само сабою, стаў пакутаваць ад смагі і мусіў прыпаўзці да ракі. Людзі, якія ўжо пільнавалі тут, забілі змея і пахавалі на гары. Ёсць Змеева Гара і каля вёскі Вароніна ў Сенненскім раёне, у іншых мясцінах.

# Літаратура

*Андреева-Васина, Н. И.* Прилагательное «красный» в русских народных говорах: (Материалы к характеристике функционирования слов) / Н. И. Андреева-Васина // Диалектная лексика. 1975. — Л., 1978. — С. 115—120.

Беларуская міфалогія : энцыклапедычны слоўнік. — Мінск, 2004. — С. 37, 65, 100, 114, 171, 213, 279, 404, 416, 420, 448.

*Богданович, А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов : этнографический очерк / А. Е. Богданович. — Гродно, 1895.

*Быковский, В.* О празднике Купалы / В. Быковский // Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. — СПб., 1868. — С. 77—80.

*Віцьбіч, Ю.* Плыве з-пад Святое Гары Нёман / Ю. Віцьбіч. — Мінск, 1995.

*Говорский, К.* Поездка (14 сентября 1852 г.) из Полоцка по направлению так называемой Ольгердовой дороги / К. Говорский // Записки Императорского археологического общества : т. V. Приложение. — СПб., 1853. — С. 88—97.

*Грэймас, А. Ю.* Пра багоў і людзей: У пошуках этнічнай памяці / А. Ю. Грэймас. — Мінск, 2003.

*Демиденко, Е. Л.* Былинная богатырка Златыгорка / Е. Л. Демиденко // Язычество восточных славян. — Л., 1990. — С. 120—129.

*Зайкоўскі, Э. М.* Касмаганічныя ўяўленні старажытнага насельніцтва Беларусі / Э. М. Зайкоўскі // Гістарычна-археалагічны зборнік : ч. І. — Мінск, 1993. — С. 79—93.

*Зайкоўскі, Э. М.* Таямніца Дзявочай Гары / Э. М. Зайкоўскі // Крыўя. — 1994. — № 1. — С. 91—103.

*Зайкоўскі, Э. М.* Раскопкі гарадзішча каля в. Аношкі Нясвіжскага раёна / Э. М. Зайкоўскі, А. М. Мядзведзеў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. — Мінск, 2001. — № 3. — С. 63—77.

*Зайцаў, А.* Сакральная геаграфія Вілейшчыны: (Паганскія культавыя помнікі Вілейшчыны) / А. Зайцаў // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 64—73.

*Квятковская, А.* Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI — XVII вв.) / А. Квятковская. — Вильнюс, 1998.

*Киркор, А.* Этнографический взгляд на Виленскую губернию / А. Киркор // Этнографический сборник, издаваемый Императорским Русским географическим обществом. — Вып. III. — СПб., 1858. — С. 179—181.

Браслаўскі павет // Краязнаўчая газета. — 2002. — № 7—8 (11—12).

*Криничная, Н. А.* Русская народная мифологическая проза : т. 2. / Н. А. Криничная. — Петрозаводск, 2000.

Легенды і паданні. — Мінск, 1983.

Литовские Епархиальные ведомости. — 1878. — № 17. — Пар. 2. — С. 5.

*Лобач, Ул.* Некаторыя вынікі этнаграфічных даследаванняў Беларускага Падзвіння (экспедыцыі Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. 1995—1997 гг.) / Ул. Лобач // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. — Полацк, 1998. — С. 160—164.

*Максимов, С. В.* Бродячая Русь Христа-ради : т. 1 / С. В. Максимов. — СПБ., 1875.

*Максимов, С.* Нечистая, неведомая и крестная сила / С. Максимов. — Смоленск, 1995.

Материалы для географии и статистики России. Гродненская губ. : ч. 1. — СПб., 1863.

Мікратапанімія Беларусі. — Мінск, 1974.

Опросные листы 1924 г. по Червенскому уезду // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Спр. № 70.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильна, 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильна, 1895.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Ковенской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильна, 1899.

*Романов, Е. Р.* Материалы по этнографии Гродненской губернии : вып. II / Е. Р. Романов. — Вильна, 1912.

*Сапунов, А.* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / А. Сапунов, В. Друцкий- Любецкий. — Вильно, 1896.

Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия Императорской археологической комиссии. — Вып. V. — СПб., 1903.

*Селин, А. А.* Предания о сельских храмах и археологические реалии XVI в. / А. А. Селин // Церковная археология : ч. 2. — СПб. — Псков, 1995. — С. 120—122.

3 Зак. 492

*Тилло, А. А.* Орография Европейской России на основании гипсометрической карты / А. А. Тилло // Известия Императорского Русского географического общества. — Т. 26. — Вып. 1—4. — СПб., 1890. — С. 8—32.

*Токарев, С. А.* О культе гор и его месте в истории религии / С. А. Токарев // Советская этнография. — 1982. — № 3. — С. 107—113.

*Чарновская, М.* Остатки славянского баснословия в Белоруссии / М. Чарновская // Вестник Европы. — М., 1818. — С. 111—119.

*Шпилевский, П.* Мозырщина: (Из путешествия по западно-русскому краю) / П. Шпилевский // Архив исторических и практических сведений, относящихся до России : кн. III. — СПб., 1859. — С. 1—49.

*Штыхов, Г. В.* Археологическая карта Белоруссии / Г. В. Штыхов. — Минск, 1971.

*Яковер, М. Б.* Северо-Западный отдел Русского географического общества и его роль в изучении Литвы и Белоруссии в конце XIX и начале XX в. / М. Б. Яковер // Известия Всесоюзного географического общества. — Т. 103. — Вып. 1. — 1971. — С. 63—68.

*Akielewicz, M.* Słowko o bogach litewskich / M. Akielewicz // Biblioteka Warszawska. — 1858. — T. III. — S. 192—195.

*Gąssowscy, E. J.* Łysa Góra we wczesnym średniowieczu / E. J. Gąssowscy. — Wrocław—Warszawa—Kraków, 1970.

*Tyszkiewicz, K.* Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej / K. Tyszkiewicz // Teka Wileńska. — 1858. — № 5. — S. 181—196.

*Zieńkiewicz, R. O* uroczyskach i zwyczajach ludu Pińskiego oraz o charakterze jego pieśni / R. Zieńkiewicz // Biblioteka Warszawska. — T. 4. — Warszawa, 1852. — S. 505—527.

# Святыя азёры

Вада — адна з фундаментальных стыхій светабудовы. Гэта адлюстравана ва ўсіх сусветных рэлігіях, культах і міфах. Тое самае сведчаць і даўнейшыя паданні нашых продкаў. Паводле беларускіх народных уяўленняў, вада — гэта выток і пачатак усяго існага, эквівалент першабытнага Хаосу, з нетраў якога нараджаецца ці ствараецца зямля. Згодна з беларускімі этыялагічнымі паданнямі, зямля і была створана з пяску, здабытага на дне першаснай вады. Ва ўяўленнях нашых продкаў вада падзялялася на нябесную і зямную. Да першай адносілі дождж, які пасылаўся з неба богам грому і маланак Перуном, або Грамоўнікам. А да зямной вады адносіліся рэкі, азёры, крыніцы ды балоты. Гаспадаром гэтых вадасховішчаў быў праціўнік Грамоўніка — бог жывёлагадоўлі, ураддівасці, дабрабыту і багацця — Вялес, які зазвычай прымаў выгляд Змея або Цмока, а пазней і наогул Чорта. Разам з тым вада — мяжа паміж «гэтым» і «тым» светамі, шлях у іншасвет, прытулак душаў памерлых і розных фантастычных істот. Не дзіва, што зямная вада часта выклікала не толькі пачуццё небяспекі і страху. Каб задобрыць яе гаспадара, заслужыцца ў яго на поспех у сваіх справах, гэтую ваду паважалі ды ўшаноўвалі.

Таму святыя рэкі, азёры, крыніцы і балоты былі важным і неад'емным элементам беларускай сакральнай геаграфіі ды тапаграфіі. А культ вады з даўніх часоў быў такім моцным і трывалым на нашых землях, што захаваўся і па сёння.

Ледзь не ў кожным раёне Беларусі знойдзецца возера, якое мясцовыя жыхары называюць Святым. На жаль, на мапах тыя самыя азёры пазначаюцца іншымі, афіцыёзнымі найменнямі, накшталт: Добрае, Светлае, Камсамольскае і да т. п. Найчасцей такія назвы ў 1920—1930-ыя гады прыдумлялі ваяўнічыя атэісты. Балазе, у краязнаўчай літаратуры XIX—XX стст., у пісьмовых крыніцах успамінаецца вялікая колькасць азёраў, што ўтвараюць свае найменні ад слова *святы* — Святое, Свя-

тое Азярко, Свяціца, Святазер'е, Святца, Свята-Гошч. Вялікае Выганаўскае (Выганашчанскае) возера ў Івацэвіцкім раёне на Заходнім Палессі ў XIX ст. называлі Свяціцкае. Каля вёскі Заазер'е ў Сенненскім раёне яшчэ не так даўно былі азёры Вялікае Святое і Малое Святое. Адметна, што пасля меліярацыі на месцы Малога Святога возера ўтварылася балота.

Святым называлі і возера Свіцязь, з ім таксама звязана шмат паданняў. Адно з іх расказвае пра набожнага чалавека, што хадзіў па свеце і насіў з сабою святую кнігу.

*...Аднаго разу ў час такіх вандраванняў яго заспела ноч. Трэба было недзе спыніцца на начлег. Падарожны пагрукаўся ў першую пры гасцінцы хату, але яму ніхто не адказаў, ён увайшоў — нікагусенькі. І ўсё ж набожны чалавек надумаўся тутака пераначаваць, толькі перад сном згаварыць пацеры. Ажно нейкі голас і кажа яму тройчы: «Выйдзі адсюль, нявінная душа!». Чалавек не надта зважаў на той голас і далей маліўся. І тут раптам з усіх бакоў стала прыбываць вада. Хатка памалу апускалася глыбей і глыбей, аж пакуль не схавалася зусім. Адзін толькі багамолец застаўся паўзверх вялікага возера. І да гэтай пары, абы месяц вызірнуў з-за хмар, дык згледзіш таго чалавека, што нібыта плыве па возеры ды чытае святую кнігу.*

Яшчэ і дасюль па ўсёй Навагрудчыне можна пачуць паданне, якое апавядае пра старажытны горад Свіцязь, што стаяў на месцы сённяшняга возера.

*Князь, уладар места, быў у згодзе з навагрудскім князем Міндоўгам. А тут на Навагрудак напаў рускі цар, і князь адразу прыйшоў на дапамогу свайму хаўрусніку. У месце засталіся толькі жанчыны, старыя ды дзеці. Сярод іх была і дачка князева. Рускі цар разбіў войскі навагрудскага ды свіцязянскага князёў і падышоў да брамы Свіцязі. Тады перад князевай дачкой раптам з'явіўся дух і кажа, што не дазволіць ворагу ўвайсці ў места. А каб гэтага не здарылася і людзі не лучылі ў палон, дух ператворыць места Свіцязь у возера, а гараджан у кветкі.*

Пра азёры, назвы якіх паходзяць ад слова *святы*, існуюць паданні з вельмі пашыраным сюжэтам, дзе абавязковым галоўным персанажам выступае сам Бог або Хрыстос і яны ходзяць па нашай зямлі ў выглядзе старых жабракоў. Гэтак, скажам, у паданнях пра азёры ў вёсцы Дубяні Барысаўскага раёна, Галошава — Талачынскага, Вялікая Крушынаўка — Рагачоўскага гаворыцца, маўляў, увечары старац завітаў у вёску і прасіўся



*Святое возера, в. Баравая, Чашніцкі р-н.*

на начлег. Але ніхто не пускаў яго да сябе ў хату. Толькі адна бедная ўдава з дзіцем дала яму прытулак. Раніцой стары загадаў жанчыне збірацца і ісці за ім прэч з вёскі, адно толькі не азірацца. Жанчына забрала дзіця і рушыла за старым. Калі яны выйшлі за вёску, ззаду раптам пачуўся страшэнны грукат ды лямант. Жанчына не вытрымала і азірнулася. І ўмомант яе вёска знікла пад зямлёю, а на тым месцы сталася возера.

Цікава, што ў падобных паданнях вельмі яскрава прасочваюцца старажытныя ўяўленні нашых продкаў пра водны хаос і сусветны патоп, які насылаецца на зямлю за людскія грахі і непаслушэнства перад Богам. Зразумела, што розныя паводкі, залевы і мажлівыя вадзяныя катаклізмы, якія, ведама ж, адбываліся за ўсю гісторыю чалавецтва, наклалі свой адбітак на фарміраванне такога ўяўлення. Гэта выявілася ў паданнях, дзе ўзнікненне і знішчэнне сусвету, у нашым выпадку вёскі, было такім самым. Сам жа панятак вёскі для старажытнага беларуса станавіў сабою ягоны космас, спарадкаваны сусвет, які нарадзіўся з пачатковай праматэрыі і чамусьці ў яе і ператвараецца. І гэтая праматэрыя — вада.

На берагах святых азёр краязнаўцамі і навукоўцамі зафіксаваны і іншыя сакральныя аб'екты. Так, каля Святога возера недалёка ад вёскі Ходасавічы Рагачоўскага раёна археолагі раскапалі рэшткі язычніцкага свяцілішча канца X ст.;

каля возера Святца непадалёк ад вёскі Юр'ева ў Смалявіцкім раёне некалі стаяў язычніцкі ідал; на беразе возера Святое каля Браслава была Святая Гара; каля вёскі Стралкі Верхнядзвінскага раёна — Святая Гара і Святая крыніца, а каля вёскі Нічыпаравічы Шклоўскага раёна — курганны могільнік.

Возера пад назвай *Святое* ў наш час ёсць каля вёскі Баравая Чашніцкага раёна, Дубна — Слаўгарадскага, Зарэчча — Касцюковіцкага, Шапялевічы — Круглянскага, інш. Лічыцца, што вада з такіх азёраў мае лекавую сілу, асабліва па пэўных каляндарных святах.

## Паселішчы і храмы, што праваліліся

З многімі азёрамі пад назвай *Святое* звязаны паданні пра храм, які нібыта праваліўся пад зямлю. У вёсцы Гарожа Асіповіцкага раёна гаварылі, быццам *некалі ў час службы правалілася царква, рынула вада і заліла навакольныя землі ажно на 12 вёрст. На Вялікдзень з возера гучаць званы, а бывае, што на паверхню выплываюць царскія вароты або выходзіць крыж ад купала.* У шмат якіх мясцінах Беларусі да гэтага аповеду дадаюць яшчэ адну дэталь: калі кінуць у ваду камень, то можна пачуць, як ён грукае аб вежу храма. Пра Святое возера ў Капланцах Бярэзінскага раёна запісана паданне, маўляў, нейкія прыхадні зрабілі з царквы стайню, таму яна і затанула.

Сюжэты пра тое, што раней на месцы возера былі храмы, вёскі, гарады і г. д., даволі пашыраныя і датычацца азёр не толькі з найменнем *Святое*, але і з іншымі назвамі. Прыкладам, для тых, што называюцца *Бяздоннае* або *Бязодніца*, уласцівыя сюжэты пра вёску, якая затанула з-за сквапнасці яе жыхароў. Так, на пачатку XX ст. у мястэчку Пескі Мастоўскага раёна пра Ліхаўскае або Бяздоннае возера была запісаная такая гісторыя:

*На месцы возера некалі была вёска Ляхавічы, дзе людзі жылі вельмі заможна. А найболей вылучаўся багаццем адзін гаспадар, што меў дачку-красуню. І закахаўся ў яе мясцовы хлопец ды пасватаўся. Але дзяўчына адмовіла яму, бо хлопец быў бедны. Юнак моцна пакрыўдзіўся, пайшоў з роспачы ў лес і ўсё прыдумляў, як яму разбагацець. А тут якраз праз лес ехаў ба-*

*гаты купец. Хлопец, не доўга думаючы, забіў яго, забраў чужыя грошы, а цела закапаў тамака ў лесе. Калі ён прыбег да дзяўчыны і пахваліўся сваім раптоўным багаццем, яна не паверыла ў такія цуды і змусіла прызнацца, адкуль тыя грошы. Хлопцу давялося ўсё чыста расказаць. Спалоханая нявеста адаслала яго ноччу на магілу ў лесе і загадала ўважліва слухаць голасу забітага. Так жаніх і зрабіў. Уначы ён сапраўды пачуў голас: «За што ты забіў мяне нявіннага!? Дык ведай, праз сто гадоў збудзецца кара!». Калі юнак вярнуўся і ўсё пераказаў сваёй нявесце, тая разважыла, што кара збудзецца не пры іх жыцці — на тым свеце Бог рассудзіць. Неўзабаве маладыя пабраліся шлюбам і сталі жыць у згодзе ды штодзённых клопатах. Мінулі гады, яны ўжо і ўнукаў дачакаліся.*

*Аж неяк, вяртаючыся ад хворага, праз мястэчка Пескі ехаў ксёндз. У дарозе яго заспела ноч, і ён папрасіўся ў хату, дзе жылі тыя хлопец з дзяўчынай, цяпер ужо старыя і нямоглыя. Гаспадыня выйшла па яйкі, каб зрабіць госцю яечню, але ўбачыла, што не стае аднаго яйка. Яна адразу падумала, ці не ўкраў яго нехта з хатніх, і пачала на іх сварыцца. Ксёндз адмовіўся ад пачастунку і сказаў, што хоча толькі адпачыць. Старая, сцелючы ложак для госця, слухала ксяндза. Ён жа, паклаўшы на стол Біблію і крыж, пачаў распытвацца. Калі ў доме гэтулькі багацця, навошта сварыцца дзеля нейкага яйка. Старая адказала: «Дагэтуль у доме ніколі нічога не прападала». Святар памеркаваў, а можа, гэта знак кары Божай? І спытаў, ці не было ў яе жыцці чаго забароненага. Тут старая кабета і расказала яму ўсё, што было сто гадоў таму.*

*І от палеглі ўсе спаць. Ксёндз уклаўся на лаўцы пры акне. Апоўначы ж нехта пагрукаў у шыбу і тройчы сказаў: «Уставай ды ўцякай адсюль!». Спалохаўшыся, святар ускочыў з ложка і загадаў свайму чалавеку запрагаць коні. Неўзабаве яны мчалі па цёмным шляху. Але, праехаўшы ладны кавалак дарогі, ксёндз раптам успомніў, што забыўся на стале свае рэчы — малітоўнік і крыж. Тады ён папрасіў слугу, каб той выпраг каня і вярнуўся, забраў забытае. Калі слуга пад'ехаў да месца, дзе была вёска, то замест яе ўбачыў вялікае возера. А па вадзе плаваў столік з малітоўнікам і ксяндзовым крыжам. Пасланец святара падышоў бліжэй. Столік умомант падплыў да берага. І толькі слуга забраў рэчы — столік адразу пайшоў на дно.*

Падобнае паданне ў 20-ыя гады XX ст. запісана і пра возера Бязодніца каля аднайменнай вёскі ў Дзяржынскім раёне.



*Возера Бязодніца, в. Бязодніца, Дзяржынскі р-н.*

*Даўней на месцы возера стаяў вялікі двор, дзе жылі багатыя людзі. Аднаго разу ў доме нехта захварэў, і для прычасця паклікалі ксяндза. Калі святар прыступіў да сваіх абавязкаў і ўжо запаліў свечку, паставіўшы яе ў касцельную чашу, на двор наляцелі разбойнікі. Зляканы ксёндз пакінуў чашу у доме, а сам схаваўся ў бліжэйшым лесе. Дачакаўшыся, пакуль у двары сціхнуць крыкі і гоман, ксёндз удумаў вярнуцца па свае рэчы. Але заміж вялікага двара ўбачыў возера — пасярэдзіне плавала чаша з запаленай свечкай. Ксёндз кінуўся забраць іх — і тут вада раптам завіравала і зацягнула яго ў глыб возера.*

Паданне з гэтакім сюжэтам расказваюць і ў нашы часы старажылы з вёскі Дулебы Бярэзінскага раёна. Толькі галоўны герой у ім не святар, а просты чалавек, які таксама, начуючы ў былой вёсцы, забывае там малітоўнік. Усё астатняе нам вядома.

Пра возера Бяздоннае каля вёскі Клепачы ў Слонімскім раёне таксама ёсць досыць тыповае паданне.

*Неяк у вёску пад выглядам жабрака прыйшоў Бог і папрасіў у людзей хоць чаго з'есці. Але вяскоўцы, апроч адной беднай жанкі, і слухаць яго не хацелі. А тая не толькі накарміла яго, а яшчэ і паклала ў жабрачую торбу кавалак хлеба*

*на дарогу. Бог узлаваўся на сквапных вяскоўцаў і надумаў іх пакараць. Жанчыне ж, якая яго накарміла і была да яго ласкавай, ён загадаў разам з ім ісці прэч з вёскі і не азірацца. Калі яны пайшлі, ззаду пачуліся нейкія дзіўныя гукі, жанчына не вытрымала і азірнулася. На месцы вёскі яна ўбачыла возера, а сама раптам абярнулася ў камень. Жыхароў вёскі Бог таксама ператварыў у камяні і раскідаў па гары.*

Апроч сюжэта пра затанулы горад Свіцязь, на Беларусі шырока бытуюць такія самыя гісторыі і пра іншыя гарады. Так, на месцы меліяраванага возера Ула каля вёскі Цынцавічы ў Вілейскім раёне нібыта стаяў горад, які з нейкай прычыны праваліўся пад зямлю. На месцы возера Крывое ва Ушацкім раёне некалі быў горад Яга, які быццам бы затануў у лясным возеры. Каля вёскі Калюга Капыльскага раёна на былым возеры нібыта даўней час ад часу ўсплывалі царскія вароты. А ў вёсцы Пярэжыр Пухавіцкага раёна, паводле падання, на месцы возера быў горад Жыр, частка якога раптам правалілася, з другой жа часткі, што засталася, утварылася вёска.

На Вілейшчыне ў сярэдзіне XIX ст. расказвалі, што каля дарогі з мястэчка Рэчкі ў фальварак Орпа стаяла некалі карчма. І вось на Усяночную перад Святой Нядзеляй замест таго, каб ісці ў храм, людзі сышліся на гулянку ў карчму. Не сцярпеўшы такога блюзнерства, зямля разышлася і паглынула карчму разам з людзьмі, а на тым месцы разлілася вада.

Часта ў гэтакіх паданнях падкрэсліваецца, што вёска праваьваецца разам з храмам. У пачатку XIX ст. на Наваградчыне расказвалі, што некалі была вёска Навасёлкі, якая правалілася разам з усімі жыхарамі. Гэта здарылася ў нядзелю перад палуднем, пад канец імшы, калі людзі яшчэ былі ў касцёле. Уратаваліся толькі дзве дзяўчыны, якія збіралі ў лесе ягады. Каля вёскі Паганцы (цяпер Пагонцы) Светлагорскага раёна ёсць Сіняе, або Мёртвае возера. Паводле падання, яно ўтварылася на месцы вёскі. Разам з вёскай правалілася і царква, ад вежы якой нібыта відаць у вадзе крыж.

Паданне, звязанае з царквой, што правалілася, ёсць і пра возера Омх каля Кажан-Гарадка ў Лунінецкім раёне. А ў Грэску на Случчыне некалі *швед здзекваўся з царквы*. За гэта Бог зрабіў так, што цэркаўка разам са шведамі затанула ў возеры. Каля Чэрвеня *царкву ў возеры Дзікім патапіў волат*.

Лічыцца, што ў адным з азёраў у Шумілінскім раёне затоплены царкоўныя званы. Паданне кажа, як даўным-даўно

адна маці за нейкую правіну пракляла сваю дачку і, калі праходзіла паўз царкву, прамовіла: «*Каб ты правалілася*!». Царква і правалілася, а побач у возеры затанулі званы.

## Багацце назваў і паданняў

Пра найбольшае возера Беларусі Нарач расказваюць, быццам з даўніх часоў нарачанскі край славіўся сваімі чараўнікамі. І неяк адна з чараўніц, каб унікнуць лютай расправы, уцякала ад пагоні. Яе дагналі якраз на тым самым месцы, дзе цяпер ляжыць возера, а даўней было балота. Зразумеўшы, што ёй не выратавацца, яна прамовіла нейкія магічныя словы, у выніку — на месцы балота разлеглася возера, вада якога паглынула ўсіх людзей, у тым ліку і саму чарадзейку. У другім паданні пра Нарач апавядаецца:

*На месцы возера некалі рос бор і каласілася ніва. Непадалёк, у адной з вёсак, жылі прыгожая дзяўчына, звалі яе Паліна, і хлапец Васіль. Яны пакахалі адно аднаго. Васіль падарыў каханай незвычайнае люстэрка: калі зірнуць у яго, то можна ўбачыць свой лёс. Але красуняй захацеў завалодаць мясцовы пан Барыка. Бацька бараніў дачку, ды загінуў ад панавых рук. Пан забраў Паліну ў палон і трымаў у сваім палацы. Васіль уварваўся туды, забіў пана, але загінуў сам. Даведаўшыся пра смерць свайго любага, дзяўчына страціла прытомнасць, выпусціла з рук люстэрка. Яно разбілася і ператварылася ў возера.*

Яшчэ адно паданне звязана з імем дзяўчыны Нейрыта (Нара) і ўжо на свой лад тлумачыць паходжанне возера.

*Нара добра пяяла і грала на гуслях. Пан, стары ўдавец, пакваліўся на дзяўчыніна хараство і здумаў сілаю ўзяць Нару за жонку. Жаніх яе, вясковы хлопец Андрэйка, заступіўся за любую. Але пан загадаў схапіць адважнага хлапца, звязаць і завезці ў свой маёнтак. Ад тае пары Андрэйку ніхто больш не бачыў. Пазбыўшыся суперніка, падступны пан паехаў сватацца. Дзяўчына зрабіла выгляд, што згодная. Яе завялі ў панскія пакоі і прыбралі да шлюбу. Ды перш чым ісці ў царкву, яна папрасілася каб застацца на часінку адной. Пан выйшаў, а яна хуценька падпаліла пакой і выскачыла праз акно. На панскай фурманцы Нара пад'ехала да старога клёна, што за вёскай каля возера, туды, дзе яна не раз сустракалася з Анд-*

*рэйкам, і горка заплакала. Зараз паказаліся панскія слугі, якія борзда наганялі дзяўчыну. Яна крыкнула, маўляў, жывой яе не возьмуць і, не бавячыся, скочыла ў човен, які на вачох стаў знікаць у вадзяной прасторы. А возера з таго часу завуць Нарач, ад імя гэтай адважнай і прыгожай дзяўчыны.*

Другое вялізнае возера Беларусі — Чырвонае, або Князь-возера, у дакументах XVI—XVII стст. называецца як *Жыцкае* або *Жыценскае возера*, а ў краязнаўчай літаратуры XIX ст. ужо як *Жыд-возера.* У народзе расказваюць, што адзін з князёў (Радзівіл Вітгенштейн або Ягелон) закахаўся ў габрэйку, дачку мясцовага карчмара, і пабудаваў для яе на востраве сярод возера замак. На будоўлі працавала ўся Случчына. Але калі ўвесну паводка затапіла наваколле, дык пабудова была ўшчэнт разбурана. Другое паданне пра гэта возера апавядае, як у XVII ст. манахі Вісарыён і Палікарп заснавалі на яго беразе скіт, а пазней тут паўстала і царква. Паводле трэцяга падання, адзін з слуцкіх князёў Алелькавічаў узненавідзеў малодшага брата і зняволіў яго ў замку на выспе сярод возера. У час паводкі вада знесла замак, а пад яго разваліпамі загінуў князь.

Дарэчы, па ўсёй Беларусі сустракаюцца невялікія азёры, называныя *Князь, Княжынка, Княгінка* або *Княжае.* Прыкладам, пра возера Княжынка каля вёскі Бабруйшчына Глыбоцкага раёна расказваюць, што некалі на яго беразе жыў князь, які, будучы зусім п'яным, вяртаўся аднекуль і праз сваю неасцярожнасць патануў разам з коньмі.

Каля вёскі Дабрынь Дубровенскага раёна ляжыць даволі вялікае возера. Кажуць, што даўней там жыў Змей-Волат, які вымагаў, каб яму штодзень прыносілі ў ахвяру жывёл і людзей. Адважныя людзі ўвесь час змагаліся з ім, але ніяк не маглі адолець. Але неўзабаве з'явіўся асілак, які забіў змея і рассек яго на тры часткі: галаву, тулава і хвост. Кожную частку ён закапаў у асобны курган. У Полацку існуе возера пад назвай Валовае. Паводле падання, на яго беразе ў дахрысціянскія часы было капішча Перуна і Бабы-Ягі.

А на Глыбоччыне паміж вёскамі Зубкі, Зарубчыкі і Залессе разлеглася возера. Старажытнае паданне нам кажа:

*Некалі на гары пры беразе стаяў драўляны замак, дзе жыла красуня-князёўна. Калі зачалася вайна, ворагі падпалілі замак. Князёўна запрэгла ў брычку шасцёра коней са званочкамі, разагналася на іх і праз агонь і стоўпішча ворагаў шы-*

*банула з гары проста ў возера. Штогод, калі настае дзень таго пажару, людзі чуюць з глыбіняў возера тупат конскіх капытоў і спеўныя гукі званочкаў. Тады людзі кажуць, нібыта гэта князёўна шасцярыком раз'язджае пад вадой.*

Сустракаюцца і такія назвы азёр, як *Дзевіна, Дзявіцы* або *Дзявічае.* Прыкладам, каля вёскі Сімахі Аршанскага раёна ёсць возера Дзевіна, на беразе якога ляжыць курганны могільнік і ёсць невялікі ўзгорак з царквою. Возера Дзявіча існуе паміж вёскамі Камень і Парэчча Лепельскага раёна. Паводле падання, некалі на Вадохрышча ішлі па лёдзе праз возера дзевяць дзевак, і дзве з іх праваліліся. Лічаць, што возера Тэкліца ў Лепельскім раёне атрымала сваё найменне ад таго, што, маўляў, у ім утапілася панская дачка Тэкля.

Каля вёскі Ідуты на Ушаччыне ёсць возера Паладзіна, якое лічыцца бяздонным. У XIX ст. пра возера было запісана паданне, згодна з якім нейкая шляхетная дама Паладдзя раззлавалася на сына Сліву і забіла яго абцасам ад ботаў. Але, праехаўшы ад гэтага месца дзве вярсты, сама разам са сваім экіпажам правалілася ў бездань, дзе потым і ўтварылася возера.

Шматлікія назвы азёраў нясуць у сабе адгалоскі часоў язычніцтва. На Аршаншчыне зафіксаваны назвы Купелішча, Перыца. На Вілейшчыне каля старой дарогі з Касцяневіч у Орпу ёсць азярцо Паганаўка, ці Паганішча. Паводле падання, у возеры патанула вяселле. Пра возера Ольжанка каля Друі на Браслаўшчыне апавядаецца, што ў ім княгіня Вольга хрысціла людзей. Сустракаюцца і такія назвы азёр, як *Ігрышча, Лысае, Тур, Багушэўка, Балваны, Валовае, Гуслішча, Дзедава, Бабіна, Крэсцішча, Царкавішча, Янава*, інш. Шэраг азёр носяць назвы, звязаныя з чортам — *Чортава возера, Чортава Вока, Чортава Акно.* Зазвычай у старажытных паданнях і павер'ях вобраз чорта — гэта персаніфікацыя вельмі даўняга балцкага боства. Вада з такіх азёраў традыцыйна лічыцца лекавай. І па сённяшні дзень людзі вераць, што яна дапамагае ад хвароб вачэй, бо некалі возера насамрэч успрымалася людзьмі чортавым або боскім вокам.

Шмат ёсць азёраў з назвамі *Белае і Чорнае, Сіняе* і *Чырвонае.* Часта Белае і Чорнае азёры ляжаць побач. Прыкладам, такія парныя азёры ёсць у Бярозаўскім раёне (каля горада Белаазёрска), у Гарадоцкім раёне (каля вёскі Сурміно), у Полацкім раёне (каля вёскі Гендзікі), у Брэсцкім раёне (каля



*Возера Чортава Вока, в. Рацюны, Браслаўскі р-н.*

вёскі Белае Возера) і інш. У Чашніцкім раёне два азяркі маюць назвы *Малое Чорнае* возера, або *Чортава*, і *Вялікае Чорнае* возера, або *Стражавіцкае.*

Сіні ж колер у назвах азёр яшчэ са старажытных часоў амаль ва ўсіх міфалогіях звязваецца з архаічнымі ўяўленнямі пра іншасвет, з культам продкаў і хтанічнымі боствамі, сімвалізуе сабою месца збору злых духаў. Сінія азёры ёсць каля вёсак Пагонцы (Паганцы) Светлагорскага, Церабель Пухавіцкага, Грынкі Свіслацкага раёнаў. Пра апошняе паданне кажа:

*Некалі ў замку жыў граф, у якога была дачка. Граф хацеў выдаць яе замуж за старога князя, а яна кахала маладога конюха, што працаваў на бацькавай стайні. Закаханыя дамовіліся збегчы. А ведала гэта толькі служанка. Яна і расказала пра ўсё маці тае дзяўчыны. Бяда прыйшла а 12 гадзіне ночы, калі маладыя пакінулі замак. Тады маці пракляла сваю дачку ды яе каханага, і адразу замак праваліўся скрозь зямлю. На яго месцы ўзнікла возера. Ад той пары кожнай ночы, як праб'е 12, на возеры з'яўляюцца два чорныя лебедзі, але плывуць яны не побач, а па крузе, і ўсё ніяк не могуць наблізіцца адзін да аднаго праз той матчын праклён.*

# Рэкі і ручаі

Беларусь справядліва лічыцца краінай рэчак, яе тэрыторыю *перасякае* каля 20 тысяч рэк, і большасць з іх таксама авеяна паданнямі. Заўважым, рака — гэта не толькі элемент ландшафтавага коду традыцыйнай мадэлі беларускага свету. Адначасна гэта і стрыжань, што пранізвае вышні, сярэдні і дольні сусветы. Вобраз ракі займае важнае месца ў казачных матывах і ўвасабляецца там у агнявых рэках, рэках з мёду ці віна, у малочных рэках з кісельнымі берагамі і г. д.

У Цэнтральнай Беларусі існуюць паданні, паводле якіх рэкі выкапалі звяры і птушкі. Па іншай версіі, рэчышчы даўней пракладалі міфалагічныя першапродкі — асілкі. Пра раку Волму паданне кажа, быццам яна выцякла з галавы волата, якога забілі ворагі. Таксама ёсць паданні, у якіх гаворыцца, як волаты (літоўцы, князі і г. д.) біліся праз раку каменнымі сякерамі. Прыкладам, у вёсках Юзафова Смалявіцкага і Чарнавокі Верхнядзвінскага раёнаў, інш. У першым раздзеле мы ўжо расказвалі паданне пра багатырку, гаспадыню Багатыр-Гары, што на Расоншчыне. Ад вялізарных цэбраў, якімі яна насіла ваду з возера Нешчарда, утварылася і рэчка Багатырка. Гэты архаічны вобраз багатыркі, ваяўнічай жанчыны-валатоўны — рэшткі культу старажытнага божышча — Багіні-Маці. Дарэчы, у беларускіх паданнях яна выступае не толькі як разбуральніца, але і як стваральніца — у выніку яе дзейнасці ўтвараюцца рэкі і горы...

У Докшыцкім раёне пра раку Бярэзіну (Бярозу) кажуць, быццам яна наогул утварылася ад таго, што нейкая свіння рыла пад бярозай, якая расла проці млына, і дарылася ўрэшце да вадзяной жылы. Так сталася Бярэзіна.

Назвы рэчак і ручаёў вельмі разнастайныя. Паводле аднаго з паданняў, рака Вілія мела некалі таксама назвы Святая і Вялікая рака. Сустракаюцца і такія назвы, як *Дзевіца, Дзедаў ручай, Залаты ручай, Дунай, Свяда, Святчык, Сіняя, Царкоўка, Паганы і Чортаў ручай, Янаўка,* інш.

У Беларусі шырока бытуюць паданні з аднатыпнымі сюжэтамі пра заклятыя рэкі. У такіх паданнях звычайна гаворыцца пра нейкую міфічную княгіню, царыцу, каралеву, вядзьмарку, цыганку, габрэйку, англічанку і да т. п., у якой з тае ці іншае прычыны ў рацэ ці ручаі топіцца дзіця: сын, зрэдку дачка, і жанчына з роспачы ці з гневу кладзе заклён на раку. Пры-



*Рака Вілія,*
*Астравецкі р-н.*

кладам, у Лунінецкім раёне запісана паданне, згодна з якім нейкай княгіні абавязкова трэба было перабрацца на другі бераг ракі Марочны. Яна разам з дзіцём села ў карэту і паехала. Але на пераправе пасярод ракі карэта перакулілася. Дзіця захлынулася чорнай вадой, і ніхто не здолеў яго ўратаваць. Княгіня пракляла раку, і тая высахла. У Жыткавічах паданне кажа, быццам у рацэ патануў сын адной царыцы, пасля чаго яна пракляла яе, і ад ракі застаўся адно невялікі след.

У Капылі пра рэчку Каменку яшчэ і сёння можна пачуць, як у ёй некалі патануў сын нейкай варажбіткі. Вядзьмарка з роспачы пракляла раку, а наваколле зачаравала. У выніку — прыгожы замак, які стаяў на Замкавай Гары, знік пад зямлёй. Тамсама варажбітка схавала і ваду з рэчкі.

Падобныя паданні расказваюць у вёсках Горная (раней — Дзеракі) Вілейскага, Арэпічы Жабінкаўскага, Кажан-Гарадку Лунінецкага раёнаў, іншых месцах. Пра рэчку Крапіўка ў вёсцы Падлессе Ляхавіцкага раёна запісана паданне, як у адной чараўніцы ўтапілася дзіця — жанчына закрыла раку патэльняй, і тая высахла. А вось з рэчкаю Салакучаю на Мазыршчы-

не паданне звязвае нейкую пані, якая ў гневе пракляла дачку разам з яе каханкам. Дзяўчына плыла ў чоўне і патанула. Рака ўмомант стала мялець, а неўзабаве і высахла.

Пра адзін з верхніх прытокаў Нёмана расказваецца, быццам у рэчцы ўтапіўся ведзьмін сын. Тая пракляла раку і яе выток закрыла вялізнай патэльняй. Нейкі рускі абяцаў падняць патэльню, але патрабаваў ад мясцовых жыхароў за гэта сто рублёў і добрага каня. Такім спосабам ён меўся ўратавацца ад вады, якая рыне на паверхню, калі выток ракі вызваліцца. На жаль, ніхто з вяскоўцаў на такія ўмовы не пагадзіўся, і рака так і засталася зачыненай.

Мы ўжо ўспаміналі пра старажытнага Змея, або Цмока, які ў беларускіх міфах быў гаспадаром зямных водаў і адказваў за іх баланс: мог паслаць ваду або за непаслушэнства пакараць людзей, прыпыніць яе. З памянёных паданняў відаць, як вобраз старажытнага зааморфнага божышча з часам стаў антрапаморфным, іншымі словамі, ачалавечаным вобразам міфічных жанчын.

Да сярэдзіны XX ст. на Вадохрышча практыкаваліся хрэсныя хады да рэк, дзе адбываўся абрад асвячэння вады. Асвечаная вада як святая і чыстая стыхія, паводле народных перакананняў, змывала ўсё благое, вызваляла ад граху і хваробаў. Яшчэ ў канцы XIX ст. у мястэчку Лукомль Чашніцкага раёна ў пятніцу перад святам Пятра і Паўла ў Магдаліна-Марыінскую царкву, дзе знаходзіўся абраз святой Параскевы-Пятніцы, ішлі паломнікі з усяго Лепельскага і Барысаўскага паветаў. Адбываўся хрэсны ход на бераг ракі Лукомкі. Шмат хто з багамолак у час абраду ўваходзілі ў ваду басанож і стаялі так да заканчэння рытуалу. Некаторыя з іх кідалі ў рэчку хусткі, ручнікі, кашулі...

Звычай пускаць па вадзе нешта накшталт свайго адзення, старых абразоў, стружак ад дамавіны і да т. п. меў часцей за ўсё характар ахвяравання. У гэтым сэнсе вартае ўвагі паданне пра кіеўскага мітрапаліта Макарыя, якога ў народзе празвалі Чортам. Кажуць, быццам у XV ст. татары патрабавалі ад мітрапаліта, каб ён заклікаў праваслаўных людзей добраахвотна прыносіць даніну крымскаму хану. Але той не выканаў загаду крымчакоў. Тады татары адсеклі мітрапаліту галаву і пусцілі яе па Прыпяці на плыце. Цела забітага людзі перавезлі ў Кіеў і пахавалі ў Сафійскім саборы. Праваслаўная царква абвесціла Макарыя святым мучанікам. На месцы ягонага забойства ў мястэчку Скрыгалаў Мазырскага раёна пры беразе Прыпяці ўзвялі капліцу і пяціметровы абеліск.



*Рака Прыпяць, каля в. Барбароў, Мазырскі р-н.*

Доўгі час людзі прыходзілі да гэтай святыні, ахвяравалі ёй свае каштоўныя рэчы: упрыгожванні, грошы, інш. У гэтым паданні даследчыкі бачаць адгалоскі старадаўняга звычаю чалавечых ахвяраванняў.

Шмат дзе ў рэчышчах трапляюцца вялікія валуны або каменныя парогі, пра якія ў народзе таксама склаўся шэраг паданняў. Каля вёскі Забежжа непадалёк ад Віцебска ў Дзвіне ляжаў Дзявочы камень са слядком дзяўчыны-валатоўны. Згодна з паданнем, яна хацела пераступіць рэчку, але спатыкнулася аб камень. Каля горада Дзісна ёсць Нароўскія парогі і Марынкіны парожкі. У Заходняй Дзвіне вядомыя паклонныя Барысавы камяні, на якіх яшчэ ў XII ст. былі высечаны крыжы і зроблены надпісы з просьбай аб дапамозе князю Барысу (Полацк, Дзісна, Друя). Большасць даследчыкаў лічаць, што надпісы зроблены ў часы вялікага голаду, які быў на нашых землях пасля князя Усяслава. Менавіта пры ім аднавілі язычніцкія вераванні нашых продкаў, у тым ліку і пакланенне валунам. Неўраджай хрысціянскія святары палічылі вынікам Божага гневу і помсты за вяртанне да паганства і надумалі

асвяціць месцы даўнейшага культу. Мяркуецца, што крыжы і надпісы высеклі на пачатку мая 1128 г. у дні Барысаглебаўскіх аграрных святаў пры полацкім князе Барысе.

Каменныя парогі ёсць на Дняпры, дзе каля Оршы ляжаць камяні *Апякун, Званец і Чартолле*, і на Віліі, дзе камяні завуцца *Прывітальня, Лысіна Паца, Чортава Грэбля*, на іншых рэках. Прыкладам, у вытоках Нёмана, паводле падання, чорт рабіў плаціну, і, калі яму заставалася закласці ўсяго толькі адзін камень, раптам праспяваў певень, чорт спужаўся, кінуў працу. У выніку рака размыла плаціну, і ўтварыліся парогі.

# Легендарныя астравы

Шмат на якіх азёрах і рэках ёсць астравы, ці, інакш, выспы, пра якія таксама захавалася шмат паданняў. Высокім сакральным статусам вылучаюцца выспы на азёрах. З некаторымі звязаныя паданні, быццам некалі там праваліўся храм, замак ці панскі палац. Гісторыю з храмам расказваюць пра возера Вялец, што ў Глыбоцкім раёне, з замкам — пра Князьвозера ў Жыткавіцкім раёне, пра былое возера Вейна (в. Лубяны) — у Бялыніцкім раёне. На Браслаўшчыне на возеры Неспіш адзін з астравоў завецца Манастыршчынай, другі — Святым. На першым некалі стаяў Успенскі манастыр, а на другім жылі пустэльнікі і быў цудатворны крыж.

Наогул, востраў увасабляе архаічнае ўяўленне старажытных народаў пра Сусвет, або дакладней, тагасвет, міфічную краіну памерлых продкаў. Легендаў і паданняў пра такія астравы не злічыць. Але найстарэйшая згадка з усёй запісанай даўней міфалогіі — гэта егіпецкі папірус XX—XVII стагоддзяў да н. э, дзе гаворыцца пра вандроўніка-гандляра, чый карабель разбіўся, а сам ён трапіў на невядомы востраў. Там пануе дабрабыт і дастатак, расце прыгожы сад, яго гаспадар — магутны змей. Змей урэшце адорвае таго чалавека незлічоным багаццем, рознымі падарункамі. У беларускім выкананні таксама існуюць падобныя гісторыі, прыкладам, пра востраў на Асвейскім возеры, дзе нібыта здараюцца цуды. На выспе ёсць дзве гары — Пярунка, ці Лемяшоўка, у якую паводле падання заўсёды б'е Пярун. Назва Лемяшоўка ўзнікла куды пазней і тлумачыцца тым, што нібыта ў 1812 г. французы стралялі па ёй лемяшамі. Другая гара завецца Гарадок.

Яна нібыта была насыпана французамі ў час балявання пасля вельмі ўдалага бою 1812 г. Пра гару зафіксавана і другое паданне, больш архаічнае. Згодна з ім, на Гарадку ёсць вялізная яміна, куды быццам бы некалі праваліўся пастушок. Там ён убачыў міфічных Бабу і Дзеда, а побач з імі сабаку на шворцы. Старыя насыпалі хлопчыку поўныя кішэні золата і вывелі наверх. Пастушок вярнуўся дадому і расказаў усім пра здарэнне. Суседзі паслалі туды двух іншых хлопцаў, але тыя ўжо не вярнуліся.

Легендарны востраў ёсць на вялікім возеры Езярышча на паўночным усходзе Беларусі. У паданні пра яго ўпамінаецца незвычайнае падзямелле з жалезнай брамай, якое знаходзіцца на востраве. Нібыта ў гэтым падзем'і жыла дзіўнага хараства дзяўчына — зачараваная некалі князёўна. Часам яна паказвалася на востраве разам з двума вялізнымі сабакамі, але людзям яны не рабілі аніякага ліха. Аднаго разу дзяўчына закахалася ў мясцовага рыбака Януша Вяхотку і паказала яму на выспе месца, дзе быў схаваны вялікі скарб з серабром і золатам.

Ёсць і іншага кшталту паданні. Але ў іх таксама паўтараецца матыў схаванага скарбу, закапанага золата. Так, на востраве Гарадзішчанскага возера каля вёскі Каз'яны ў Шумілінскім раёне *гулялі паны і закапалі там золата*, а на востраве сярод балота, што каля мястэчка Пагост у Бярэзінскім раёне, *адпачываў літоўскі князь Віцень і выпадкова згубіў там золата*. Па Сіверскім возеры, што на поўдні Пскоўшчыны, плыла ў лодцы знакамітая пані. Раптам лодка затанула разам са скарбам, а на тым месцы паўстаў востраў. У паданні пра чатыры святыя выспы возера Цётча Ушацкага раёна памяць продкаў узгадвае цудоўны райскі сад. А на Браслаўшчыне на востраве Богінскага возера яшчэ ў 20-ыя гады XX ст. стаяў каменны ідал.

У канцы XIX ст. нямецкі фалькларыст Й. Цемрых супаставіў такія паданні, легенды і прыйшоў да высновы, што ў большасці выпадкаў гэтыя міфічныя выспы не што іншае, як першапачатковае месца знаходжання памерлых продкаў. Гэтае на дзіва слушнае меркаванне дае разгадку таямнічага вострава. Так, паводле Гесіёда, іншасвет месціўся на далёкіх астравах у акіяне, на г. зв. «*шчаслівых выспах*». Цалкам магчыма, што і нашыя продкі сяліліся раней каля мора, возера, ракі, балота ці яшчэ якой вады, а месца для пахавання выбіралі недзе за воднай прасторай, на далёкай выспе. Вельмі яскравы прыклад з беларускага фальклору — востраў Буян, які ляжыць далёка за морам і мае фантастычныя рысы іншасвету.



*Панарама возера Атолава і выспачкі пасярод яго,*
*дзе месціцца старажытныя могілкі, в. Пілатоўшчына, Ушацкі р-н.*

Дагэтуль захавалася памяць пра такую краіну продкаў — цудоўны востраў, які выступае ў беларускай міфалогіі як дагістарычная, сакральная прааайчына, дзе жыве і ахоўвае яе не менш сакральны першапродак чалавецтва — міфічны цар або царыца: Змей або Змяя. Згадка пра такі востраў сустракаецца і ў замовах ад змей:

*«На моры на востраві стаяў куст, а ў том кусце ляжыць змяя Шкурапея...» і «Ёсць на моры, на кіяні выспа, на той выспі стаіць дуб курганаваты, бурганаваты. У том дубі залатое гнязда; у том гняздзе ляжыць змяя, усім змяям царыца...»*

Пазнейшыя антрапаморфныя персанажы беларускіх легенд і паданняў: Баба або Дзед, паны або князь, князёўна і г. д., якія адорваюць простага смяротнага чалавека рознымі каштоўнымі падарункамі і багаццем, ёсць не чым іншым, як персаніфікацыяй нашых далёкіх памерлых продкаў і міфічнага Змея.

Варта зазначыць, што не заўсёды ў беларускіх міфах іншасвет падаецца станоўча. Часцей ён бачыцца дваіста, з аднаго боку, яму прыпісваюцца ўсялякія даброты, з іншага — ён лічыцца небяспечным месцам. Пра такі выпадак кажа паданне аб дзвюх выспах на Сенненскім возеры. На вялікай выспе жыў добры дух, а на маленькай — ліхі, які зрэшты перамог добрага

і забраў сабе вялікую выспу. Трагічна сканчаецца жыццё князя і яго жонкі габрэйкі, якія некалі пасяліліся ў каменным замку на выспе Чырвонага возера, ці, па-іншаму, Князь-возера. У час веснавой паводкі на Прыпяці і ў возеры паднялася вада, крыгамі яна знесла замак, застаўся толькі падмурак ад яго.

Пра тое, што такія мясціны былі сакральнымі для нашых продкаў, сведчаць некаторыя іх назвы: *Царкавішча, Святы востраў.* Авеяны паданнямі і астравы легендарнай ракі Дзвіны супраць мястэчка Друі і горада Дзісны. На вялікім востраве гэтай ракі ў Браслаўскім раёне княгіня Вольга, паводле падання, уфундавала храм Праабражэння Гасподняга. Паданне пра востраў насупраць горада Дзісны звязана з каралём Стэфанам Баторыем.

## Затопленыя скарбы

Паданні пра скарбы, затопленыя ў азёрах і рэках, даволі пашыраныя ў нашай краіне. У іх гаворка вядзецца пра затанулыя вазы з грашыма ці зброяй, званы або залатыя карэты. Даволі часта сустракаюцца паданні і пра затопленыя гарматы. Паводле гістарычных звестак, у XIX ст. на Гродзеншчыне адзін мясцовы пан, наслухаўшыся такіх гаворак, нават спрабаваў сам шукаць у рацэ тыя гарматы, якія, згодна з паданнем, былі запоўнены золатам. Для падводных шуканняў ён змайстраваў спецыяльную машыну, але скарбу так і не знайшоў.

А колькі ёсць паданняў пра шматлікія затопленыя лодкі! Так, у возеры Неспіш каля вёскі Маскавічы на Браслаўшчыне нібыта ляжыць залатая лодка, якая затанула насупраць вострава, а на гарадзішчы IX—XIII стст. закапана толькі срэбная лодка са зброяй.

У вёсцы Мсцібаў Ваўкавыскага раёна ў XIX ст. запісана паданне пра схаваныя ў мясцовай рэчцы вялікія скарбы. Неяк на замчышчы людзі бачылі белыя і чырвоныя агеньчыкі і нават нейкую незразумелую асобу са шчоткай у руцэ, якая ўсё паўтарала тую самую фразу: «Пачашыце мяне!». Тутэйшыя жыхары тлумачылі, маўляў, такім спосабам зачараваны скарб хацеў дацца людзям у рукі, але пастушкі, якія тое чулі, не зразумелі гэтага і спалохана разбегліся.

Трэба сказаць, што ў беларускіх паданнях сустракаюцца не толькі абстрактныя вядзьмаркі, чараўніцы, княгіні або цыганкі, але і некаторыя рэальныя гістарычныя асобы. Як



*Дзявічае возера каля вёскі Парэчча і Камень, Лепельскі р-н.*

прыкладам, Напалеон, Кацярына II, Пётр I. Але ў сапраўднасці яны не маюць ніякага гістарычнага дачынення да таго ці іншага геаграфічнага аб'екта, а ў народнай свядомасці выступаюць абстрактнымі персанажамі, асацыююцца з іншасветам і адносяцца да катэгорыі «чужых». Падобны матыў прасочваецца ў паданнях пра затопленыя ў рацэ багацці і пра тое, быццам нейкі «швед», або «француз», або Кацярына II, або Напалеон, або яшчэ хто згубіў там сваю каштоўную шапку.

Пашыраныя паданні пра напалеонаўскія скарбы, нарабаваныя ў час кампаніі 1812 года ў Маскве і потым затопленыя пры адступленні. Прыкладам, у затоцы Ліпнікі на возеры Саранчаны, што на Пастаўшчыне, паводле мясцовага падання, Напалеон утапіў брычку з золатам. Пра возера Глухое, або Дзікае ў вёсцы Каўпінскія Дзятлаўскага раёна кажуць, што там пры адступленні Напалеон затапіў скарб. Па начах з возера выходзіць здань і, калі хто спрабуе выцягнуць схаваныя каштоўнасці, душыць такога шукальніка. Залатая брычка ляжыць нібыта і ў Святым возеры каля вёскі Шапялевічы Круглянскага раёна.

Пры вёсцы Шэбрын недалёка ад Брэста на беразе ракі Мухавец ёсць узгорак, названы *Замак Адама,* ці *Адамуха.* Згодна з паданнем, там некалі жыў пан Адам, які не меў на-

шчадкаў і перад смерцю закапаў усе свае грошы на дне ракі. А перад гэтым загадаў зрабіць каналы і адвесці ваду ў бакі. Людзі ў яснае надвор'е час ад часу нібыта бачаць, як грошы ў куфры ўсплываюць на паверхню для прасушвання.

# Павер'і пра азёры, рэкі і ручаі

Вельмі архаічны і незвычайны характар маюць тыя паданні, дзе гаворыцца пра некаторыя сакральныя рэчы, што трапляюць да нас водным шляхам з іншасвету ад нашых міфічных прашчураў. І гэтыя рэчы даюцца нам не проста так, а служаць асаблівым, адметным знакам, праявай святой волі нашых продкаў, прыплываюць на нейкае азначанае імі, а таму сакральнае месца. Так, у вёсцы Мыто Лідскага раёна ў XIX ст. было запісана паданне пра цудатворны абраз, што быццам бы прыплыў па рацэ Дзітве. Калі, паводле падання, ён плыў па рацэ, нейкі пастух ударыў яго пугай, і на твары святога засталіся два крывавыя шнары. У гонар з'яўлення абраза ў вёсцы пабудавалі царкву. Існуе і мінскае паданне пра абраз Божай Маці, які прыплыў па Свіслачы супраць плыні. Паводле некаторых старадаўніх паданняў, па рэках прыплываюць і каменныя крыжы. Як, прыкладам, тыя, што нібыта адразу пасля хрышчэння Русі трапілі з Кіева ў Тураў па Дняпры ды Прыпяці. Як кажа паданне, яны таксама ішлі супраць плыні і спыніліся каля масткоў у горадзе. Калі людзі іх убачылі і вынеслі на бераг, то *...уся вада зрабілася крывёю.* Крыжы занеслі ў Тураўскую царкву Усіх Святых і паставілі там на пачэсным месцы.

Каля вёскі Заазер'е (Святазер'е) Чэрыкаўскага раёна ў лесе ёсць невялічкае Святое возера, дзе нібыта правалілася царква. Мясцовыя людзі і ў наш час лічаць, што ў вялікія хрысціянскія святы з возера падымаюцца крыжы. Недалёка ад вёскі Лемяшэвічы Пінскага раёна ёсць Святое возера, пра якое ў народзе захавалася гісторыя:

*Неяк на Вялікдзень, калі было пасвячэнне Пасхі, сяляне вельмі спяшаліся занесці яе ў суседнюю вёску Сернічкі і раптам упусцілі ў возера. Але Пасха, асвяціўшы ваду ў возеры, не знікла. Плавае яна там і дагэтуль, час ад часу з'яўляючыся на паверхні.*



*Бабское возера каля в. Здудзічы, Светлагорскі р-н.*

На Падзвінні, калі маладая прыходзіла ў дом да мужа і першы раз ішла па ваду на раку ці на возера, то мусіла кінуць туды манетку, каб на новым месцы ёй ува ўсім шанцавала. Яшчэ на пачатку XX ст. у горадзе Сянно Віцебскай вобласці існавала павер'е, згодна з якім пры нараджэнні дзіцяці сваякі парадзіхі, каб даведацца пра будучае жыццё немаўляці, мусілі глядзець на паверхню азёрнай вады. Калі яна была спакойнай, то і жыццё дзіцяці чакалася спакойным. У адваротным выпадку, пры буры ды вялікіх хвалях на возеры, спадзявацца на добрае жыццё не выпадала.

Шмат якія павер'і звязаны з лекавай сілай вады. Так, вада ў возеры Святое, або Хіцімля (Хоцімля) каля вёскі Шапялевічы Круглянскага раёна нібыта памагае ад хваробаў скуры. На гэта возера людзі і сёння збіраюцца ў Купальскую ноч і на наступны дзень — на праваслаўнага святога Яна. Яшчэ не так даўно ў возера спускалі невялікія драўляныя крыжы. 7 ліпеня на беразе возера адбываецца фэст, на які з'язджаюцца з усіх навакольных вёсак. Людзі купаюцца або проста дакранаюцца да вады. З дубкоў, якіх вельмі шмат вакол возера, яны зрываюць лісткі, апускаюць іх у ваду, а потым кладуць дома за абразы.

Ваду з возера Лешава каля вёскі Чарсцвяды Ушацкага раёна бралі для лячэння ад розных хвароб, асабліва ад хвароб

вачэй. Верылі, што вялікую лекавую сілу мае вада з возера Белае ў Расонскім раёне, а таксама вада з возера Свіцязь, куды хворых прывозілі на купанне нават у халоднае надвор'е.

У нас на Беларусі ў некаторых мясцінах ажно да цяперашняга часу дажылі рэлікты культу ўрадлівасці. Так, праз вёску Сверынава Стаўбцоўскага раёна працякае Святы ручай, а непадалёк на ўзгорку знаходзіцца касцёл. Мясцовыя людзі яшчэ помняць, як зусім нядаўна ў час засухі каля ручая маліліся на дождж і свята верылі, што неўзабаве ён і пачнецца. Існаваў і другі, вельмі архаічны спосаб выклікаць дождж, пашыраны на нашых землях. Гэта абрад «арання ракі». Як гэта рабілася? Жанчыны, прычым абавязкова называныя ў народзе «чыстыя» — г. зн. дзяўчаты або ўдовы, упрагаліся ў саху і цягнулі яе па дну ракі ці па яе беразе. Так яшчэ нядаўна рабілі ў вёсках Русаковічы Пухавіцкага, Ціхань Хоцімскага, Кукарава Бярэзінскага раёнаў.

# Літаратура

*Агапкина, Т. А.* Пускать по воде: Из словаря «Славянские древности» / Т. А. Агапкина // Славяноведение. — 2002. — № 6. — С. 47—57.

*Арсеньева, С. Д.* Чудесное явление иконы Божией Матери на реке Свислочи в Минске 13 августа 1500 года / С. Д. Арсеньева. — СПб., 1905.

*Без-Корнилович, М. О.* Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней же относящихся / М. О. Без-Корнилович. — СПб., 1855. — С. 109.

Верования и обряды жителей Могилевской губернии — белорусов // Труды этнографического отдела Императорского Общества любителей естествознания, антропологии и этнографии при Московском университете: книга IV. — М., 1877. — С. 26.

*Віцьбіч, Ю.* Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман / Ю. Віцьбіч. — Мінск, 1995.

*Глацёнак, В. Д.* Асьвейскае возера / В. Д. Глацёнак // Наш край. — 1927. — № 8—9. — С. 58—60.

*Демидович, П.* Из области верований и сказаний белорусов / П. Демидович // Этнографическое обозрение. — 1896. — № 1. — С. 91—120.

Донесения о первых успехах путешествия в России Зорияна Долуга-Ходаковскаго из Москвы 13-го липца 1822 г. // Русский исторический сборник, издаваемый Императорским обществом истории и древностей Российских: том VII. — М., 1844. — С. 99.

*Дралюк, В.* Оживление «мертвой» воды / В. Дралюк // Советская Белоруссия. — 2005 г. — 3 августа.

*Зайкоўскі, Э.* Вілія і Вільня — святыя рэкі славян і балтаў / Э. Зайкоўскі // Весці Акадэміі нацыянальных меншасцяў. — 1997. — № 1. — С. 3—5.

*Зайкоўскі, Э.* Жыватворныя крыніцы Беларусі / Э. Зайкоўскі, Л. Дучыц. — Мінск, 2001.

*Зайцаў, А.* Сакральная геаграфія Вілейшчыны: (Паганскія культавыя помнікі Вілейшчыны) / А. Зайцаў // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 64—73.

*Ільянкоў, В.* Палескія замалёўкі / В. Ільянкоў // Запіскі. — Брэст. — Вып. II. — 2002. — С. 104—105.

*Ишков, М.* Озера Оршанского уезда / М. Ишков // Земледение: кн. I—II. — М., 1905. — С. 232—246.

*Казанович, Е.* Легенда о Святом озере в Белоруссии / Е. Казанович // Живая старина. Год XXIV. 1915. Вып. III. — Пгрд., 1916. — С. 273—276.

*Карандзей, І.* Помнікі старасьветчыны і краявіды Вульскага і Расонскага раёнаў Полаччыны / І. Карандзей // Наш край. — 1929. — № 8—9 (47—48). — С. 74—75.

*Касьпяровіч, І.* Казкі пра волатаў на Чэрвеншчыне / І. Касьпяровіч // Наш край. — 1929. — № 6—7 (45—46). — С. 77—78.

*Кербелите, Б.* Литовские предания об исчезнувших городах / Б. Кербелите // Советская этнография. — 1963. — № 5. — С. 99—108.

*Киркор, А.* Этнографический взгляд на Виленскую губернию / А. Киркор // Этнографический сборник. — Вып. II. — 1854. — С. 115—276.

*Косарев, А. Г.* В поисках сокровищ Бонапарта / А. Г. Косарев. — М., 2005.

*Краснянский, В. Г.* Город Мстиславль. Его настоящее и прошлое / В. Г. Краснянский // Записки Северо-Западного отделения Императорского географического общества: кн. III. — Вильна, 1912. — С. 73—171.

*Криничная, Н. А.* Историко-этнографическая основа преданий о «зачарованных кладах» / Н. А. Криничная // Советская этнография. — 1977. — № 4. — С. 105—111.

*Криничная, Н. А.* Легенды о невидимом граде Китеже: контакты между мирами / Н. А. Криничная // Этнографическое обозрение. — 2003. — № 5. — С. 87—92.

*Куза, А. В.* Языческое святилище в земле радимичей / А. В. Куза, Г. Ф. Соловьева // Советская археология. — 1972. — № 1. — С. 146—153.

Легенды і паданні. — Мінск, 1983.

Лиховское озеро при м. Песках Волковысского уезда // Материалы по этнографии Гродненской губернии. — Вып. II. (под редакцией Е. Р. Романова). — Вильна, 1912. — С. 359—362.

*Лобач, Ул.* Некаторыя вынікі этнаграфічных даследаванняў Беларускага Падзвіння: (Экспедыцыя Полацкага дзяржаўнага універсітэта. 1995—1997) / Ул. Лобач // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. — Полацк, 1998. — С. 160—167.

*Ляўданскі, А. Н.* Раскопкі і археалагічныя разьведкі ў Барысаўскім павеце / А. Н. Ляўданскі. — Менск, 1925. — С. 95.

*Максимович, Н. И.* Днепр и его бассейн / Н. И. Максимович. — Киев, 1901.

Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Минская губерния: Ч. I. (составил И. Зеленский). — СПб., 1864. — С. 254—256.

*Мікіцінскі, У.* Падарож па Случчыне / У. Мікіцінскі, Р. Пяцэвіч, П. Ажэўскі // Наш край. — 1928.— № 2 (29). — С. 24—44.

*Миловидов, А.* Церковно-археологические памятники города Пинска / А. Миловидов. — Минск, 1898.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. Игуменский уезд. — Минск, 1879.

Опросные листы 1924 года по Минскому и Борисовскому уездам // Архіў Ін-та гісторыі НАНБ. — Справа № 71.

Опыт описания Могилевской губернии: Кн. 1. — Могилев на Днепре, 1882.

Памятная книжка Минской губернии. 1878: Ч. II. — Минск, 1878.

*Рогалев, А. Ф.* Скрыгаловское предание / А. Ф. Рогалев // Десять веков христианства на Руси: Материалы международной научно-практической конференции, посвящённой Туровской Епархии. — Гомель—Мозырь, 2005. — С. 80—83.

Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия Императорской археологической комиссии. — Вып. V. — СПб., 1903. — С. 1—64.

Село Мыто и Колыховская икона Божией Матери // Литовские Епархиальныя ведомости. — 1893. — № 39. — С. 328—329.

*Сербаў, А.* Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі. Працы / А. Сербаў. — Т. 2. — 1930. — С. 91.

*Товаров, А.* Историко-статистическая справочная книжка Минской Епархии / А. Товаров. — Минск, 1903.

Труды Минского губернского статистического комитета. — Вып. 1. — Минск, 1870.

*Тумiловiч, В.* Тапанiмiка Кажан-Гарадка i яго зямель / В. Тумiловiч. — Лунiнец, 2001.

*Янчук, Н.* По Минской губернии (заметки из поездки в 1886 году) / Н. Янчук. — М., 1889.

*Jeleńska, E.* Świteź / E. Jeleńska // Księga pamiątkowa na uczczenie setnej rocznicy urodzin A. Mickiewicza (1798—1898): T. II. — W-wa, 1898. — S. 57—58.

*Narbut, T.* Korrespondencja / T. Narbut // Athenaeum. — T. II. Wilno, 1845. — S. 177.

# Крыніцы-гойбіты

Лекавыя якасці крынічнай вады людзі заўважылі яшчэ ў глыбокай старажытнасці. У народзе заўжды лічылася, што вада дапамагае перадусім ад хвароб вачэй, страўніка і болю галавы. Пасля прыняцця хрысціянства царква ўзяла пад сваю апеку большасць крыніц, якія ўшаноўвалі нашы продкі. Кожная такая крынічка і цяпер мае сваё «свята», на якое заўсёды сцякаюцца паломнікі, гатовыя за святую ваду ахвяраваць грошы ці кветкі, самаробныя стужкі, ручнікі і палотно. У гэты дзень вада з такіх крыніц лічыцца асабліва дзейснай.

Традыцыю ўшаноўвання крыніц не заўжды ўспрымалі прыхільна. Так, у перыяд станаўлення хрысціянства яна часова прынінілася. Тое самае здарылася, калі бальшавікі ўзяліся змагацца з рэлігіяй. А ў больш спрыяльныя часы, калі ў старой веры і ў старых каштоўнасцях людзі шукалі свае карані, здабывалі сабе суцяшэнне, культ крыніц адраджаўся. Каля некаторых з іх, асабліва папулярных у народзе сваёй «памочлівасцю», адкрываліся санаторыі. У XIX ст. на такія крыніцы, скажам, у Лагойску, каля Відзаў на Браслаўшчыне, у Баркоўшчыне на Ушаччыне ездзілі лекавацца з усёй Заходняй Еўропы.

Шмат дзе вада з такіх жаролаў (крыніц) завецца «жывой», «памоцнай» або «святой». Так, каля вёскі Навасады ў Дзяржынскім раёне «жывая вада» дапамагае ад пярэпалаху, а «памоцная вада» ў Зенькаўцах Зэльвенскага раёна — ад хвароб вачэй. У вёсцы Вітаўка Дзяржынскага раёна крынічная вада, згодна з павер'ем, лечыць не толькі вочы, але і ногі. А ў вёсцы Гамарня Быхаўскага раёна такая вада дапамагае ад хвароб сэрца, да таго ж лечыць вочы таксама і ў жывёл. Вада з крыніцы Шальціня, або Зімнік, што каля вёскі Струста на Браслаўшчыне, не толькі пазбаўляе ад розных хвароб, але і ратуе ад «ліхога вока». У некаторых крыніцах ваду бяруць і для піцця, і для абмывання твару, ног, а часам і ўсяго цела.



*Святая крыніца каля в. Турэц, Чэрвеньскі р-н.*

Міхееўскую святую крыніцу на Пятровым лузе каля Крычава ў даўнія часы больш за ўсё наведвалі ў апошні дзень сырнага тыдня. У гэты дзень маці апускалі ў ваду сваіх дзяцей і лічылі, што тая абавязкова забярэ ўсе дзіцячыя балячкі. А дзяўчаты і хлопцы купаліся ў гаючай крынічнай вадзе з надзеяй пакінуць там не толькі свае хваробы, але і грахі. На знак удзячнасці за ўсё гэта яны кідалі ў ваду грошы.

У Беларусі шмат якія святыя крыніцы называюцца Пятніцкімі. Паводле старадаўніх вераванняў, апякункай дзяўчат, жанчын і шлюбаў лічылася Параскева-Пятніца, якая заступіла сабою старажытную багіню ўрадлівасці Мокаш. А гэтая багіня, сваім парадкам, заўсёды апекавалася воднай стыхіяй, асабліва крыніцамі і студнямі, куды, як вядома, паломніцтвы адбываюцца найчасцей па пятніцах. Яскравы прыклад — знакамітая Палыкавіцкая крыніца каля Магілёва, якая нібыта дапамагае ад хвароб вачэй і скуры. Сюды паломнікі збіраліся ў асноўным у дзясятую-дванаццатую пятніцы па Вялікадні, а найбольш папулярнай была адзінаццатая пятніца. Тады людзі казалі так: «*хадзіць да вомуту*». Яшчэ ў канцы XIX — пачатку XX стст. у абсягах ста



*Драўляны аброчны крыж побач са святой крыніцай каля в. Маргавіца, Докшыцкі р-н.*

кіламетраў ад святой крыніцы кожная жанчына і дзяўчына мусіла схадзіць туды — ісці належала пехатою. Мужчыны да крыніцы амаль не хадзілі, а толькі прыязджалі забіраць сваіх родных па святкаванні Палыкавіцкай Пятніцы.

Палыкавіцкая крыніца выцякае з-пад стромкай гары. Паломніцы, як сведчаць этнаграфічныя запісы, збіраліся каля крыніцы напярэдадні, у чацвер вечарам. У гэты дзень працаваў паром — перавозіў людзей з левага берага Дняпра на правы. У царкве ішло набажэнства, дзячкі ўвесь час запаўнялі доўгія спісы — *«за здароўе...», «за спачын...», «за скацінку...»*. Тут прадаваліся і васковыя фігуркі авечак, кароў, коней, частак чалавечага цела. Іх куплялі і адразу неслі ў ахвяру да крыніцы, куды таксама кідалі манеты, пацеркі, завушніцы, пярсцёнкі. Усе пілі з крыніцы ваду, напаўнялі ёю розныя ёмкасці. Шмат хто ішоў з дому нашча, каб увечары выпіць гаючай вады. А яшчэ паломніцы прыносілі ў царкву кавалкі палатна, за якія атрымлівалі аплаткі і маленькія на-



*Святая крыніца каля в. Зяцькавічы, Кармянскі р-н.*

цельныя крыжыкі. Крыжыкі яны адразу ж неслі ў ахвяру да святой крыніцы. Некаторыя жанчыны збіралі з дна крыніцы каменьчыкі, каб дома імі выпарыць гарлачыкі. Лічылася, што пасля гэтага да свойскай жывёлы не прычэпіцца ніякае ліха і каровы будуць даваць больш малака.

Каля шмат якіх святых крыніц даўней, як і цяпер, ставілі драўляныя крыжы. На крыжах размяшчалі абразы і абразкі, вешалі ў якасці аброку саматканыя фартушкі і ручнікі. У народзе па сёння моцна трымаецца павер'е, што на крыжы каля крыніцы трэба вешаць тую частку адзення, якая судакранаецца з хворым месцам на чалавечым целе. А заадно абавязкова трэба пакласці і грошы. Лічыцца, што хвароба пойдзе разам з вадою ў свет памерлых, адкуль, згодна з тымі самымі павер'ямі, яна і прыйшла. Такі звычай зафіксаваны каля мястэчка Бягомль у Докшыцкім раёне і каля вёскі Ніўкі ў Хатынскім лесе на Лагойшчыне. А яшчэ над некаторымі крыніцамі ёсць звычай будаваць драўляныя і мураваныя каплічкі.

# Народныя назвы крыніц. Паданні

Большасць крыніц маюць свае найменні, якія надзвычай разнастайныя: *Святая, Тройцына, Царкавішча, Кіпячык, Дзявічы Калодзеж, Равучы Калодзеж, Русалім, Татарскі Калодзеж, Мядзведжая крыніца, Турскі Калодзеж, Студзянец, Княжы Калодзеж, Езус*, інш.

Часам у паданнях пра крыніцы паўтараюцца сюжэты пра іншыя сакральныя аб'екты. Так, у вёсках Гамарня Быхаўскага раёна, Язна — Мёрскага, Строчыцы — Мінскага, Панара — Смаргонскага на месцы цяперашніх крыніц нібыта стаялі раней цэрквы, якія потым праваліліся. У вёсцы Мінеўшчына Ваўкавыскага раёна расказваюць, як аднойчы з розных бакоў ехалі да царквы два вяселлі. Сутыкнуўшыся, ніхто з іх не хацеў саступаць дарогу, і кожны імкнуўся першым прыехаць у храм. Усчалася бойка. Бог убачыў гэта і абярнуў людзей у камяні. Царква правалілася, а замест яе ўтварылася крыніца.

Вельмі пашыраныя паданні пра ўсялякія скарбы, схаваныя ў крыніцах. Каля мястэчка Чэрвень яшчэ ў пачатку 20-х гадоў XX ст. расказвалі гісторыю, паводле якой асілак, нарабаваўшы шмат золата, схаваў яго ў лясной крынічцы між валатовак. У вёсцы Шклянцы Докшыцкага раёна каля курганоў ёсць стары калодзеж, дзе нібыта ў адну з войнаў схавалі скарб. Бытуе шмат паданняў пра схаваныя скарбы ў падземных крыніцах гарадзенскага наваколля.

Пра легендарны Тур-калодзеж, або Туркоў калодзеж, у старажытным Тураве — сталіцы колішняга вялікага Тураўскага княства — захавалася некалькі сюжэтаў архаічнага падання. Паводле аднаго з іх, гэты калодзеж выкапаў сам князь Тур. Паводле другога — князь Тур быў пры яго капанні і загадаў, каб дно студні выклалі меддзю, срэбрам і золатам. Паводле трэцяга варыянта — у гэтым калодзежы князь Тур ахрысціўся. Другі сюжэт больш за ўсё паўплываў на людскую свядомасць, і яшчэ ў пачатку XX ст. у Тураве можна было пачуць показку пра трохдоннасць Тур-калодзежа. Гаварылі, што калі прарвецца меднае дно, то затопіць толькі сам Тураў, калі срэбнае — усю Тураўшчыну, а калі ўжо залатое, то затопіцца ўся зямля і будзе канец свету. Згодна з яшчэ адным паданнем, татары даверху закідалі калодзеж немаўляткамі,



*Крыніца Сіні Калодзеж, в. Кліны, Слаўгарадскі р-н.*

і пасля сем гадоў з калодзежа замест вады біла крыніцай маці-рынскае малако.

Недалёка ад былой вёскі Масалаі, што на Міншчыне каля мястэчка Крупкі, як піша краязнаўчая літаратура, згадваецца Вітаў Калодзеж.

Каралеўскі Калодзеж, які паводле падання, выкапаў сам кароль Стэфан Баторы, быў недзе ў Камароўскім лесе на Вілейшчыне. Студня каралевы Боны ва ўрочышчы Княжае знаходзілася каля вёскі Вылазы на Піншчыне. Захавалася паданне:

*Тут праязджала каралева Бона, вяла за сабой войска. У іх скончыліся запасы вады, і прыпыніліся яны на гэтым месцы, каб выкапаць студню, напіцца ўволю, напоўніць даверху свае дарожныя біклагі, адпачыць і рушыць далей.*

Потым ужо над крыніцай зрабілі арку, прыбралі яе кветкамі, зялёнымі галінкамі, а побач паставілі крыж.

Вада з гэтай студні, паводле мясцовых павер'яў, дапамагала ад усіх хвароб.

Пра крыніцу пад назвай Сіні Калодзеж, што каля былой вёскі Кліны (старая назва Слабада Сіняя) Слаўгарадскага раёна існуе вельмі шмат паданняў. Паводле аднаго з іх, тут з-пад зямлі б'е 120 крыніц. А ў самым архаічным паданні расказваецца, як аднаго разу ляснік Шэпіт абходзіў лес і ўбачыў на камені каля крыніцы прыгожую русалку, якая грэбнем расчэсвала



*Святая крыніца ў в. Брады, Пружанскі р-н, вада цячэ з-пад каменя каля бярозы.*

доўтія валасы. Ляснік хацеў схаваць адзенне русалкі, а саму яе схапіць. Але, калі ён крадком падыходзіў, хруснула галінка. Русалка павярнула галаву і сказала: "*А, Шэпіт, будзе ў твой род патопа!..*" І знікла. Не прайшло і года, як дачка лесніка ўтапілася ў Сажы. У другім паданні расказваецца пра мясцовага князя і яго адзіную дачку, якую ён вельмі любіў.

*...Калі князь даведаўся, што ягоная дачка закахалася ў вясковага хлопца, ён зрабіў так, што бедны хлапец знік без следу. Ніхто больш яго не бачыў. Дзеўчына вельмі доўга сумавала і плакала, а неяк раз пайшла з дому і не вярнулася. Праз колькі часу людзі знайшлі ў наваколлях крыніцу. Яе вада мела вялікую гаючую сілу. Калі хворыя і кульгавыя абмываліся гэтай вадой, то адразу вылечваліся.*

А найвядомейшае паданне пра Сіні Калодзеж — гэта народны аповед пра Кацярыну і двух хлопцаў: Сцяпана ды Марку. Праўда, апошнія гады замест Марка часта называюць Івана (цалкам паданне прыводзіцца ў падраздзеле «Камяні-следавікі»).

Наогул, пра крыніцы існуе вялікая колькасць паданняў з рознымі сюжэтамі. Прыкладам, у вёсцы Санюкі Ельскага раёна расказваюць, як дзяўчына заблудзілася ў лесе. Яна так стамілася, шукаючы дарогі дадому, што ад роспачы стала горка плакаць. З яе слёз утварылася крыніца. У вёсцы Дудкі Стаўбцоўскага раёна пра крыніцу Кіпяцень, або Катлы, або Отмыт, кажуць, быццам некалі там праваліўся чалавек з валамі. А ў крыніцы на Валожыншчыне, недалёка ад Івянца, як сведчыць паданне, утапіліся пан і пані. І ўночы цяпер там можна бачыць нейкія дзіўныя здані.

# Вада-камень-узгорак-дрэва

Каля крыніц, быццам верныя вартавыя, вельмі часта ляжаць валуны. Бывае, што і сама крыніца выцякае з-пад каменя. Тады крыніца ды валун утвараюць супольную святыню, і людзі ўшаноўваюць абодва аб'екты, а часта яшчэ — і суседнюю гару.

У лесе каля вёскі Каптаруны на Пастаўшчыне ёсць даволі вялікі камень, які ў народзе завуць Святы, або Дзюравы камень. З-пад яго выцякае крыніца, а на адным баку ёсць у ім невялічкая адтуліна, куды паломнікі кладуць ахвяры. Побач ляжыць крушня з невялікіх камянёў. Да святога месца прыходзяць у час засухі, моляцца і просяць дажджу.

Шмат дзе каля крыніц спрадвеку ляжаць камяні-следавікі, валуны з паглыбленнямі ў выглядзе чалавечых ступні ці далоні: у пасёлку Чырвоная Слабада (былое мястэчка Вызна) у Салігорскім раёне, у Старым Альберціне каля Слоніма, каля вёсак Абруб Пружанскага раёна, Астроўна — Бешанковіцкага, Марцьянавічы — Круглянскага, Хутар — Светлагорскага, інш.

У вёсцы Мінкавічы Старадарожскага раёна пры дарозе Слуцк-Бабруйск ляжаў некалі каля студні камень, на ім стаяў абраз, а побач — драўляны крыж. Паводле падання, адзін чалавек захварэў, і Маці Божая паказала яму ў сне крыніцу. Той знайшоў яе, напіўся вады і выздаравеў.

Крыніца і камень, на якім высечаны крыж і неразборлівы надпіс, была каля вёскі Явар Дзятлаўскага раёна. Мясцовае паданне кажа: у час паводкі тут утапіўся фурман князя Радзівіла, калі вяртаўся дадому. Потым нібыта і паставілі камень на яго магіле. Пра гэтую самую крынічку запісана яшчэ адно архаічнае паданне, згодна з якім шведка заткнула некалі ручай воўнай і накрыла патэльняй. Таму крынічка і высахла.

Нямала ёсць крыніц, што цякуць з-пад гары. Як, скажам, у Крычаве з-пад Ільінскай Гары. А з-пад Святой Гары ў Дзяржынскім раёне бярэ пачатак вялікая легендарная рака Нёман. Святая крынічка цякла і побач з іншай Святой Гарой, якая яшчэ да 60-х гадоў XX ст. стаяла каля вёскі Стралкі Верхнядзвінскага раёна. На Святой Гары расла велізарная сасна — Святая. Потым гару знеслі, выкапалі кар'ер. А непадалёк ёсць крыніца з каплічкай і возера, якое таксама завецца Святым. Туды, згодна з паданнем, праваліласе царква. Гэтыя мясціны для тутэйшых людзей заўсёды мелі такі высокі статус сакральнасці, што водгукі былых культаў захаваліся па сёння. Дагэтуль у возеры забараняецца купацца, лавіць рыбу, да крыніцы па-ранейшаму прыносяць кветкі, воўну, грошы...

Можна ўспомніць яшчэ колькі крыніц, якія лічыліся святымі. Адна з іх выцякала з-пад Вужынай Гары недалёка ад вёскі Рог Салігорскага раёна, а другая — з-пад гары Царкоўе, што каля вёскі Панара Смаргонскага раёна. У лесе каля вёскі Баравая Чашніцкага раёна пад гарадзішчам-свяцілішчам ёсць на балоце крыніца, называная Езус. Мясцовы люд за ўжыванне яе святой вады кладзе ў дупло бліжэйшай елкі грошы. Амаль побач раскінулася невялічкае лясное азярцо, яно таксама лічыцца святым.

Некалі каля падэшвы гары, якая стаіць пры старым гасцінцы з Лагойска ў мястэчка Даўгінава, што недалёка ад вёскі Дабрынёва, была крыніца, з яе выцякаў невялічкі ручай. Паводле падання, тут праваліласа царква. І ў вёсцы Бабруйшчына Глыбоцкага раёна выцякае з-пад гары крыніца. Даўней на гары стаяў драўляны храм, што згарэў потым. У канцы 60-х гадоў XIX ст. пасля вадасвяцця на крыніцы заклалі новую мураваную царкву, захавалася яна да нашых дзён.

Ёсць у Беларусі і такія крыніцы, якія выцякаюць з-пад каранёў дрэў. Архівы сведчаць, што яшчэ ў 20-я гады XX ст. каля вёскі Царкавішча ва ўрочышчы Якубаўка Ушацкага раё-



*Святая крыніца Езус каля в. Баравая, Чашніцкі р-н.*

на цякла з-пад дуба крыніца. Дуб і крыніцу мясцовыя лічылі святымі, крынічнай вадой яны лячылі хворыя вочы, а ў дупло дуба клалі плату за лячэнне. У 1923 г. атэісты спалілі дуб, але вернікі яшчэ вельмі доўга сюды хадзілі, а ахвяры складалі на абгарэлы пень.

Цудадзейная крынічка была і пад Міколаўскім дубам каля вёскі Цялякава на Уздзеншчыне. Паводле падання, гэты дуб незвычайны: сярод яго галінак часам можна ўбачыць абрысы Ісуса Хрыста, а пад самім дубам закапана золата або французскі скарб. З даўніх часоў тут існавала павер'е, што чалавека, які захоча выкапаць той скарб, неўзабаве напаткае смерць. Побач з гэтым дубам заўсёды ставілі драўляныя крыжы. Але прыйшла пара — дрэва спарахнела і звалілася. На тым месцы пасадзілі малады дубок. А крыніца існуе і дагэтуль.

На Лагойшчыне недалёка ад вёскі Ніўкі ў Хатынскім лесе побач са святой крыніцай расце і святая сасна. Сасна даволі высокая, а пад самай яе кронай вісіць абраз Божай Маці.

# З'яўленне цудадзейных абразоў

У Беларусі яшчэ і цяпер можна пачуць паданні, як каля крыніцы на дрэве, на камені ці на самой вадзе з'явіўся нейкім дзіўным чынам цудадзейны абраз. Адно з такіх паданняў расказвае, што на месцы Жыровіцкага манастыра ў XV ст. быў густы лес з невялічкім узгоркам, з-пад якога выцякала крынічка, а побач расла груша і ляжаў вялізны камень з адбіткам у выглядзе чалавечай далоні. Аднойчы на дрэве пастушкі знайшлі абраз Божай Маці, які потым сталі ўшаноўваць вернікі ўсіх хрысціянскіх канфесій. З тае пары да крынічкі пацяклі паломнікі, яны чэрпалі цудадзейную ваду, неслі яе дамоў нават за сотні кіламетраў. Ад каменя, што потым паслужыў падмуркам для алтара, адбівалі кавалачкі, таўклі іх на парашок ды ўжывалі пры хваробах, насілі на грудзях як амулеты. А ўрэшце над каменем і крыніцай паставілі храм.

На старонках летапісу Пустынскага манастыра каля Мсціслава гаворыцца, што манастыр заклаў пачынальнік роду мсціслаўскіх князёў, Альгердаў сын — князь Лугвені-Сімеон. Князь, як кажа паданне, раптам аслеп. Ён доўга і ўпарта маліўся, аж пакуль у час адной з малітваў перад ім не з'явіўся сівы стары, які сказаў, што відушчым князя зробіць вада з цудадзейнай крыніцы, якая цячэ ў пустыннай, незаселенай мясціне. Знайшоўся і чалавек, які правёў сляпога князя да гэтай крыніцы. Калі невідушчы прамыў вочы — слепата знікла, а неўзабаве адбыўся яшчэ адзін цуд. Сярод галінак густой ліпы, што расла недалёка ад крыніцы, з'явіўся абраз Божай Маці. Удзячны князь загадаў пабудаваць на тым месцы капліцу, а пазней заснаваў тут манастыр.

Згодна з паданнем, падобнае з'яўленне абраза Божай Маці адбылося на ліпе, якая расла каля студні ў вёсцы Конкавічы Петрыкаўскага раёна. Над студняй пабудавалі царкву Нараджэння Багародзіцы. Заўжды, калі студню засыпалі, кажуць, здараліся няшчасці — тады яе аднаўлялі. У храме ў дзень Успення Божай Маці над тым калодзежам адбывалася вадасвяцце.

Нейкаму сляпому, старому жыхару мястэчка Ракаў, што пад Мінскам, таксама ў лесе каля крыніцы аб'явіўся абраз Божай Маці. Чалавек прамыў сабе крынічнай вадой вочы і вылечыўся. Потым каля гэтай крыніцы пабудавалі Крыжаўздвіжанскую царкву і змясцілі ў ёй цудатворны абраз.

Пра крыніцу, якая цячэ ў лесе на балоце паміж вёскамі Коханаўка і Карытнае Асіповіцкага раёна, ёсць аналагічнае паданне.

*Неяк раз два сляпыя старцы на першае прастольнае свята ішлі праз лес з вёскі Карытнае і зблудзілі. Куды ні кінуцца — усюды дрэвы і нідзе ані сцежкі. Тады яны пападалі на калені — і ну ж маліцца! Раптам зажурчэла вада. Сляпцы навобмацак падабраліся да ручая, напіліся з яго вады, прамылі сабе вочы і раптам зрабіліся відушчымі. А каля ручая ўбачылі абраз Божай Маці. Праблукаўшы ўсю ноч па лесе, пад раніцу старцы зноў выйшлі да вёскі Карытнае. Там расказалі святару пра начныя дзівы. А той ударыў у званы, клікнуў людзей. Пайшлі ўсе да крыніцы і прынеслі абраз у царкву. Зачынілі, разышліся па хатах. І якое ж было дзіва назаўтра, калі не ўбачылі таго абраза ў царкве. Шукалі, шукалі... І знайшлі-такі — каля крыніцы! Людзей гэта так уразіла, што ўсё чыста яны расказалі цару. На загад цара абраз зноў даставілі ў царкву, а дзверы замкнулі — ужо на два замкі. Адзін ключ далі цару, другі — святару. Але назаўтра было па-старому, і абраз не вісеў тутака, а апынуўся каля крыніцы. Тады й надумаліся людзі паставіць над крыніцай царкву.*

Абразы Божай Маці нібыта аб'яўляліся пры крыніцах у вёсках Зборск Асіповіцкага раёна, Лашавічы — Свіслацкага, мястэчку Дукора — Пухавіцкага, іншых мясцінах. У вёсцы Лешня пад Маладзечнам яшчэ і сёння некаторыя старыя людзі цвердзяць, што на свае вочы бачылі некалі ў крыніцы абраз Маці Божай. Таму сяляне і пабудавалі тут драўляную студню, а побач паставілі крыж. Аднак у сярэдзіне 50-х гадоў XX ст. на загад мясцовых уладаў святое месца сярод ночы, як гэта вялося, зруйнавалі бульдозерам. Праз некаторы час крыніца зноў прабілася з-пад зямлі, толькі ў іншым месцы. Цяпер яна ўзята ў цэмбравіну, і месца вакол яе хораша ўпарадкавана. Прыходзяць да крыніцы ў асноўным каталікі, асабліва на свята Найсвяцейшага Сэрца Езуса.

У Беларусі, як кажуць паданні, на жыватворных і цудадзейных крыніцах часам аб'яўляліся не толькі абразы Божай

Маці, але і абразы пакутніцы Параскевы Пятніцы. Прыкладам, у вёсцы Лемніца Талачынскага раёна, вёсцы Жаробычы (цяпер Слабада) — Шумілінскага.

Каля вёскі Янава ў Талачынскім раёне ёсць Святы ручай, да яго здаўна людзі хадзілі хрэсным ходам на свята Барыса і Глеба (6 жніўня, ці, паводле старога стылю, 24 ліпеня). У мясцовым Няклюдаўскім Барысаглебскім мужчынскім манастыры вісеў абраз святых мучанікаў Барыса і Глеба. Паданне кажа, што гэты абраз мясцовы селянін знайшоў у лесе на дубе каля святога ручая і забраў дадому. А пасля прарочага сну вярнуў абраз на месца. Святар жа з Няклюдава палічыў, што месца абраза ў царкве і забраў яго. Але неўзабаве ён захварэў на вочы, а вылечыўся толькі тады, калі святыню вярнулі на месца. У 1891 г. над крыніцай паставілі капліцу, дзе і захоўваўся абраз. У канцы XIX ст. на дзень Барыса і Глеба каля крыніцы збіралася пад восем тысяч паломнікаў. Яны бралі ваду і ў якасці абярэгаў неслі з сабою лісточкі ад галінак старога дуба.

# Крыніцы ў каляндарных святах

Шанаванне крыніц не што іншае, як шанаванне вады наогул. Яно заўсёды прымяркоўвалася да пэўных каляндарных святаў. Сёння гэты звычай больш характэрны для асяроддзя праваслаўных, але раней ён бытаваў, і цяпер дзе-нідзе сустракаецца, сярод католікаў і ўніятаў.

Ушанаванне крыніц можна прасачыць праз увесь год. На Вадохрышча,19 студзеня, заўжды адбывалася асвячэнне вады, як, прыкладам, у Марцьянавічах Круглянскага раёна. Цяпер гэтая вёска вымірае, але старыя людзі яшчэ помняць, як некалі прыязджаў святар і ладзіў з нагоды свята малебен. Тады сяляне абавязкова высякалі з лёду крыж, палівалі яго бурачным расолам і ставілі каля крыніцы. Традыцыя маліцца на Вадохрышча каля крыніц зафіксавана ў Ліпску Докшыцкага і ў Гамарні Быхаўскага раёнаў.

Да шмат якіх крыніц людзі ішлі перад такім вялікім дахрысціянскім, а потым і хрысціянскім святам, як Вялікдзень (Ніжнія Калтуны на Полаччыне), ішлі на само свята (Вуглы-Мурожнае Лагойскага раёна, Сарочына — Ушацкага).



*Крыніца пад Юр'евай гарой каля Віцебска.*

Тыдзень пасля Вялікадня, потым пэўны чацвер, пятніца і нядзеля лічыліся святымі і адыгрывалі немалую ролю ў традыцыйных уяўленнях нашых продкаў. Так, да святых крыніц сыходзіліся людзі на дзявяты чацвер па Вялікадні (гэтак званы Дзявятнік) у вёсках Варонеч Полацкага раёна і Borкавічы — Верхнядзвінскага, на дзясятую пятніцу па свяце (Дзесятуху) у вёсках Росіца Верхнядзвінскага раёна і Лешня Маладзечанскага, на адзінаццатую пятніцу па Вялікадні ў вёсцы Палыкавічы Магілёўскага, Горкі Жабінкаўскага раёна, інш. вёсках. Гэтак людзі імкнуліся ўшаноўваць адвечную сакральную стыхію нашых продкаў, якая магла як дапамагчы, так і нашкодзіць ім у жыцці.

У вёсцы Горкі ва ўрочышчы Війска каля студні некалі стаяла капліца з абразамі Божай Маці, Ісуса Хрыста і прарока Іллі. Паводле падання, некалі на Вялікдзень мясцовыя



*Святая крыніца каля в. Любонічы, Кіраўскі р-н.*

паляўнічыя, што спадзяваліся на багатую здабычу, раптам аслеплі. Дзесяць тыдняў яны ніяк не маглі знайсці дарогі дадому і блукалі па лесе. Але здарыўся цуд, перад імі з'явілася ахоўніца роду чалавечага — Багародзіца — і паказала на цудадзейны калодзеж. Паляўнічыя прамылі незвычайнай вадой свае аслеплыя вочы і ўмомант зрабіліся відушчымі.

23 красавіка ў католікаў і 6 мая ў праваслаўных на Беларусі традыцыйна адзначалася свята заступніка жывёл і ахоўніка гаспадаркі — дзень святога Юр'я. У гэты дзень сяляне пасля зімовага перапынку першы раз выганялі ў поле скаціну. Лічылася, што жыццё, здароўе жывёлы, а таксама і дабрабыт саміх сялян наўпрост залежалі ад гэтага святога. Адным з абрадаў шанавання такога важнага для сялян персанажа былі і калектыўныя паходы да святых крыніц. Так, на Юр'я да крыніц хадзілі ў вёсках Ніўкі Лагойскага, Горкі Дзятлаўскага, Сакольнічы Крычаўскага раёнаў і пад Юр'еву Гару каля Віцебска.

Вельмі пашыраны ў Беларусі дзень святога Мікалая, які адзначаўся два разы на год: увесну і ўзімку. Аднак веснаво-

га або летняга Міколу (22 мая) святкавалі зазвычай праваслаўныя вернікі. Вядома, што ў беларускім фальклоры гэты персанаж у хрысціянскія часы замяніў сабою старажытнае беларускае боства Вялеса і выступаў потым як заступнік земляроба, гаспадар наземнай вады. Так, напярэдадні вясенняга свята сяляне вёскі Міколка на Уздзеншчыне збіраліся ў лесе недалёка ад цудадзейнай крыніцы ва ўрочышчы Берцы на «водпуск грахоў». Усю ноч яны палілі вогнішча і спявалі песні. Свята доўжылася да світанку, а пасля натоўп ішоў у вёску да царквы Святога Мікалая, якая стаяла пад старым легендарным дубам. У царкве сяляне складалі ахвяры каля абраза Міколы. Раніцай святары асвячалі ваду ў крыніцы, і ўсе людзі хрэсным ходам ішлі ад крыніцы да царквы, дзе чыніўся малебен у гонар Святога Мікалая. А каля вёскі Парэчча на Піншчыне побач з дарогай, што вяла праз балота, захавалася студня, дзе раней пад стрэшкай вісеў абраз Святога Мікалая. На абразе і слупах вакол студні заўсёды можна было ўбачыць стужкі і лапікі нефарбаванага палатна.

На сёмай нядзеле, якая замыкала сабою сёмы тыдзень па Вялікадні, адзначалася вельмі значнае свята беларусаў — Сёмуха, або Тройца. Яно непарыўна нітавалася з Вялікаднем, Юр'ем і, у залежнасці ад мясцовых традыцый, з культам Міколы. У сялянскім асяроддзі свята Сёмуха заўсёды было выключна жаночым і звязвалася з культам урадлівасці. У святкаванні галоўная роля належала дзяўчатам шлюбнага веку і маладзіцам, якія ўжо нарадзілі і маглі доўжыць жыццё роду. Да святых крыніц хадзілі і па сёння ходзяць як у дзень самога свята (вёскі Годзічава Гомельскага раёна, Дабрыгоры — Бешанковіцкага і Заазер'е — Акцябрскага), так і на другі дзень па святе (вёскі Любонічы Кіраўскага раёна і Горна, Дзвінаса, Ізбішча — Лагойскага), на трэці дзень (вёска Язвіны Уздзенскага раёна), нават у першую нядзелю пасля Тройцы, як у вёсцы Катка Глускага раёна.

За Сёмухай у беларускім народным календары ішло не менш важнае свята: Купалле, Іван, або Ян, якое прымяркоўвалася да летняга сонцастаяння і звязвалася з найвышэйшым росквітам жыццядайных сілаў зямлі. Ушанаванне вады ў гэты дзень, вядома, было неад'емнай часткай усяго комплексу старажытных абрадаў, што ўваходзілі ў цэласную сістэму шанавання ўсіх магутных стыхій прыроды. Пазней, з прыходам хрысціянства, старую язычніцкую традыцыю прывязалі да дня Раства Яна Хрысціцеля (7 ліпеня). Не дзіва, што ў Беларусі су-

стракаецца вельмі шмат крыніц, прысвечаных менавіта гэтаму святому. Так, у вёсцы Тударава Шклоўскага раёна была некалі Янава крыніца-студня, потым высахла, і цяпер мясцовыя людзі ўжо нават не помняць пра яе. Але паводле этнаграфічных апісанняў, яшчэ сто гадоў таму на Купалле там збіралася шмат людзей і ў складчыну частаваліся.

Каля некаторых крыніц Святога Яна стаялі скульптурныя выявы гэтага святога. Так было, прыкладам, у вёсках Рогава Мінскага раёна і Смаляры — Барысаўскага. Захавалася да нашых дзён такая скульптура над крыніцай у вёсцы Бабруйшчына ў Глыбоцкім раёне.

Янаўскія крыніцы ўшаноўваюць дагэтуль як праваслаўныя, так і каталікі. Гэта зафіксавана ў вёсках Чарневічы Глыбоцкага раёна, Клінавое — Шаркаўшчынскага і Гентава — Мёрскага.

У дзень святых Пятра і Паўла (29 чэрвеня паводле каталіцкага і 12 ліпеня паводле праваслаўнага календара), святкаванне якога ў нашай культуры заўсёды мела аграрна-магічную афарбоўку, ушаноўваць крыніцы хадзілі і ходзяць па сённяшні дзень у вёсцы Каменка Чавускага раёна, ва ўрочышчы Барок каля Барысава. Мала таго, паводле расказаў старажылаў, у самім Барку некалі, каб пазбыцца болю ў нагах, тры разы абыходзілі з малітвамі вакол гары, дзе раней стаяла царква, а потым тры разы аблівалі сябе вадой з крыніцы.

2 жніўня, згодна з беларускім народным календаром, заўжды ўшаноўваўся старазапаветны прарок Ілля, які ў міфалагічных уяўленнях беларусаў зліўся з язычніцкім богам Перуном. Прарок Ілля, паводле біблейскага падання, жывым узнёсся на неба, а паводле старажытных уяўленняў, распараджаўся дажджамі, навальніцамі, апекаваўся земляробствам, бараніў ад нячыстай сілы. Але, раззлаваўшыся, ён мог наслаць навальніцу, град і суш. Шмат дзе на Беларусі ў гэты дзень і сёння людзі традыцыйна збіраюцца каля крыніц у гонар прарока Іллі. Там ладзяцца малебны, асвячаецца крынічная вада, прыязджаюць аўталаўкі ды чыняцца супольныя пачастункі і г. д. Так прынята, напрыклад, у вёсцы Стайкі на Ушаччыне, Радуша Жлобінскага, Гамарня Быхаўскага раёна. А ў такіх вёсках, як Слабада (былыя Жаробычы) Шумілінскага раёна, Курына — Віцебскага і Лемніца — Талачынскага народ збіраецца да сваіх крыніц у пятніцу перад святам Іллі.

На свята Барыса і Глеба, якое адзначалася 6 жніўня і значыла надыход жніва, беларусы асцерагаліся дажджу ды навальніцы і стараліся задобрыць сілы, што адказвалі за водны



*Святая крыніца каля в. Карытніца, Бялыніцкі р-н.*

баланс у прыродзе. Да таго ж, гэты дзень быў апошнім днём, калі, паводле старадаўніх забабонаў, беларусам дазвалялася купацца. Не дзіва, што каля крыніц на свята Барыса і Глеба таксама збіралася шмат паломнікаў. У нашы дні такі звычай адрадзіўся ў Старых Стайках Шклоўскага раёна і каля вёскі Янава — Талачынскага.

І наогул, месяц жнівень у нашым народным календары найболей шанаваны з усіх месяцаў. Гэтай парою пачынаюць даспяваць усялякія аграрныя культуры, закінутыя ў зямлю яшчэ на пачатку лета. Даспявае таксама садавіна, шчодра аддаюць свае дары лясы і пушчы. Дык калі плады паспявалі, іх і неслі ў якасці ахвяраў розным сілам прыроды, дзякуючы якім яны з'явіліся на свет. А найперш, безумоўна, неслі да крыніц. Іншымі словамі, аддавалі даніну адной з самых магутных сілаў — вадзе. Па прыняцці хрысціянства плады таксама насілі да крыніц ды ўчынялі вялікія хросныя хады разам са святарамі. Потым, як дары прыроды асвячаліся царкоўнымі служкамі, яны маглі ўжывацца. Дні збору ўраджаю і яго асвячэння ў беларускім календары называліся спасаўскімі святкамі і складаліся з трох частак.

Першы Спас — **Мядовы**, які адзначаўся 14 жніўня і меў назву *Свята Макавея*, па ўсёй Беларусі можна лічыць «кры-

6 Зак.492

нічным святам». Якраз гэтай парою даспявала вельмі старажытная культурная расліна — мак, якой у беларускай традыцыйнай абраднасці надавалася значэнне ахоўнага сродку ад ведзьмакоў і дэманічных істот. Таму амаль па ўсёй тэрыторыі нашай краіны ў гэты сакральны адцінак часу чыніліся паломніцтвы да святых крыніц, жанчыны спяшаліся асвяціць мак. Асвечаны мак, як і саму святую ваду, захоўвалі праз увесь год. У гэты святочны дзень зрубы на крыніцах і крыжы каля іх аздаблялі ўсялякімі вяночкамі, зелянінай, саморобнымі стужкамі ды ручнікамі. Апроч маку, у некаторых раёнах Беларусі гэтай парою прыносяць да крыніц ягады, мёд і гародніну, асабліва моркву.

Звычаі ўшанавання вады і першага ўраджаю былі зафіксаваны ў такіх вёсках, як Васькавічы і Кліны Слаўгарадскага раёна, Дарасіно — Любанскага, Карытніца — Бялыніцкага... А ў вёсцы Есьманаўцы Вілейскага раёна на Макавея бралі ваду з крыніцы і неслі асвячаць яе ўжо ў саму царкву. У былой вёсцы Кліны на Сінім Калодзежы, апроч асвячэння пладоў у цудадзейных водах крыніцы, трывала яшчэ адна практыка: паломнікі, якія сцякаліся туды не толькі з нашых мястэчак і гарадоў, але і з суседняй Расіі, верацъ: калі яны тройчы пройдуць па ледзяной крынічнай вадзе, то і тройчы палепшаць сваё здароўе. Даўней каля крыніцы стаяла царква, а на свята Макавея там збіралі па некалькі вазоў ахвяраваных палотнаў. У нашыя дні ўжо з самага ранку на свята там ідуць набажэнствы, чытаюцца малітвы, а вакол крыніцы разгортваецца шматтысячны кірмаш, гандаль не спыняецца да самага вечара, пакуль не сцямнее...

На другі Спас — **Яблычны**, які адзначаецца 19 жніўня і завецца ў хрысціянскім календары Праабражэнне Гасподняе, у цэрквах, дзе-нідзе і на крыніцах, асвячаюцца яблыкі, грушы, мёд, а на поўдні Беларусі — яшчэ і насенне жыта. Паводле архіўных звестак і са слоў старых людзей, малебны на яблычны Спас чыніліся каля крыніцы ў лесе недалёка ад вёскі Ліпск Докшыцкага раёна.

Трэці Спас — **Хлебны** адзначаўся 28 жніўня. У хрысціянскім календары ён прымяркоўваецца да Успення Божай Маці. У гэтую пару сканчаюцца асноўныя палявыя работы. Паўсюль, каля крыніц і ў цэрквах, асвячалі насенне азіміны. Яшчэ гэтае свята ў народзе завецца Арэхавым Спасам, бо, відаць, якраз на канец жніўня ў лесе даспяваюць арэхі, а таксама грыбы, ягады — і іх трэба асвяціць, каб зноў налета спадзявацца на

шчодрую ўроду. Арэх — дрэва, якое нашыя продкі лічылі святым і шырока выкарыстоўвалі ў вытворчай магіі. Плады ляшчыны падкладалі ў насенне, давалі ў Юр'еў дзень жывёле, рассыпалі па хаце на Каляды. Асвячэнне лясных пладоў каля вёскі Коханаўка (Карытнае) Асіповіцкага раёна практыкуецца і цяпер на святой крыніцы, якая цячэ сярод балота ў лесе.

Адно з найадметнейшых восеньскіх святаў, шанаваных беларусамі, якое прыцягвае паломнікаў да святых крыніц, — гэта Пакровы. У народным і ў праваслаўным календары Пакровы прыпадаюць на 14 кастрычніка. Хрысціянская назва свята паходзіць ад покрыва Маці Божай і ў паданнях звязваецца з канкрэтнай падзеяй жыцця і дзейнасці Дзевы Марыі. У народным календары назва *Пакровы* асацыюецца яшчэ з пакровам зямлі ў час, калі сканчаліся ўсякія палявыя работы і прырода канчаткова замірала перад зімовымі халадамі. Старэйшыя людзі заўсёды тлумачылі, што зямля і ўсе прыродныя сілы, звязаныя з ёю, а значыць, і наземная вада павінны адпачыць да наступнага лета, і чапаць іх пасля Пакроваў ні ў якім разе нельга. Не дзіва, што ў гэты перыяд людзі збіраліся каля святых крыніц, каб ці не апошні раз у годзе ўшанаваць цудадзейную сілу вады. Такія звычаі зафіксаваныя ў мікраараёне Вяснянка ў Мінску, у Мсціславе і ў вёсцы Вяляцічы Барысаўскага раёна.

Вышэй ужо ўспамінаўся адметны персанаж беларускай міфалогіі і фальклору — Святы Мікалай, якога шануюць два разы на год. Мы гаварылі пра вясновага Міколу, але не менш важным быў і зімовы Мікола, які святкаваўся 19 снежня і ў народнай свядомасці заўсёды ўспрымаўся як праваднік на той свет душаў памерлых.

Святы Мікалай — гэта той самы славуты Санта-Клаус, галоўны персанаж урачыстай працэсіі на Міколаў дзень у каталіцкіх землях Цэнтральнай Еўропы. Так, у гэты дзень у Верхняй Аўстрыі млынары, апекуном якіх быў святы Мікалай, кідалі ў ваду ежу і старую вопратку, каб ладзіць з вадзянікам. А ў некаторых раёнах Беларусі на зімовага Міколу адбываліся хрэсныя хады з нашэннем абразоў да святых крыніц, як, прыкладам, на рацэ Сасноўка ў Клімавіцкім раёне, што недалёка ад вёскі Зімніцы.

Хрэсныя хады і шанаванне крыніц зафіксавана і ў іншыя святы ці проста ў пэўныя дні календара. Так, на Беларусі да шмат якіх крыніц хадзілі менавіта ў першую маладзіковую нядзелю, па з'яўленні маладога месяца. Беларусы, як і іншыя індаеўрапейскія народы, ушаноўвалі напачатку не Сонца, а

Месяц. З гэтым светачам у нашых продкаў звязана шмат забабонаў і прымхаў.

Да крыніцы, якая цякла паміж вёскамі Рог і Восава ў Салігорскім раёне, паломнікі збіраліся ў перыяд між Ушэсцем (40-вы дзень па Вялікадні) і Сёмухай. Гэты дзень у наваколлі называлі Багатым Днём, бо да крыніцы неслі шмат ахвяраванняў: сыры, яйкі, ручнікі, палатно... Усё пазбіранае потым раздавалі бедным, жабракам і сіротам. Крыніца цякла пад драўляным зрубам, а непадалёк стаяла каплічка з высокай званіцай. Яшчэ ў 60—70-я гады XX ст. вакол студні людзі садзілі кветкі і дэкаратыўныя дрэўцы. Цяпер вада ў крыніцы знікла, а на месцы капліцы пабудавалі краму.

# Крынічныя фэсты і кірмашы

Слова фэст (ад лац. *festum*) у беларускай мове значыць свята або святкаванне. На тэрыторыі нашай краіны фэстам называлі вясковае свята, прымеркаванае да дня памяці таго ці іншага святога, імя якога насіла мясцовая царква ці капліца. У кожным мікрарэгіёне існавала свая традыцыя правядзення такіх фэстаў, што адбываліся каля храмаў, а таксама каля святых крыніц, камянёў, дрэў і г. д. Шмат якія фэсты суправаджаліся не толькі малебнамі, але і народнымі гульбішчамі, карагодамі, гандлем, музыкай і спевамі. Такога кшталту фэсты называлі *кірмашы* або *кермашы*, *кермашовыя святы*, а таксама *ярмалка*, *ярмонка*, інш.

На кірмашах гандлявалі свістулькамі, дудачкамі, абразкамі, хусткамі, стужкамі, паркалем і жаночымі ўборамі, а таксама гарэлкай і півам, абаранкамі і пернікамі. Дарма што з 30-х гадоў XX ст. ваяўнічыя атэісты там-сям пачыналі змагацца з гэтай народнай традыцыяй (часта кірмашы разганяла міліцыя і камсамольскія актывісты), у некаторых мясцінах Беларусі кірмашовая традыцыя праіснавала да 50—60-х гадоў XX стагоддзя. Скажам, некалі на Тройцу шмат збіралася народу да крыніцы ў лесе, што каля вёсак Горна і Ізбішча Лагойскага раёна. Прыходзілі людзі нават за 20—25 км. Цяпер ушанаванне гэтай крыніцы адрадзілася. У канцы XIX ст. на дзень Вадасвяцця да крыніцы Кіпячкі, што ў лесе Лужкі (мястэчка Княжыцы пад Магілёвам), таксама нямала збіралася люду.



*Фэст на Макавей каля святой крыніцы у в. Сялец, Буда-Кашалёўскі р-н.*

Распачынаўся вялікі гандаль, куды мяшчанкі са Шклова везлі прадаваць пернікі і селядцы.

Шмат дзе кірмашовыя святы адбываліся ў восьмую, дзявятую, дзясятую ці адзінаццатую пятніцу па Вялікадні. На такія фэсты збіраліся да некалькіх соцень старцаў і спявалі псальмы. На фэстах старцаў, жабракоў і ўбогіх адорвалі грашыма, прадуктамі. Каля Палыкавіцкай крыніцы, што недалёка ад Магілёва, паломніцы куплялі шклоўскія абаранкі і частавалі імі старцаў. Кірмаш у дзясятую пятніцу па Вялікадні ў вёсцы Царкоўе Буда-Кашалёўскага раёна займеў назву Дзясятніцкага кірмаша і доўжыўся ён зазвычай два дні.

У адзінаццатую пятніцу па Вялікадні шмат людзей збіраліся маліцца да крыніцы каля вёскі Кутня Чавускага раёна. Па літургіі ў капліцы асвячалі ваду, а потым таксама ўсчынаўся вялікі гандаль. З Магілёва і Чавусаў прывозілі сюды сала, рыбу, соль, крупы ды колы, косы, сярпы, інш. На Святога Яна адбываліся фэсты ў вёсках Клінавое Шаркаўшчынскага раёна, Гентава — Мёрскага, Любча — Барысаўскага. У вёсцы Гентава ў гэты дзень павялося кідаць у ваду манеты, а ў Любчы прыносілі да крыніцы немаўлят з упэўненасцю, што вада дасць дзецям моцнае здароўе.

Да крыніцы, што ў Жаробычах (цяпер — Слабада) Шумілінскага раёна паломнікі найчасцей ішлі ў пятніцу напярэ-

дадні свята Пятра і Паўла. Зазвычай людзі збіраліся яшчэ ў чацвер і праводзілі ноч пад адкрытым небам. На пачатку XX ст. для багамольцаў тут пабудавалі адмысловыя баракі. Усю ноч у царкве ішло набажэнства, дзе людзі мусілі стаяць са свечкамі ў руках. У пятніцу, па літургіі і хрэсным ходзе да студні паломнікі маглі ўжо ісці дадому, а маглі браць удзел у вялікім кірмашы, які разгортваўся тут якраз у гэты дзень.

На свята Іллі людзі збіраліся да крыніцы ў лесе каля вёскі Стайкі Ушацкага раёна. Тут на гары яшчэ да 1938 года стаяла драўляная Свята-Ільінская царква. У даўнія часы дзяўчаты, каб хутчэй выйсці замуж, у гэты дзень купаліся ў крыніцы і вадзілі карагоды. А хлопцы, каб памерацца сілай, біліся каламі. Цяпер традыцыя ўшанавання крыніцы адрадзілася, як адрадзілася на гэтым месцы і традыцыя правядзення кірмашоў. Сёння на гары ў час Ільінскага свята можна ўбачыць шмат аўталавак з разнастайнымі сучаснымі таварамі. Пасля абрадаў ушанавання вады людзі абедаюць проста ў лесе або на беразе возера, якое ляжыць недалёка ад таго месца, у якім, паводле падання, правалілася царква.

Два разы на год, на Іллю і на Спаса, праходзіў кірмаш каля святога *Дажбогавага* каменя, які ляжыць недалёка ад вёскі Крамянец Лагойскага раёна. У 1911 годзе газета «Наша Ніва» пісала, што ў гэтыя дні каменю і крыніцы прыносілі шмат ахвяр: палотны, грошы, інш. і складалі іх у каплічку, якая стаяла непадалёк. Тут адбываўся кірмаш, дзе гандлявалі процьмай разнастайных тавараў. З Батурына ці Хаценчыцаў прыязджаў святар і адпраўляў набажэнства.

Яшчэ на пачатку 1930-х гадоў у вёсцы Рудня Чэрвеньскага раёна на свята Макавея да крыніцы, каля якой стаялі крыжы, драўляны і каменны, прыязджаў бацюшка, адбываўся малебен, а тады хрысцілі дзяцей. У вёсцы на свята ладзіўся кірмаш. У 30-я гады XX ст. у вёсцы Вяляцічы Барысаўскага раёна кірмаш быў прымеркаваны да Пакроваў. У гэты самы дзень тут асвячалася вада ў крыніцы і ёю прамывалі вочы. У вёсцы стаяла Праабражэнская царква, а сярод балота на выспе былі манастыр і могілкі. Пасля службы ў царкве людзі ішлі на могілкі ўспомніць сваякоў і блізкіх. А на ўзвышшы перад грэбляй, што вяла праз балота да могілак, збіраліся старцы і спявалі. Людзі адорвалі іх грашыма. Тут жа і гандляры раскладвалі свае тавары: ежу, рэчы хатняга ўжытку, вырабы ткацтва, інш.

# Павер'і, звязаныя з крыніцамі

Найбольш пашыраныя павер'і аб крыніцах — гэта ўяўленні пра вялікую лекавую сілу цудоўнай крынічнай вады, асабліва ў пэўныя святы. У народзе верылі, што такая вада надта памагае ад хвароб вачэй. Прыкладам, у Шацку Пухавіцкага раёна ваду трэба было браць у чысты чацвер перад Вялікаднем да ўзыходу сонца. Вада ў крыніцы Кіпячка каля вёскі Арэшкавічы Пухавіцкага раёна дапамагае ад хвароб вачэй толькі тады, калі па яе ідуць да ўзыходу сонца і кідаюць у крыніцу якую дробную манетку. У вёсцы Талуць Вілейскага раёна на могілках каля Чорнай рэчкі ёсць крыніца, вада з якой таксама лекуе хваробы вачэй. Толькі дзеля гэтага яе трэба браць з крыніцы ўжо на заходзе сонца. Вялікую пашану мае вада, набраная з трох, сямі альбо дзевяці крыніц і перамешаная. У вёсцы Парэчча Талачынскага раёна ваду бралі з трох крыніц і асвячалі яе ў царкве.

Крыніцы і студні ў традыцыйнай культуры беларусаў — гэта нязменныя сімвалы ўрадлівасці. А таму з імі звязаны такі архаічны абрад, як выкліканне дажджу. У кожнай мясцовасці абрад чыніцца па-рознаму і ўключае ў сябе шмат разнастайных рытуальных дзеянняў і табу магічнага характару. Так, яшчэ і цяпер людзі ходзяць прасіць дождж да крыніцы і каменя ў вёсцы Крамянец Лагойскага раёна, Каптаруны — Пастаўскага, да студні ў вёсцы Завідаўка Добрушскага раёна, да Удовінай крыніцы ў вёсцы Стаўбун Веткаўскага раёна.

Надта архаічны абрад зафіксаваны яшчэ ў 80-я гады XX ст. у вёсцы Крамянец Лагойскага раёна. Прасіць дажджу сюды прыходзілі дзевяць удоў, якія з маладых дубкоў рабілі дзевяць кіёў вышынёй у чалавечы рост і з іх дапамогай прыўздымалі вялізны камень, называны Святы, або Дажбогаў камень, што ляжыць каля святой крыніцы. Кіі стаялі пад каменем да тае пары, пакуль патрэбен быў дождж. Дык чаму абрад мусілі выконваць менавіта ўдовы і колькасць іх абмяжоўвалася лічбай дзевяць? Бо, мабыць, менавіта ўдоў заўжды лічылі пакрыўджанымі лёсам, абрадава чыстымі і бязгрэшнымі перад Богам жанчынамі, якія маглі мець дачыненні з тым светам. А лічба дзевяць у традыцыйным беларускім лічбавым кодзе сімвалізуе сабою закончанасць, усеабдымнасць, якая вынікае з трохразовага паўтарэння трыяды і паходзіць ад дзевяціме-



*Святая крыніца каля в. Рубеж, Бярэзінскі р-н.*

сячнай працягласці жаночай цяжарнасці. Такім чынам, каля *Дажбогавага* камня ў Крамянцы выконваўся паганскі па паходжанні абрад.

У Палыкавічах Магілёўскага раёна існавала некалі павер'е, што як толькі святар апусціць крыж у ваду, то адразу мусіць пайсці дождж. У вёсцы Аталезь Стаўбцоўскага раёна ў час засухі збіраліся жанчыны і вёдрамі чысцілі крыніцу. Калі яна напаўнялася вадой, то чакалі дажджу.

Грошы і іншыя ахвяраванні, прынесеныя да крыніцаў і ў іншыя святыя мясціны, маглі выкарыстоўваць не толькі царкоўныя служкі на патрэбу храмаў, але і жабракі, і вандроўныя старцы або сіроты, іншымі словамі, людзі, абдзеленыя Богам. Таму ім дазвалялася карыстацца часткай тых ахвяраванняў, якія спрадвеку прызначаліся Богу. Такое перакананне гэтак замацавалася ў народнай свядомасці і было такой непарушнай завядзёнкай, што, калі хто са звычайных людзей парушаў яе, — гэта лічылася абразай святога месца.

Шмат павер'яў існавала і пра пакаранне за абразу святой крыніцы ці за ўкрадзеныя ахвяраванні. У вёсках Вуглы і Мурожнае Лагойскага раёна расказваюць, што некалі трактарыст забраў грошы з крыніцы і патраціў іх на гарэлку. Неўзабаве ён захварэў на горла і ў хуткім часе памёр. А ў вёсцы

Гамарня Быхаўскага раёна адзін чалавек наогул спрабаваў знішчыць паклонную крыніцу, за што яго разбіў паралюш. У вёсцы Карытнае Асіповіцкага раёна некалі трактарыст на загад мясцовага начальства засыпаў крыніцу зямлёю. Але неўзабаве крыніца адрадзілася, а ў варвара-знішчальніка памерлі жонка і адзін за адным сямёра дзяцей.

У Балотчыцах на Случчыне існавала павер'е, што калі зачапіць камень каля крыніцы, то затопіцца ўся вёска. Гэтае павер'е пайшло ад старажытных беларускіх уяўленняў, што нейкі першасны сакральны камень лічыўся цэнтрам і падмуркам нашага сусвету, адзнакай яго касмічнай спарадкаванасці. І калі зрушыць такі камень з месца — парушыцца касмічны парадак, зноў настане першабытны Хаос, які ў памянёным паданні ўяўляўся ўсясветным патопам ці нейкім іншым спосабам дачыняўся з вадой.

Вада, як мы вышэй пісалі, у міфалагічных уяўленнях беларусаў была яшчэ і мяжой паміж тым і гэтым светам, прыстанішчам душ памерлых, надпрыроднай сілы і розных хваробаў. Дык не дзіва, што кожная святая крыніца лічылася акном ці дарогай на той свет, адкуль, паводле тых жа народных уяўленняў, усё і прыйшло на зямлю, у тым ліку і розныя хваробы. Туды яны і павінны пайсці пры пэўных абрадах. Да нашага часу жыве павер'е, згодна з якім усялякая хвароба адыдзе і згіне разам з адзеннем хворага чалавека, калі той павесіць яго на крыж ці на дрэва каля святой крыніцы. Адно што трэба пакласці грошы. Такі абрад можна назіраць каля вёскі Маргавіца ў Докшыцкім раёне, у лесе каля вёскі Ніўкі Лагойскага раёна, каля вёскі Броды Барысаўскага раёна, інш. Ідэя адыходу хваробы разам з вадой бачыцца і ў такіх абрадах, калі людзі каля цудадзейных крыніц абліваюцца вадой, бо, маўляў, гэта таксама злечвае ўсе хваробы. У наш час каля такіх крыніц зроблены спецыяльныя купальні. Прыкладам, як у Мсціславе, Лагойску, Лоску Валожынскага раёна, вёсках Карытнае, Коханаўка — Асіповіцкага, Палыкавічы — Магілёўскага, інш.

У вёсцы Крынаўка каля Заслаўя ў XIX ст. лічылі, што на месцы цяперашняй жыватворнай крыніцы, вада з якой лечыць хваробы вачэй і іншыя болесці, стаяў каменны касцёл і ў 1832 годзе ён праваліўся пад зямлю. Казалі, што ў крыніцы часам знаходзілі часткі алтарнай абгароды, цэглу і да т. п.

# Літаратура

Адроджаная традыцыя паломніцтва на Барок // Гоман Барысаўшчыны. — 2002. — № 40—41. — С. 19.

*Анісавец, М.* Лоеўскія кірмашы / М. Анісавец // Беларускі гістарычны часопіс. — 2002. — № 5. — С. 78—80.

*Афонский, П.* Триста лет в православии / П. Афонский. — Минск, 1913.

Б. Село Полыковичи // Могилевские Епархиальные ведомости. — Могилев на Днепре, 1893. — № 17. — С. 308—312.

Беларусь православная. Православный сборник-календарь 2002 г. — Минск, 2001. — С. 117—118.

*Бядуля, З.* Крамянец / З. Бядуля // Наша Ніва. — 1911. — № 20.

*Веревкин, М.* Записка об археологических памятниках Витебской губернии / М. Веревкин // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильна, 1893. — С. 187—224.

*Гвоздзева, Л. У.* Легенды і паданні Друцкай зямлі / Л. У. Гвоздзева // Древнему Друцку 1000 лет: Материалы к научно-практической конференции. — Витебск, 2001. — С. 76—78.

*Голубеў, А.* Жывая вада Беларусі / А. Голубеў, Ю. Гігіняк // Беларусь. — 2001. — № 2. — С. 1, 26—27.

*Довгяло, Д. И.* Полотская Епархия к 1903 г. / Д. И. Довгяло. — Витебск, 1903.

*Довнар-Запольский, М.* Заметки по этнографии белорусов / М. Довнар-Запольский // Живая старина. — Вып. III. — СПб., 1893. — С. 422—423.

*Зайкоўскі, Э. М.* Даследаванне язычніцкіх культавых помнікаў / Э. М. Зайкоўскі // Весці АН Беларусі. Сер. гуман. навук. — 1994. — № 1. — С. 119.

*Зайкоўскі, Э. М.* Жыватворныя крыніцы Беларусі / Э. М. Зайкоўскі, Л. У. Дучыц. — Мінск, 2001.

*Кисель, Л.* Свящ. Жеробычская «Пятинка» / Л. Кисель // Полоцкие Епархиальныя ведомости. — 1904. — № 19. — С. 569—574.

*Кісялёў, У. М.* Пуцявінамі Наднямоння / У. М. Кісялёў. — Мінск, 1994.

*Максимов, С.* Обитель и житель: (из очерков Белоруссии) / С. Максимов // Древняя и Новая Россия. — СПб., 1876. — № 6. — С. 127—143.

*Маліноўскі, М.* Паклонімся святому валуну / М. Маліноўскі, Р. Сушко // Наша слова. — 1996. — № 45.

*Мацельскі, М.* Добрая вада / М. Мацельскі // Гоман Барысаўшчыны. — 2002. — №10 (43). — С. 10.

*Мацельскі, М.* Багатыя на традыцыі Вяляцічы / М. Мацельскі, І. Белы // Гоман Барысаўшчыны. — 2002. — № 7—8 (40—41). — С. 16—17.

*Мейер, А.* Описание Кричевского графства 1786 года / А. Мейер // Могилевская старина : Сб. статей Могилевских Губернских ведомостей. — Вып. II. — Могилев-Губернский, 1901. — С. 86—137.

Места, в которых в известные дни бывает большое стечение народа // Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 год. — Могилев. — С. 6—15.

*Мікіцінскі, У.* Падарож па Случчыне / У. Мікіцінскі, П. Пяцэвіч, П. Ажэўскі // Наш край. — 1928. — № 2 (29). — С. 37—38.

Мстиславский Пустынский монастырь // Могилевская старина : Сб. статей Могилевских Губернских Ведомостей. — Вып. II. — Могилев-Губернский, 1901. — С. 141—145.

*Никифоровский, Н. Я.* Освященные предметы и отношение к ним простонародья Витебской Белоруссии / Н. Я. Никифоровский. — Витебск, 1903.

*Николай-архимандрит.* Историко-статистические сведения о чудотворных иконах и благочестивых обычаях в Минской Епархии / Николай-архимандрит. — СПб., 1864. — С. 72—73.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. Мозырский уезд. — Минск, 1879.

Особые и храмовые праздники, церковные обряды и крестные ходы в Минске // Памятная книжка Минской губернии. Ч. I. — 1878. — С. 38—42.

Открытие Неклюдовской мужской общежительной пустыни в Могилевской Епархии // Могилевские Епархиальные ведомости. — 1899. — № 29. — С. 405—412.

*Петропавловский, А.* «Водяныя отправы» в Могилевской губернии / А. Петропавловский // Этнографическое обозрение. 1911. — М., 1912. — № 3—4. — С. 184—190.

*Романов, Е. Р.* Белорусский сборник / Е. Р. Романов. — Вып. 4. — Витебск, 1891. — С. 173—174.

С.А.Р. Из м. Шерешева (Пружанского уезда) // Литовские Епархиальные ведомости. — 1895. — № 3. — С. 317—318.

С.І.О. Освящение часовни в селе Жеробычах // Полоцкие Епархиальные ведомости. — 1898. — № 15, 16. — С. 653—655.

Церкви и приходы Минска: История и современность. — Минск, 1996. — С. 18.

*Янушевский, И.* (священник). Возобновление и освящение церкви в деревне Витовке (Минского уезда) Городищенского прихода / И. Янушевский // Минские Епархиальные ведомости. — 1868. — С. 558—563.

*Янчук, Н.* По Минской губернии: (заметки из поездки в 1886 году) / Н. Янчук // Труды этнографического отдела императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии: Кн. IX. — Вып. I. — М., 1889. — С. 74.

*Rajewski, Z.* Święta woda u Słowian — Źródło rzeki, jeziora / Z. Rajewski // Slavia Antiqua. — T. XXI. — 1974. — S. 111—117.

*Sieroszewski, W.* Kurhany, stare śmietniska, oraz cmentarze w widłach Niemna i Hańczy / W. Sieroszewski // Światowit. — T. 3. — 1901. — S. 163—164.

# Міфалогія балот

Не сакрэт, што балоты — гэта характэрная асаблівасць нашага ландшафту. Вельмі часта іх лічаць ледзь не вызначальнай адметнасцю беларускай прыроды. Дык невыпадкова вобраз балота такі пашыраны ўва ўсіх жанрах тутэйшага фальклору і займае фундаментальнае месца ў беларускай мадэлі свету. Успомнім народныя афарызмы ды прымаўкі кшталту: *На кожнае балота чорт знойдзецца*; *Свіння ў балоце, як пан у залоце*, ці такія моўна-магічныя творы, як замовы-прысушкі: *Як краснае сонейка ззяе, прыпякае мхі і балоты, чорныя гразі, так і ты прыбягай, ка мне прысыхай...* Нашы пісьменнікі таксама не раз звярталіся да гэтай тэмы. Нямала прыкладаў знойдзецца ў творчасці Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Разанава. А Іван Мележ наогул у назве свайго эпічнага рамана даў архетып Беларусі — «Людзі на балоце».

Таямнічы, а то і жудасны свет балот, дзе гінулі і людзі, і жывёла, дзе адбываліся невытлумачальныя дзіўныя здарэнні, заўсёды пужаў і натхняў беларусаў. Можа, таму нам дасталося ў спадчыну так шмат легендаў, чарадзейных гісторый і забабонаў, звязаных з гэтай рысай беларускага ландшафту. Для старажытных людзей душа балота жыла ў сівых зарасніках трысцягу і чароту, у шоргаце асакі, у змерзлай журавінцы на снезе, у следзе лася, у зморшчынках вады пад ветрам. Хіба для нашых продкаў гэта не было праявай нябачнага жыцця бостваў і духаў, увасобленых у такіх стварэннях, як чорт, вадзянік, русалка... А адбіткі халоднага блакітнага неба ў балотным акне давалі нам такія цудоўныя геаграфічныя і міфа-паэтычныя найменні, як Чортава Вока або Чортава Акно.

Зрэшты, сам праз сябе культ балот не быў нечым адмысловым. Ушанаванне балот — гэта той самы культ вады як асноўнага сімвалу касмічнай стыхіі і сімвалу ўрадлівасці. Вада ў народных уяўленнях — адна з галоўных касмічных стыхій разам



*Альманскае балота, в. Альманы, Столінскі р-н.*

з зямлёй, паветрам і агнём. Шмат дзе ў міфалогіі вада звязана з пачаткам стварэння Сусвету, там яна сімвалізуе Хаос. Згодна з беларускімі і балцкімі паданнямі, зямля паўстала з пяску, узятага на дне першаіснай вады. Прыкладам, у беларускім міфе-паданні пра стварэнне балота гаворыцца: *Перш-наперш была адна толькі вада, па ёй кой-калі хадзіў Бог. Вот толькі раз ён ідзець, ажно відзіць — плывець вадзяны пузыр...*

Далей расказваецца, як лопаецца той пузыр, з якога выскоквае чорт, і яны разам з Богам думаюць стварыць зямлю, бо нязручна хадзіць па вадзе. Бог пасылае чорта ў нетры вады, на дно, адкуль той прыносіць поўны «подал» зямлі, дый яшчэ поўна за шчокамі. Бог раскідае тую зямлю па вадзе. *З таго і ўзялася зямля.* Наступнае, што робіць Бог, — загадвае, каб на гэтай зямлі сталі расці дрэвы і трава. Натуральна, тыя пачынаюць расці. Але растуць яны і ў чортавым роце, бо нячысцік нічога не сказаў Богу пра схаваную зямлю. І гэтак расперла чорта, што ён не вытрымаў ды выплюнуў тую зямлю: *Куды толькі пляваў чорт, там і стала вадзяная зямля з дзярэўямі і травой. Дык во як балоты!..*

Згаданы аповед, а існуе ён у шматлікіх варыянтах, вельмі паказальны для нашай міфалогіі. Па-першае, гэта міф этыя-

лагічны — ён тлумачыць паходжанне зямлі, балота, а таксама раслін і дрэў. Па-другое, гэта міф касмаганічны, ён структуруе перадусім тутэйшую прастору, парадкуе менавіта беларускі Сусвет пасля яго хаатычнага зыходнага стану. Вобраз сусветнага Хаосу тут увасабляе першародная вада, Сусветны Акіян. А вобраз пузыра — гэта аморфны стан рэчыва ў яйку ў выглядзе асобнай хтанічнай істоты, у дадзеным выпадку чорта, які нараджае свой Сусвет — балота, што і звязана непасрэдна з іншасветам.

Вядома, што ў індаеўрапейскай і балта-славянскай міфалогіях вада дзеліцца на зямную і нябесную. У зямной вадзе хаваецца Змей, ці пазней — Чорт. Дождж як нябесная вада пасылаецца Грамавікам (Перуном), якога потым заступіў святы Ілля. У шэрагу міфалогій гаспадаром зямных водаў (крыніц, азёр, балот) выступае той ці іншы супрацоўнік Грамавіка. У прыведзеным вышэй міфе — Чорт. Нездарма і ў нашым паданні пра стварэнне балота захаваліся два персанажы — Бог ды Чорт. Пры ўсім тым, сімволіка балота тут звязана з яго рэальнымі ўласцівасцямі — гэта неўпарадкаваная сумесь (без меры) зямлі і вады, першасных элементаў, з якіх утварыўся будучы Космас. І нездарма балота — улюбёнае месца розных нячысцікаў, што як антаганісты Бога пераймаюць яго функцыі ў акце стварэння. Але тут перад намі ўжо хрысціянскія ўяўленні пра Хаос і Космас. Даўней людзі ўспрымалі свет інакш.

Вось жа, у якасці Хаосу бачыцца не першародная вада, а балота, якое прадстаўленае ў сусветных міфалогіях такімі сімваламі, як Змей, Цмок (або Дракон) і да т. п. Успомнім Лернейскага Змея ці біблейскага Левіафана! У нашым фальклоры гэтае ўяўленне сустракаецца, скажам, у замовах ад ліхога вока: *Ідзіце вы, зглаз-урокі, на імхі, на балоты, на топкія аржаванні, на ніцыя лозы, на гнілыя калоды...*, у валачобных песнях: *На том балотцы ляжыць камень, // На том камені ды сядзіць змейка*, і ў міфалагічных тэкстах, дзе Змей фігуруе як Цмок, Смок ці Чмок. Падобны Змей у беларускіх чарадзейных казках зазвычай жыве на балоце і штодня патрабуе сабе на з'яданне дзяўчат, радзей — юнакоў. Казачны Цмок вельмі часта выступае ў ролі жаніха. Таму яго нявеста найчасцей князёўна ці каралеўна, якая сядзіць у хатцы на балоце ды чакае свайго «суджанага».

Старажытныя боствы, якія вымагаюць такіх ахвяр, ва ўсіх міфалогіях свету звязваліся з дольнім светам, светам

памерлых, і адказвалі за дабрабыт людзей, плоднасць зямлі. А каб гэтага дабіцца, тыя істоты патрабавалі сабе на ахвяры людзей. Зааморфным увасабленнем абагаўляемага ўладара дольняга свету найчасцей быў змей. Яму аддавалася перавага як мужчынскаму боству зямных нетраў, змей служыў яркім увасабленнем апладняльных сілаў, бо нагадваў сабой мужчынскі дзетародны орган.

У беларускай і балцкай міфалогіях такім магутным боствам, богам дольняга свету і сусветнай вады, богам жывёлагадоўлі і багацця быў адзін з галоўных багоў паганскага пантэону — вельмі шанаваны на Беларусі старажытны бог Вялес, які заўсёды супрацьстаяў іншаму старажытнаму богу — Перуну (Грамавіку) як прадстаўніку вышняга полюсу. Трэба адзначыць, што Вялес, іпастасямі якога былі вадзяны ці вогненны Змей, Цмок ці Чорт, у нашым пантэоне займаў нават большае месца, чым Пярун. Ён размяркоўваў водныя багацці і быў гаспадаром нашых рэк, азёр, крыніц, балот... І менавіта таму балота лічылася сакральнай зонай, зонай на памежжы таго і гэтага свету, уваходам у свет памерлых.

Але з надыходам хрысціянства і яго канчатковым усталяваннем ролі паганскіх багоў памяняліся. Перуна ўсё болей узносілі на пачэснае месца як боства вышэйшае, якое жыло на небе і ў розныя часы ўвасабляла сабою ці грымоты з маланкай, ці маладое веснавое сонца, якое ў асобе ярага Грымотніка змагаецца з агідным веліканам — духам цемры і холаду, ці бога-вершніка Ярылу, ці таго ж хрысціянскага Георгія-Юр'ю. Успомнім старадаўні сюжэт абразоў, дзе Святы Георгій працінае дзідаю велічэзнага Змея!

Па ўсталяванні хрысціянства старажытнае боства Вялес наогул падзялілася на некалькіх дэманізаваных боустваў-духаў. Найперш, гэта Балотнік, які жыве ў звычайным балоце і ў народным уяўленні вылучаецца даволі брыдкім характарам ды неахайным выглядам. Потым Багнік — ён жыве ў тарфяным балоце, дзе ніколі не бывае расліннасці, а толькі чорная жыжка з атрутнымі газамі, якімі Багнік і забівае сваю ахвяру. Аржавень, або Аржавеннік, заўсёды брудна-руды, з страшэнна тоўстым жыватом і тонкімі, бы саломінка, нагамі. Ён увесь час рыгае, і ўсе жывыя істоты абыходзяць яго бокам. А найстарэйшы злы дух — Кадук, ён жыве ў самым багністым балоце, і яму падпарадкоўваюцца ўсе меншыя злыя духі. Ёсць у беларусаў яшчэ такі лясны бажок, як Лазавік. Жыве ён на балоце ў лазе, у маленькім дамку без

дзвярэй і вокнаў, з адтулінай у страсе. Вочкі яго бліскаюць, як агеньчыкі ў цемры. А жытлом для чарцянятаў Лознікаў служаць густыя кусты пераплеценага лазняку. Гэтыя істоты зусім не злосныя, але шкадлівыя. Вось прыклад перасцярогі для няўседлівых дзяцей: *Не хадзіце далёка ад дома — Хапун ухопіць, пасадзіць у торбу і панясе за цёмны лес. А за цёмным лесам — балота, пасярод балота — стары корч, пад тым карчом — нара. Там і жыве Хапун.* Далей расказваецца, як Хапун здзекуецца з непаслухмяных дзетак, б'е іх крапівой. І ніхто ўжо гэтых дзяцей не знойдзе, бо ніхто не даходзіў да нячысцікавага жытла. Ёсць яшчэ і жаночы дух — Лойма. *Лоймамі называюць у нас людзі злых духаў, толькі ў бабскай постаці. Яны знойдуцца найбольш у балоце, у лазе і страшаць бабаў, хоць часам і да мужчын прывязуюцца. У Лоймы вечна раскудлачаныя косы і наверху цыцкі вялікія вісяць, а сама страшная* (Федароўскі).

Калі чытаеш запісы этнографаў XIX ст. пра гэтых духаў-нячысцікаў, дык цяжка сабе ўявіць, што раней тыя былі магутным боствам, якога беларусы шанавалі тысячагоддзямі і прыносілі ахвяры ў тых сакральных мясцінах, дзе, паводле іх уяўленняў, гэтае боства жыло. Можа, таму, што нашы продкі хутчэй баяліся, чым паважалі яго? Але пэўна адно: адметнасць нашага ландшафту адыграла немалую ролю ў светаўспрыманні, у міфа-паэтычнай карціне тутэйшага свету. Наш народ і цяпер ушаноўвае такія сакральныя мясціны, як святыя крыніцы, азёры ды балоты. Пра гэтыя мясціны, пра боствы, якіх даўней ушаноўвалі, засталіся прыгожыя легенды, паданні, казкі ды забабоны. Яны і дагэтуль хвалююць мастакоў, натхняюць пісьменнікаў, даюць навукоўцам грунт для роздумаў.

# Паданні пра паходжанне балот

Пра ўтварэнне балот, як і азёр, існуе шмат прыгожых паданняў, дзе настойліва паўтараецца той самы сюжэт: за тыя ці іншыя людскія грахі правальваецца храм, горад, вёска, дом, карчма ці нешта яшчэ, а на іх месцы зазвычай утвараецца балота. Прыкладам, на месцы балота Святая Лаза ў Светлагорскім раёне быццам бы некалі стаяла царква, якая правалілася. А на месцы Лукомльскага балота ў Асіповіцкім

раёне па вёсках Базок, Пагарэлае і інш., як кажуць, некалі быў горад Лукомль, цяпер жа з дрыгвы калі-нікалі чуваць гул званоў. У вёсцы Леснікі Лагойскага раёна на балоце стаяў, паводле падання, дом. Неяк у суботу перад Вялікаднем там сабралася моладзь, скакала, забаўлялася да самай раніцы. І за гэтакі грэх дом праваліўся, а на тым месцы ўзнікла балота. У вёсцы Лубяны Бялыніцкага раёна сярод тарфянога балота нібыта правалілася панская рэзідэнцыя. Паданне пра панскі дом, што праваліўся, таксама звязваюць з Шлыкавым балотам каля вёскі Засвір на Мядзельшчыне.

У вёсцы Манчыцы Лельчыцкага раёна каля ракі Старая Убарць побач з узгоркам Кляштар ёсць балота. Кажуць, на гэтым месцы быў горад і прыстань, дзе затануў карабель. У мястэчку Халопенічы Крупскага раёна і цяпер можна пачуць паданне пра адну бабку-чараўніцу, якая жыла каля возера Хала і ракі Пея. Неяк яна раззлавалася на людзей і заткнула вір у возеры, а на тым месцы ўтварылася балота. Потым, праўда, чараўніца заплаціла жыццём: яе забілі. Пра вялікае Пінскае балота гаворыцца:

*Даўным даўно, калі яшчэ і Пінска не было, адзін багаты пан, паміраючы, закапаў шмат золата. Па ягонай смерці людзі сталі шукаць тое багацце. А Бог пабаяўся, што людзі, як толькі знойдуць золата, пазабіваюць адзін аднаго, і зрабіў навакол вёскі балота. Хто туды трапіць — адразу гіне.*

Пра адно з балот на Тураўшчыне паданне кажа, што за нейкай турэцкай вайною тут стаялі варожыя коні, якія вытапталі гэтае месца, і яно забалоцілася.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя ў Мінску сярод гараджан можна было пачуць паданне пра паходжанне Камароўскага балота:

*Некалі ў XV ст. у горадзе быў Мікалаеўскі манастыр, пры якім жыў нейкі бажавольны Федзька, празваны манахамі Камаром. Аднаго разу па заканчэнні службы ўсе выйшлі з сабора, а манах Антоні азірнуўся на царскую браму і ўбачыў, што адна з пліт на падлозе павольна прыўзнялася. Адтуль выйшаў стары з сівой барадой, у саване. Адной рукой ён паказваў на дол, а другой раскідваў манеты, якія каціліся па падлозе і знікалі пад плітою. Неўзабаве і сам стары знік у падзем'і, а пліта за ім з лязгатам стала на месца. Спалоханы Антоні борзда рушыў да выхаду, але дзверы былі зачынены. Манахі потым доўга шукалі*



*Балота каля в. Перароў, Жыткавіцкі р-н.*

*свайго таварыша, але ніхто з іх не здагадаўся, што ён мог застацца ў храме. Знайшлі яго толькі раніцай, калі адчынілі царкву. Антоні старанна маліўся і нічога не сказаў пра здань.*

*Праз тыдзень прывід з'явіўся зноў. Гэта здарылася ў час набажэнства, але ніхто, апроч Антонія, яго не заўважыў. Манах успомніў, што сабор стаіць на месцы старых могілак, дзе пахаваны разам з сваім багаццем вядомы Сенька Сокал, адзін з дружыннікаў князя Глеба Усяслававіча. Праз тыдзень здань ізноў паказалася Антонію. Тады манах выкраў ключ і ўначы пайшоў у сабор. Там ён падняў пліту ды капаў, аж пакуль не натрапіў на труну і на скрыню з золатам, што стаяла побач. Манах спрытна схапіў скрыню і хуценька стаў засыпаць яму. Але пачуўся рогат, і манеты з звонам рассыпаліся па падлозе. Перад Антоніем стаяў бажавольны Федзька Камар. І манаху нічога не заставалася, як прапанаваць палову грошай Федзьку, каб той нікому не расказаў пра скарб. У лес закопваць грошы яны пайшлі разам. Толькі не падзялілі багацця і зачалі біцца. У нейкі момант, калі Антоні паспрабаваў схапіць жменьку залатых манет, рука яго знерухомела, а ногі сталі правальвацца ў зямлю ўсё глы-*

*бей і глыбей. І ўсё навокал патроху ператваралася ў дрыгву. Перад манахам стаяў ужо не Федзька Камар, а той самы сівы старац, які паказваўся яму з-пад пліты ў храме. Урэшце зацягнула Антонія разам з скарбам у балота. З таго часу і ўзнікла назва — Камароўскае балота.*

На некаторых балотах з даўніх часоў захаваліся святыя крыніцы. Так, за два кіламетры на паўднёвы захад ад вёскі Вуглы Вухвішчанскія Полацкага раёна на балоце бруіцца святая крынічка, каля якой раней стаяў крыж і капліца. А да крыніцы, што на балоце каля вёскі Драгунова Расонскага раёна, яшчэ зусім нядаўна хадзілі маліцца толькі адныя жанчыны.

З балотам Святая Пяценка каля вёскі Слабада (ранейшая назва Жаробычы) Шумілінскага раёна звязана паданне пра з'яўленне там абраза. Даўней абраз вісеў у доме мясцовых землеўласнікаў, дзе яго не шкадавалі і нават сталі выкарыстоўваць як накрыўку на гаршкі. І раптам абраз з хаты знік ды аб'явіўся на балоце каля крыніцы. Некалькі разоў яго спрабавалі забраць адтуль, але ён вяртаўся на балота. Гэта, на думку мясцовых жыхароў, сведчыла пра яго цудадзейныя якасці. Да абраза сталі хадзіць людзі, потым пабудавалі на балоце капліцу. Урачыстая свята ў гонар вады — Вадасвяццё — адбывалася там у апошнюю пятніцу перад днём святых апосталаў Пятра і Паўла, а таксама перад святам Іллі Прарока.

## Заклятыя балоты

Многія паданні пра паходжанне балот звязваюцца з праклёнам, які быў некалі кінуты з роспачы ці ў хвіліны паняверкі. Вось што расказвалі яшчэ ў XIX ст. пра Кабылічча балота каля Гомеля.

*Некалі на месцы балота было прыгожае возера. А пры беразе жыла чарадзейка з сынам. Але прыйшла бяда — утапіўся хлопчык у возеры. І з гора чарадзейка закляла возера, ператварыла ў балота. А як закляла? Кажуць, замкнула на хітры замок. Адчыніць яго зусім няпроста. Перш-наперш трэба знайсці хлопчыка сямі гадоў. Тады ён павінен праехаць па балоце на трохгадовай кабыле і знайсці тое месца, дзе ўтапіўся сын чарадзейчын. А на тым месцы растуць тры чараціны. І хлопчык мусіць іх вырваць ды звезці не азі-*



*Балота каля в. Заазер'е, Бялыніцкі р-н.*

*раючыся. Калі ўсё будзе зроблена — балота зноў абернецца возерам.*

Падобныя паданні можна пачуць каля пасёлка Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна і каля Стрэшына — Жлобінскага.

З праклёнам звязаны і іншыя сюжэты: пра тое, як у якой-кольвечы рэчцы ўтапіўся княскі або панскі сын, якога даглядала простая дзяўчына. Пасля жудаснага здарэння няшчасная зазвычай прыбягае з праклёнам да той крыніцы, адкуль выцякае рака, і закрывае яе патэльняй. У выніку рака высыхае, а на месцы крыніцы з'яўляецца балота.

У вёсцы Заазер'е Бялыніцкага раёна, паводле падання, жыла вядзьмарка з сынам, які таксама ўтапіўся ў рэчцы. Тады жанчына загаварыла барану і кінула яе ў ваду. Рака і суседнія азёры паступова высахлі і зрабіліся балотам. Кажуць, што ўсё яшчэ можна паправіць, трэба толькі знайсці тую зачараваную барану, дастаць яе з балота, а тады, можа, рака і азёры вернуцца.

Пра вялікае балота Морач на Палессі ў пачатку XX ст. запісана цікавае паданне, як нейкая царыца ў час свайго ванд-

равання па моры згубіла адзінага сына. Ад роспачы яна пракляла мора, тое высахла і стала балотам.

З гэтых паданняў відаць, што ў народнай свядомасці бытуе той ці іншы міфалагічны персанаж, звязаны з размеркаваннем воднай прасторы, які паступова набывае антрапаморфнае аблічча. Успомнім таго ж Змея ці Цмока, што «адказваў» за водны баланс нашых рэк і азёр. У пазнейшых паданнях гэта ўжо найчасцей асобы жаночага полу, якія дзейнічаюць насуперак звыкламу парадку рэчаў: чарадзейкі ды цыганкі, панны ды царыцы і г. д. Іншымі словамі, усе яны пасрэднікі паміж светам жывых і светам памерлых.

# Народныя назвы балот і выспаў

Пра балоты існуе шмат паданняў, не менш, чым пра азёры, крыніцы, узгоркі ці камяні. Апрача таго, мы сёння ведаем, што многія балоты — гэта зарослыя і змялелыя колішнія азёры. Таму зразумела, чаму іх назвы і паданні пра іх такія падобныя.

Часам балоты маюць вельмі архаічныя найменні, прыкладам, *Балваны, Бажніца, Капішча, Паганскае, Тураўскае, Карагодаўшчына, Гуслішча, Янкоўшчына, Бабіна або Баба, Дзедава або Дзед, Дзявочы Карагод* і г. д. Назву *Дзявочы Карагод* насіла невялічкае балотца ў Губенскай пушчы на Вілейшчыне. Паданне кажа, што некалі з Губаў у Куранец дзеўкі ішлі на святкаванне Вялікадня і на дарозе пры балоце наладзілі танцы. За гэта Бог іх пакараў: яны зараз жа затанулі. Адсюль і назва балота.

Вельмі старадаўнімі лічацца найменні, звязаныя з чортам. Прыкладам, *Чортава балота або Чортава Вока, Чортава Акно.* Такія назвы, як *Лысае Балота* і падобныя, таксама адсылаюць да нячыстай сілы і даўнейшых хтанічных боствaў. А некаторыя найменні суадносяцца з сімволікай колераў: Белае, Чорнае, Чырвонае, Цёмнае... Пазней жа ўзнікалі назвы тыпу *Мар'іна, Юр'ева, Каралеўскае.* Пасля войнаў з шведамі ды французамі з'явіліся паданні пра бойкі з ворагам на месцы балотаў. Такія аповеды можна пачуць у вёсцы Дайнава Пухавіцкага раёна, у мястэчку Друя на Браслаўшчыне, у мястэчку Свір на Мядзельшчыне. Каля вёскі Лядавічы Іванаўскага раёна ёсць бало-

та, названае Шведава Ярута, або Швядзянка. У народзе назву тлумачаць тым, што ў балоце, уцякаючы ад рускіх, разам з канём утапіўся шведскі салдат. Назву Шведава носіць балота каля вёскі Сычкава на Бабруйшчыне. Тут, людзі кажуць, у балоце затанулі зброя і брычка.

Як ужо гаварылася, ёсць у Беларусі і Каралеўскія балоты. Яшчэ ў сярэдзіне XX ст. пра Каралеўскае Балота, што недалёка ад Лунінца на Палессі, расказвалі:

*Некалі жыў тутака кепскі кароль... От ехаў ён раз у залатой карэце. А везлі яе шэсць белых коней. І з каралём было шляхты многа. Ехалі яны паўз балота, дзе вялася нячыстая сіла. Раптам на небе ўстала чорная хмара, падняўся страшны вецер, і пайшоў такі шчыльны дождж, не раўнуючы, сцяна стала наперадзе. Зараз ударыў Пярун і запаліў дуб на балоце. Коні спалохаліся, панеслі карэту ў дрыгву — там яна й затанула. Потым з балота доўга 'шчэ чуваць былі просьбы і стогны. Але ніхто з людзей не пайшоў іх ратаваць. Ад тае пары і празвалі балота Каралеўскім.*

Каралеўскае балота ёсць і ў былым Дзісенскім павеце. З яго выцякае ручай і ўпадае ў возера Красіцкае, што каля вёскі Сталіца ў Шаркаўшчынскім раёне. А ў вёсцы Каралёва Слабада Светлагорскага раёна пра Каралеўскае балота расказваюць, што там нібыта затанула каралеўская карэта, даверху набітая золатам і каштоўнасцямі.

На Піншчыне ў сярэдзіне XIX ст. пра балота Сваха было запісана два варыянты падання. Паводле аднаго з іх, на балоце загінула сваха, якая вярталася дадому якраз пасля сватання. Паводле іншай версіі, некалі даўно, на гэтым балоце людзям неяк давялося доўга хавацца ад ворагаў. І вось рыхтаваліся яны да вяселля з усімі абавязковымі абрадамі. Так і пайшло потым — Сваха.

На мяжы Смалявіцкага і Лагойскага раёнаў існуе паданне пра бойку багатыркі Каменскага замка (гарадзішча каля вёскі Каменка) з багатыром Юзафоўскага замка (гарадзішча каля вёскі Юзафова). Двубой адбыўся праз балотца, дзе цячэ рака Усяжа.

Авеяны паданнямі і маюць своеасаблівыя назвы некаторыя выспы сярод балотаў. Да таго ж, гэтыя балотныя выспы часта лічацца святымі. Каля вёскі Вялікая Сліва на Случчыне востраў сярод балота завуць Царкавішча. Сярод Асінаўскіх балот на Аршаншчыне ёсць Юр'еў востраў. Паданне кажа:



*Пінскае балота*

*Некалі тут жыў вельмі злосны пан. За нешта ён надумаўся пакараць свайго селяніна Юрыя. Прывязаў яго да каня і пусціў па балоце. На шчасце, вяроўка парвалася, і той уратаваўся. Дайшоў да вострава і пасяліўся там. Ягоная нарачоная таксама перабралася на балота. Пан пра гэта даведаўся — і 'шчэ больш узлаваўся. Ён дачакаўся зімы і разам з слугамі паехаў лавіць Юрыя. Але не на яго баку была доля. Лёд надламаўся пад цяжкімі панскімі коньмі, і ўсіх заглынула дрыгва.*

У Вілейскім раёне недалёка ад вёскі Нароч ёсць тарфяное балота, а на ім выспа з старымі дрэвамі. Балота завуць Княжава. Кажуць, што тут некалі быў прыгожы княскі маёнтак, ад яго да нашых дзён захаваўся парк. Паводле іншага варыянта падання, на гэтым востраве князь трымаў у няволі сваю няверную жонку.

За чатыры кіламетры ад вёскі Перуноў Мост на Чэрвеньшчыне ўзгорак сярод балота завецца Папова Града. Яшчэ ў 30-я гады XX ст. там ляжаў валун, каля якога на Купалле па балацяных грэблях з усяго наваколля збіралася моладзь. Тут яны палілі вогнішчы і скакалі.

# Чортавы балоты. Здані

Пра згаданыя вышэй Чортавы балоты варта расказаць асобна. Бо такія назвы бытуюць па ўсёй Беларусі. Скажам, Чортава Балота каля былой вёскі Мікулкі Пастаўскага раёна, Чортава Вока каля Карэлічаў, Чортава Вакно ў вёсцы Дзераўная Стаўбцоўскага раёна, Чортава Вуліца і Чортава Сцежка, інш. Каля балот з падобнымі назвамі часам можна сустрэць камяні-следавікі, якія таксама маюць дачыненне да чорта і называюцца Чортаў След, Чортаў камень, Чортава Ступень. Вядома, што ў архаічных паданнях і забабонах чорт часта выступае ў якасці даўнейшага язычніцкага боства ды як абаронца справядлівасці. Чаму на балотах жывуць чэрці, у народных паданнях тлумачыцца так:

*На небе быў адзін дужа пры́ткі анёл, які не хацеў служыць Богу. Усявышні і выкінуў яго з неба далоў. Сядзеў гэны Анцыпар доўга адзін на зямлі, а пасля і просіць Бога: «Надта мне аднаму нудна, змілуйся і зрабі мне другога таварыша!». Бог узяў чарніла, пусціў капільку, дык і стаў другі чорт. Анцыпар заўважыў, дзе Бог паставіў чарніла, украў яго ды давай паўсюль пырскаць. Нарабіў цэлы мільён войска чартоў, павёў іх да Бога на неба і кажа: «Выхадзі на пляц, будзем ваяваць, бо цяпер каралеўства ўжо маё!». Бог стаіць, слухае. Раптам нешта здалёк зажурчэла і бліснула. Анцыпар дзівіцца: «Што гэта?». А Бог кажа: «Гэта маё войска ідзець». Толькі сказаў — гром і бліскавіца загрымелі, неба скалыхнулася, дык чэрці і пападалі — хто ў балота, хто ў ваду, хто ў лес, а хто і ў поле. З тых часоў там і сядзяць...*

Пра паходжанне Чортавага балота каля вёскі Вялікія Чучавічы Лунінецкага раёна на Паўночным Палессі расказваюць так:

*Калісьці на месцы балота была чыстая вада, і Бог тут ездзіў у чаўне. Ён аглядаў дзе зрабіць зямлю. Аднойчы плыве так Бог, а тым часам чорт заўважыў яго і паплыў за ім. Падплывае да чоўна, ды ад страху то нырне ў ваду, то ізноў выплыве. Вельмі ж яму хацелася пранюхаць, што Бог збіраецца зрабіць. Бачыць Бог, што чорт трэцца следам, як тая мара, бачыць, але маўчыць. От пасеяў Бог зямлю — сыпануў жменю зямлі, і расступілася вада, і высунулася сухая зямля з лесам, полем ды сенажацямі. Чорт захацеў таксама здабыць такога*

*насення. Адчуў Бог чортавы думкі і дазволіў яму ўзяць таго насення. Павярнуў Бог човен і наткнуўся на чорта. Скорчыўся чорт, хацеў нырнуць, ды зачапіўся хвастом за пастырчак. У той самы момант чорт паспеў ухапіць з чоўна жменю насення. А каб Бог не заўважыў гэтага, чорт хуценька кінуў насенне ў горла ды й глынуў. Адразу з чэрава чорта пачало расці нібыта на дражджах. Чорту і дыхаць нельга. Тады ён давай выплёўваць тое насенне. Куды плюне — там вырасце корч ці куст лазы. Па малым часе вада закрылася лазою ды ракітаю. Зачапіўся чорт за лазу, і з яго жывата выскачыла ўсё насенне. І тут пачала расці ўсялякая непатрэбная трава. Бог убачыў гэта і паслаў сонейка, каб яно выпаліла чортаву лазу. Нічога не памагло. Тады Бог паслаў мароз. Што ні рабіў мароз, не змог вынішчыць лазу.*

*Неяк прыйшоў сюды чалавек, наздзіраў лазы і пачаў віць вяроўку. Чорт падышоў і пытае, што гэта той робіць. Узяў чалавек і прывязаў чорта да дуба, і кажа: «Цяпер я цябе вылягчаю!». Чорт спужаўся ды вырваў дуб разам з каранямі і сунуўся наўцёкі. Бяжыць чорт па балоце. А дуб каранямі і суччамі зямлю баранue. Бегаў так чорт па балоце, пакуль усё яго не ўзараў. Так і ўтварылася Чучавіцкае Чортава Балота.*

Пра многія балоты можна пачуць паданні, быццам каля іх бачылі чарцей, розныя здані, ці там здараюцца ўсялякія цуды. У вёсцы Ліцвінавічы Кармянскага раёна на Пасожжы расказваюць, што калі людзі падыходзяць да Крывога Балота, то перад імі з'яўляецца надта прыгожая дзяўчына. Яна так чулліва і цудоўна спявае, што сваімі спевамі ўсіх зачароўвае і зацягвае ў балота. Нават калі спевы і заціхаюць, то ўсё роўна нейкая невядомая сіла водзіць людзей вакол багны, прымушаючы доўга і марна блукаць, шукаючы дарогі. Калі гэта здараецца ўзімку, заблукаўшыя небаракі, бывае, і замярзаюць.

## Ахвяраванні балотам. Затопленыя скарбы

У розных кутках Беларусі можна пачуць гісторыі пра затопленыя ў балотах залатыя карэты, зброю, скарбы, залаты і срэбны посуд. Так, у балоце каля вёскі Сычкава на Бабруйшчыне, як кажа паданне, у шведскую вайну было затоплена

шмат зброі і конных брычак, а сярод іх залатая карэта. У балоце каля ракі Краўлянка на Смаргоншчыне таксама нібыта затоплена карэта. У вёсцы Юр'ева Смалявіцкага раёна яшчэ ў 20-я гады XX ст. людзі расказвалі, што ў балоце затоплены «язычніцкі істукан». Побач з балотам ляжыць азярцо Святцэ. Відавочна, недзе тут даволі доўга функцыянавала паганскае капішча.

Даўней балотам прыносілі ахвяры. Пра гэта сведчаць каштоўныя рэчы, знойдзеныя ў тарфяніках: срэбныя кубкі і г. д. Лучнасць балот з культам плоднасці пацвярджаюць знойдзеныя драўляныя ралы. Вучоныя лічаць, што гэта рэшткі ахвяраванняў магутным сілам вады, якія рабіліся пасля веснавога ўзворвання грунту, каб атрымаць добры ўраджай. У 1963 г. у тарфянікавым балоце па левым беразе ракі Лані каля вёскі Капланавічы Клецкага раёна знойдзена драўлянае рала, якое археолагі датавалі раннім жалезным векам. Падобныя знаходкі трапляюцца і на тарфяніках Даніі, Швецыі, Германіі, і паўсюль навукоўцы звязваюць гэта з ахвяраваннямі.

У старажытнасці балотам прыносілі ў ахвяру і людзей. У балотах паўночна-заходняй Еўропы знойдзена каля 700 чалавечых трупаў — гэтак званых балотных людзей. У I ст. рымскі гісторык Тацыт, апісваючы германскія плямёны, згадваў іх вярхоўную багіню Маці-Зямлю Нертус. На запрэжанай быкамі калясніцы Вялікая Нертус выязджала з святога гаю, абуджала свет і прыносіла зямлі плоднасць. Калясніцу і багіню купалі ў святым возеры, пра месца якога ніхто не ведаў. Абрад абмывання багіні рабілі спецыяльныя служкі, якіх потым тапілі ў возеры. Большасць знойдзеных трупаў мае сляды гвалтоўнай смерці і надзвычай добра дагледжанае цела. Як сцвярджаюць даследчыкі старажытнасцей, рытуальнае прынясенне сябе ў ахвяру людзям было за шчасце.

Мабыць, адгалоскам падобных ахвяраванняў ёсць паданне, зафіксаванае ў вёсцы Любонічы Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне. Расказваецца, быццам у вёсцы жыла прыгожая дзяўчына Люба. Бацькі прымушалі яе ўзяць шлюб з тутэйшым панам. Калі прыйшлі сваты, то яна збегла з дому і ўтапілася ў балоце. А балота пасля гэтага стала называцца Любіна.

# Літаратура

Беларуская міфалогія : энцыклапедычны слоўнік. — Мінск, 2004.

*Бохан, Д.* Минские предания и легенды / Д. Бохан. — Минск, 1902. — С. 26—38.

*Веревкин, М.* Записка об археологических памятниках Витебской губернии / М. Веревкин // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильна, 1893. — С. 218—224.

*Гарбуль, А.* Скарбы сівых валуноў / А. Гарбуль. — Паставы, 2002.

*Довгяло, Д. И.* Полотская Епархия к 1903 году / Д. И. Довгяло. — Витебск, 1903.

*Зайкоўскі, Э. М.* Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі / Э. М. Зайкоўскі. — Мінск, 1998.

*Зайкоўскі, Э. М.* Жыватворныя крыніцы Беларусі / Э. М. Зайкоўскі, Л. У. Дучыц. — Мінск, 2001.

*Зайковский, Э.* Предания о языческих культовых памятниках Беларуси и археология / Э. Зайковский // Kultūras krustpunkti. 3. Laidiens. — Riga, 2006. — С. 163—182.

*Зайцаў, А.* Сакральная геаграфія Вілейшчыны: (Паганскія культавыя помнікі Вілейшчыны) / А. Зайцаў // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 64—73.

*Клімковіч, І.* Балота як элемент культурнага ландшафту. Міфалогія балот / І. Клімковіч // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 74—90.

*Коваль, У. І.* Народныя ўяўленні, павер'і і прыкметы : Даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі / У. І. Коваль. — Гомель, 1995.

*Крывальцэвіч, М. М.* Археалагічныя адкрыцці свету / М. М. Крывальцэвіч. — Мінск, 2000.

*Куркина, Л. В.* Названия болот в славянских языках / Л. В. Куркина // Этимология. 1967. — М., 1968.

*Максимов, С.* Обитель и житель / С. Максимов // Древняя и новая Россия. — 1876. — № 7. — С. 201—212.

*Мокиенко, В. М.* Основные семантические модели образования славянских географических терминов со значением «болото» / В. М. Мокиенко // Местные географические термины в топонимии. — М., 1966.

*Поболь, Л. Д.* Деревянное рало из торфяника у дер. Каплановичи / Л. Д. Поболь / Acta Baltico-Slavica: T.V. — Białystok, 1967. — S. 117—128.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно IX Археологического съезда. Приложение. — Вильна, 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильна, 1895.

*Сербов, И. А.* Поездки по Полесью 1911—1912 годов / И. А. Сербов. — Вильна, 1914. — С. 46.

*Сержпутовский, А. К.* Сказки и рассказы белорусов-полешуков / А. К. Сержпутовский. — СПб., 1911. — С. 171—173.

*Трибис, В. П.* Слово о болотах / В. П. Трибис. — Минск, 1989.

*Чарота, І. А.* Пошук спрадвечнай ісціны / І. А. Чарота. — Мінск, 1995.

*Шынкевіч, А. М.* Аршаншчына і спадчына мінулага / А. М. Шынкевіч. — Орша, 1997.

*Шейн, П. П.* Материалы для изучения быта и языка русского населения северо-западного края: Т. 2. / П. П. Шейн. — СПб., 1893.

# Культ каменя ў беларусаў

На Беларусі культ камянёў бярэ пачатак ад першабытных часоў. Прычына іх абагаўлення — спецыфічныя якасці каменя, якія ў старажытнага чалавека выклікалі асаблівае і адмысловае стаўленне. Нашых продкаў уражвала цвёрдасць, непахіснасць ды нязменнасць каменя ў параўнанні з жывой прыродай. Гэтыя якасці, сваім парадкам, далі падставу верыць, быццам камень — неўміручая істота. Крыху фантазіі, а яе ў прашчураў было ці не болей, як у нас, і ў выветраных, вычасаных ледавіком каменных формах яны бачылі людскія твары, сляды, адбіткі рук, абрысы жывёл. Як тут не даць веры, што перад табой нейкая таямнічая істота, якая жыве сваім, не падобным да нашага жыццём? І толькі на першы погляд здаецца мёртвай, нерухомай.

У XIX ст. культ камянёў вывучалі А. Кіркор, Я. Тышкевіч, П. Шпілеўскі, П. Шэйн, А. Багдановіч, Е. Раманаў, М. Янчук, М. Доўнар-Запольскі, іншыя. Паводле А. Кіркора, яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. амаль кожны камень, вялікі ці незвычайнай формы, быў культавым, ушаноўваўся тутэйшым насельніцтвам. Наконт паходжання кожнага такога каменя існавала сваё паданне. На цяперашні час навукоўцы ўлічылі па Беларусі больш за 500 культавых камянёў, а менавіта: камяні-абярэгі; камяні-следавікі (след пакінула Маці Божая ці нейкі святы, нават чорт); камяні-скарбнікі (расказваюцца паданні пра закапаныя пад імі скарбы); акамянелыя істоты або вёскі, азёры, храмы (акамянелі праз непаслушэнства Богу); камяні-краўцы ці камяні-шаўцы (у гэтых камянях жыве, паводле паданняў, чорт ці змей, які шые вопратку, боты). Нямала культавых камянёў маюць дачыненне да паганскіх боставаў: Дажбогаў камень, Волас-камень, Пярун-камень...

Валуны, культавыя і легендарныя, — гэта не толькі рыса ландшафту, яны даўно і трывала ўвайшлі ў матэрыяльную і духоўную спадчыну беларусаў. На тэрыторыі нашай краіны ёсць шмат вялізных камянёў: у вёсцы Горкі Шумілінскага ра-



*Рабінавы камень каля в. Таронкавічы, Лепельскі р-н.*

ёна, Вароніна — Сенненскага, Пугачы — Шчучынскага, інш. Даўжыня некаторых камянёў дасягае дзесяці метраў. Каля вёскі Карчова Баранавіцкага раёна ляжыць велічэзны валун, празваны Філарэтаў камень, значную частку якога некалі аддзялілі ад асноўнага масіву на выраб жорнаў. Частку другога агромністага каменя, што каля вёскі Літоўка Навагрудскага раёна, знішчылі на будаўніцтва.

Часта лічылася, быццам камяні нараджаюцца ў нетрах зямлі, выспяваюць там, а тады зямля выштурхоўвае іх наверх. Наверсе яны растуць. І найлепш у дождж. Пра адзін з камянёў пад Браславам яшчэ зусім нядаўна людзі казалі, маўляў, расце ён так павольна, бо яму замінае пярун, які час ад часу б'е ў камень. Людзі верылі, быццам некаторыя з камянёў раней былі жывымі істотамі, а потым з тае ці іншай прычыны скамянелі. У народнай памяці захаваліся паданні пра зніклае возера або храм, на месцы якіх з'явіліся падобныя камяні. Некаторыя камяні лічылі зачараванымі рэчамі ці пабудовамі, скажам, простай сялянскай хатай, пнём, спечаным хлебам. Вялізнымі камянямі нашы легендарныя продкі-волаты перакідваліся ўсё роўна, як маленькімі цацкамі. Прыкладам, каля мястэчка Плешчаніцы на Лагойшчыне пра Князь-камень расказваюць, што непадалёк жыў магутны



*Святы камень паміж вёскамі Таль, Ператок, Дубнікі, Любанскі р-н.*

асілак, які гуляў ім. Такія назвы камянёў, як *Божая Печ*, *Божае Крэсла*, *Хата Шаўца* або *Хата Краўца*, кажуць самі за сябе.

Вялікую колькасць камянёў на нашай зямлі беларусы тлумачылі адмыслова. У XIX ст. у вярхоўях Заходняй Дзвіны было запісана паданне пра стварэнне Богам зямлі і засяленне яе людзьмі ды жывёламі. Згодна з ім:

*Д'ябал, вечны супарат і антаганіст Бога, задумаў яму перашкодзіць у гэтай справе. Паслаў ён на зямлю каменны дождж і загадаў камяням расці да тае пары, пакуль не пакрыюць яны сабою ўсё скрозь, і такім чынам, людзям і жывёлам не будзе на зямлі месца. Бог, само сабою, раззлаваўся на такія ўчынкі свайго супарата, скінуў яго з неба ў пекла, а камяням забараніў расці.*

Паводле павер'яў, культавыя камяні валодалі не толькі чароўнымі ды магічнымі здольнасцямі, але і выступалі як ле-

кавыя сродкі і для чалавека, і для жывёл. Для гэтага досыць было дакрануцца да каменя і пакласці на яго ахвяраванні: грошы, кветкі, цукеркі, саматканае палатно, інш. У якасці лекаў выкарыстоўвалі таксама мох, што пакрываў камень, або яго адшчапаныя кавалачкі, якія расціралі на парашок, залівалі вадой і спажывалі ўнутрана. Дажджавая вада ў выемках і адтулінах культавых камянёў або выцеклая з ягоных расколін у народзе заўсёды лічылася лекавай, дапамагала ад хвароб вачэй, болю галавы, выводзіла барадаўкі. Былі і такія камяні, якія «спецыялізаваліся» на тых ці іншых хваробах. Скажам, камень у вёсцы Ківачына Пружанскага раёна лячыў ад трасцы, камень у вёсцы Раменікі Іўеўскага раёна — ад вар'яцтва, а знакаміты валун Дзед, што ў Мінску на беразе Свіслачы, — ад бясплоднасці.

За хрысціянскім часам каля некаторых найбольш шанаваных камянёў пачалі ставіць крыжы, да іх чынілі, а часам і цяпер чыняць хрэсныя хады. Так, пад вёскаю Горка Дзятлаўскага раёна ляжыць на схіле гары вялізная камлыга даўжынёю з дзевяць метраў, а шырынёю — каля шасці. Камень уяўляе сабою кангламерат некалькіх парод, што дзіўна злучыліся ў выглядзе аркі. Інакш кажучы, між зямлёю і каменем ёсць невялікі праход, некалі, відаць, ён быў большы, бо, згодна з легендай, там праязджала цэлая карэта, якая везла самога Пятра I, а за ёй прабягала яшчэ і маленькае сабачанё. Побач з каменем стаіць драўляны крыж. На крыж і на навакольныя дрэвы штогод навязваюць новыя стужкі, а на самім камені зазвычай ляжаць ахвяраванні ў выглядзе грошай ды цукерак. Каб паправіць здароўе, кажуць, трэба тры разы пралезці пад каменем.

Дагэтуль мае попыт невялікі камень з гладкай паверхняй і пяццю авальнымі паглыбленнямі каля вёскі Крамянец Лагойскага раёна. У яго аж некалькі назваў: *Святы камень*, *Богаў камень* або *Дажбог*. Побач можна ўбачыць рэшткі падмурку былой капліцы і студню з драўляным зрубам. Дажджавая вада ў выемках на камені або ўзятая і налітая туды са студні лічыцца лекавай. Яшчэ ў 1980-я гады ў час засухі каля каменя збіралася дванаццаць або дзевяць удоў, яны кіямі прыўздымалі валун. Людзі верылі, што пасля гэтага мусіў пайсці дождж.

Паміж вёскамі Ператок і Дубнікі Любанскага раёна на выспачцы сярод ворыва ляжыць Божы камень. Яго паверхня ўсеяная шматлікімі адтулінамі і дзірачкамі, некаторыя нават праціналоць камень наскрозь. Вада, прапушчаная праз гэтыя дзіркі, лічыцца гаючай і дапамагае ад хвароб галавы, рук і

ног. Людзі з навакольных вёсак кладуць на камень ахвяраванні, а на дрэвы каля яго вешаюць стужкі.

Але вада з камянёў і самі камяні не ў кожны момант маюць вялікую гаючую сілу. Лекавыя ўласцівасці найбольш эфектыўна праяўляюцца на пэўныя святы або прысвяткі, а таксама квадры месяца. Да таго ж Божага каменя, што каля Нератокаў і Дубнікаў, людзі ішлі лячыцца часцей за ўсё на маладзік, да каменя ў Госьбішчах Уздзенскага раёна — на Вялікдзень, у Сорагах Слуцкага раёна — на Макавей і г. д.

Гісторыя ўзнікнення некаторых храмаў ці каплічак у шмат якіх беларускіх паданнях таксама звязваецца з камянямі. Згодна з паданнямі, цудадзейны абраз або след Бога, Божай Маці ці якога святога з'яўляюцца менавіта на камені. На тым месцы потым ставіцца храм або капліца, прысвечаныя згаданаму ў паданні святому. Дык невыпадкова, што ў такіх храмах і дасюль захаваліся паклонныя камяні. Прыкладам, у вёсцы Камайск Докшыцкага раёна і Лукава — Маларыцкага.

У мястэчку Жыровічы Слонімскага раёна вельмі папулярны камень з следам Багародзіцы. З яго саскрабалі парашок і захоўвалі як абярэг ад пажараў, іншых няшчасных здарэнняў. У паданні пра мястэчка Пясочнае, што на Капыльшчыне, гаворыцца, як некалі па дарозе да мястэчка ішлі тры невідушчыя старцы. Яны заблудзілі і ў полі натрапілі на камень, сталі маліцца. Аж раптам адзін з сляпцоў зрабіўся відушчым. Ён давёў сваіх сяброў да Пясочнага, расказаў пра цуд. Да каменя сталі хадзіць хворыя на вочы людзі, прыносіць ахвяры. І камень усім вяртаў зрок. Потым на тым самым месцы паставілі капліцу, а камень паклалі ўсярэдзіне.

Паводле іншых павер'яў, некаторыя валуны адно толькі сваёй прысутнасцю захоўвалі ад эпідэмій. Яскравы прыклад — камяні ў мястэчку Крэва на Смаргоншчыне.

Яшчэ ў XIX ст. тыя, хто праплываў каля каменных парогаў па Віліі, кідалі ў рэчку хлеб ды соль і пад тое казалі: «*Хлеб-соль прымі, а мяне прапусці!*».

У шматлікіх беларускіх паданнях паведамляецца, быццам пад якім-колечы знакамітым каменем з той ці іншай нагоды закапаны скарб. Гэта можа быць і гаршчок з грашыма, і золата, і срэбра, і зброя. Карацей, усё, што мела пэўную каштоўнасць. Вельмі часта ў такіх паданнях пад каменем схавана багацце, нарабаванае чужаземным войскам — найчасцей французамі, шведамі ці нават самім Напалеонам. Да таго ж, у падобных паданнях зазвычай падкрэсліваецца, што скарб зачараваны, а хто пачне яго выкопваць, таго напаткае няшчасце. Пра камень у

вёсцы Бушавічы Глыбоцкага раёна расказваюць, быццам пад ім закапана шэсць бочак з каштоўнасцямі на сем мільёнаў франкаў, нарабаваных салдатамі французскай арміі ў 1812 г. Пра камень Мядзведзь каля вёскі Юхнаўка Докшыцкага раёна існуе паданне, дзе расказваецца, як французы забілі карову, злупілі з яе скуру, напоўнілі золатам і закапалі пад каменем.

У XIX ст. у вёсцы Кукарава Бярэзінскага раёна было запісана паданне пра камень Пястун. Мясцовыя жыхары расказвалі, як у час аблогі мястэчка княжна Рагна закапала на гары за вёскай свае багацці, а святар — царкоўныя рэліквіі. На тое месца паклалі камень і зрабілі на яго заклён. Рагна і святар даўно памерлі, а скарб нібыта і дагэтуль ляжыць пад тым каменем. Але ніхто не наважваецца яго выкапаць, бо можа за гэта заплаціць жыццём. Калі экспедыцыя этнагістарычнага цэнтра «Явар» у пачатку XXI ст. наведала вёску Кукарава, то пра камень Пястун пачула ўжо зусім іншае паданне. Расказвалі, што даўно, яшчэ за прапрадзедамі, гэты камень пераносілі на сабе ў суседнюю вёску мясцовыя асілкі, каб вызначыць, хто з іх мацнейшы. Такое рытуальнае спаборніцтва адбывалася ў час папулярнага на тыя часы Свята піва. А празвалі камень Пестуном бо, як патлумачылі нам жыхары гэтай вёскі, калі яго пераносілі, то моцна прыціскалі да грудзей, быццам песцілі.

Паданні пра некаторыя камяні звязаны з прывідамі і рознымі цудамі. Прыкладам, жыхары вёскі Багданава, што на Браслаўшчыне, пра свой камень расказваюць дзіўныя рэчы. Быццам, як толькі сцямнее, на тым камені з'яўляецца агонь, а потым і старая з вялізным мехам за плячыма. Калі ж праб'е 12 гадзін ночы — на камені танцуе ўжо цэлая зграя чарцей. А ў вёсцы Сташэлішкі гэтага самага раёна каля культавага валуна, кажуць, узнікаюць з-пад зямлі тры незвычайныя вершнікі ў старадаўніх строях.

Ёсць у Беларусі камяні, назвы якіх звязаны і з колеравай сімволікай, — *Белы камень, Сіні камень, Буры камень*, інш. Камень пад назвай *Белы* ляжыць у лесе каля вёскі Ерхі Вілейскага раёна. Калі яго зрушыць з месца дванаццаццю жарабцамі, народжанымі ад адной сівой кабылы, то, згодна з паданнем, з-пад каменя абавязкова пацячэ рэчка. А Белы камень каля вёскі Белая Дуброва Касцюковіцкага раёна спрыяў некалі багатаму ўраджаю.

Камяні з эпітэтам *Сіні* зафіксаваны навукоўцамі каля вёсак Мількавічы Навагрудскага раёна, Бярозна — Гарадоцкага, Вялікі Камень — Смалявіцкага. Сіні колер, а значыць, і камень з такой назвай, паводле міфалагічных уяўленняў беларусаў, звязваецца з культам продкаў.

Шмат дзе ў Беларусі бытуюць перасцярогі і забароны, каб не краналі з месца паклонныя камяні. У Лынтупах на Пастаўшчыне расказваюць, што даўней пры будаванні ў мястэчку касцёла тутэйшы пан загадаў адзін з культавых камянёў прывезці на будоўлю, што і зрабілі. І тае ж ночы ў акно да пана сталі грукацца здані і патрабаваць, каб камень вярнулі на месца. Але ўдзень пан забыўся на начное здарэнне і так занядужаў назаўтра, што ніводзін лекар не мог даць рады ягонай хваробе. Тады ўспомніў пан пра культавы камень, адразу загадаў вярнуць яго на паклоннае месца і ўмомант акрыяў.

Пра камень Дзевас Блюдас каля вёсак Палашкі і Каргаўды Воранаўскага раёна расказвалі, быццам некалі адзін шляхціч паклаў гэты валун пад ганак сваёй сядзібы. Дык так небараку скруціла ногі, што мусіў ён пакрыўджаны камень вярнуць на месца. І слушна зрабіў, бо невядома, чым бы ўсё скончылася. А так ён адразу ачуняў, забыўшыся пра сваю хваробу.

## Камяні-следавікі

Значную групу сакральных камянёў складаюць невялікія валуны з выявамі «слядоў» чалавека, жывёл, міфалагічных істот. Большасць з такіх «слядкоў» — гэта выемкі прыроднага паходжання, якія нагадваюць чые-кольвечы сляды натуральнай велічыні. Але сустракаюцца і штучна выбітыя сляды. Падобныя валуны вядомыя амаль ва ўсім свеце, але найболей іх на тэрыторыі Усходняй Еўропы, прылягаючай да Балтыйскага мора. У Беларусі іх налічваюць болей за сотню. Камяні-следавікі зазвычай ляжаць у нізінных балоцістых мясцінах, часта побач з вадаёмамі, але сустракаюцца і на ўзгорках. Паводле народных забабонаў, вада са слядкоў памагае пры хваробе вачэй, болі галавы, лечыць бародаўкі, іншыя хворасці.

Вядома, што найболей шануюцца камяні з адбіткам следа чалавека. Зазвычай на камені трапляецца адзін такі слядок, але бывае, што і болей, аж да трох. Такія камяні маюць назвы: *Божы След, След Божай Маці, Ступень Багародзіцы, След Найсвентшай Панны, След Дзевы Марыі, След Ісуса Хрыста, След Святога Мікалая*, інш. У паданнях часта гаворыцца, што след пакінула Божая Маці, калі ішла ў Іерусалім з малым Хрыстом на руках. На Случчыне запісаны паданні, быццам след пакінуў св. Мікалай, калі ішоў у царкву паказваць цуды.



*Камень-следавік каля в. Сорагі, Слуцкі р-н.*

У архіўных запісах канца XIX — пачатку XX стст. успамінаюцца камяні са следам Валатоўны. Прыкладам, культавы камень са следам Кацярыны-Валатоўны, або Кацярыны-Асілка, каля горада Слаўтарада, былога Прапойска. Паданне расказвае пра сватанне Сцяпана і Марка, прыгожых і дужых хлопцаў, да мясцовай дзяўчыны Кацярыны. Каб лягчэй было адмовіць нялюбаму Марку, дзяўчына наладзіла паміж хлопцамі спаборніцтва: кіданне вялізных камянёў. І каханаму Сцяпану дастаўся камень велічынёй са стол, а яго суперніку, зразумела, большы — велічынёй з печ. Кінулі хлопцы свае камяні дый пайшлі глядзець, чый дзе апынуўся. Але выйшла так, што Сцяпанаў камень усё роўна ўпаў бліжэй за Маркаў. Тады Кацярына ступіла на Сцяпанаў камень і кажа: «Чым даставацца нялюбаму, пайду лепш людзям вадой служыць!». Кінулася яна з каменя ды разлілася вадой. А на самім камені ад тае пары застаўся яе след — след Кацярыны-Валатоўны.

У лесе каля вёскі Заазер'е Акцябрскага раёна побач з крыніцай засталіся рэшткі паклоннага каменя. У краязнаўчай літаратуры XIX ст. пра яго запісана паданне, быццам нейкі нямоглы стары зблудзіў у лясным гушчары, адчуў страшэнную стому, прылёг і бачыць у сне тое месца, дзе ляжыць незвычайны ка-

мень, што лечыць людзей. Прачнуўшыся, ён адшукаў камень, дакрануўся да яго паверхні, парослай лішайнікам і мохам — і зараз пазбыўся сваёй нямогласці. З тых часоў мясцовыя жыхары ўшаноўваюць валун. Яму маліліся, прыносілі ахвяры. Але гэта не спадабалася тамтэйшым святарам. І ў 1866 годзе паліцыя разбіла камень на кавалкі. Аднак людзі склалі кавалачкі пашкоджанага каменя ды яшчэ больш пачалі яго ўшаноўваць. А неўзабаве над каменем пабудавалі невялічкую капліцу.

У наш час, калі экспедыцыя «Явара» наведала вёску Заазер'е, было запісана зусім іншае паданне. Паводле яго, цудоўнага каменя тут раней не было зусім, а прыкаціўся ён сюды сваімі сіламі: проста каціўся сабе, каціўся, аж пакуль не спыніўся каля крыніцы. Быццам бы камень не проста ляжаў, а яшчэ і лячыў розныя людскія хваробы. Таму людзі ішлі да яго бясконцай чарадой. Такое становішча ўжо не спадабалася не святару, а мясцоваму знахару, якога людзі зусім занядбалі, бо паслугаваліся лекавым каменем. І неяк уначы пакрыўджаны ды раз'юшаны знахар прыйшоў да валуна і разбіў яго на кавалкі. Як бы там ні было, але кавалкі дагэтуль лічацца лекавымі, таксама, як і крыніца, як і пракаветны дуб, што расце непадалёк, каля якіх дагэтуль моляцца і просяць здароўя. Ува ўсе часы, нават «за саветамі», побач з каменем і крыніцай стаяў драўляны крыж, абвязаны ручнікамі ды стужкамі. Цяпер раённае лясніцтва ўпарадкавала святую крыніцу, і на Тройцу тут ладзяцца фэсты.

Каля вёскі Канюхі Бераставіцкага раёна сярод балота ляжыць камень са следам Божай Маці. Мясцовая легенда расказвае наступнае:

*...некалі людзі былі такія грэшныя, што страцілі веру ў Бога, і той узлаваўся, наслаў на іх сусветны патоп. Маці Божая, людская заступніца, заўсёды шкадавала бедных ды грэшных сваіх дзяцей, таму выправілася ў падарожжа па зямлі, каб хоць каго выратаваць.*

Паданне не расказвае, хто выратаваўся, хто не, затое тлумачыць паходжанне следа на камені. Маўляў, было шмат вады, і Маці Божай даводзілася ісці па тых камянях, якія ўзвышаліся над вадой. А дзе ступала яе нага, там заставаўся боскі слядок. Былі нават спробы гэты камень выкапаць і распілаваць, але ніхто так і не даў рады зрушыць яго з месца: і відаць, глыбока залягае пад зямлёю.

У Малькавічах Ганцавіцкага раёна на старых закінутых могілках ляжыць камень-следавік. Мясцовыя жыхары і па сён-

ня лічаць, што слядок на камені ўтварыўся ад таго, што Божая Маці выцірала на ім ногі, вымытыя ў мясцовай рэчцы.

Камяні былі настолькі папулярныя і шанаваныя сярод простага люду, што нават мясцовыя святары на пэўныя каляндарныя святы, каб не адбіваць народ ад хрысціянства, чынілі да такіх сакральных аб'ектаў хрэсныя хады. У іх бралі ўдзел жыхары з усіх навакольных вёсак, некаторым даводзілася ісці да каменя за шмат кіламетраў. Каля камянёў чыніліся своеасаблівыя набажэнствы, людзі кленчылі перад святымі валунамі, гаварылі да іх, чыталі малітвы.

Ушаноўвалі камяні не толькі на пэўныя святы. Ім насілі ахвяраванні ў час абракання (просьба ў каменя дапамогі), якое магло адбывацца калі заўгодна, у залежнасці ад патрэбы. За жаданы паратунак-помач людзі дзячылі каменю саматканымі палотнамі, ручнікамі, хлебам, каласкамі, маслам, сырам, мёдам, грашыма ды інш. Такія абраканні чыняцца і сёння. Толькі цяпер на камяні часцей за ўсё кладуць цукеркі, печыва, кветкі або грошы.

На Беларусі налічваецца больш за два дзясяткі культавых камянёў-следавікоў, расповеды пра якія звязаныя з чортам або д'яблам. Сустракаюцца такія назвы, як *Чортаў След, Чортава Ступень, След Д'ябла-абжоры* і да т. п.

На могілках каля вёскі Сянежычы Навагрудскага раёна ляжыць камень з двума слядкамі. Прычым, адзін слядок лічыцца следам Багародзіцы, а другі, большы па памеры, следам Чорта. Мясцовыя жыхары след Багародзіцы шануюць і цалуюць, а след Чорта праклінаюць і плююць у яго. Расказваюць, што даўней ад гэтага каменя жанчыны прапаўзалі на каленях аж да капліцы ў Святым Рове — адлегласць амаль два кіламетры. Паводле падання, сляды ўтварыліся ад пальцаў Багародзіцы і пяты Чорта, які гнаўся за Маці Божай і ніяк не мог яе дагнаць. Урэшце яна схавалася ў бліжэйшым манастыры, адкуль і чыніла цуды. Раней сюды людзі збіраліся зазвычай на Пакроў, следавіку неслі манеты, воск, воўну, лён, тканіну і г. д. Цяпер ідуць на Радаўніцу і кладуць на камень або грошы, або садавіну.

Дагэтуль мы гаварылі пра сляды антрапаморфных істот. Але на Беларусі ёсць і камяні-следавікі са слядкамі зааморфных стварэнняў. Праўда, іх куды менш. Можа, гэта звязана з тым, што ў апошнія стагоддзі звяры не абагаўляліся. Яшчэ не так даўно мясцовыя жыхары з вёскі Дзякшняны Маладзечанскага раёна расказвалі, быццам слядок на камені пакінуў за-



*Камень-следавік каля в. Сянежычы, Навагрудскі р-н.*

латы алень шчасця. І нібыта вада са слядка дапамагае ад хвароб скуры. У 1970-ыя гады каля вёскі Журавец Асіповіцкага раёна яшчэ ляжаў вялікі камень з даволі роўнай паверхняй, на якой можна было ўбачыць слядкі ад лап зайца, лісы, ваўка і мядзведзя. Гэты валун, кажа паданне, некалі быў быццам сырая гліна, і таму кожнаму з пералічаных звяроў няцяжка было пакінуць там свой след.

Каля вёскі Наўгароды Мёрскага раёна некалі ляжаў камень, паводле адных звестак, са следам мядзведзя, паводле другіх — са следам Чорта. Яшчэ ў 80-я гады XX ст. мясцовыя старажылы захоўвалі паданне, паводле якога а 12 гадзіне ночы каля каменя адбываліся цуды, з'яўляліся чэрці, а людзі, якія праходзілі побач, збіваліся са шляху.

Паблізу вёскі Крынічка (былыя Пупелічы), Барысаўскага раёна ёсць камень, адбітак на якім лічыцца следам ад конскага капыта. Паводле аднаго з паданняў, пад валуном схаваны грошы, а паводле другога — гэта знак таго месца, дзе біліся са шведамі.

На Беларусі зафіксавана больш за дзесяць валуноў з выявамі падковак. У вёсцы Мачаны Лагойскага раёна пад такім каменем нібыта закапаны скарб. У вёсцы Шавуры Браслаўскага раёна яшчэ не так даўно людзі гаварылі пра камень з убітай у яго паверхню жалезнай падковай. Камень ляжаў

ва ўрочышчы Капытны Ручай, а потым апынуўся пад вадой возера Несьпіш. Недалёка ад мястэчка Бяларучы на Лагойшчыне каля былога хутара Яцэўшчына ў адным з курганоў, на якім ляжыць вялікі камень, быццам бы закапаная брычка з золатам. А як адзнака на камені выбіта падкова.

# Валуны — скамянелыя людзі і жывёлы

По нашай краіне даволі часта сустракаюцца такія валуны, якія ў легендах лічацца скамянелымі людзьмі і скамянелымі жывёламі. І тых, і другіх зафіксавана недзе з паўсотні. Ператварэнне людзей у камяні зазвычай звязвалі з боскай караю за парушэнне жыццёвых правіл або разглядалі як вынік нейкага праклёну. Паводле паданняў, камянеюць дзяўчаты, жанчыны, жанчыны з дзецьмі, мужчыны, цэлыя вяселлі ці толькі адныя маладыя, ёсць аратыя, укамянелыя за працу на Вялікдзень, разам з валамі, іншымі жывёламі і г. д.

У Лельчыцкім раёне ёсць некалькі каменных крыжоў вельмі архаічнай формы. Сярод іх вылучаецца Дзеўка, Каменная Дзеўка, або Святы камень. Гэты крыж, паводле падання, некалі быў дзяўчынаю, якую ў ліхую гадзіну пракляла яе маці, і дачка абярнулася каменем. Каля вёскі Радута Пастаўскага раёна ляжыць камень, што лічыцца скамянелай Антосяй. Па паданню дзяўчына здзекавалася з хлопца, які яе вельмі кахаў. Яна прымусіла яго ісці праз дрыгву — і той загінуў. Браты Антосі не захацелі больш яе бачыць ды выгналі прэч. Але ёй не было куды падзецца, і яна села пад вокнамі сваёй хаты. Раніцай на гэтым месцы знайшлі круглы камень з застылым ад злосці тварам дзяўчыны. Кажуць, што на кожную поўню Антося выходзіць з каменя, а той, хто яе сустрэне, неўзабаве памірае.

Пра скамянелых жанчын зазвычай расказваюць паданні, дзе галоўны персанаж — Бог або Хрыстос. Пад выглядам старца або жабрака ён вандруе па нашай зямлі. Калі настае ноч, вандроўніку няма дзе спыніцца і ў якой-небудзь вёсцы ён просіцца на начлег да простых людзей. Зазвычай заможныя ды пыхлівыя людзі не пускаюць старцаў у сваю хату, а даюць ім прытулак ці бедная ўдава, ці адзінокая салдатка і да т. п. Апроч начлегу, бедныя жанчыны дзеляцца з падарожным сваёю ўбо-

гаю вячэраю: вараць зацірку з апошняй жмені мукі, аддаюць апошнюю засохлую скарынку. Нараніцу ў такой хаце робіцца светла і ўтульна, яна поўная ежы, хлеба і розных багаццяў. Але на гэтым гісторыя не канчаецца. Чароўны дзядок раптам загадвае жанчыне, каб тая хутка збіралася і спешна, не азіраючыся, ішла за ім з вёскі. Калі жанчына з старцам выходзяць з вёскі, за іх спінамі чуюцца страшэнныя енкі, стогны і крыкі людзей, стаіць суцэльны трэск і гуд. Жанчына не вытрымлівае такіх выпрабаванняў, азіраецца, а на месцы яе вёскі ўжо разліваецца возера. Сама ж жанчына за непаслушэнства ператвараецца ў камень.

Часта ў паданнях пра такія камяні фігуруе жанчына з дзіцём на руках, якія за парушэнне боскага наказу камянеюць разам. Прыкладам, адзін з падобных камянёў ляжыць у лесе каля возера Святое блізу вёскі Дубяні Барысаўскага раёна. Яшчэ і сёння, калі людзі ідуць у лес па ягады ці грыбы, то кладуць там кавалачак хлеба. А раней сюды прыходзілі на Вялікдзень, Сёмуху, Юр'я. Каля каменя сталаваліся, пасля чаго пакідалі на ім хлеб, сала, чарку гарэлкі, кветкі. Камень лічыўся лекавым, але, каб вылечыцца, трэба было пасядзець ці паляжаць на ім.

Скамянелыя жанчыны з дзіцём ёсць каля вёсак Дзераўная і Харашэвічы Слонімскага раёна, Тулічава — Навагрудскага, Налібокі — Стаўбцоўскага. Паданні такога тыпу існуюць і пра каменныя крыжы каля вёсак Клепачы Слонімскага раёна, Ганчары — Лідскага, Пятрэвічы — Навагрудскага, Галошава — Талачынскага, інш.

Усе беларускія легенды пра скамянелых жанчын ужо хрысціянскія паводле паходжання, іншымі словамі, яны ўзніклі на нашых землях, калі тут трывала ўсталёўвалася хрысціянская вера, уводзіліся новыя жыццёвыя і рэлігійныя каштоўнасці. Таму невыпадкова, што сюжэт такіх паданняў супадае з біблейскім сюжэтам пра знішчэнне Садома і Гаморы ды ператварэнне Лотавай жонкі ў саляны слуп.

Паданні пра скамянелых мужчын звязаны з камянямі каля вёсак Бярозаўшчына (былая назва Божы Дар) Барысаўскага раёна, Дулебы — Бярэзінскага, Краснікі — Докшыцкага. Камень каля Бярозаўшчыны і ў наш час завуць Князь-камень. Паводле аднаго з паданняў, тут жыў вельмі злы і дрэнны князь, якога людзі неўзабаве пракля́лі. Князь ператварыўся ў камень, які амаль увесь увайшоў у зямлю, а на паверхні засталася толькі адна галава. Паводле другога падання, на гэтым месцы некалі была вёска з царквою. Аднаго разу на

Юр'я шведы (ці туркі) напалі на вёску, і жыхары схаваліся ў царкве. Але па загадзе свайго ліхога князя ворагі паламалі ў царкве дзверы і пачалі страляць па абразах, не зважаючы на сялян, якія ў гэты час старанна маліліся. Раптам невядомая сіла ў адно імгненне адкінула іх з царквы назад, і яны роспачна, з жахам разбегліся. Тыя ж, хто страляў, аслеплі, а князь тут каля царквы ператварыўся ў камень.

Каля вёскі Дулебы ў Бярэзінскім раёне на беразе ракі Ольса раней было два камяні, якія сваім выглядам нагадвалі слупы. Паданне расказвае, што некалі ў гэтай мясцовасці жыў народ «дулы» пад кіраўніцтвам мудрага правадыра Кумара. Аднойчы раніцай выйшаў правадыр з хаты і ўбачыў на зямлі сляды ад нейкіх колаў. Ён адразу адчуў пагрозу з боку невядомых чужынцаў, таму што дулы не ведалі дагэтуль ніякіх колаў. Сляды на зямлі папярэджвалі пра невядомую небяспеку, якая сыходзіла ад іншага народа. Так яно і сталася. Неўзабаве выявілася, што на зямлю дулаў прыйшло іншае племя пад кіраўніцтвам свайго правадыра — Гуда. Каб высветліць, хто з народаў мае права на гэтую зямлю, правадыры Кумар і Гуд пачалі двубой, у час якога Гуд адсёк Кумару галаву. Што было далей, легенда не расказвае, але вядома, што абодва правадыры неўзабаве скамянелі. Вышэйшы валун называлі Гудам, а ніжэйшы — Кумарам. Невялікі ж камень паміж імі лічыцца адсечанай галавой Кумара.

Вераць, што валун Сцяпан, які ляжыць у лесе пры вытоках ракі Віліі паміж вёскамі Краснікі і Жамойск Докшыцкага раёна, — гэта акамянелы чалавек.. Пра камень ёсць нямала паданняў, сюжэты якіх расказваюць пра мужчыну або арата, скамянелага разам з валамі. Гэтыя гісторыі сумяшчаюцца з сюжэтамі пра камяні-краўцы (гл. ніжэй).

Каля вёскі Пярэжыр Пухавіцкага раёна да 1930-х гадоў ляжалі два валуны, якія ў народзе называліся Дзям'ян і Мар'я. Кажуць, яны вылечвалі паралітыкаў, кульгавых і глухіх. Згодна з адным паданнем, у камяні ператварыліся муж і жонка за працу на Вялікдзень. Паводле іншага варыянта, Дзям'ян і Мар'я на лодцы ратаваліся ад патопу і каля ўзгорка іх прыбіла да берага. Але ўратавацца яны маглі толькі пры ўмове не азірацца, пакуль не спадзе вада. Нечакана ўдарыў пярун, Дзям'ян і Мар'я спужана азірнуліся і адразу ж скамянелі.

Некаторыя групы камянёў звязваюць з паданнямі пра скамянелыя вяселлі. Прыкладам, у вёсках Дзярэчын Зэльвенскага раёна, Збляны — Лідскага, Навасёлкі і Дубаўцы — Ваўкавыскага, Целяхі — Стаўбцоўскага, інш. Так, у Дзярэчыне,



*Камяні-Валы каля в. Волы, Бярэзінскі р-н.*

паводле мясцовага падання, вяселле, якое вярталася з царквы, сустрэла па дарозе чараўніка і не прывітала яго. Чараўнік зазлаваў і пракляў вясельнікаў, і тыя ператварыліся ў камяні. Паводле іншых паданняў, у камяні ператвараюцца тыя вяселлі, якія пры сустрэчы не саступаюць адно перад адным з дарогі, завязваецца бойка. Бог гэта ўсё бачыць і ператварае ўпартых у нерухомыя змрочныя камяні.

Сустракаюцца паданні пра скамянелых шаўцоў і краўцоў, якія працавалі на Вялікдзень, а потым разам са сваімі хатамі абярнуліся камянямі.

У сярэдзіне XIX ст. на Палессі было запісана паданне пра пастуха, які ў Пятроў пост аскароміўся яечняй, за што разам са сваім статкам быў ператвораны ў камяні. А ў вёсцы Знаменская (былая назва — Гібайлавічы) Крупскага раёна на Вялікдзень чалавек пайшоў на ловы з двума сабакамі. У той момант, калі ён забіў мядзведзя, на ясным небе жыгнула бліскавіца і ўдарыў пярун. Паляўнічы, сабакі і мядзведзь умомант скамянелі.

На Беларусі больш за два дзясяткі камянёў лічацца аратымі, скамянелымі разам з валамі ў пакаранне за працу на

Вялікдзень. Гэта ў вёсках Мсціж Барысаўскага раёна, Гурыны — Мазырскага, Кузьмічы — Вілейскага, Крынкі — Асіповіцкага, Волы і Быкавічы — Бярэзінскага і г. д.

## Камяні-краўцы і камяні-шаўцы

Валуны з назвамі *краўцы* і *шаўцы* зазвычай маюць вялікія памеры і найчасцей ляжаць у нізінах, часам побач з вадой. Паводле паданняў, у такіх камянях жывуць нейкія абстрактныя краўцы або шаўцы. За невялікую плату, часам наогул задарма, яны шыюць адзенне (краўцы) або боты (шаўцы). У паданнях вельмі часта ўспамінаецца абавязковае акенца ў камені, праз якое кравец або шавец кантактуе з людзьмі, што маюцца нешта пашыць сабе. Лічыцца, быццам такія краўцы і шаўцы скамянелі ад праклёну, бо таксама, як і ў іншых падобных паданнях, працавалі на Вялікдзень.

На тэрыторыі нашай краіны налічваецца больш за дзясятак камянёў-краўцоў і прыкладна столькі ж камянёў-шаўцоў. Каля некаторых з іх яшчэ ў XIX — пачатку XX стст. збіраліся па пэўных святах. Прыкладам, у Старым Пагосце Мёрскага раёна каля «краўца» святкавалі Купалле. Камяні-краўцы ў асноўным характэрныя для паўночнай і цэнтральнай Беларусі. Сюжэты паданняў пра такія камяні вельмі падобныя, але маюць і адметнасці. Пра камень-кравец, які ляжыць у лесе каля былога хутара Прудзішчы блізу вёскі Кнышэвічы Светлагорскага раёна і цяпер апавядаюць, што некалі ён выконваў замовы на пашыў рознага адзення паводле старадаўняй моды. Колькі і чаго б ні папрасілі у каменя — назаўтра раніцай заказ быў гатовы. Толькі ў акенца абавязкова трэба было пакласці грошы, сукно і ніткі. Аднаго разу нехта так і зрабіў, але сказаў пад тое: «*Пашый мне ні тое, ні сёе*». Камень узяў і прышыў да кашулі трэцяе рукаво. Няўдалы заказчык за гэта пракляў камень, і той патроху стаў апускацца пад зямлю.

Каля вёскі Янаўшчына Крупскага раёна ляжыць камень Кравец. Паводле падання, камень шыў адзенне, трэба было толькі пакласці яму ў акенца тканіну і ў думках уявіць фасон свайго заказу. Неяк раз дзяцюк нападпітку прынёс тканіну і загадаў каменю пашыць добрую кашулю ды порткі, бо яму не было ў чым ісці на вяселле. Дагэтуль усе заказ-

чыкі іх просьбу прасілі выканаць, а хлопец загадаў. Кравец вельмі пакрыўдзіўся. Таму раніцай замест вопраткі на камені ляжалі шматкі тканіны. З таго часу камень кінуў шыць.

Падобнае паданне аб заказе шлюбнага ўбору было некалі зафіксавана і пра камень Кравец блізу Бабруйска пры старым Свіслацкім тракце. На жаль, пакуль што камень не знойдзены. Паданне ж пра яго было надрукавана ў 20-ыя гады XX ст. у краязнаўчай літаратуры, дзе гаворыцца, што «краўца» нават не трэба было прасіць і паказваць, як шыць адзенне. Але аднаго разу дзяўчына-чараўніца прынесла яму заказ на шлюбны ўбор і стала настойліва патрабаваць свайго фасону. Кравец пакрыўдзіўся і нічога не зрабіў. Тады краўца разам з ягонай хатай чараўніца абярнула ў камень. Але той потым яшчэ доўга не спыняў працы. Паводле мясцовых уяўленняў лічылася: калі камень разбіць, з сярэдзіны абавязкова выйдзе той самы кравец.

Ад каменя-краўца Сцяпана каля вёскі Высокі Гарадзец Талачынскага раёна засталіся толькі абломкі. У 1936—37 гадах яго спрабавалі падарваць, але гэта не зусім удалося. Ягоныя часткі вывезлі на будаўніцтва шашы Мінск-Масква. Паводле падання, пад каменем жыў кравец Сцяпан. Каб камень нешта пашыў, увечары на яго трэба было пакласці скроеную тканіну і папрасіць: «*Сцяпан, пашый мне жупан!*». І ўжо раніцай на паверхі каменя ляжала гатовая вопратка. Але аднаго разу прыйшла нейкая нетутэйшая жанчына і сказала: «*Сцяпан, пашый мне ні тое, ні сёе!*». Назаўтра адзенне было гатовае, але рукавы — не на сваіх месцах. Па гэтым здарэнні кравец наогул кінуў шыць.

У некаторых паданнях за краўца выступае чорт, як у вёсках Стары Пагост Мёрскага раёна, Вароніна — Сенненскага, Шкленікова — Мядзельскага, або змей — у вёсцы Гогалеўка Чашніцкага раёна. Пра Змееў камень-кравец расказвалі наступнае. Маўляў, у камені жыў змей-кравец, які вельмі добра шыў адзенне і не на абы-якой машынцы, а на залатой. За працу яму прыносілі і клалі на камень курэй і пеўняў, ежу і пітво.

Камяні-шаўцы зарэгістраваныя ў асноўным на тэрыторыі заходняй Беларусі. Найбольшы з іх — Гомсін-камень, які ляжыць каля вёскі Куранец Вілейскага раёна. Паданне кажа, нібыта на Вялікдзень усе пайшлі ў царкву, а шавец Гомсін сеў шыць боты. Менавіта ў гэты час наляцела жудасная хмара, і страшэнная бліскавіца забіла небараку-шаўца. Дом згарэў, а на



*Камень Кравец або Змееў камень каля в. Гогалеўка, Чашніцкі р-н.*

тым самым месцы ўтварыўся камень. Ад тае пары на кожны Вялікдзень можна падысці да каменя, нахіліцца да яго і пачуць нешта накшталт шаўцовай песні і стуку ягонага малатка.

Пра камень каля вёскі Камень Валожынскага раёна гаворыцца, што раней на гэтым месцы стаяла хата шаўца, але ў ёй не было дзвярэй, толькі адно акенца, праз якое людзі рабілі заказ і падавалі грошы. Рэшта грошай праз акенца выкідвалася назад. Пашытыя боты мелі цудадзейныя якасці, яны не зношваліся пятнаццаць гадоў і ўвесь гэты час былі як новыя. Але, згодна з нашым сюжэтам, боты можна было насіць толькі ў час ігрышчаў. І барані божа адзець іх у храм. Яны распадаліся на дробныя кавалачкі. Мясцовыя святары, само сабою, бачылі ў майстры злога духа. Яны забаранілі сялянам хадзіць да яго і праклялі няшчаснага шаўца. Тады людзі пазбіраліся ўсёй вёскай, сталі вакол шаўцовай хаты, наперад выйшаў самы сівы стары, рушыў наперад і прамовіў: «*Каб ты скамянеў!*».

Шаўца, як і краўца, у падобных народных гісторыях можа часам заступаць чорт, прыкладам, у паданні, дзе расказваецца пра камень-шавец або Чортаў камень каля вёскі Ратынцы Валожынскага раёна. У ім гаворыцца, што пад ка-

менем некалі жыў чорт, які рамантаваў тамтэйшым людзям боты. Калі ўвечары на камень пакласці падзёртыя боты і грошы за працу, то раніцай на камені стаяў папраўлены ўжо абутак. Вядома ж, у такіх ботах можна было хадзіць толькі на ігрышчы, у храме яны адразу рваліся. Рамантаваў боты і Чортаў камень-шавец каля вёскі Семенчыцы Стаўбцоўскага раёна. Паводле другой версіі гэтага падання, каля каменя ішла бойка шведаў і нейкага іншага войска. Але раней быў двубой паміж правадырамі абодвух войскаў. І суддзі сядзелі менавіта на гэтым камені.

З усяго вышэй сказанага можна зрабіць выснову, што ў старажытных паданнях нашых продкаў як адбітках даўнейшага светапогляду ясна прасочваецца повязь камянёў з вопраткай і абуткам. І гэта невыпадкова. Раней беларусы гэтым рэчам надавалі ролю медыятара паміж светам людзей як сваім светам, светам культуры і чужым светам як светам прыроды, іншасветам. Акенца ў камені ў беларускай міфалогіі звязваецца з касмічнымі з'явамі і працэсамі. Такім чынам, камяні-краўцы і шаўцы ў традыцыйнай карціне свету беларусаў маюць сувязі з замагільным светам і хтанічнай сферай. Пагрэчаску chtonos — зямля. А хтанічная сфера — сфера, якая ў архаічныя часы параўнавалася адначасова са стваральнай сілай зямлі або вады і забіраючай жыццё апраметнай. Яна абагаўлялася нашымі продкамі, лічылася месцам знаходжання душаў памерлых і ўшаноўвалася імі.

# Камяні-капішчы і багавікі

Да язычніцкіх ахвярнікаў (капішчаў) перадусім трэба аднесці валуны, якія маюць назвы: *Капішча, Алтар, Ахвярнік* і да т. п. Лічыцца, што такія камяні, як Капішча каля вёскі Мосар Ушацкага раёна, Алтар каля вёсак Верасніца Жыткавіцкага і Мсцібава Ваўкавыскага раёнаў, некалі служылі ахвярнікамі, таксама — і група камянёў на гары Гарадзец каля Янава возера недалёка ад вёскі Бікульнічы Полацкага раёна.

Пра некаторыя камяні бытуюць паданні, быццам тыя ляжаць на месцы былога храма, які некалі праваліўся пад зямлю. Калі да такога каменя прыкласці вуха, то можна пачуць гукі званоў. Такое, прыкладам, расказваюць пра камень у вёсцы Бузуны Валожынскага раёна.



*Святы ці Дажбогаў камень каля в. Крамянец, Лагойскі р-н.*

З былымі капішчамі могуць быць звязаны валуны, на якіх нібыта нехта некалі палуднаваў. Так, на камені каля вёскі Воронічы Полацкага раёна, паводле падання, абедаў *князь Вітольд*. На вялікім камені каля вёскі Воўкаўшчына Мёрскага раёна ў 1812 г. абедалі французы. У вёсцы Язна гэтага ж раёна сцвярджаюць, што на мясцовым камені снедаў сам Напалеон, а паводле іншага варыянта — царыца Кацярына. А ў вёсцы Сіманавічы Драгічынскага раёна на Юр'я абедалі на камені пастухі.

Да катэгорыі камянёў-капішчаў таксама адносяцца валуны, каля якіх адбываліся ігрышчы, танцы, наогул розныя святкаванні. Свята збору ўраджаю адзначалі каля каменя, што завецца Васькаў Камень або Чортаў Камень каля вёскі Аўгустова Валожынскага раёна. Каля вёсак Быкавічы і Казлоў Бераг Бярэзінскага раёна, Пугачы — Шчучынскага, Воўкаўшчына (ва ўрочышчы Бертаўшчына) — Мёрскага, інш. На саміх камянях па святах нібыта танцавала ды спявала моладзь. Дарэчы, у паданнях згадваецца сакральныя лічбы — 6 або 12.

З капішчамі можна звязваць і тыя камяні, на якіх нібыта адбываліся пакаранні. Як сведчыць паданне, у вёсцы Жырмуны Воранаўскага раёна за Дайноўскім княствам (XIII—XIV стст.) на камені Кабыла каралі смерцю злачынцаў. Пра камень пад назвай Вор у вёсцы Суткава Смаргонскага раёна ў XIX ст.

было запісана паданне, згодна з якім тут былі бітыя дванаццаць (зноў сакральная лічба!) хлопчыкаў. А білі дзеля таго, каб тыя памяталі мяжу паміж зямлёй манастыра і зямлёй мясцовага памешчыка Бухатага. Тут жа потым нібыта дванаццаць чалавек давалі ілжэпрысягу аб прыналежнасці манастырскай зямлі Бухатаму. Каля вёскі Воўкаўшчына Мёрскага раёна ёсць Карны камень, дзе быццам бы каралі яўрэяў.

Да былых язычніцкіх святынь адносяцца і шырока вядомыя Барысавы камяні з высечанымі на іх крыжамі і надпісамі XII ст. тыпу: «*Господи помози рабу своему Борису...*». Вядомыя пяць такіх камянёў у рэчышчы Заходняй Дзвіны: адзін каля вёскі Падкасцельцы, што раней была побач з Полацкам, другі каля мястэчка Друя, а трэці, чацвёрты і пяты — каля горада Дзісна. На сушы падобныя камяні ёсць каля вёскі Дзятлава Аршанскага раёна (г. зв. «*Рагвалодаў камень*») і каля вёскі Высокі Гарадзец Талачынскага раёна. Камень з Падкасцельцаў у 1981 г. быў падняты з вады і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора ў Полацку. У пач. XXI ст. выцягнулі на бераг і камень у Друі. А адзін з дзісненскіх камянёў яшчэ ў канцы XIX ст. паднялі з ракі і перавезлі ў Маскву. Цяпер ён захоўваецца ў музеі-запаведніку «Каломенскае». Астатнія помнікі ўзарваныя. Да Барысавых камянёў адносяць яшчэ Варацішын Хрэст у вёсцы Камена Вілейскага раёна. Відаць, з прыходам на нашы землі хрысціянства князі і хрысціянскія святары, каб пашырыць новую веру ды адвесці людзей ад язычніцтва, загадвалі выбіваць на вялікіх камянях крыжы і словы малітвы.

Некаторыя камяні звязваюцца з канкрэтнымі язычніцкімі боствамі: перадусім Перуном і Воласам. Камяні з назвай *Пярун* ёсць каля вёсак Расходна і Дубкі Сенненскага раёна, Калінавая і Папялы — Глыбоцкага, Заскаркі Полацкага і інш. У паданні пра Пярун-камень каля вёскі Расходна гаворыцца, быццам паганскі бог Пярун забіў на ім галоўнага д'ябла. Існуе шэраг паданняў, дзе Пярун сваімі ўдарамі шчапае камень на кавалкі або пакідае на ім адметныя знакі, як, прыкладам, у пасёлку Альберцін (цяпер у складзе г. Слоніма), у вёсках Таўкіні — Воранаўскага, Камяное — Уздзенскага, Казлоў Бераг — Бярэзінскага. У вёсцы Камяное, кажа адна з версій падання, на камені танцавала дванаццаць параў, а паводле іншай версіі — у 1812 г. тут быў штаб Баграціёна. Насамрэч нам вядома: каля каменя некалі стаяў вялікі драўляны крыж з навесам, а самому каменю прыносілі ахвяры.

Камень каля вёскі Казлоў Берaг Бярэзінскага раёна называўся Святы або Кадрыль-Камень, бо, згодна з варыянтам падання, тут любілі танцаваць кадрыль. Хоць камень у час меліярацыі ў 1960-я гады знішчылі, памяць пра яго жыве ў народзе і па сёння. Паводле падання сюды некалькі разоў на год з'яўляліся паны і на камені ладзілі маёўкі з танцамі. Бог зазлаваў на гэта і паслаў Перуна разабрацца. Пярун ляснуў па камені, разбіў яго на дзве часткі. З таго часу камень стаў лічыцца святым, побач паставілі драўляны крыж. Адной палове каменя людзі ахвяравалі грошы і маліліся там Богу. Дажджавая вада, якая збіралася ў выемках каменя, лічылася лекавай і дапамагала пры хваробах вачэй.

Камяні з назвай *Волас* ёсць каля вёсак Крыжоўка Мінскага раёна і *Воласá* — Браслаўскага. Воласень-Камень згадваецца каля аднога з Ушацкіх азёраў. Яшчэ ў 1930-я гады камень каля вёскі Крыжоўка лічыўся святым і дапамагаў лячыць хворую жывёлу. З навакольных вёсак да яго неслі хвасты і рогі свойскай жывёлы, а на бліжэйшыя дрэвы вешалі ручнікі.

## Чортавы камяні

Валуны, якія ў паданнях звязваюцца з чортам, найчасцей так і называюцца: *Чортаў Камень, Чортава Ступень, Чортаў След, Чортава Печ, Чортавы Жорны* і г. д. Часам такія назвы перагукаюцца і дублююцца з назвамі *Волат, Кравец, Святы Камень*. На Беларусі зафіксавана з паўсотні «чортавых» камянёў. Зазвычай гэта валуны вялікіх памераў з неапрацаванай паверхняй, якія ляжаць у глухіх балоцістых мясцінах. Але сустракаюцца яны і на ўзгорках, пры дарозе.

Арэал паданняў пра Чортавы камяні, падобнасць іх сюжэтаў сведчаць, што гэта адна з праяў культуры балтаў жалезнага веку і ранняга сярэднявечча. Адсюль і вынікае Чорт як зусім не хрысціянскі міфалагічны персанаж, а хтанічнае боства Вяльняс. Менавіта гэты бог апекаваўся жывёламі, светам памерлых, звязваўся з лесам, дзікімі звярамі і земляробствам. Вяльнясу адпавядае славянскі Вялес, або Волас, германскі Одзін, старажытнаіндыйскі Варуна, кельцкі Езус. На тое, што Чорт некалі ўяўляўся боствам, паказваюць факты святкавання Купалля каля Чортавых камянёў яшчэ ў пачатку



*Камень Чортавы Жорны або Чортаў Млын каля в. Асавы, Докшыцкі р-н.*

і сярэдзіне XX ст. Так, Купалле адзначалі каля Чортава каменя на лузе, што побач з вёскай Стары Пагост Мёрскага раёна. Яшчэ не так даўно каля вёскі Лапухова Слонімскага раёна на своеасаблівым узвышшы з ровам, якое называлася *Груд*, ляжаў Чортаў камень са слядкамі дзіцячай нагі, авечкі і г. д. Паводле падання, на гэтым месцы некалі праваліўся горад. Згодна з іншым сюжэтам, там была вёска, якую спаліў Змей. На камені збіраліся і танцавалі чэрці. А вакол ляжала *Пеннае балота*, абнесенае ланцугом вялікіх камянёў. Відавочна, тут некалі было паганскае капішча. І яшчэ да 70-х гадоў XX ст. на гэтым узгорку людзі святкавалі Купалле.

Пра Чортавы камяні вельмі пашыраны тып паданняў, дзе гаворыцца, як чорт нёс вялікі камень, каб заваліць ім дзверы храма. Але раптам пяе певень (сакральная птушка Перуна — адвечнага антаганіста чорта-Вялеса) — і чорт кідае камень хоць дзе. Такія паданні сустракаюцца ў вёсцы Ратынцы Валожынскага раёна, Вялец — Глыбоцкага, Асташын — Карэліцкага і г. д. Трапляюцца сюжэты, дзе чорт меўся заваліць не дзверы храма, а рэчку або возера, але зноў-такі спеў пеўня яго перапыняе. У прыбярэжных нарачанскіх вёсках расказваюць, як чорт задумаў каменнай градою праз возера злучыць

дзве вёскі, аднак і тут праспяваў певень, і работа засталася недаконачаная.

З чортам часта звязаны камяні-краўцы і камяні-шаўцы. Чортаў, або Адолеў камень ляжыць каля вёскі Сцяцкі Стаўбцоўскага раёна. Усім людзям, якія праходзілі каля каменя, чорт, які нібыта жыў там, даваў па пары ботаў. У Семенчыцах Стаўбцоўскага раёна яшчэ і сёння можна пачуць аповед пра тое, як каля мясцовага каменя праходзіў п'яны чалавек, а камень раптам і кажа яму: «*Давай, пашыю табе боты!*». Але чалавек адмовіўся ад паслуг, спаслаўшыся, быццам у яго ўжо ёсць боты.

Пра Чортавы камяні ёсць і такія паданні, дзе гаворыцца, як чэрці ў абліччы мужчын сядаюць уначы на камень і гуляюць там у карты або танцуюць. У вёсцы Вялец на Глыбоччыне кажуць, што чорт танцаваў на камені і ад яго пятаў засталіся на паверхні дзіркі. Вылучаюцца ў паданнях і сюжэты пра тое, як чэрці здзекуюцца з падарожных. У вёсцы Вароніна Сенненскага раёна расказваюць, быццам у багне каля Чортавага каменя жылі чэрці. А непадалёк пры дарозе стаяла карчма, якую наведвалі жыхары трох бліжэйшых вёсак. Тых наведнікаў, якія заседжваліся да позняй ночы, чэрці пільнавалі ўжо каля самага ганку, а потым цэлую ноч вадзілі па балоце. Раніцай такі небарака прачынаўся на камені голым, а побач пасвіўся выпражаны конь. Каля вёскі Палессе на Пастаўшчыне мясцовыя жыхары нібыта бачаць уночы чырвоныя агеньчыкі і чарцей, якія гуляюць у карты. Недалёка ад каменя цячэ Святая крыніца і знаходзяцца два ўзгоркі — Лысая Гара і Крывая. Такія назвы гавораць самі за сябе. Ясна, што на гэтым месцы некалі адбываліся сакральныя і патаемныя дзеянні.

Існуе шмат паданняў і пра камяні з назвай *Чортаў След*. У Булавішках-Якубянцах Браслаўскага раёна расказваюць, што некалі каля балота, дзе жыў чорт, ляжаў мяккі камень. Калі адзін падарожны праходзіў паўз балота, чорт выскачыў з багны, накінуўся на яго, стаў сварыцца і ўсяляк насміхацца. У час сваркі чорт раптам ступіў на камень і пакінуў там свой след. На камені каля вёскі Расальшчызна Іўеўскага раёна нібыта д'ябал пакінуў след тады, калі прарок Ілля гнаў яго з зямлі ў пекла. Шмат у нашай культурнай спадчыне захавалася і такіх паданняў, дзе расказваецца пра камяні, пад якімі закапаны або схаваны ўсялякія скарбы, а іх ахоўваюць зноў жа чэрці.

# Камяні з паглыбленнямі і ямкамі

На многіх камянях ёсць паглыбленні і ямкі, розныя паводле канфігурацыі. Некаторыя з іх прыроднага паходжання, але большасць штучныя, інакш кажучы, створаныя рукою чалавека. Найбольшую цікавасць становяць камяні з жалабамі, якія сваёй формай нагадваюць талеркі або міскі, патэльні. Камень з трыма такімі паглыбленнямі ляжаў каля вёсак Палашкі-Каргаўды Воранаўскага раёна. Сярод мясцовага насельніцтва ён быў вядомы пад назвай *Дзевас Блюдас* (Божае блюда). Людзі ўспамінаюць падобны камень на могілках каля вёскі Падзітва ў гэтым жа раёне. У вёсцы Пеляса, таксама Воранаўскага раёна, старыя расказваюць, што нядаўна там ляжалі камяні, называныя таксама *Дзевас Блюдас*. Цяпер на гэтым месцы кар'ер, а куды падзеліся камяні, яны не ведаюць. Мажліва, адзін з іх — ва ўсялякім разе ён быў з выемкамі — некалі ляжаў на Маруленя-Гары, дзе, паводле падання, пахавана княгіня Маруленя.

Міскападобныя паглыбленні ёсць на Святым камені, які адносяць да следавікоў, што каля вёскі Крамянец Лагойскага раёна, а таксама на Марціным камені каля вёскі Лайбуны Браслаўскага раёна. За гэтакі самы ўважаецца і камень ва ўрочышчы Бертаўшчына каля Чорнага возера недалёка ад вёскі Воўкаўшчына Мёрскага раёна. Дажджавая вада з паглыбленняў гэтага каменя лічыцца лекавай і дапамагае ад хвароб вачэй. На Купалле тут заўсёды збіралася моладзь і танцавала. І зноў жа, людзі кажуць, на ім магло змясціцца дванаццаць пар.

Камень з выемкай, падобнай да патэльні, у XIX ст. быў зафіксаваны пры Махіроўскім манастыры на беразе Заходняй Дзвіны каля Полацка. На рубяжы XIX і XX стст. каля былой вёскі Юршышкі Воранаўскага раёна навукоўцы знайшлі камень з трыма паглыбленнямі ў форме місак. З іх, паводле падання, еў нейкі кароль у час палявання на берагах ракі Вярсокі. Падобны камень існаваў і каля вёскі Юравічы Дзятлаўскага раёна. На Полаччыне на беразе возера Варонеч некалі ляжаў Вітольдаў камень «з талеркамі». Паводле падання, на гэтым камені абедаў князь Вітольд, які ў 1426 г. прыступам узяў замак Варонеч. Як сведчаць мясцовыя краязнаўцы, камень знік у 1987 г. Пра вялікі камень з паглыбленнямі



*Камень з паглыбленнем (кропельніца) каля касцёла ў Росі, Ваўкавыскі р-н.*

ў форме талерак, які ляжаў яшчэ ў сярэдзіне XX ст. на ўзгорку паміж вёскамі Сіняя Гара і Вялікі Камень у Смалявіцкім раёне, мы даведаліся зусім нядаўна ў час экспедыцыі «Явара» ад мясцовых жыхароў.

Такія камяні з паглыбленнямі ў выглядзе талеркі вядомыя па ўсёй Еўропе, але асабліва характэрныя для Літвы і Латвіі, дзе зазвычай ляжаць у глухіх мясцінах, у лясах і балотах. На думку даследчыкаў, яны звязаны з пакланеннем хатнім духам, з культам урадлівасці і культам памерлых.

Сустракаюцца на Беларусі і такія камяні, якія самой сваёй формай нагадваюць своеасаблівыя міскі. У канцы XIX — пачатку XX стст. каля аднаго з маёнткаў на Навагрудчыне знайшлі ў зямлі ў розных месцах тры такія каменныя міскі. Адну з іх сталі нават выкарыстоўваць на кухні ў якасці макотры. Другая, падобная да першай, раскрышылася ў руках у кухара. А яшчэ адну адкапалі на глыбіні некалькіх метраў пры здабычы жвіру ў лесе на ўзгорку. Побач з міскай знайшлі каменную кулю, выгладжаную адпаведна выемцы ў камені. Гэтак званая міска мела дыяметр 0,5 м, а ў вышыню была 0,25 м. Як казалі старажылы, яна потым доўга стаяла на ганку маёнтка і гаспадары яе вельмі ашчаджалі.



*Кропельніца з былога касцёла, цяпер знаходзіцца ў в. Чэхі, Мядзельскі р-н.*

Таксама шмат у нас было знойдзена культавых камянёў, якія па форме нагадваюць цыліндр і маюць паглыбленне з плыткім дном. У большасці выпадкаў паглыбленні амаль супадаюць па аб'ёме з сучасным вядром. Два такія меркаваныя старажытныя ахвярнікі знойдзены ў ваколіцах Бабруйска. Адзін з іх адкрыты ў сярэдзіне XX ст. на беразе Беразіны і цяпер знаходзіцца ў экспазіцыі Бабруйскага краязнаўчага музея. Другі адкапаны ў 1980-я гады пры пракладцы траншэі на ўскрайку горада і выкарыстоўваецца цяпер у якасці кветніка каля брамы бліжэйшага гаража.

Камень з паглыбленнем быў знойдзены на ўзгорку Царкавішча каля вёскі Лебедзева Маладзечанскага раёна. Некалі пад гарой цякла святая крыніца, якую шанавалі як каталікі, так і праваслаўныя. У пачатку XX ст. каля вёскі Унтальянка Барысаўскага раёна селянін выкапаў на пагорку камень вельмі падобны да ступы. Побач з ступай ляжала яшчэ колькі камянёў і старадаўнія рэчы. Ступу селянін выкарыстоўваў у лазні для падагрэву вады.

Некаторыя ахвярныя камяні сваёй формай нагадваюць жорны. Адзін з такіх камянёў зваўся ў народзе *Чортавы Жорны.* Ён ляжаў у канаве каля вёскі Жукаўка Вілейскага раёна. Яшчэ на памяці нашых сучаснікаў дажджавая вада, што збіралася ў паглыбленнях, лячыла дзяцей ад пярэпалаху.

Цыліндрападобныя ахвярнікі па форме і памерах вельмі блізкія да архаічных каменных кропельніцаў у касцёлах. Такія кропельніцы яшчэ завуць *вадзяніцамі* або кропельніцамі для святой вады. Невысокія кропельніцы вышынёю 0,2—0,3 м і дыяметрам каля 0,3—0,4 м стаяць у касцёле Святога Міхала ў Навагрудку і ў касцёле Яна Хрысціцеля ў вёсцы Беняконі Воранаўскага раёна, каля капліцы ў вёсцы Клінавое Шаркаўшчынскага раёна. А ў касцёлах вёскі Данюшава Смаргонскага раёна, Лаздуны — Іўеўскага, у былым храме вёскі Леанардава — Мядзельскага кропельніцы маюць форму цыліндра і вышыню 0,7—0,8 м.

Зазвычай груба высечаныя каменныя кропельніцы стаяць альбо ў вельмі старых касцёлах, альбо ў тых, якія будаваліся ў XIX — пачатку XX стст. на месцах былых драўляных храмаў, заснаваных яшчэ ў XV—XVI стст. У Васілішках Шчучынскага раёна касцёл Яна Хрысціцеля быў пабудаваны ў 1769 г. Інтэр'ер касцёла аздабляюць дзве добра вытачаныя невялічкія каменныя кропельніцы. Старую вадзяніцу, якая нагадвае язычніцкі ахвярнік, некалі вынеслі з храма і ўладкавалі каля бакавога ўваходу на вялізнай калодзе. Падобная старая кропельніца доўгі час стаяла каля касцёла ў Шчучыне, а пасля рамонту ў 1990 г. знікла. Старая кропельніца да нядаўняга часу стаяла і ў капліцы каля вёскі Дубатоўка Смаргонскага раёна. Потым яе замянілі на новую, а старую паставілі пад крыжам побач з капліцай.

На карысць таго, што адшліфаваныя камяні з плоскадоннымі выемкамі некалі служылі язычніцкімі ахвярнікамі, сведчаць факты іх залягання ў зямлі. У часы пашырэння хрысціянства святары разам з балванамі знішчалі і старажытныя паганскія ахвярнікі. Яны скідвалі іх у рэкі, азёры, глыбокія яры, закопвалі ў зямлю. Не раз фіксаваліся выпадкі закладання такіх ахвярнікаў у падмуркі хрысціянскіх храмаў. Так, у Полацку сярод рэшткаў падмурку Барысаглебскай царквы XII ст. быў знойдзены камень дыяметрам 1 м і вышынёй 0,5 м, які меў паглыбленне дыяметрам 0,25 м. Цыліндрычны камень з паглыбленнем выяўлены таксама ў падмурку Малога храма XVII ст. на тэрыторыі Заслаўскага замка.



*Камень з ямкамі каля в. Катлоўцы, Вілейскі р-н.*

У вёсцы Новы Двор, цэнтр с/с Мінскага раёна, на могілках XIX і XX стст, якія месцяцца на высокай гары, на схіле паміж магіламі ляжыць камень з выразаным паглыбленнем. Камень гэты, які цяпер выкарыстоўваецца як кветніца, моцна парос мохам і больш нагадвае пень, чым камень. Бясспрэчна, гэтая старая кропельніца раней стаяла ў храме, рэшткі якога захаваліся на самай вяршыні гары, а пасля разбурэння храма ў савецкія часы была скінутая долу.

Вылучаецца і група камянёў з паглыбленнямі невыразных формаў, якія часам нагадваюць варонку. Як, прыкладам, у вёсцы Кудзінавічы Капыльскага раёна, Каптаруны ды Янанішкі — Пастаўскага. Апроч таго, на тэрыторыі Беларусі ўжо зафіксавана больш за паўсотні вельмі вялікіх валуноў з невялічкімі адшліфаванымі ямкамі. Такіх ямак налічваецца ад адной да некалькіх дзясяткаў. З некаторымі такімі камянямі звязаны паданні пра закапаныя скарбы, а некаторыя валуны лічацца лекавымі. Думкі навукоўцаў аб прычынах высякання ямак розныя. Гэта маглі быць і сімвалы ўрадлівасці, і паглыбленні для ахвяраванняў, і своеасаблівыя каляндарныя знакі, і інш.

# Каменныя крыжы

Амаль што ўва ўсіх раёнах Беларусі, асабліва ў паўночных і цэнтральных, сустракаюцца каменныя крыжы, высечаныя з ледавіковых валуноў. Каменныя крыжы — гэта не толькі святыні, але і помнікі археалогіі, гісторыі, палеаграфіі, мастацтва і духоўнай культуры. Зазвычай іх можна сустрэць на месцах былых капішчаў, пры дарозе, на ўскрайках вёсак, каля вадаёмаў, храмаў, капліц, на старых могілках. Крыжы розныя памерамі і формаю, некаторыя з іх у вышыню дасягаюць 2-х метраў. На шмат якіх высечаны пэўныя знакі, літары і малюнкі. Да некаторых крыжоў на пэўныя святы сцякаюцца паломнікі і ахвяруюць ім грошы, кветкі, садавіну, інш., абвязваюць крыжы ручнікамі, фартушкамі або стужкамі. Як, скажам, у вёсцы Палачаны Маладзечанскага раёна, Хотамель — Столінскага, як у горадзе Тураве. Часам крыжы маюць уласныя назвы: *Святы Крыж, Чэсны Крыж, Кацярынінскі Крыж, Крыж-Баба, Каралеўскі Камень* і г. д.

Вельмі старадаўнімі лічацца тураўскія крыжы — у самім Тураве і ў яго ваколіцах. Паводле паданняў, крыжы прыплылі з Кіева ўверх па Прыпяці, інакш кажучы — супраць плыні. Згодна з легендамі, усе гэтыя крыжы ахоўваюць ад розных хвароб. Каля такіх крыжоў стаяць лампадкі: на іх навязваюць стужкі і хусткі. Некалі да іх насілі палатно, мяса, рыбу, грыбы. Над некаторымі крыжамі, як у вёсках Верасніца, Малы Малешаў Жыткавіцкага, Аздамічы, Хотамель — Столінскага раёнаў, стаялі капліцы і храмы.

Цяпер два вялікія каменныя крыжы знаходзяцца ў тураўскай Усіхсвяцкай царкве, а адзін крыж у капліцы каля могілак у вёсцы Пагост. У Аздамічах Столінскага раёна, згодна з паданнем, невялікі крыж вырас з-пад зямлі. Раней ён стаяў пасярэдзіне капліцы, а калі тая пачала разбурацца, крыж перанеслі ў кут і прымацавалі да сцяны жалезнымі скобамі. Зараз крыж перанесены да царквы. Каля крыжа просяць здароўя і ўспамінаюць памерлых сваякоў. «Растучы з зямлі» невялічкі крыж — вышыня 33 см, шырыня крылаў — таксама 33 см — стаіць на тураўскіх Барысаглебскіх могілках. Крыж лічыцца вялікай святыняй, да якой заўсёды сцякаецца шмат паломнікаў. «*Растучы*» каменны крыж ёсць і сярод балота каля вёскі Дарапеевічы Маларыцкага раёна. Каля яго моляцца і просяць выбавіць ад розных хвароб. Такія крыжы зафіксаваныя таксама ў Горацкім і Смаргонскім раёнах.



*Каменны крыж у Тураўскай Усіхсвяцкай царкве*

Да вельмі старадаўніх адносяцца каменныя крыжы каля вадаёмаў. Крыж архаічнай формы стаіць каля гары Царкоўка (*Рагнедзін Курган, Гара Рагвалода і Рагнеды*) на востраве возера Дрыса недалёка ад вёскі Перавоз Расонскага раёна. На беразе возера Глухое каля вёскі Галошава ў Талачынскім раёне каменны крыж завуць Крыж-Баба, або Кацярынінскі крыж.

Некалі каменны крыж стаяў у лесе каля былога невялічкага азярца недалёка ад вёскі Калюга ў Капыльскім раёне. Згодна з паданнем, раней на месцы крыжа быў горад, які затануў разам з царквой. На востраве возера Дрысвяты на Браслаўшчыне ёсць тры каменныя крыжы. Лічыцца, што іх паставілі пры будаванні храма ў імя трох святіцеляў — Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова і Яна Златавуста. На высокім беразе колішняга ляснога возера каля пасёлка Язбы Крупскага раёна яшчэ на пачатку XX ст. стаялі тры каменныя крыжы. Расказвалі, нібыта крыжы стаяць над магіламі нейкіх генералаў: Макараўскі і Маісееўскі крыжы — над магіламі рускіх генералаў, а крыж Скарпіён — над магілай французскага генерала. Потым у запале змагання з рэлігіяй крыжы разбілі. Цяпер на іх месцы зроблена сімвалічная магіла з жалезным крыжам, каля якога ляжаць рэшткі старадаўніх крыжоў. Сён-



*Каменны крыж на беразе возера Глухое каля в. Галошава, Талачынскі р-н.*

ня ў навакольных вёсках можна пачуць два варыянты падання: паводле першай версіі, тут пахаваны партызан Макар, удзельнік вайны 1812 г., а паводле другой — Макар-старац. Само месца завецца Макаравай Магілай.

Сакральным лічыўся каменны крыж на правым беразе ракі Пціч каля вёскі Парэчча Пухавіцкага раёна. Некалі над ім стаяла капліца. Цяпер там няма ані крыжа, ані капліцы. Быў некалі каменны крыж і на беразе рачулкі каля моста ў вёсцы Пляцы Сенненскага раёна. Паводле падання, на гэтым мосце правалілася і знікла без следу княгіня Сангушка. Князь з роспачы пракляў гэтае месца і назаўсёды закрыў дарогу. А праз нейкі час тут з'явіўся каменны крыж.

Шмат якія крыжы раней стаялі пры дарогах, а некаторыя — стаяць і цяпер. Як прыкладам, тры каменныя крыжы каля лясной дарогі з Бераснёўкі ў Заляддзе Докшыцкага раёна. Урочышча гэтае называецца Дзедаў Шмат. На крыжы і цяпер кладуць кветкі, грыбы, ягады... Каменнымі крыжамі асвячаўся стары шлях з Вільні ў Полацк, гэтак званая Альгердава дарога. Адзін з такіх каменных крыжоў захаваўся каля мястэчка Пліса ў Глыбоцкім раёне. Пра Федзькаў Крыж, які стаяў пры дарозе недалёка ад Заслаўя, расказвалі, што ён па-

стаўлены на месцы забіцця рабаўнікамі нейкага Федзькі, які вяртаўся з кірмаша пасля ўдалага продажу каровы.

Ідалападобны крыж быў пры дарозе каля мястэчка Даўгінава Вілейскага раёна. Цяпер ён стаіць у Мінскім музеі валуноў. Жаночападобныя крыжы ёсць у вёсках Заполле Бялыніцкага раёна і Буцькі — Пружанскага. Апошні перавезлі ў мясцовы краязнаўчы музей.

Можна сустрэць шмат цікавых каменных крыжоў на некаторых старых могільніках і нават на вяршынях курганоў. У вёсцы Вільча Жыткавіцкага раёна ёсць каменны крыж, які стаіць на вялікім кургане, кажуць, ён пастаўлены на магіле шведскага князя, забітага ў час вайны. А побач у невялікіх насыпах нібыта пахаваныя шведскія ваяры. Вялізны крыж захаваўся і на сярэдневечным могільніку каля вёскі Заазер'е Бялыніцкага раёна.

Крыж з схематычнай выявай рыцара стаяў пры лясной дарозе ва ўрочышчы П'яны Лес, або Каралёў Стан недалёка ад вёскі Вітунічы Докшыцкага раёна. Цяпер ён у Мінскім музеі валуноў. Выява рыцара з мячом у правай і шчытом у левай руцэ размяшчаецца ў сяродкрыжжы. Над галавой у рыцара карона, каля ног — літары «*RSB*», а ніжэй — два, адно ў адным, колы. З бакоў — выявы маленькіх крыжыкаў. Паводле падання, на каменным крыжы абедаў «*польскі кароль*» Стэфан Баторы і выбітыя колы абазначаюць міску. Згодна з іншым варыянтам падання, тут абедаў Напалеон.

Памежжам XVII—XVIII стст. датуецца крыж, які не так даўно стаяў на могілках у вёсцы Стража Кіраўскага раёна. Пасярэдзіне на крыжы — барэльефная выява чалавека ў шапцы, ботах і даўгаполым жупане, зашпіленым на гузікі і перацягнутым пасам. З бакоў помніка барэльефныя выявы гепардаў. Хутчэй за ўсё, чалавек на крыжы — партрэт нейкага нябожчыка-шляхціча.

У вёсцы Азярок Аршанскага раёна каменны крыж нібыта з'явіўся ў гады Паўночнай вайны і пастаўлены на магіле нейкага генерала, загінуўшага ў тутэйшых мясцінах. У Мішневічах Шумілінскага раёна каменны крыж быццам бы пастаўлены на магіле закаханых, якія трагічна загінулі. На полі каля вёскі Вялікія Дольцы Ушацкага раёна, паводле мясцовых паданняў, крыж стаіць на магіле дзяўчыны Казі, некалі забітай самасудам за тое, што нарадзіла пазашлюбнае дзіця. У вёсцы Радзілавічы (сучасная назва Дзяржынск) Лельчыцкага раёна два каменныя крыжы маюць назву Два Браты і лічыцца, што гэта помнікі на магіле братоў.

З шмат якімі каменнымі крыжамі, як і з культавымі камянямі, звязаны паданні пра схаваныя скарбы. І вельмі часта ў такіх



*Каменны крыж на сярэднявечным могільніку каля в. Заазер'е, Бялыніцкі р-н.*

паданнях фігуруюць маскоўскія скарбы, закапаныя французамі пры адступленні ў вайну 1812 года. Гэтак у вёсках Пабокавічы Бабруйскага раёна, Палачаны — Маладзечанскага, Вялікія Споры — Пастаўскага. Каля Ружанаў на Брэстчыне крыж нібыта паставіў нейкі цар на месцы закапанага ім золата.

З каменнымі крыжамі звязана і шмат забабонаў. Верылі, што такія крыжы лечаць, бароняць ад эпідэміяў, ворагаў, пажараў, іншых няшчасцяў. У сярэдзіне XIX ст. мінчане з вялікай павагай ставіліся да крыжа на Аляксандраўскім пляцы. У вёсцы Забалоцце Асіповіцкага раёна расказвалі пра аднаго чалавека, які надумаў забраць каменны крыж з могільніка і прадаць яго. Ён так і зрабіў. Але ў злодзея адняло ногі, і ён паправіўся толькі тады, калі вярнуў крыж на месца. Пра згаданы ўжо крыж з вёскі Вялікія Дольцы на Ушаччыне гаварылі, быццам некалькі разоў яго спрабавалі перавезці на могільнік і паставіць замест помніка. Але невядома адкуль з'яўлялася нейкая таямнічая сіла і не давала спакою тым, хто перавозіў крыж. Таму такія людзі заўсёды мусілі вяртаць крыж на старое месца.

# Літаратура

*Аникиевич, К. Т.* Сенненский уезд Могилевской губ. / К. Т. Аникиевич. — Могилев, 1907.

*Вінакураў, В.* Валуны-жывёлы / В. Вінакураў і інш. // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Мінск, 2004. — № 19 — С. 258—264.

*Вінакураў, В.* Валуны, з якімі звязаны паданні аб акамянелых людзях / В. Вінакураў і інш. // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Мінск, 2007. — № 22. — С. 245—254.

*Вінакураў, В.* Камяні-гойбіты / В. Вінакураў і інш. // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Мінск, 2005. — № 20. — С. 190—202.

*Вінакураў, В.* Культавыя валуны з штучнымі паглыбленнямі на Беларусі / В. Вінакураў і інш. // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Мінск, 2003. — № 18. — С. 231—251.

*Гарбуль, А.* Скарбы сівых валуноў / А. Гарбуль. — Паставы, 2002.

*Демиденко, Е. Л.* Значение и функции общефольклорного образа камня / Е. Л. Демиденко // Русский фольклор: Т. 24. — Л., 1987. — С. 85—98.

*Дучыц, Л.* Каменныя крыжы / Л. Дучыц // З глыбі вякоў. — Вып. 2. — Мінск, 1997. — С. 31—47.

*Дучыц, Л.* Камяні-следавікі Беларусі / Л. Дучыц і інш. // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Мінск, 1996. — № 9. — С. 133—141.

*Дучыц, Л.* Крыўска-літоўска-латышскія паданні пра культавыя камяні / Л. Дучыц // Druvis. — 2005. — № 1. — С. 117—121.

*Зайкоўскі, Э. М.* Камяні-краўцы як помнікі паганскага культу / Э. М. Зайкоўскі // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. — Полацк, 1992. — С. 22.

*Зайкоўскі, Э.* Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі / Э. Зайкоўскі. — Мінск, 1998.

*Зайцаў, А. П.* Гістарычныя камяні Вілейшчыны / А. П. Зайцаў // Вілейскі краязнаўчы зборнік. — Мінск, 2001. — С. 24—27.

*Зайцаў, А.* Сакральная геаграфія Вілейшчыны (паганскія культавыя помнікі Вілейшчыны) / А. Зайцаў // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 64—73.

*Иванов, В. В.* Исследования в области славянских древностей / В. В. Иванов, В. Н. Топоров. — М., 1974. — С. 4—30.

*Квятковская, А.* Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI—XVII вв.) / А. Квятковская. — Вильнюс, 1998.

*Киркор, А. Г.* Этнографический взгляд на Виленскую губернию / А. Г. Киркор // Этнографический сборник Императорского Русского географического об-ва. — Вып. 3. — Спб., 1858. — С. 179—180.

*Лабынцев, Ю.* Каменные «святые кресты» на современном Белорусском Полесье / Ю. Лабынцев // Загароддзе. — Мінск, 2001. — № 3. — С. 90—93.

*Левин, А. А.* Конь-камень / А. А. Левин // Памятники Отечества. — Вып. 1(9). — М., 1984. — С. 127—132.

Легенды і паданні. — Мінск, 1983.

*Лобачевская, О.* Женские антропоморфные кресты Беларуси: современные наблюдения и гипотезы / О. Лобачевская // Lietuvos kryste tarptautiniame kontekste (Литовские кресты в мировом контексте): Международная научная конференция. — Kaunas, 2005. — С. 58—61.

*Ляўкоў, Э.* Культавыя камяні Беларусі / Э. Ляўкоў і інш. // З глыбі вякоў. Наш край. — Вып. 2. — Мінск, 1997. — С. 47—68.

*Ляўкоў, Э. А.* Маўклівыя сведкі мінуўшчыны / Э. А. Ляўкоў. — Мінск, 1992.

*Ляўкоў, Э.* Чортавы камяні / Э. Ляўкоў і інш. // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Вып. XI. — Мінск, 2002. — С. 151—156.

*Макаров, Н. А.* К изучению культовых камней / Н. А. Макаров, А. В. Чернецов // Советская археология. — М., 1988. — № 3. — С. 79—90.

*Маланин, И. Д.* Следовики / И. Д. Маланин // Памятники Отечества. — Вып. 19. — М., 1989. — С. 130—134.

*Мялешка, М.* Камень у вераваннях і паданнях беларусаў / М. Мялешка. — Мінск, 1929.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильно, 1893. — С. 1—169.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильно, 1895.

Почитание крестов в Полесье: (материал подготовлен *О. М. Толстой, О. В. Беловой*) // Живая старина. — 1996. — № 3. — С. 44—45.

Смесь. 1: К вопросу о дуалистических поверьях о мироздании // Этнографическое обозрение. 1891. — М., 1891. — № 1. — С. 252.

*Татур, Г. Х.* Археологическое значение Минской губернии / Г. Х. Татур // Памятная книжка Минской губернии на 1878 г. — Ч. 2. — Минск, 1879. — С. 121—122.

*Шейн, П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края: Т. 2. / П. В. Шейн. — СПб., 1893. — С. 437—453.

*Шыдлоўскі, К.* У госці да каменнай Дубіцы / К. Шыдлоўскі // Павет. — Браслаў, 2003. — № 11(24). — С. 1—2.

*Halicka, A.* Materialy do charakterystyki petrograficznej zabytkowych głazów narzutowych Wileńszczyzny / A. Halicka // Prace Muzeum Ziemi. — W-wa, 1986. — Z. 38. — S. 55—64.

*Kulwieć, K.* Żywe kamienie / K. Kulwieć // Ziemia. — 1910. — № 1. — S. 1—5.

*Mazurkiewicz, M.* Kamień: dzieło Boge czy diabelska sprawka? / M. Mazurkiewicz // Akcent. Literatura i Sztuka. Kwartalnik. — 1986. —№ 4 (26). — S. 52—55.

*Szukiewicz, W.* Wierzenia, przesądy i zabobony ludu naszego / W. Szukiewicz. — 1924. — S. 117—118.

*Tarasenka, P.* Pedos akmenyje / P. Tarasenka. — Vilnius, 1958.

*Ulanowska, S.* Kamień w symbolie i podaniach / *S. Ulanowska* // Ateneum: T. IV. — W-wa, 1888. — S. 525—545.

*Urtans, J.* Pēdakmeni, robežakmeni, muldakmeni / *J. Urtans.* — Rīga, 1990.

*Vaitkevičius, V.* Akmenys su ploksciadugniais dubenimis Lietuvoje ir Latvijoje / V. Vaitkevičius // Lietuvos archeologija: T. 18. Vilnius, 1999. — S. 227—242.

# Сусветнае дрэва. Культ дрэў у беларусаў

У беларусаў, як і ў іншых індаеўрапейскіх народаў, культ дрэў заўсёды быў часткай агульнага абагаўлення прыроды. Паводле старажытных уяўленняў нашых продкаў, касмічная светабудова шматпавярховая і зусім не простая. Яна складаецца з некалькіх самастойных сусветаў, ізаляваных адзін ад аднаго ўсялякімі перашкодамі. І ў той жа час гэтыя сусветы аддзеленыя не цалкам, яны маюць стасункі паміж сабою. З зямлі можна патрапіць на неба або спусціцца ў пекла. Тое, што звязвае гэтыя сусветы, праходзіць праз іх ды служыць ім стрыжнем, і ёсць гэтак званая сусветная вось. Лічылася, што яна месціцца ў самым цэнтры Космасу і, будучы галоўным апорным стаўпом, звязвае ўсю махіну светабудовы.

Найбольш вядомы ў старажытнай культуры вобраз апорнага стаўпа — вобраз сусветнага дрэва. А ў самым цэнтры ўсяго Космасу, хоць іншым разам і наадварот — далёка на ўскраіне, «у лукамор'я», высіцца вялізарнае дрэва, чыя макаўка ўпіраецца ў нябёсы, а карані дасягаюць пекла. Рэшткі гэтых уяўленняў захаваліся ў прымхах і забабонах, паданнях і легендах, дзе расказваецца, што па цудадзейным дрэве можна патрапіць у іншыя сусветы касмічнай прасторы. Больш за тое, па такім дрэве быццам бы спускаецца і падымаецца ўверх-уніз сам Госпад Бог.

Тэма вандравання па дрэве датычыць і душы памерлага, якая ў гэтым працэсе ператвараецца ў таго ці іншага звера. У старажытным творы ўсходніх славян «Слова пра паход Ігараў» расказваецца пра міфічнага народнага героя і песняра — Баяна, які валодае чароўнымі здольнасцямі ператварэння ў разнастайных жывёл і ў такім выглядзе вандруе па нейкім фантастычным дрэве. Спрадвеку ўменне пераўвасабляцца прыпісвалася не толькі нябожчыкам і чараўнікам, але і песнярам-казачнікам, чыё прарочае мастацтва лічылася надпрыродным дарам.



*Дуб Якуб каля в. Казлы, Нясвіжскі р-н.*

Невыпадкова з вобразам сусветнага дрэва звязаны лік тры. Падзел чароўнага дрэва на тры часткі адпавядае траістасці міфічнага сусвету. Дарэчы, колькасць жывёл, у якіх ператвараецца міфічны Баян — таксама тры: арол, вавёрка («мысь») і воўк. Кожны вобраз суадносіцца з трыма ўзроўнямі Сусвету: арол адпавядае небу, вавёрка — сярэдняму ўзроўню, воўк — дольняму свету.

У міфа-паэтычнай карціне беларускага свету разнастайныя дрэвы выступалі сімваламі вечнага жыцця і ўяўлялі сабою сусветную вось, розныя ўзроўні якой тлумачылі светабудову ўсяго космасу. У нашай міфалогіі камель сусветнага дрэва заўсёды асацыяваўся з сярэдзінным узроўнем — зямлёй і чалавечым родам, які жыве на ёй. На вяршыні такога дрэва, якая

ў беларускай міфалогіі заўсёды тоесная вяршыні Святой Гары, жывуць багі, а ў дольняй частцы ляжыць іншасвет і сядзяць злыя духі. Даволі часта ў беларускім фальклоры старажытная назва раю і райскага Сусветнага дрэва, у вяршынях якога жывуць птушкі і душы памерлых, асацыявалася з выраем.

З часам вобраз сусветнага дрэва ўскладніўся і ўзнікла ўяўленне, што, апроч зямнога сусветнага дрэва, існуе і сусветнае нябеснае дрэва, карані якога ў нябёсах, а макаўка звешваецца да зямлі. Вельмі цікава, што пра такое старажытнае дрэва гаворыцца і ў старабеларускай замове, дзе згадваецца чарадзейная бяроза, якая расце «на моры-акіяне ўверх каранямі». Адсюль і перавернутае ўспрыняцце выраю, які, паводле некаторых старабеларускіх уяўленняў, ляжыць пад каранямі сусветнага дрэва, куды на зіму спаўзаюцца ўсе змеі.

Апроч звязвання сусветаў у адно цэлае, важная функцыя сусветнага дрэва палягала ў тым, што яно ў канцэнтраванай форме ўвасобіла ў сабе ідэю ўрадлівасці. А ў выніку — невычарпальную жыццёвую энергію, вечнае абнаўленне і адраджэнне. Чалавек заўсёды прасіў у багоў, каб яны паслалі яму больш ежы, дзічыны, збожжа і вільгаці, пільна патрэбнай для ўроды. Паводле народных забабонаў, усё гэта ў дастатку было пад чарадзейным дрэвам. Там б'юць жыватворныя крыніцы, якія прыносяць сілу і несмяротнасць, там буяюць і выспяваюць разнастайныя расліны і плады, там мірна пасвяцца ўсялякія жывёліны.

Не дзіва, што культ дрэў у нашых продкаў займаў такое значнае месца ў агульным кульце прыроды. Больш за тое, сусветнае дрэва не толькі ўвасабляе лішак усяго жыццёвага, але і дасылае дзяцей. Успомнім знакамітую легенду пра паходжанне роду Радзівілаў, дзе гаворыцца, як бяздзетны князь Нарымунт у час палявання знайшоў у гняздзе чароўнага дрэва маленькага хлопчыка. Немаўлятка князь палічыў за падарунак бога Перуна і ўсынавіў. Пазней з хлопчыка вырас знакаміты жрэц і вяшчун, празваны Лідзейка (ад *lidas* — гняздо), да якога па парады звяртаўся сам Вялікі Гедымін. А ад слова «радзіць» Лідзейку дадалася яшчэ адна мянушка: Радзівіл.

Апрача таго, нашы продкі ўяўлялі, быццам дрэвы могуць пераходзіць з месца на месца, гаварыць і міжсобку, і з людзьмі, абяртацца ў чалавека. У беларускіх баладах пашыраныя матывы пра загубленых нечай злой воляй за-

каханых. Такія няшчасныя людзі па смерці ператвараюцца ў звычайныя дрэвы, якія вырастаюць на іх магілах, пераплятаюцца паміж сабою галінамі, і, такім чынам, працягваюць кахаць адно аднаго. Лічылася, што ў рыпучае дрэва перасялялася чалавечая душа. Калі такое дрэва пачынаюць сячы, з яго, паводле павер'яў, цячэ кроў, чуваць стогны, і наогул падобныя дзеянні вымушаюць няшчасную душу шукаць іншага прытулку.

Звычайна вылучалі дрэвы, пазначаныя ўдарам маланкі, асабліва старыя дубы і ліпы з скразным дуплом. Праз такія дуплы пралазілі хворыя людзі і як бы пакідалі там усе свае хваробы. Да святых адносілі і некаторыя бортныя дрэвы. Шмат іх расло па дарозе ад вёскі Даманавічы (Салігорскі р-н) да Князь-возера (Чырвонае возера). Святым дрэвам насілі хлеб, соль, яйкі, загорнутыя ў белую халсцінку. На галінкі дрэў вешалі ніткі, стужкі, ручнікі, часам ручнікамі абвязвалі і камель дрэва. Часта паклоннае дрэва расло ў цэнтры прошчы і выконвала ролю боства. Каля такіх дрэў чыніліся адвечныя сакральныя абрады і вырашаліся маральна-прававыя пытанні.

## Дубы-асілкі

Як сведчаць шматлікія гістарычныя і этнаграфічныя крыніцы, заўсёды ў вялікай пашане быў у нашых продкаў святы дуб. Паводле міфалагічных уяўленняў, ён найчасцей звязваўся з мужчынскімі боствамі. У старажытных грэкаў дуб лічыўся Зеўсавым дрэвам, у рымлян — Юпітэравым, у літоўцаў — Пяркунасавым, у беларусаў — Перуновым. Шмат дзе дуб называлі царом дрэў. Нават да нашага часу захаваліся такія назвы дубоў. Так, у лесе недалёка ад вёскі Гарадзішча Докшыцкага раёна і Пажэжын — Маларыцкага старое дубовае дрэва завецца Цар-Дуб, а каля вёскі Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага раёна, апроч Цара, існуе яшчэ і Царыца-Дуб. У старажытнай культуры гэтае дрэва звязвалі з культам продкаў, з пераваўсабленнем душ памерлых. Універсальнасць дуба яшчэ і ў тым, што ён у фальклоры беларусаў часцей за ўсё сімвалізаваў сусветнае дрэва. Верхняя частка гэтага дрэва належала Богу, святлу, дабрыні і ведам, а карані дуба трывалі ў падземным свеце памерлых. Больш таго, пад імі, згодна з павер'ямі, быў уваход у іншасвет. Таму ў шмат якіх раёнах



*Святы дуб, з-пад каранёў якога выцякае крыніца, в. Радзюкі, Навагрудскі р-н.*

Беларусі да сакральных дубоў прыходзілі на Радаўніцу, ахвяравалі ім памінальныя стравы, а на іх галінках развешвалі ручнікі і стужкі. Невыпадкова многія курганныя могільнікі ў нашай краіне часта месцяцца менавіта ва ўрочышчах пад назвамі *Дубкі, Дубняк, Дубішча, Дубавіца, Дубовы Грудок, Дубет, Задубенне*, інш.

Згодна з народнымі павер'ямі і фальклорнымі тэкстамі, на вяршыні дуба сядзеў цар птушак — арол або сокал. Успомнім валачобную песню: *...Вырас дубок тонак, высок, // Тонак, высок, падгалісты. // А на том дубу чоран арол, // Чоран арол гняздзечка ўець.*

У беларускіх казках даволі часта сустракаецца такі эпізод, калі па дрэве герой трапляе ў нябеснае царства. Але яшчэ часцей гэта здараецца з нябожчыкамі. Нездарма ў нашай мове ёсць фразеалагізмы і словы кшталту *глядзець у дуб, даць дуба, адубець* і г. д. Так у народзе гаварылі пра безнадзейна хворых,

якія вось-вось мелі памерці, бо, паводле старажытных паганскіх уяўленняў, памерлыя падымаюцца па міфічным дубе на неба да сваіх продкаў. У беларускай прыпеўцы сустракаем: *Як гуляла, дык гуляла, // Дык гуляла вельмі, // Зачыніла міленькага // Дубовымі дзвермі.*

Асобныя дубы захаваліся каля сакральных крыніц і камянёў, мабыць, даўней там былі святыя дубровы. Многія дубы маюць уласныя імёны: *Волат* у Мінску, *Асілак* у вёсцы Брыцалавічы Асіповіцкага раёна, *Святы Дуб* у вёсцы Гендзікі Полацкага раёна. Зафіксаваны і такія назвы дубоў, як *Дуб-Дзядуля, Перуноў Дуб, Стары, Добры, Красны.* Ёсць найменні дубоў, звязаныя з гістарычнымі асобамі. Так, *Вітаўтаў* або *Вітултаў Дуб* у дакументах 1627 года згадваецца каля вёскі Прудзіны Бешанковіцкага раёна. У саміх Бешанковічах людзі і цяпер паказваюць на дуб, пад якім нібыта адпачываў Напалеон. Нешта падобнае расказваюць і пра старыя дубы каля дарогі з Шаркаўшчыны ў Глыбокае, а таксама каля мястэчка Опса на Браслаўшчыне і Лынтупы на Пастаўшчыне.

Зазначым сюжэт padання, калі нехта пасля цяжкай дарогі адпачывае пад дрэвам, — вельмі пашыраны. І ў асноўным такое расказваюць пра старыя дубы, якія ў свой час былі культавымі, а потым іх звыкла сталі звязваць са знакавымі гістарычнымі асобамі. Так, дуб Адама Міцкевіча рос некалі ў Шчорсах Навагрудскага раёна, а дуб Аляксандра Блока ў в. Колбы Пінскага раёна існуе і сёння. Ёсць і такія назвы дубоў, як *Палікарпаў, Саўкін, Целешаў.* Прыкладам, Саўкін Дуб расце каля вёскі Валова Гара Лепельскага раёна.

У беларускай народнай традыцыі заўсёды было прынята насіць да дубоў ахвяры. У канцы XVIII ст. у Панарскім лесе — прадмесце Вільні — народ збіраўся да Святога Дуба, каб спраўляць там старадаўнія паганскія абрады. А перш чым спаліць свае ахвяраванні, людзі станавіліся на калені, адбівалі паклоны. Існавала павер'е: хто дакранецца сякерай да дуба і пачне стукаць па ім, абавязкова пашкодзіць сябе, а то і памрэ неўзабаве. Потым мясцовыя манахі-іезуіты, змагаючыся з паганствам, гэты святы дуб знішчылі.

У сярэдзіне XIX ст. на Барысаўшчыне сярод глухога лесу ў дупле старога дуба сяляне знайшлі два язычніцкія ідалы: адзін з срэбра, а другі з бронзы. На гарадзішчы паміж вёскамі Лук'янаўка і Леніна (былая назва Папоўка) Добрушскага раёна некалі быў паклонны дуб, а потым яшчэ доўга існаваў

і ўшаноўваўся пень ад яго. У пачатку XX ст. пень згарэў, а потым у яго рэштках знайшлі пяціфунтавы злітак срэбра.

Дубу Волату на капішчы, што існавала ў Мінску на беразе Свіслачы, яшчэ ў пачатку XX ст. насілі ручнікі. Жалуды з дрэва лічыліся святымі, імі карысталіся ў якасці абярэгаў ад усялякіх хвароб. У пачатку XX ст. у лесе каля Ашмянаў пакланяліся тамтэйшаму дубу. Яго называлі Дэвайціс, што ў перакладзе з літоўскай мовы значыць 'боства'. На ўзгорку каля вёскі Царкавішча Ушацкага раёна з-пад дуба выцякала крынічка. Дуб і крыніца лічыліся святымі. Вадой лячылі вочы, а ў дупло клалі плату за лячэнне. У 1923 г. чырвонаармейцы спалілі святое дрэва, але ўсё роўна людзі яшчэ доўга хадзілі на гэтае месца і складалі ахвяраванні на абгарэлы пень. У лесе каля вёскі Жукавец Бярэзінскага раёна ад святога дрэва таксама застаўся трухлявы пень, якому зусім нядаўна насілі ахвяры толькі паляўнічыя. Калі забівалі лася ці іншага звера, ахвяраваннем было сэрца жывёлы, а калі нейкую птушку, то абмяжоўваліся некалькімі пёркамі.

У вёсцы Міколка на Уздзеншчыне каля старой драўлянай царквы не адно стагоддзе рос магутны дуб. Паданне расказвала, што пад яго каранямі ляжыць залаты скарб, які закапалі французы ў час вайны 1812 г. Побач з дрэвам ставілі драўляныя крыжы, на іх вешалі ручнікі. У народзе верылі, што калі дуб вырваць з коранем, то скарб пад ім абавязкова адкрыецца. Яшчэ зусім нядаўна ахвяравалі манеты і Святому дубу на беразе ракі Мядзелкі недалёка ад касцёла ў Паставах. У лесе каля крыніцы побач з вёскай Заазер'е Акцябрскага раёна нават і сёння перад дубам становяцца на калені і моляцца яму.

Нават у канцы 1940-х — пачатку 1950-х гадоў вера ў сілу дубоў была вельмі моцнай. Так, у вёсцы Дзяржынск (былой Радзілавічы) Лельчыцкага раёна кожны падарожны, ды нават і мясцовы жыхар, перш чым увайсці ў вёску, мусіў пакланіцца святому дубу перад паселішчам і пакласці туды свае ахвяраванні.

Каля вёскі Пажэжын Маларыцкага раёна мясцовы Цар-Дуб у 1950-ыя гады «вянчаў» маладых. Маладыя па дарозе ў царкву спачатку заязджалі ў лес і абавязкова спыняліся каля дуба, а бывалі выпадкі, калі наогул да царквы не даязджалі. Тады ўсё вяселле ішло да патрыярха-дуба, і сват казаў:

*Бацюхна, патрыярх наш! Цар лясоў нашых! Блаславі маладых на жыццё добрае і доўгае, такое, якое ты сам пражыў.*



*Святы дуб каля в. Чаша, Клецкі р-н.*

*Каб над іхнымі галовамі толькі мірныя вятры праляталі, ды адно з жыватворнымі дажджамі!*

Маладыя кланяліся дубу, а за імі і ўся вясельная дружына. Пасля на палянцы каля дуба пачыналі спяваць і танцаваць.

Культ дуба ў нашых продкаў заўсёды звязваўся з культам бога навальніцы і маланкі Перуна. Паводле нашых старажытных уяўленняў, *Пярун выязджаў з свайго раскошнага замка і прычэсваў зялёны дуб, які там стаяў.* Здаўна вядомы старадаўні звычай здабывання агню ад трэння адзін аб адзін кавалкаў дубовага дрэва. Калі разглядаць гэтае святое дрэва ў якасці сусветнага, то, згодна з народнымі ўяўленнямі, ля кораня дуба сядзіць праціўнік Перуна — міфічны Змей, ахоўнік уваходу ў царства памерлых. Падобны матыў сустракаецца і ў замове ад укусаў гадзюкі:

*На моры на сінім стаяў дуб дубаваты. Пад тым дубам ляжаў гад гадаваты. Гад-гадзіца, гадава царыца, я вас усіх знаю, усіх на імя называю... і ўсім вам яд замаўляю.*

Лічыцца, што бог навальніцы найчасцей пасылае маланкі на дуб, бо палюе на свайго праціўніка. Тады Змей можа схавацца нават у дупло. Вобраз Змея знайшоў сваё адлюстраванне ў вобразе казачнага Кашча Несмяротнага, чыя смерць схавана менавіта ў куфэрку, які вісіць у шатах дуба. А хто з нас не помніць казак пра беларусіх асілкаў, чые булавы былі менавіта з гэтага дрэва!

Пра культавую ролю дуба сведчаць і паднятыя з дна Дзясны ды Дняпра старажытныя дубы, у камлі якіх былі ўвагнаныя пашчэнкі дзікоў ікламі ўверх. На камлях дрэў былі заўважныя сляды ад вогнішча, мабыць, абрадавага. Знойдзеныя дубы гавораць пра цесную знітаванасць культу звяроў з культам святых дрэў. Менавіта ў гэтым моманце злучаецца культ магутных прадстаўнікоў мясцовай фаўны і флоры — дзіка і дуба. Абодва гэтыя культы, адпаведна, цесна звязаныя з богам маланкі і навальніцы, апекуном князя і яго дружыны — Перуном. Таму некаторыя даследчыкі лічаць, што знойдзеныя дубы з інкруставанымі ў іх ікламі дзікоў былі часткай абраду пакланення богу маланкі і навальніцы.

## Святыя хвaiны: сосны і елкі

Другое пасля дуба месца ў павер'ях беларусаў заслужана займае сасна. У замовах яна часта заступае сабой Сусветнае дрэва:

*Стаіць у бару сасна, усяму бору прыкрасна. Пад тою сасной залаты тын, пад тым тынам залатое крэсла. А ў тым крэсле сам Гасподзь Сус Хрыстос сядзіць...*

На сакральнасць сасны і яе святасць паказвае легенда, запісаная ў раёне Нясвіжа, дзе расказваецца пра аднаго пчаляра-бортніка, ператворанага Богам у жаўну за тое, што той у нядзелю не святкаваў, а выдзёўбваў у сасне борць для пчол.

У архіўных дакументах XVIII ст. некаторыя сосны называюць уласнымі імёнамі: *Галяшова Сосна* ў былой вёсцы Доўгае Гарадоцкага раёна, *Марына Сосна* ў былой вёсцы Масцішча Расонскага раёна, *Пятрова Сосна*, або *Пятрова Дрэва*, паміж вёскамі Мервіна і Цімошанкі (Руднянскі р., Смаленская вобл.

Расіі). Ёсць і такія назвы дрэў, якія захавалі падзеі войнаў з шведамі або французамі, інш. Так, лес каля мястэчка Любча на Навагрудчыне некалі меў назву *Шведскія Сосны*. А каля вёскі Дзянісы на Мёршчыне лічылі, што пад мясцовай сасной у час шведскай вайны быў схаваны скарб. Каля вёскі Рудня на Краснапольшчыне скарб ужо нібыта закапалі пад сасновым крыжам самі шведскія афіцэры. Падобнае паданне захавалася і ў вёсцы Узрэчча Глыбоцкага раёна, дзе лічаць, што на кургане пад сасной, названай *Французская*, таксама закапаны скарб. Святыя сосны былі і ў вёсцы Шклянцы Докшыцкага раёна, на іх нібыта бачылі самога Ісуса Хрыста.

Шэраг паданняў расказвае пра ператвораных у сасну людзей. Прыкладам, у сасну Куліну ператварылася жонка аратага Сцяпана каля вёскі Краснікі Докшыцкага раёна. Паданне расказвае:

*Жыў селянін Сцяпан. І пайшоў ён на Вялікдзень араць поле. А жонка Акуліна прынесла яму ў збанкох палуднаваць. Пакуль ён еў, жонка сварылася на мужыка, што працуе ў свята, а калі ішла дадому, то кінула з злосці: «Каб ты каменем узяўся!». Сцяпан таксама ўзлаваўся і кінуў ёй у адказ: «А ты каб Кулінай стала!». І як толькі ён узяўся за плуг, то адразу скамянеў, а жонка ператварылася ў хвою, якую і празвалі Кулінай.*

У вёсцы Воўкавічы Навагрудскага раёна ў першы дзень Вялікадня гаспадар таксама араў зямлю на двух валах. Як толькі ўзараў першую баразну, валы раптам ператварыліся ў камяні, а чалавек зрабіўся сасной.

На некаторых прошчах таксама існуюць паклонныя сосны. Так, у лесе каля вёскі Шчыткавічы Старадарожскага раёна ёсць знакамітая на ўсю гістарычную Случчыну прошча, дзе ў пачатку XX ст. на кары старой сасны былі нашкрабаны выявы сабакі, ката, пеўня, бусла і шчупака. Гэтай сасне насілі ахвяры.

На прошчы каля вёскі Будча Ганцавіцкага раёна вялізную сасну і цяпер абвязваюць стужкамі, за якія затыкаюць грошы і кветкі. У лесе каля вёскі Ніўкі на Лагойшчыне каля святой крыніцы расце высокая сасна, на якой заўсёды вісеў і ў наш час вісіць вялікі абраз. Побач стаяць драўляныя крыжы. На святы, асабліва на Юр'я, пад сасну кладуць ахвяраванні ў выглядзе грошай, кавалкаў каўбасы і сала, цукерак, а саму сасну абвязваюць ручнікамі. Паданне пра яе апавядае:

*У палацы каля вёскі Заазер'е жыў пан, які надта любіў паляваць. І от неяк жонка просіць яго, каб упаляваў ёй*



*Святая сасна на прошчы ў лесе каля в. Будча, Ганцавіцкі р-н.*

*жар-птушку, а яна зробіць чучала. Паляўнічы без вялікай ахвоты пагадзіўся. Ён доўга блукаў па лесе, аж нарэшце стаміўся ды сеў адпачыць пад хвойкай. І тут раптам чуе: нешта шамаціць на дрэве. Падняў галаву, а там жар-птушка. І хоць паляўнічы шкадаваў птушкі, але забіў-такі яе і радасны паляцеў да жонкі. Толькі калі падходзіў туды, дзе стаяў іх палац, то ўбачыў на тым месцы вялікае возера. Паляўнічы разам з стрэльбай і забітай птушкай з роспачы ступіў у возера і доўга йшоў, аж пакуль не накрыла яго з галавою цёмная вада.*

Паклонная сасна была на Святой Гары недалёка ад вёскі Стралкі Верхнядзвінскага раёна, якую не так даўно скапалі. Каля гэтай сасны заўсёды адзначалі Купалле. На балоце каля вёскі Шаршуны Мінскага раёна пра тры сасны, якія раслі адна пры адной, існавала паданне, быццам там правалілася царква. Яшчэ зусім нядаўна ў адтуліну адной з соснаў клалі грошы.



*Святая сасна ў в. Старыя Пышачы, Крупскі р-н.*

У вёсцы Старыца на Капыльшчыне старыя людзі і сёння ўспамінаюць вялікую сасну пры дарозе. Некалі прыносілі сюды ахвяраванні: ільняныя вырабы, кветкі, нацельныя крыжыкі. Пасля знішчэння сасны людзі прыходзяць на тое месца па пэўных святах і кладуць на пень грошы. Пра дрэва хадзіла паданне, быццам аднаму селяніну, хвораму на вочы, прысніўся прарочы сон: каб вылечыцца, ён мусіць паставіць крыж побач з сасной — паставіў і сапраўды неўзабаве паправіўся. Ад тае пары сюды людзі носяць ахвяры.

Лекавыя хвоі ёсць і ў Крупскім раёне. Скажам, у вёсцы Старыя Пышачы вераць: калі хворы чалавек абдыме святую сасну і пратрымаецца так некалькі хвілін, дык да яго памалу вернецца здароўе. А ў былой вёсцы Ліцвінка на святой сасне быў выбіты крыж. Калі хлопцы адыходзілі ў войска, то на развітанне падыходзілі да сасны, каб дакрануцца і пастаяць так колькі хвілін.

У вёсцы Мішневічы Шумілінскага раёна святой лічаць старую хвою, што расце побач з вялікім каменным крыжам.

Нават сёння там расказваюць паданне пра прыгожую дзяўчыну Гарыславу:

*Гарыслава служыла ў пана пакаёўкай. Пан вельмі хацеў аддаць яе за свайго пачварнага сына, а Гарыслава кахала вясковага хлопца. Гаспадар даведаўся пра гэта і зацкаваў дзецюка паляўнічымі сабакамі. А дзяўчыне наказаў збірацца да вяселля з панічом. Гарыслава не змагла пагадзіцца з такой нядоляй і забіла панскага сына нажом. А назаўтра яе жывой закапалі каля вёскі, прыцягнулі на магілу вялізны крыж і пасадзілі сасну.*

Пра культавыя сосны ў Лідзе таксама расказваюць паданне:

*Некалі сюды прыйшлі дзевяць законнікаў-францысканцаў, каб навучаць хрысціянскай веры. Але людзі не прызнавалі новай веры. Яны забілі місіянераў, а трупы паскідалі ў яму на схіле гары каля замка. Потым на тым месцы выраслі дзве хвойкі. А на той час людзі ўжо парабіліся каталікамі, і таму шанавалі тыя дрэвы, не чапалі. Але нехта раз узяў адсёк галінку з хваіны і ўбачыў, як з яе закапала кроў. От ад тае пары ніхто больш не адважваецца ўзняць сякеру на гэтыя хвойкі.*

У беларускай міфалогіі сакральнасцю вызначаецца і елка. У адной з замоў гаворыцца:

*Устану я рана-раненька, умыюсь бела-бяленька, пайду ў чыстае поле, зірну на сіняе мора. На сінім моры выспа, на выспе зялёная ель, на той елі шаўковая плець, на той плеці залатое чарасло, на том чарасле Прэсвятая матэр Божая стаяла. Суса Хрыста на руках дзяржала...*

На брэсцка-гомельскім памежжы, каб лепш урадзіла жыта, на свята Юр'я дзяўчаты і хлопцы прыбіралі кветкамі невялікую елачку і хадзілі з ёю спачатку па вёсцы, а потым ішлі ў поле і пад тое спявалі:

*Карагод, карагод, сам Бог наперод...; Дзе карагод ходзіць, там жыта родзіць, а дзе ён не бывае, там жыта ўлягае.*

Часам да ўсяго абрадавага цыклу выпякалі адмысловы каравай, а замест елачкі выносілі на поле своеасаблівы сцяг, тронкам якога служылі граблі, а палатном — белы і чырвоны фартушкі.

Сасна і елка ў беларускай міфалогіі часам выступаюць і як дрэвы смерці. На Усходнім Палессі і Чарнігаўшчыне лічаць, што елку нельга садзіць каля дома, а то «сям'я звядзец-

ца». На Беласточчыне ў адной з легендаў расказваецца пра музыку, які з елкі, што вырасла на могілках, зрабіў чароўную скрыпку. Але ў яе мелодыях увесь час чулася жалобнае галашэнне, плач і енкі.

У некаторых раёнах Заходняга Палесся соснамі наўмысна абсаджваюць могілкі. Лічыцца, што дрэвы апякуюцца над памерлымі і ёсць іх уласнасцю. А калі навальніца раптам адарве з іх які сук, то яго можна ссунуць толькі з той магілы, куды ён патрапіць, але ні ў якім разе не несці па-за межы саміх могілак.

# Ліпы, бярозы і грушы

Ліпа ў беларускім фальклоры, у прыватнасці, у замовах таксама фігуруе як Сусветнае дрэва:

*У полі стаіць ліпавы корч, пад ліпавым карчом ліпава калода, на той калодзе шло тры дзевы Марыі. Яны шэпчуць ад усякіх гадаў, ад усякіх ядаў...*

І выкарыстоўваецца ліпа ў якасці абярэгу. Ліпавае лыка не толькі адганяла ўсялякіх нячысцікаў, але і пазбаўляла іх шкоднай сілы. Нашы продкі затыкалі ліпавыя галінкі за дзверы ў хляве, каб ахаваць жывёлу ад жудаснага дэмана Мары. На Палессі ліпа ўжывалася як лекі і магла замяніць дуб: вакол яе абносілі хворых дзяцей і прасілі збавіць іх ад начніцаў (няспання), а жанчыны, каб засцерагчыся ад яласці (няплоднасці), хадзілі вакол старой ліпы. У беларускіх замовах ад змей, апроч дуба, можа выступаць аб'ектам і ліпа:

*У полі за полем стаіць ліпа Матруна, у той ліпы Матруны полнае гнязда, у том гняздзе зьмея Шкуропея...*

Ува ўсіх усходніх славян, у тым ліку і беларусаў, ліпа сімвалізавала сабою жаночы пачатак і лічылася дрэвам Багародзіцы. Верылі, што пад гэтым дрэвам адпачывае сама Божая Маці, калі сыходзіць на зямлю і карае тых, хто чыніць шкоду яе дрэву. Як сведчаць паданні, на ліпе часцей, ніж на астатніх дрэвах, з'яўляюцца цудадзейныя абразы, таму ў яе ніколі не б'е пярун. Ліпа як абагаўляемае дрэва можа выканаць і жаданні простых людзей. Прыкладам, у архаічных паданнях расказваецца, як яна ператварае аднаго чалавека і ягоную жонку ў мядзведзей, калі тыя захацелі, каб іх усе баяліся. Аб лучнасці мядзведзя з ліпай

гаворыць і казачны сюжэт пра ліпавую мядзведзеву нагу, якая памагае яму патрапіць у вёску да людзей.

Апрача таго, ліпа ў беларускім фальклоры заўсёды мела гаючыя ўласцівасці. На пачатку XX ст. былі вельмі папулярныя тры «лекавыя ліпы» каля вёскі Капланцы Бярэзінскага раёна. Недалёка ад іх ляжала Святое возера і цёк Святы ручай, над вытокам якога стаяла каплічка. На гэтым святым месцы па пэўных датах чыніліся фэсты і кірмашы. Адно з дрэў ад удару бліскавіцы згарэла, а астатнія два працягвалі «лячыць» людзей. Хвораму, каб ачуняць, трэба было пралезці праз адтуліну ў дрэве, а потым разарваць на сабе тую частку адзення, якая датыкалася хворага месца. Гэтыя шматкі старой вопраткі пакідалі каля дрэва і адзявалі новае. Паводле павер'яў, кавалкі старога адзення нельга збіраць, іначай хвароба можа перайсці на таго, хто іх падняў.

Яшчэ выразней, чым ліпа, жаночы пачатак сімвалізавала бяроза. Галінка бярозы, якая зраслася з дубам, ужывалася ў любоўнай магіі: з ёю дзяўчына незаўважна абыходзіла хлопца або паіла яго ўзварам кары гэтай бярозы. У Рэчыцкім Палессі вядомая легенда пра паходжанне бярозы і асіны. Бог за людскія грахі абярнуў жанчыну бярозай, сказаўшы: «ідзі ў поле і будзь бярозай да і плач там, апусціў рукі, бо ты — бяроза», а мужыка ў асіну: «ідзі ў лес, будзь асінай і калаціся там да канца свету». У некаторых палескіх вёсках пры пахаванні жанчын іх цела накрывалі галінкамі бяроз, а цела мужчын — галінкамі таполі. На Чарнігаўшчыне лічылі, што пасаджаная недалёка ад дому бяроза выклікае жаночыя хваробы ў яго жыхарак, што наросты на яе камлях утвараюцца быццам ад «бабскіх праклёнаў». А пры дзіцячых хваробах дзяўчынак там вадзілі лячыць да бяроз, а хлопчыкаў — да дубоў.

У вясельным песенным фальклоры беларусаў бяроза — сімвал дзяўчыны. Ссечаная бяроза абазначае замужжа або смерць дзяўчыны. У галашэннях «зялёнымі кусточкамі» звалі памерлых братоў, а «белымі бярозамі» — памерлых сёстраў.

У шматлікіх беларускіх баладах, легендах і казках загубленая дзяўчына ператвараецца ў бярозу, якая ў народнай свядомасці заўсёды асацыюецца з дэманічнай істотай, тапельніцай і самазабойцай — русалкай. Русалкі, паводле ўсходнепалескіх павер'яў, могуць з'яўляюцца сярод людзей толькі на Русальным тыдні — гэта каля двух месяцаў па Вялікадні. Пазнаць іх вельмі проста, яны не апранутыя, маюць доўгія валасы і заўсёды гушкаюцца на галінках бяроз або

сядзяць на белай ды крывой бярозе. Таму на бліжэйшую ад дома бярозу для аголеных русалак сяляне вывешвалі кашулі або іншую вопратку. А тыя бярозы, якія мелі звіслыя да зямлі галінкі, называлі «русальнымі» і да іх на Тройцу баяліся падыходзіць.

У міфа-паэтычнай карціне свету бяроза выступае як дрэва-ахоўнік і медыятар паміж светам жывых і памерлых. Яшчэ на памяці нашых сучаснікаў недалёка ад вёсак Скураты і Квасевічы Івацэвіцкага раёна расла пры дарозе Святая Бяроза, а побач стаяў крыж. Калі здаралася якое няшчасце — пошасць або напасць ворагаў — вяскоўцы за адну ноч ткалі асаблівы ручнік — абыдзённік, і вешалі яго на святое дрэва. На балоце каля вёскі Вуглы Вухвішчанскія Полацкага раёна над святой крыніцай стаяла капліца, а каля яе расла бяроза, на якую вешалі ільняныя і ваўняныя ніткі, самаробныя стужкі. У вёсцы Заазер'е Бялыніцкага раёна зусім нядаўна на скрыжаванні трох дарог стаяў каменны крыж і раслі дзве бярозы. Тут людзі «ачышчаліся»: бруднае адзенне вешалі на галінах бяроз і на каленях тройчы прапаўзалі паміж крыжам і бярозамі. А тады апраналіся ў чыстае, загадзя прынесенае. У XIX ст. у Іўі на Гарадзеншчыне святымі лічыліся дзве бярозы, якія выраслі на месцы разбуранай царквы, а дакладней — на месцы колішняга алтара. Пакланяліся і дзвюм святым бярозам на беразе возера Шэвіна ў Расонскім раёне. Яшчэ не так даўно старыя высокія бярозы каля Бярэзінскага канала на Лепельшчыне называлі Кацярынінскімі, відаць, звязвалі з часамі расійкай царыцы Кацярыны II.

З культам бярозы лучылася і свята Сёмухі, або Тройцы. Дагэтуль у беларускіх вёсках вароты, сцены хлява, дзверы ў хату, сенцы і покуць на Сёмуху прыбіраюць галінкамі бяроз, а невялікія бярозкі ставяць каля брамы і нават пры ўваходзе ў храм. Раней у час Сёмухі бярозавыя гаі былі месцам ініцыяцыі дзяўчат, якія меліся выходзіць замуж і неўзабаве нарадзіць дзіця. На час ініцыяцыі ў чацвер траецкага тыдня дзяўчаты збіраліся ў невялікі гурт і ішлі ў бярозавы гай «завіваць бярозкі». Для гэтага яны прыгіналі вяршаліны дзвюх бярэзін, якія раслі адна пры адной, папарна спляталі іх у вянок, а потым кожная дзяўчына з сяброўкай праходзілі праз такую арку. Яны «куміліся» з бярозкамі, прасілі шчаслівай долі, дзеля хараства і здароўя абмываліся іхным сокам і верылі, што дзяўчына, якая першая сядзе ў цені «завітай» бярозы, пабярэцца шлюбам сёлета ж. Пазней як адгалосак памянёнага абраду, што сімвалі-

заваў змену сацыяльнага статусу, на Брэстчыне быў зафіксаваны крыху іншы абрад: калі маладыя вярталіся ад вянца, то мусілі праехаць пад жывой аркай, утваранай пераплеценымі вершалінамі бяроз, якія раслі абапал дарогі.

Некалі на Траецкія Дзяды кожны беларус, ідучы на могілкі, каб памянуць сваіх продкаў, адломваў галінку ад старой бярэзіны і аддаваў яе старэйшаму ў сям'і. Той звязваў іх у адзін сямейны венік, якім потым і падмяталі магілку, а дзе-нідзе хвасталі і магільны груд — звычай меў назву *парыць старых*, або *парыць бацькоў*. Галінкі бярозы, пруты і венікі з яе ўжываліся ў якасці абярэга супраць нячысцікаў, хвароб і нябожчыкаў. Перад Юр'ем, Купаллем і св. Янам такія галінкі ўтыкалі над дзвярыма ў хляве, каб абараніць скаціну ад ведзьмы. Для абароны ад злых духаў на рогі кароў надзявалі вянкі з бярозавых галінак і г. д.

Амбівалентнымі ўласцівасцямі надзялялася ў народных уяўленнях і такое сакральнае дрэва, як груша: з аднаго боку — праявы чысціні і святасці, з другога — нячыстай сілы. Некалі гэтае дрэва выкарыстоўвалі для атрымання «жывога агню». Беларусы Віцебшчыны матывавалі табу на ссячэнне грушы тым, што на ёй таксама адпачывае «Прачыста Матка», калі сыходзіць з неба на зямлю. Згодна з паданнем, менавіта на грушы ў 1470 г. аб'явіўся цудадзейны абраз Маці Божай Жыровіцкай. У замовах супраць укусу змей прасочваецца ўстойлівы матыў з грушавым дрэвам, якое стаіць у полі або ў іншай сакральнай прасторы. Грушу як плоднае дрэва забаранялася ссякаць. На Палессі ў час свята Галавасека забаранялася есці грушы, бо, маўляў, можа выскачыць скула.

Груша як сакральнае дрэва магла прыносіць дзяцей: «баба з грушы прынесла» або «ўпаў з грушы». На ёй гадалі пра замуства. Для гэтага ў час Купалля або Раства на вершаліну грушы кідалі вянкі, абручы, колцы. У баладах дзяўчына знаходзіць свайго суджанага менавіта пад грушай. А на Палессі, калі нявеста ехала да шлюбу, на ўсіх скрыжаваннях, якія праязджала вяселле, каб перадаць людзям жыватворную сілу, раскідвалі сушаныя грушы і верылі, што жаніху і нявесце гэта прынясе шчасце. Дзеля таго ж і ў вясельны каравай утыкалі галінку грушы з трыма сучкамі. А каб маладзіца хутчэй зацяжарала, ёй давалі грушавы напой або яна мусіла з'есці тую грушу, якая даўжэй за іншыя вісела на дрэве.

Разам з тым да грушы ставіліся і адмоўна. Шмат дзе на Беларусі верылі, што яна, як і вярба, дае прытулак чорту: «Закахаўся, як чорт у суху грушу».

На ўзгорку паміж вёскамі Вярховічы і Доўбізна Камянецкага раёна, што на Брэстчыне, расце паклонная груша. Паданне расказвае, як у канцы XVIII ст. святая Дзева Марыя з'явілася перад сямігадовай дзяўчынкай і праз яе папрасіла людзей, каб старанна маліліся Богу. Потым на гэтым месцы не раз чыніліся цуды: цяжка хворыя раптам адчувалі сябе лепш, а то і зусім вылечваліся. Таму тут пабудавалі каплічку. У 1960-я гады ваяўнічыя атэісты разбурылі капліцу, а старую грушу выдзерлі з каранямі. Потым нехта таемна пасадзіў маладое грушавае дрэўца, якое і прынялося. Але яго зноў знішчылі. А не так даўно тут з'явілася яшчэ адна груша. Побач з святым месцам пастаўлена ўжо не адна сотня крыжоў. На паклон да дрэва ходзяць 27 жніўня, перад святам Успення Багародзіцы (на Прачыстую).

З грушай звязаны і шэраг іншых паданняў, часам вельмі архаічных. Прыкладам, каля вёскі Збляны Лідскага раёна ляжаў камень з выбітымі на ім трыма крыжамі. Расказвалі, што ў камень ператварылася цэлае вяселле, якое, атрымаўшы блаславенне, вярталася з вянчання і не захацела саступіць дарогу другому, яшчэ неблаславёнаму. Дык маладыя і фурман сталі каменем, а конь — грушай.

# Іншыя сакральныя дрэвы

Шмат забабонаў у нас звязана з клёнам або яварам. Явар таксама з сямейства кляновых, і хоць у дзікай прыродзе на Беларусі амаль не сустракаецца, затое вельмі часта ўспамінаецца ў вуснай паэтычнай спадчыне беларусаў. У валачобных песнях явар выступае ў якасці Сусветнага дрэва, будучы цэнтрам сусвету ў закрытай прасторы аднаго ідэальнага і шчаслівага гаспадара, куды завіталі валачобнікі: *У нашага пана да на падвор'і // А стаіць явар зелянюсенькі, // А на ім сакол яснюсенькі...*

Лічылася, што кляновае дрэва прыносіць шчасце, і таму на Гомельшчыне і Брэстчыне яго часта садзілі каля дома. Амаль па ўсёй усходняй Беларусі на Траецкае свята хаты і двары ў вёсках прыбіраюць кляновымі галінкамі, пасля таго як іх асвецяць у царкве. На Палессі ў такія дні ставілі ля дзвярэй і вокнаў адно або тры кляновыя дрэўцы. Верылі, што на Тройцу душы памерлых сваякоў заходзяць у дом і хаваюцца ў галінках клёна.

У народнай культуры беларусаў явар або клён заўсёды сімвалізавалі мужчынскі пачатак. Так, клён у пары з ліпай або бярозай, калінай ці вярбою сімвалізуюць шлюбную пару. Калі з клёна знянацку злятае лісце, дык, паводле старажытных прымхаў, чакай хуткай смерці мужа або ростані з ім. Явар або клён і названыя жаночыя дрэвы вырастаюць на магілках атручаных маткаю сына ды нявесткі, яны нахіляюцца адзін да аднаго, злучаюцца галінкамі і лісточкамі, усім сваім выглядам паказваюць, што душы закаханых жывуць у гэтых дрэвах і што пачуцці іх застануцца назаўсёды. Явар яшчэ і дзяцюк, пераўтвораны ў дрэва матчыным ці бацькавым праклёнам, а часам і сваёй воляй. Існуе балада пра тое, як за нявернасць жонка з роспачы закляла мужа ў явар, сама абярнулася рэчкаю, а дзеці сталі ручайкамі. На Купалле прынята, каб хлопцы плялі вянкі з кляновых лісцяў, а дзяўчаты — з палявых кветак.

Да святых дрэў традыцыйна належаў і арэх, ці дакладней — ляшчына. У яе, згодна з павер'ямі, ніколі не б'е маланка. Таму ў час навальніцы хаваліся пад арэшнікі або затыкалі за пояс яго маладыя парасткі. Вядома, што на арэхавым кусце расце шмат пладоў. У народнай свядомасці гэта сімвалізавала плоцевае каханне і ўрадлівасць. На спарышах, падвоеных арэхах, беларускія дзяўчаты гадалі пра замуства. Мужчынскі характар арэшніка пацвярджаецца тым, што маладая ў час шлюбнай ночы кладзе арэхі пад ложак, каб перш нарадзіўся хлопчык. Арэх як Сусветнае дрэва, якое звязвае зямлю і неба, абараняў ад нячыстай сілы, яго галінкамі адганялі змей і хмары.

У беларусаў вярба — адно з улюбёных дрэў «жаночай» прыроды. Яна не раз апета ў песнях і ўзвялічана ў народных паданнях. У вярбу, згодна з старажытнымі ўяўленнямі, сваёй воляй перакінулася нейкая дзяўчына, каб уратавацца ад замужжа з старым. Гэта дрэва, якое расце найперш на нізкіх месцах, каля вады: над рэчкамі, ручаямі. У народнай культуры яно заўсёды сімвалізавала хуткі рост, здароўе, жыццёвую сілу і ўрадлівасць. Невыпадкова ў замовах і валачобных песнях вярба побач з іншымі дрэвамі становіць сабою сакральны цэнтр: *Ды стаяла вярба пасярод сяла, // Ды віно, віно зеляно!* Галінкі маладога дрэўца, асвечаныя ў царкве, абаранялі ад стыхійных бедаў, нячыстай сілы і да т. п. І ў той жа час, згодна з народнымі ўяўленнямі, старая вярба — гэта прытулак розных нячысцікаў і хвароб. Так, беларусы вераць, што на сухіх і дуплістых вербах з Вадохрышча

да Вербнай нядзелі хаваюцца чэрці, якія дагэтуль сядзелі ў вадзе і ў лазе, а па Вербнай нядзелі перабраліся на явар і ў жыта. Але бывае, што нейкі чорт спужаецца асвечанай вярбы і зваліцца з дрэва ў ваду, а потым хаваецца там аж да Вялікадня. Таму ў гэты прамежак часу нельга было піць вады, набранай пад вярбой. Палешукі верылі, быццам тыя вербы, якія нахіліліся над вадой, — *проклятыя Богам маце-ры, што страцілі сваіх дзяцей.*

Каліна — дрэва не менш любае і не менш апетае. У народным уяўленні яна сімвалізавала дзявоцкасць. Праз свае ярка-чырвоныя і горкія ягады яна асацыявалася з крывёю і няшчасцем, таму дачынялася да свету памерлых і супрацьпастаўлялася шчасліваму дрэву — явару. Каліна ў адрозненне ад явара ці дуба жыве нядоўга, невысока ўздымаецца ў неба, а расце ў далінах каля вады. У беларускіх баладах пашыраны сюжэт: нявестка, заклятая сваёй свякрухай, ператвараецца ў няшчаснае дрэва, якое сын згодна з матчыным наказам бярэцца сячы. Але з каліны капае кроў, і яна расказвае пра сваю няшчасную долю. Гэты сюжэт і падобныя да яго, дзе на магіле пакутліва загінуўшай дзяўчыны вырастае каліна, дае падставу аднесці каліну да дрэва смерці: *А на гарэ дубок зеляненькі, // Пад гарою чырвона каліна, // Пад калінай красная дзяўчына. // А ўдоўчын сын распіўся, разгуляўся, // Сарваў, стаптаў чырвону каліну, // Ён празмусціў красную дзяўчыну.* Бытуючы ў зоне, блізкай да іншасвету, сярод людзей каліна адыгрывае ролю медыятара. Так, у беларускіх замовах расказваецца, што, дзякуючы гэтаму дрэву, чалавек можа пазбыцца «скулы-рожы», «сіняга агня», шаленства і ўсіх тых хвароб, якія звязаны з чырвоным колерам.

Яшчэ адно нешчаслівае дрэва — увасабленне жаночага суму — рабіна. Як і каліна, яна мае чырвоныя горкія ягады, што сімвалізуюць горкае жыццё гераінь балад, якія праз заклёны ператварыліся ў дрэва. Рабіна, паводле некаторых беларускіх легендаў, вырасла з крывавых слёз Евы, якую Бог выгнаў з раю. Старажытныя павер'і надзялялі гэтае дрэва здольнасцю ўспрымаць на сябе розныя хваробы, бо знахары і чараўнікі ў сваіх замовах пасылалі іх на рабіну. Існавала строгая забарона на пашкоджанне рабіны, якая лічылася помслівым дрэвам і магла перанесці ўсе тыя хваробы на крыўдзіцеля, каб той хутчэй памёр. Верылі, быццам раней ягады рабіны былі смачныя, але чорт, які заўсёды рабіў людзям шкоду, апаганіў іх.

Ёсць у беларускім фальклоры і такое дрэва, якое зусім не належыць да шанаваных ды ўлюбёных. Маецца на ўвазе асіна. У народнай культуры яна лічылася небяспечным і клятым дрэвам, таму асацыявалася з нячыстай сілай і рознымі хваробамі. Аднак вобраз асіны займае значнае месца ў міфалагічных уяўленнях нашых продкаў, а сама асіна шырока выкарыстоўвалася ў гаспадарчай і магічнай дзейнасці. Яшчэ ў 1920-ыя гады ў вёсцы Шалавічы на Случчыне бяздзетныя пары хадзілі ў лес, здымалі з сябе бялізну і вешалі яе на асіне. Лічылася, што такім чынам яны перадаюць сваю хваробу дрэву.

Шырока вядомая беларуская показка пра музыку, што, ідучы на вяселле, сутыкнуўся з абгарэлай асінай, за якой яму прымроіўся дом, куды яго запрасілі. Музыка зайшоў і ўбачыў там вясёлую кампанію. За кожную зайграную мелодыю хлопцу кідалі ў шапку прыгаршчы грошай. Апоўначы ён стаміўся і заснуў. А на раніцу, прачнуўшыся, зразумеў, што ніякага дома няма, і стаіць ён каля абгарэлай асіны з шапкай, поўнай лістоты, а ягоная скрыпка вісіць недзе на самым версе дрэва.

Кіёчкі з асіны, забітыя ў зямлю вастрыём уверх, вельмі часта фігуруюць у паданнях пра ваўкалакаў. Менавіта праз такія кіёчкі чараўніку трэба кульнуцца, каб абярнуцца ваўком ці назад чалавекам. З асіны рабілі труну для самазабойцы. А пры пахаванні чараўніка ў магілу ўбівалі асінавы кол і ставілі асінавы крыж. Яшчэ раней на вогнішчы з асінавых дроў спальвалі трупы чараўнікоў і тапельцаў, каб такім спосабам выклікаць дождж.

Пазней, ужо ў хрысціянскія часы, трапяткое лісце асіны спарадзіла мноства міфаў, якія на новы лад тлумачылі яе трымценне. Адзін з міфаў расказвае пра здрадніка Юду, што вельмі ж пакутаваў ад свайго ўчынку і доўга не мог знайсці дрэва, якое б яго супакоіла. Урэшце асіна злітавалася і дазволіла Юду павесіцца на ёй, а таму была праклятая Богам. У іншым варыянце гэтай гісторыі на асіне павесіўся чорт, і ад тае пары яе лісце спалохана трасецца.

Прадстаўніком Сусветнага дрэва ў міфалогіі і культуры беларусаў выступае і яблыня, на вяршыні якой сядзіць птушка, а пад каранямі хаваецца змей. Гэта сакральнае і незвычайнае дрэва вельмі часта сустракаецца ў чарадзейных казках, дзе сімвалізуе сабою матчын пачатак. У казках яблынька вырастае на магіле *«кароўкі-матулі»*, якая дапамагае сваёй асірацелай дачцэ, у яе шатах знаходзяць прытулак брат з сястрою, што ўцякаюць ад Бабы-Ягі. Трапляючы на той свет, героі казак атрымоўваюць у падарунак «маладзільныя» райскія

яблыкі. Яблынька ў народнай культуры заўсёды асацыявалася з жаночым хараством, каханнем і плоднасцю. Калі нараджалася дзяўчынка, дык у беларускіх вёсках пад яблынямі закопвалі яе дзіцячае месца, каб вырастала такая ж прыгожая і пладавітая. У песенных вобразах яблыня часцей за ўсё суадносілася з нявестай.

На гэтым можна было б і закончыць раздзел пра сакральныя дрэвы беларусаў. Але засталося яшчэ колькі. Скажам, вішня, якая ў народных творах часта параўноваецца са шчаслівай жанчынай і таксама з'яўляе шлюбную сімволіку. Менавіта ў вішнёвым садочку нявеста чакае свайго суджанага, а ўсе птушкі пададзены там па парах і асацыююцца з закаханымі хлопцам і дзяўчынаю. Успомнім купальскую песню, дзе пяецца: *Дзе ж ты, Купала, ноч начавала? // Купала на Івана. // Начавала ночку ў вішнёвым садочку...*

Можна ўспомніць яшчэ ясень, які вельмі небагата прадстаўлены ў беларускім фальклоры, але па рэдкіх згадках можна меркаваць, што ён таксама служыць праявай Сусветнага дрэва. Славянскі ясень паводле свайго апісання вельмі блізкі да касмічнага ясеня Ігдрасіль з скандынаўскай міфалогіі. Каранямі і шатамі гэтае дрэва абымае ўвесь свет, менавіта на ім трымаюцца неба, аблокі і зоркі. Там збіраюцца на раду багі і багіні, каб судзіць сусветныя праблемы. Ля самага поду дрэва жыве касмічны змей Нідхёг, а на вершаліне сядзіць мудры арол, па камлі ясеня бегае прарочая вавёрка. Тут няцяжка заўважыць яскравую паралель да дрэва, што апісваецца ў «Слове пра паход Ігараў».

Захавалася паданне, як Бог праз ясень паслаў на зямлю агонь: за дрэва схаваўся чорт, што спакусіў першых людзей свету — Адама і Еву, а Бог, палюючы на чорта, запаліў перуном ясень. Ад тае пары людзі і карыстаюцца на зямлі агнём.

## Забабоны, звязаныя з дрэвамі

Здаўна лічылася, што дрэвы, якія раслі на месцы былой капліцы ці храма, можна было ўжываць толькі на іх рамонт або на ўзвядзенне новага сакральнага будынку. Затое з дрэў, паваленых навальніцай, гэта значыць, памерлых не сваёй смерцю — наогул забаранялася што будаваць. Падобнае табу накладалася і на дрэвы з наростамі, на сухастой. У першым



*Борць на дрэве, могілкі ў в. Іовічы, Салігорскі р-н.*

разе верылі, быццам жыхары дамоў захварэюць на каўтун, а ў другім — будуць пакутаваць на сухоты. Дрэвы ж з «прыстоем» наогул маглі паўплываць на з'яўленне ў дачкі гаспадароў пазашлюбнага дзіцяці.

Шмат забабонаў звязана з дубам. У наш час 7 ліпеня — на праваслаўнага Яна — на Святым возеры, што каля вёскі Шапялевічы Круглянскага раёна, у лесе адбываецца фэст і вадасвяцце. Паводле традыцыі, у час фэсту старыя жанчыны стараюцца сарваць з навакольных дубкоў маленькія галінкі з лісткамі і памачыць іх у азёрнай вадзе. Потым гэтыя галінкі нясуць дадому і кладуць за абразы. На працягу года яны лічацца абярэгам ад усялякіх хвароб і няшчасцяў.

Крыніца паміж вёскамі Янава і Серкавіцы Талачынскага раёна называецца Барыса-Глебскай святой крыніцай.

У XIX — пач. XX ст. 6 жніўня, у дзень Барыса і Глеба, тут распачынаўся вялікі фэст, людзі зрывалі лісточкі з дуба, на якім нібыта з'явіўся абраз. Лічылася, што лісткі, сарваныя менавіта ў гэты дзень, валодаюць найбольшай ахоўнай сілай. Калі ўдзельнікі фэсту адыходзілі дадому, то кожны стараўся абавязкова дакрануцца да кары дуба вуснамі. Верылі, што тады цэлы год іх не будзе турбаваць боль зубоў.

У канцы XIX ст. недалёка ад вёскі Адэлькавічы на Слонімшчыне раслі два дубы, а яшчэ раней, казалі, іх было ажно чатыры. Дубы нібыта былі зачараваныя. Верылі, што калі ссячы такое дрэва ці нават узяць з яго галінку, адарваную ветрам, то абавязкова здарыцца нейкае няшчасце. Прыкладам, здохне конь, карова ці авечка. Расказвалі нават, як адзін арандатар мясцовага маёнтка аднаго разу ссек два дубы і пусціў іх на гаспадарчыя справы, а неўзабаве ў яго здохла ўся жывёла. Два дубы, якія засталіся, людзі ўжо нікому не давалі на знішчэнне і ўвесь час акраплялі іх святой вадой. Даўней бывала на Віленшчыне ў час засухі вырубалі ў лесе моцны дубок, запрагалі ў яго хлопца і такім спосабам абворвалі вёску. Потым з дуба рабілі ахоўны крыж і ставілі каля вёскі.

Забабоны, звязаныя з дубам, былі складнікамі радзінных і пахавальных абрадаў. На Віцебшчыне бабы-пупарэзіцы толькі што народжанаму хлопчыку абразалі пупавіну на дубовай дошцы ці калодзе і верылі, што ад гэтага ён вырасце моцным і здаровым. Вельмі часта дуб выкарыстоўвалі ў пахавальных абрадах. У даўнія часы шмат дзе на Беларусі нябожчыка хавалі ў дубовай калодзе або ў дубовым зрубе і пад галаву яму клалі дубовую дошку. Пра повязь дуба і смерці сведчыць палескае павер'е: маўляў, калі дуб, які расце каля хаты, стане такім тоўстым, што з яго можна будзе зрабіць крыж, тады памрэ і гаспадар той хаты. Адсюль зразумелая забарона на саджэнне дубоў каля жытла, пашыраная ў некаторых рэгіёнах Беларусі.

Моц дуба, яго трываласць і даўгавечнасць заўсёды ўражвалі людзей. Таму невыпадкова, што розныя яго часткі ўжывалі ў народнай медыцыне. На гэтым грунце ўзнікалі шматлікія забабоны. Нашы продкі верылі, быццам здароўе і дужасць заўсёды будуць з тымі, хто, пачуўшы ў новым годзе першы раз навальніцу, падыдзе да дуба і моцна яго патрасе.

Розныя дрэвы «спецыялізаваліся» і па розных хваробах. Трасцу-ліхаманку можна было перадаць толькі асіне, грыжу — дубу, дзіцячыя хваробы — ліпе або сасне. Вядома, у розных паветах Беларусі такія забабоны вар'іраваліся. Але ў

цэлым хлапечыя хваробы перадаваліся «мужчынскаму» дрэву — дубу, а дзявочыя — «жаночым» дрэвам: бярозе, ліпе або асіне. Хоць асіна і лічылася клятым дрэвам, але вельмі шырока ўжывалася для лячэння дзяцей, перш-наперш ад пярэпалаху. Усім астатнім гэтае дрэва дапамагала ад болю зубоў. Дзеля гэтага знахар зразаў тры асінавыя трэсачкі-калочкі, датыкаўся імі да хворых зубоў, нешта шаптаў, ішоў у сад і ўбіваў іх пад яблынькаю. Потым боль мусіў знікнуць.

З асінай звязаныя і купальскія павер'і. У час свята сяляне ішлі ў поле, дзе расце лён, і скрозь па перыметры ўтыкалі ў зямлю асінавыя галінкі. Гэта рабілася дзеля таго, каб вядзьмаркі не маглі пакарыстацца ўраджаем лёну. А каб яны не маглі ўкрасці малака, гаспадар сцябаў сваю кароўку асінавымі галінкамі. У часы сярэднявечча менавіта на асінавых вогнішчах спальвалі ведзьмакоў і чараўнікоў. Асінавы кол убівалі ў спіну вампіра і пярэваратня, каб той не здолеў устаць з дамавіны.

Не засталася па-за ўвагай і груша. Асабліва шмат павер'яў пра грушу бытавала на Палессі. У вёсцы Стадолічы Лельчыцкага раёна верылі: калі ў час навальніцы грушу выверне з коранем, то гэта выкліча скорую смерць гаспадароў. На Тураўшчыне на свята Галавасека наогул забаранялася есці грушавыя плады, бо маглі пайсці скулы па целе.

## З'яўленне цудадзейных абразоў

У Беларусі, як ужо гаварылася, зафіксавана шмат паданняў, згодна з якімі на тым ці іншым дрэве знаходзілі цудадзейныя абразы. Пра такія выпадкі можна даведацца і ў архіўных матэрыялах, і ў краязнаўчай, і ў царкоўнай літаратуры, дзе згадваюцца або канкрэтныя дрэвы: дуб, ліпа, сасна, груша, бяроза, інш., або проста дрэвы. Паводле старадаўняй традыцыі, побач з такімі дрэвамі заўсёды будавалі капліцы і храмы.

Прыкладам, у Стаўбцоўскім раёне Нова-Свержанскі абраз нібыта аб'явіўся ў 1500 годзе ў лесе на дрэве, а крыху пазней там пабудавалі Успенскую царкву. Цудатворны абраз Божай Маці быў перанесены з дрэва, на якім ён аб'явіўся, у Іўеўскую царкву. Пра з'яўленне абраза ў вёсцы Сухопаль на Пружаншчыне паданне кажа:

*Некалі праз Лозкі праязджаў казак і ўбачыў на дрэве абраз Божай Маці. Як ён ні сіліўся, каб яго зняць, але так і не даў*

*рады. Тады ён расказаў пра гэта лясной варце. Але і леснікі марна стараліся. Парадзіўшыся з аховаю, задумаў ён прывесці сюды пару валоў. І толькі тады святыню ўдалося паставіць на калёсы ды перавезці ў вёску, дзе потым і ўзвялі храм.*

У Рэчыцкім раёне ёсць вёска Сведскае. Каля вёскі стаіць дуб, на якім, паводле падання, аб'явіўся абраз святога прарока Іллі. Спачатку каля дуба паставілі капліцу, а потым і царкву. На дубе побач з крыніцай паміж вёскамі Янава і Серкавіцы Талачынскага раёна некалі з'явіўся абраз святых Барыса і Глеба. Потым, недалёка ад гэтага месца, каля вёскі Няклюдава, пабудавалі манастыр гэтых святых і на зіму пераносілі туды цудадзейны абраз. А вясной яго неслі назад у капліцу, што побач з крыніцай.

Каля магутнага дуба, які рос не адно стагоддзе, у вёсцы Міколка Уздзенскага раёна некалі была царква святога Мікалая Цудатворца. І паставілі яе якраз тады, як на дрэве-волаце з'явіўся абраз гэтага святога. У савецкія часы дуб і царкву знішчылі, але крыніца, што бруіцца за вёскай у бярозавым гаёчку, засталася, і дагэтуль на дзень веснавога Мікалая яе ўшаноўваюць. У вёсцы Горная Мазырскага раёна з-пад гары выцякае святая крыніца. Кажуць, што побач некалі стаяла і каплічка. Паводле падання, на дубе аб'явіўся абраз Божай Маці. Тады тут і ўзвялі храм, каля якога ў дзень з'яўлення абраза штогод адбываліся кірмашы.

Абраз Найсвяцейшай Багародзіцы з боскім немаўляткам на руках нібыта аб'явіўся некалі на ліпавым дрэве каля вёскі Дудзічы Пухавіцкага раёна. Неўзабаве тут узвялі храм, куды перанеслі абраз, які ўшаноўвалі як каталікі, так і праваслаўныя. У якасці ахвяраванняў перад абразом клалі сувоі палотнаў, лён, воўну, масла і гародніну. У мястэчку Любча Навагрудскага раёна, паводле падання, абраз таксама аб'явіўся на ліпе. Побач пабудавалі Траецкую царкву, якую ў народзе яшчэ называлі Падліпскай. Цяпер на гэтым месцы стаіць вялізны драўляны крыж. Да яго на трэці дзень Тройцы з Любчанскага храма ідуць хрэсным ходам.

Дарэчы, на ліпе абразы «з'яўляюцца» найчасцей, прыкладам, каля Мсціслаўскага Пустынскага манастыра, у вёсках Конкавічы Петрыкаўскага раёна, Гарбацэвічы — Бабруйскага, у мястэчку Парахонск — Пінскага. У ваколіцах Браслава яшчэ і цяпер можна пачуць паданне, што пасля пажару ва ўніяцкім кляштары на выспе возера Несціш захаваўся толькі



*«З'яўленне абраза» на сасне побач са святой крыніцай каля в. Ніўкі, Лагойскі р-н.*

абраз Божай Маці. Потым ён час ад часу аб'яўляўся на старой ліпе, што расце на адным з астравоў.

Часта ў паданнях расказваецца, што абразы з'яўляюцца і на соснах, прыкладам, у Шклове, Халяўшчыне (цяпер Аколіца) Мінскага раёна, каля былога мястэчка Гавязна (цяпер Вішнявец) Стаўбцоўскага раёна. У паданні пра шклоўскую ікону гаворыцца, што яе з'яўленне было ў старым сасновым лесе на беразе Дняпра. Неяк дзеці выпадкова закінулі чаравік у дупло і не змаглі яго дастаць. Паклікалі дарослых, а тыя ўбачылі, што на самым дне дупла ляжыць дзіўны абраз. Прывялі на месца здарэння святара, але выцягнуць яго так і не здолелі. Тады на гэтым месцы пабудавалі Уваскрасенскую царкву, а дрэва з абразам засталося ўсярэдзіне ў храме.

На сасне з'явіўся абраз і ў вёсцы Сорагі Слуцкага раёна на святой Мір-Гары. Як прынята, там паставілі царкву. Але мінулі часы, ад царквы застаўся толькі падмурак, а ад сасны — пень. Яго вельмі доўга ўшаноўвалі. Штогод на Пакровы да пянька неслі дары: масла, сыр, мёд, палатно. Каля вёскі Крупейкі ў Лоеўскім раёне побач з крынічкай на сасне тройчы было аб'яўленне іконы Святой Пакутніцы Параскевы. У 1872 годзе тут пабудавалі драўляную царкву. Нават у пачатку XX ст. на дзясяты тыдзень пасля Вялікадня (Дзесятуху) тут адбываўся двухдзённы кірмаш і народныя забавы. На паклон да святой іконы паломнікі прыходзілі нават з Украіны і Расіі.

У Залессі Смаргонскага раёна ў бары на адной з соснаў, кажуць, аб'явіўся абраз Божай Маці. Расказвалі, што чалавек, які першы яго заўважыў, раней не раз бачыў дзіўнага сокала. Птушка быццам бы некалькі разоў прылятала і сядала на дрэва, потым ненадоўга адлятала, каб зноў вярнуцца. Таму абраз і сталі называць Сакольскай іконай Божай Маці. Як і вядзецца, тут неўзабаве паставілі храм. Паданне кажа, што ў час вайны 1812 года французы занялі храм пад стайню, дык усе коні, што там стаялі, паслеплі. А калі трое французаў уздумалі абрабаваць царкву і працягнулі рукі да залатой шаты, невядомая надпрыродная сіла выкінула іх з храма. На абразе было шмат вотаў-падвесак, усе тыя амулеты былі ў выглядзе чалавечай нагі з надпісамі на польскай мове.

У Жыровічах і ў Дзераўной Слонімскага раёна, а таксама ў Васькаўцах Мазырскага раёна з'яўленне абраза адбылося на грушавым дрэве. Пра жыровіцкі абраз паданне кажа:

*Аднаго разу пастухі пана Солтана, якому належалі Жыровічы, гналі жывёлу праз пушчу і раптам знерухомелі: у галінах разлапістай лясной грушы-дзічкі яны ўбачылі незвычайнае ззянне, што зыходзіла ад маленькага абраза. Пад дзічкай струменілася крыніца з празрыстай вадой. Поўныя глыбокага здзіўлення, яны доўга не маглі наблізіцца да цудатворнага абраза. Але, калі святло згасла, пастухі пакланіліся выяве Багародзіцы, знялі абраз з дрэва і занеслі яго свайму гаспадару ў палац. Солтан не звярнуў надта ўвагі на аповеды сваіх пастухоў і абыякава паклаў абраз у куфэрак. Увечары, калі ў палацы пазбіраліся госці, ён успомніў пра незвычайную знайдзёнку і надумаў ёю пахваліцца. Але абраз з куфэрка знік...*

*Праўда, абраз знайшоўся ўжо на наступны дзень на ранейшым месцы ў пушчы. Тады Солтан зразумеў, што яму і*

*яго людзям быў з'яўлены цуд Божы. З глыбокай пашанай узяў ён святыню ў рукі, і неўзабаве тутака, на месцы з'яўлення, на чэсць Найсвяцейшай Багародзіцы ўзвялі драўляную царкву, а потым і манастыр. Вестка пра з'яўленне цудатворнага абраза Божай Маці скора разляцелася па наваколлі і далёкіх краях, прыцягваючы да сябе шмат паломнікаў. Кожны з іх, згодна з верай сваёй, вылечваўся ад цяжкіх хвароб і атрымоўваў памач у складаных жыццёвых абставінах.*

Як паведамляе легенда, былі нават выпадкі ўваскрашэння з мёртвых, за якіх маліліся Жыровіцкай Божай Маці.

Пра святы Жыровіцкі абраз Божай Маці існуе і сучаснае паданне. Вядома, што ў гады Другой сусветнай вайны на тэрыторыі манастыра аселі немцы. У паданні гаворыцца:

*Неяк сярод белага дня зачыненыя на замок дзверы храма, дзе вісеў знакаміты жыровіцкі абраз, расчыніліся, і на ганак выйшла жанчына, якая на нямецкай мове загадала салдатам выбірацца з манастыра. Немцы спрабавалі прагнаць яе, але яна не адыходзіла. Думаючы, што гэта партызанка, немцы пачалі страляць у жанчыну, стрэлы не рабілі ёй ніякай шкоды. Жанчына павярнулася і знікла ў храме. На здзіўленне акупантаў, пасля стараннагаператрусу ў храме яны нікога не знайшлі. І раптам адзін з афіцэраў пазнаў з выявы Багародзіцы на абразе тую самую «партызанку». Тады немцы, усвядоміўшы, што манастыр стаіць пад аховай і абаронай Божай Маці, пакінулі яго тэрыторыю і больш не чапалі яго.*

Дарэчы, гэты святы абраз збіраў заўсёды і цяпер збірае каля сябе шмат паломнікаў, і не толькі з Беларусі, але і з розных куткоў свету. Сярод іх здараліся як простыя людзі, так і знакамітыя, уплывовыя асобы: вялікія князі літоўскія і каралі польскія, прадстаўнікі слынных магнацкіх родаў, вышэйшыя царкоўныя іерархі. Але найбольшую вядомасць абразу прынесла каранаванне яго дзвюмя залатымі каронамі з рук самога Папы Бенедзікта XIII, якое адбылося ў верасні 1730 года.

Пра Васькаўцы Мазырскага раёна паданне расказвае, што адзін селянін неяк згубіў валоў. Ён вельмі доўга шукаў іх, блукаючы па розных мясцінах, пакуль не патрапіў на востраў, дзе ўбачыў чароўную грушу, усю ў незвычайным ззянні і на ёй абраз. Валы стаялі побач з дрэвам. Пасля такога цуду тут паставілі царкву, дзе і змясцілі знойдзены на грушы абраз.

Пра з'яўленне абраза на бярозе кажа паданне, запісанае ў вёсцы Пархімкавічы Кіраўскага раёна на Магілёўшчыне. Згодна з ім, стары Парфен знайшоў у лесе на бярозе невялікую ікону Божай Маці, паставіў на гэтым месцы скіт, змясціў у ім абраз і стаў жыць пустэльнікам. Пагалоска пра ікону пайшла па ўсім наваколлі. Адусюль збіраліся да святыні людзі, некаторыя сяліліся каля старога Парфенія. Узнікла неўзабаве і царква. На бярозе аб'явіўся цудатворны абраз Божай Маці і ў вёсцы Насілава Маладзечанскага раёна. Адразу ж пасля дзіўнага здарэння тут пабудавалі храм. Кажуць, у час вайны 1812 года французы разрабавалі царкву і сталі кідаць у абраз камяні. За што і заплацілі: салдаты, усе як адзін, паслеплі!

Абразы, як ні дзіўна, звязаны і з асінай. Прыкладам, у вёсцы Асінагарадок Пастаўскага раёна расказваюць, што ў час шведскай вайны варожае войска, ідучы ад вёскі Сарокі, спынілася на гары. Людзі сталі спешна правіць імшу, а абраз павесілі на асіну, якая расла побач. Не паспелі яны скончыць набажэнства, як падышлі ворагі. Усчалася жорсткая бойка, у выніку шведаў разбілі, а за рэшткамі войска кінуліся ў пагоню. Абраз застаўся вісець на асіне. Пазней, калі асіна струхлела, яе ссеклі, побач з пяньком пабудавалі Пакроўскую царкву, дзе і змясцілі цудатворны абраз, што пазней атрымаў назву Асінагародоцкага абраза. Пень жа багамольцы разнеслі па кавалках як лекавы сродак.

# Гаі і лясы

Сакральнымі зазвычай лічыліся тыя лясы і гаёчкі, якія выраслі на месцы святога ўзгорка, могільніка, разбуранай царквы або капліцы. Да таго ж, у такіх святых мясцінах часта быў паклонны аб'ект: дрэва, камень, вяршыня ўзгорка, крыніца, дзе мясцовыя жыхары збіраліся на пэўныя святы і прыносілі ахвяраванні ў выглядзе хлеба, сыру, воску, мёду, мяса, льну, воўны і самаробных стужак.

Некалі ў святых гаях спальвалі нябожчыкаў і над іх магіламі насыпалі курганы. Лес адыгрывае значную ролю ў беларускіх казках і народных уяўленнях. Лічылася, што за парадкам у лесе сочыць Гаёвы дзед, або Гаюн. А яму прыслужваюць розныя дзікія звяры і птушкі. Беларусы ўяўлялі



*Святы гаёчак на ростанях у в. Струбніца, Мастоўскі р-н.*

Гаюна ў выглядзе старога, парослага сівым мохам. Звонку ён нагадвае мядзведзя. Калі селяніну трэба было нарыхтаваць на будоўлю лесу, то ўвечары напярэдадні ён абавязкова ішоў у лес і ў намеркаваным месцы клаў на пянёчак гасцінец —ахвяраванне. Нараніцу знікненне пачастунка значыла згоду Гаюна на вырубы, а не — трэба было шукаць іншага месца. Паводле міфалагічных уяўленняў, у Гаюна ёсць і ўнучкі Гаёўкі. Яны вельмі падобныя на звычайных сельскіх дзяўчат, такія самыя гарэзлівыя і непаслухмяныя. Таму дзед забараняе ім выходзіць па-за межы лесу. Але ў купальскую ноч іх цягне да вогнішча, яны дурэюць у жыце, збіраюць зёлкі. Чалавек неўпрыкмет можа пайсці за імі, і яны прывядуць яго да кветкі шчасця.

Раней на Смаргоншчыне існаваў лес Божы Дар. А каля Гродна быў гай, прысвечаны боству Гардуніцу. У даўнія часы каля старажытнага Турава расла Княжая Дуброва, якая лічылася святым гаем тураўскіх князёў. А ў Рэчыцкім раёне каля Васілевічаў стаяла Залатая Дуброва. Побач з вёскай Ніз

у Слонімскім раёне таксама быў Святы Гай. Зафіксаваны і такія назвы, як *Бабін Гай, Бабі Мох, Бажкоў Лес, Дзедаўшчына, Белы Лес, Чорны Лес, Сівы Бор, Старына, Царкоўка*. Каля вёскі Цэпра Клецкага раёна назву лесу *Чарніца* тлумачаць тым, што некалі там існаваў жаночы манастыр.

Пра большасць такіх мясцін існуюць паданні. Так, у бярозавым гаі каля вёскі Ягнешыцы Слонімскага раёна нібыта закапаны скарб. У лесе каля вёскі Цераховічы Зэльвенскага раёна ляжыць куфар з грашыма, які ахоўваюць некалькі сабак. Недзе на Мёршчыне ўва ўрочышчы Залаты Бор французы закапалі карэту з грашыма, залатымі і срэбнымі рэчамі. Пра Каралеўскую Дуброву, што недалёка ад вёскі Першамайская (былая Сабакінцы) у Шчучынскім раёне, расказваюць, быццам некалі ў час палявання там спыняўся на адпачынак сам кароль. У вёсках Касцяні і Грынкі Слонімскага раёна пра адно з узвышшаў гаварылі, што ў часы праўлення Кацярыны II тут быў умацаваны рэдут супраць палякаў. Пушкі, якія стаялі на рэдуце, глядзелі на дубовы лес пад назвай Дубіна. Апісанне легендарнага ўзгорка і лесу сведчыць, што недзе ў гэтай мясцовасці даўней існавала язычніцкае мольбішча.

У раёне вёскі Талачманы Свіслацкага раёна ёсць старыя могілкі пад назвай Красны Гай. Паданне расказвае, што ў даўнія часы тут размяшчаліся войскі. Раптам сярод аднаго з атрадаў з'явіўся асілак, вырваў з каранямі дуб і перабіў ім усіх ворагаў. Многія паданні пра святыя гаі звязаны з крыжакамі, шведамі, французамі. Прыкладам, каля Нясвіжа ў Крыжацкім лесе некалі стаяў манастыр. На месцы дубовага гаю каля вёскі Гатава Мінскага раёна быццам бы адбылася бойка з шведамі. На возеры Цётча Ушацкага раёна, паводле падання, былі чатыры выспы з святымі бярозавымі гаямі, а на беразе возера нібыта існаваў горад Лябедзек, або Лебедзь.

Нядаўна магілеўскія даследчыкі запісалі цікавы звычай, звязаны з яловым лесам. У 1950-ыя гады каля вёскі Лосеўка Дубровенскага раёна ў глухім векавым лесе на верхавіне спілаванай елкі знайшлі жалезны вобад, да якога быў прымацаваны невялікі званочак, крышачку ўрослы ў дрэва. У сярэдзіне званочка была падвеска з дроту ў выглядзе лічбы восем. Тады старыя людзі расказалі лесарубам, што тыя знайшлі ляснога бога і паведалі пра адметны старадаўні звычай. Згодна з ім, у маладым, нядаўна пасаджаным ляску ляснік выбіраў найзграбнейшую і найвышэйшую елачку і

на вяршыні ў яе навязваў званочак, каб той заставаўся там назаўжды. Лічылася, што чалавек, які знойдзе званочак, будзе шчаслівым. Але, каб шчасце яго не пакінула, ён мусіць узрасціць свой лес або пасадзіць хоць адну елку і начапіць на яе званочак.

У традыцыйнай культуры беларусаў было прынята святкаваць пэўныя святы менавіта ў лесе каля сакральных аб'ектаў: крыніц, камянёў, дрэў і г. д. У канцы XIX ст. на дзень Святой Тройцы каля мястэчка Відзы, што на Браслаўшчыне, у лесе, недалёка ад крыніцы, збіраліся «на быка». Мясцовы пан дарыў сваім сялянам аднаго ці двух быкоў і некалькі вёдзер гарэлкі. Быка на сакральнае месца прывозілі ўжо цалкам засмажаным. Недалёка ад мястэчка стаяла яшчэ і карчма, каля якой у гэты дзень разгортваўся кірмаш.

Да нашага часу традыцыя святкавання Тройцы на другі ці трэці дзень у лесе каля крыніцы захавалася ў вёсках: Пупелічы (цяпер — Крынічка) Барысаўскага раёна, Любонічы — Кіраўскага, Горна — Лагойскага. У лесе на беразе Святога возера каля вёскі Шапялевічы Круглянскага раёна святкуецца «праваслаўны Ян». На Іллю збіраюцца ў лесе каля крыніцы недалёка ад вёскі Стайкі ў Ушацкім раёне і г. д.

# Літаратура

*Агапкина, Т. А.* Дуб. Из словаря «Славянские древности» / Т. А. Агапкина // Этнографическое обозрение. — 1999. — № 6. — С. 94—99.

*Агапкина, Т. А.* Материалы по славянскому язычеству: (древнерусские свидетельства о почитании деревьев) / Т. А. Агапкина, А. Л. Топорков // Литература древней Руси. Источниковедение: Сб. научных трудов. — Л., 1980. — С. 177—179.

*Агееў, А. Р.* «Лясны бог» — напамін аб старажытнай беларускай традыцыі / А. Р. Агееў // Народныя традыцыі і нацыянальная культура: Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі: Кн. 1. — Минск, 2001. — С. 114—115.

*Ажэўскі, П.* Прыгожыя куткі ў Слуцкім раёне / П. Ажэўскі // Случчына: Першы зборнік Слуцкага таварыства краязнаўства. — Слуцак, 1930. — С. 24—25.

*Анісавец, М.* Цэрквы і прыходы Лоеўшчыны / М. Анісавец // Краязнаўчая газета. — № 11(172). — 2007. — С. 6.

*Балабушевич, В. Р.* Село Сухополь (Гродненская губ. Пружанский уезд): Церковно-историческое описание / В. Р. Балабушевич. — Вильна, 1888. — С. 16—17.

Балады: Кніга 2. — Мінск, 1978. — С. 371— 377.

Беларуская міфалогія : энцыклапедычны слоўнік. — Мінск, 2006. — С. 28, 56, 106, 11—118, 126, 151, 152, 153—154, 214—215, 290, 413, 531, 575, 576.

*Горбач, А. Д.* Рысы старога быту ў жыцці беларускіх сялян (у вёсках Шалавічы і Новыя Наборкі Бабруйскай акругі і вёсках Дразды і Малішова Мазырскай акругі) / А. Д. Горбач // Наш край. — 1928. — № 3 (42). — С. 46—52.

*Гвоздзева, Л. І.* Легенды і паданні Друцкай зямлі / Л. І. Гвоздзева // Древнему Друцку 1000 лет: Материалы к

научно-практической конференции. — Витебск. 2001. — С. 76—78.

*Грудзіна, А. П.* Рэлігійныя ўплывы на Беларусі праз люстэрка Шклова / А. П. Грудзіна // Магілёўшчына. — Вып. V. — Магілёў, 1994. — С. 44—54.

*Довнар-Запольский, М.* Заметки по этнографии белорусов / М. Довнар-Запольский // Живая старина. — Вып. III. — 1893. — С. 422.

Древнее сказание о Жировицах и о чудесном образе Жировицкой Богоматери. — Гродна, 1897. — С. 1—9.

*Дучыц, Л.* Некаторыя дадзеныя пра культавыя дрэвы на Беларусі / Л. Дучыц // Krуūja. — 1996. — № 1. — С. 73—78.

*Ельскі, А.* Выбранае / А. Ельскі. — Мінск, 2004. — С. 31.

*Жавускі, Г.* Успаміны Сапліцы / Г. Жавускі. — Мінск, 2005. — С. 326.

*Зеленин, Д. К.* Тотемистический культ деревьев у русских и белорусов / Д. К. Зеленин // Известия АН СССР. Отделение общественных наук. — 1933. — № 8. — Серия 7. — С. 591—629.

*Зеленин, Д. К.* Тотемы деревьев в сказаниях и обрядах европейских народов / Д. К. Зеленин // Труды Ин-та антропологии, археологии, этнографии: Т. XV. Вып. 2. Этнографическая серия. 5. — М., 1937. — С. 29—42.

*Костко, В.* Целебные деревья в Белоруссии / В. Костко // Живая старина. — Вып. III. — 1906. — С. 56.

*Котлярчук, А. С.* Праздничная культура в городах России и Белоруссии XVII в. / А. С. Котлярчук. — СПб., 2001. — С. 189.

*Ляўкоў, Э. А.* Маўклівыя сведкі мінуўшчыны / Э. А. Ляўкоў. — Минск, 1992.

*Максимов, С. В.* Обитатель и житель: (из очерков Белоруссии) / С. В. Максимов // Древняя и Новая Россия. — СПб., 1876. — № 6. — С. 135.

*Михайловский, Е.* Археологические очерки Слонимского уезда Гродненской губернии / Е. Михайловский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильна, 1893. — С. 167—168.

*Николай-архимандрит.* Историко-статистическое описание Минской Епархии / Николай-архимандрит. — СПб., 1864.

*Никольский, Н. М.* Дохристианские верования и культы днепровских славян / Н. М. Никольский. — М., 1929.

*Никифоровский, Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверныя обряды и обычаи, легенды и сказания в Витебской Белоруссии / Н. Я. Никифоровский. — Витебск, 1897. — С. 134—135.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. Мозырский уезд. — Минск, 1879. — С. 71.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. Речицкий уезд. — Минск, 1879. — С. 127—128.

Опросные листы 1924 г. по Минскому и Борисовскому уездам // Архіў Ін-та гісторыі НАН Беларусі. — Справа № 71. — С. 194.

*Панченко, А. А.* Народное православие: (Исследования в области народного православия. Деревенские святыни Северо-Запада России) / А. А. Панченко. — СПб., 1998.

*Петров, Н. И.* Купятицкая икона Богородицы, в связи с древнерусскими энколпионами / Н. И. Петров // Труды девятого археологического съезда в Вильне. 1893 год: Т. 2. — М., 1897. — С. 71—78.

*Посох, А.* Г. Видзы: (Опыт историко-статистического описания) / А. Г. Посох. — Ковна, 1895.

*Романов, Е.* К археологии Северо-Западного края: (Археологический очерк Гомельского уезда) / Е. Романов // Записки Северо-Западного отделения Императорского Русского географического общества: Кн. 1. — Вильна, 1910. — С. 97—129.

*Рыжакова, С. И.* Священный лес Рокайни в Латвии; изобретение традиций? / С. И. Рыжакова // Живая старина. — 2007. — № 1. — С. 32—35.

*Рыков, Р. С.* Раскопки в Ошмянском уезде Виленской губернии / Р. С. Рыков. — Вильна, 1914. — С. 15.

*Сапунов, А.* Чудотворная икона цясарской Божией Матери / А. Сапунов // Полоцкие Епархиальные ведомости. — 1890. — № 10. — С. 442—447.

Село Осингородок Дисненского уезда // Литовские Епархиальные ведомости. — 1897. — № 34. — С. 316.

*Сіняўка, І.* Святая сасна / І. Сіняўка // Мінская праўда. — 1993. — 6 сакавіка. — С. 4.

*Смолич, К.* О переименовании Холявщинской церкви в Крестогорскую: (из летописи Крестогорской церкви за 1873 год) / К. Смолич // Минские Епархиальныя ведомости. — 1875. — № 4. — С. 106—110.

*Спрогис, И.* Залесская Георгиевская старая деревенская церковь (Ошмянского уезда Виленской губернии) / И. Спрогис. — Витебск, 1895.

*Тульцева, Л. А.* Рябина в народных поверьях / Л. А. Тульцева // Советская этнография. — 1976. — № 5.

*Чарновская, М.* Остатки славянского баснословия в Белоруссии / М. Чарновская // Вестник Европы. — 1818. — № 21—24. — С. 116—117.

*Швед, И. А.* Символика сосны в белорусской фольклорной картине мира / И. А. Швед // Живая старина. — 2001. — № 3. — С. 6—8.

*Швед, I. А.* Дрэва як прасторавая мадэль часу ў кантэксце беларускай традыцыйнай культуры / I. А. Швед // История и культура Европы в контексте становления и развития региональных цивилизаций и культур: актуальные проблемы из исторического прошлого и современность: Материалы международной научно-практической конференции. — Витебск, 2003. — С. 110—117.

*Шейн, П.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края: Т. 1. / П. Шейн. — СПб., 1893. — С. 449.

*Jodkowski, J.* Grodno i okolice w zaraniu dziejów Litwy i Rusi nad Niemnem / J. Jodkowski. — Grodno, 1928. — S. 4.

# Рэшткі старых умацаваных паселішчаў у светапоглядзе беларусаў

Слова "гарадзішча" ў дачыненні да старых умацаваных паселішчаў сустракаецца ўжо ў XII ст. у «Аповесці мінулых часоў». Такая назва паходзіць ад слова *городити*, 'абгароджваць'. На тэрыторыі Беларусі гарадзішчы вядомыя з часоў позняга бронзавага веку, а найбольш характэрныя яны для ранняга жалезнага веку. Рост прадукцыйных сіл спрыяў пашырэнню сувязей паміж родамі і плямёнамі, што, сваім парадкам, выклікала ўзмацненне ваеннай небяспекі. Таму нашы продкі і пачалі будаваць абарончыя ўмацаванні. Зазвычай іх ставілі на ўзвышшах ці на высокіх берагах рэк, азёр. Тыя пабудовы мелі стромыя схілы, валы, ірвы. Раскопваючы старажытныя паселішчы, археолагі знаходзяць багаты культурны пласт, дзе трапляюцца рэшткі жытла і гаспадарчых будынкаў, культавыя і побытовыя рэчы.

Гарадзішчы часцей за ўсё маюць плошчу каля аднаго гектара. Па Беларусі іх налічваецца больш за дзве тысячы. Даўней гарадзішчы былі адміністрацыйнымі, культавымі і родавымі цэнтрамі розных плямён. Дык нездарма шмат дзе хрысціянскія храмы ўзводзілі на даўнейшых умацаваных паселішчах. Кожнае з такіх збудаванняў ставілі людзі грамады і зазвычай для патрэб родавага веча і яго старэйшыны, які, адпаведна, быў яшчэ і язычніцкім святаром. Такім чынам, вылучаюцца гарадзішчы-сховішчы (без культурнага пласта) — іх выкарыстоўвалі толькі пры небяспецы — і гарадзішчы-свяцілішчы, дзе адпраўляліся язычніцкія абрады.

Рэшткі старажытных умацаваных паселішчаў і першых гарадоў выразна вылучаюцца на мясцовасці. Таму ў народным светаўспрыманні ім надавалася асаблівая ўвага. Апроч такіх вядомых сёння назваў, як *Гарадзішча*, *Гарадок* і *Га-*



*Гарадзішча каля в. Гарадзішча, Воранаўскі р-н.*

*радзец*, у народзе існуе і шмат іншых. У некаторых месцах рэшткі старажытных умацаваных паселішчаў далі назвы вёскам і мястэчкам, як, прыкладам, мястэчка Гарадзішча ў Баранавіцкім раёне і вёска Гарадок у Глускім, інш. Часта гэтыя назвы ўключаюць у сябе прыметнік, які канкрэтызуе базавы назоўнік: *Ніжні Гарадок, Асінагарадок, Малы Гарадок.* У XV ст. Полацкае гарадзішча ў дакументах запісана як *Старое Гарадзішча.* Ёсць і такія назвы, як *Гарадзінка, Гарадцы, Гародкі, Гародна, Гарадзішчайка* і да т. п.

Пра шмат якія гарадзішчы ў паданнях гаворыцца, што на тых месцах даўней жылі асілкі ці браты-асілкі, разбойнікі, які-кольвечы князь, княгіня, кароль або каралева. Прыкладам, у Кажан-Гарадку Лунінецкага раёна гарадзішча завецца *Авідава Гара*, бо, маўляў, там даўней жыў рымлянін Авідзій. Вельмі часта гарадзішча ў паданнях звязваецца з месцам бітвы. Так, нібыта на адным з гарадзішчаў каля мястэчка Косава Івацэвіцкага раёна на насыпаных валах ваявалі два князі, родныя браты. На Случчыне на адным з гарадзішчаў валы быццам бы зрабіў нейкі князь Мячэй, які з сваёй дружынай бараніўся ад іншага князя.

Пра гару Гарадзішча на беразе возера Снуды, што на Браслаўшчыне, у пачатку XX ст. запісана паданне, быццам тут некалі жыў рускі баярын, ці ў іншай версіі — швед. У гэтага чалавека былі дзве дачкі, адна з іх жыла пры бацьку ў ягоным палацы, а другая — у сваім, на супрацьлеглым беразе. Палацы злучаліся праз праліў, які называўся *Паравалока*. Потым у паданні паведамляецца, што недзе недалёка ад гэтага месца ў зямлі схаваны залаты праваслаўны крыж, і калі яго адкапаць, то ўсе каталікі навакольных вёсак мусяць абавязкова перайсці ў праваслаўе.

Некаторыя гарадзішчы звязаны з канкрэтнымі гістарычнымі постацямі. Прыкладам, у мястэчку Свір Мядзельскага раёна гарадзішча, згодна з паданнем, насыпалі салдаты караля Жыгімонта, а паводле другога варыянта — яго ўзвёў літоўскі князь Даўмонт. У Расонскім раёне каля вёскі Перавоз ёсць гарадзішча пад назвай *Рагнедзін Курган*, або *Гара Рагвалода і Рагнеды*. Паводле падання, тут пахаваны загінуўшыя ў баі Рагвалод і Рагнеда. У Заслаўі гарадзішча, якое завецца *Замэчак*, таксама лічыцца магілай Рагнеды.

Кожная эпоха на старажытныя паданні накладала свае адбіткі, і героі даўнейшых гісторый прымалі зусім іншыя аблічны. Зразумела, што спачатку такімі героямі былі старажытныя боствы або іншыя міфалагічныя персанажы, святыя для нашых продкаў. Але мяняўся час, а з ім і вера. Адных боставаў забывалі, на іх месца прыходзілі другія, ці то боствы, ці то легендарныя гістарычныя асобы, якіх таксама абагаўлялі. Дык не дзіва, што ў ранніх паданнях легендарныя Рагвалод і Рагнеда фігуравалі даволі часта.

А вось пазней сітуацыя памянялася: расійская імператрыца Кацярына II выступала ў нашых паданнях і легендах як сакралізаваная асоба. Яе імя звязвалася ў асноўным з гарадзішчамі, называнымі *Акоп, Акопы* або *Акопішчы*. Пра іх і ў наш час можна пачуць, быццам тут абедала Кацярына II з сваім войскам, а калі адыходзіла, мусіла закапаць на месцы адпачынку або грошы, або посуд, або зброю. Так, на гарадзішчы ў вёсцы Жораўка Пухавіцкага раёна, паводле падання, таксама абедала Кацярына II, а потым закапала там два вазы срэбнага і залатога посуду. На Лагойшчыне пра адно з гарадзішчаў расказваецца: «*Пакуль на гары абедала царыца Кацярына, туркі ў гэты час паспелі ботамі насыпаць іншую гару*». На Мазыршчыне мясцовае гарадзішча насыпана з прычыны ўжо не абеду, а быццам бы нараджэння сына ў Кацярыны II.

Урагаўскі Гарадок на Асвейшчыне ўтварыўся ў выніку «*бойкі Кацярынінскага войска з палякамі*».

Не раней эпохі феадалізму маглі ўзнікнуць такія мікратапонімы, як *Дварэц, Дварышча, Званіца, Манастыр, Царкоўна*. Невыпадковыя і гэтакія назвы гарадзішчаў, як *Братняя Магіла, Касцяная Гара, Магільна* і г. д. На падобных гарадзішчах можна ўбачыць сляды познесярэднявечных могілак. Так, у вёсцы Касцянева Шчучынскага раёна лічаць, быццам на іхным гарадзішчы знаходзяць «*косці ад вайны з кітайцамі*». А ў вёсцы Чорнае Рэчыцкага раёна ў пачатку XX ст. расказвалі, што на гарадзішчы жылі некалі манахі, і таму там магілы «*дзевяці чарняцоў*».

Сустракаюцца і такія назвы гарадзішчаў, як *Чортава Гара, Чортаў Гарадок, Бесава Гара, Чорная Гара, Белая Гара, Змеева Гара, Турава Гара, Дзявочая Гара, Янава Гара, Крэм-Горад, Кіян-Горад* і г. д. Цікавае паданне бытуе пра гарадзішча з назвай *Таўкач (Таўкачык)* побач з вёскай Гаравыя Полацкага раёна. Нібыта ў даўнія часы на гары жыло адно племя, а на супрацьлеглай — Чортавай Гары — другое племя. Плямёны пастаянна варагавалі. У Заходнім Палессі ёсць назвы: *Груда, Грудок, Выспа*, у паўночнай Беларусі — *Батарэя*, а на памежжы з Літвой — *Пакальніс, Піля, Пілікала*, што ў перакладзе з літоўскай мовы значыць 'гарадзішча'.

# Замкі і Замчышчы

На тэрыторыі Беларусі пашыраны і такія назвы гарадзішчаў, як *Замак, Замкавая Гара, Замчышча, Замкавішча, Замачак, Замэчак, Замчыска*. Асабліва характэрныя яны для заходняй часткі краіны. Часцей за ўсё археалагічныя помнікі з падобнымі народнымі назвамі маюць культурныя напластаванні ўжо феадальнай эпохі. У гістарычных крыніцах назва *Замак* сустракаецца, пачынаючы з XIV ст. Прыкладам, гаворыцца, што князь Альгерд умацоўваў у Віцебску Верхні Замак мураванай сцяной і баштамі. У XVII ст. каля Брэста адно з гарадзішчаў мела назву *Старое Замчыска*. Ёсць і такія назвы, як *Старасцінскі Замак, Верхні Замак, Ніжні Замак, Узгорскі Замак*.

На Лагойшчыне каля вёскі Панізоўе гарадзішча называюць *Гара Гарадзішча*, а ляжыць яно ва ўрочышчы Замак.



*Гарадзішча Замак Рагнеды каля в. Гарадок, Маладзечанскі р-н.*

Паводле падання, тут жылі сыны князя Уладзіміра. У гэтым жа раёне каля вёскі Хатаевічы (сучасная назва *Акцябр)*, пры ўпадзенні рэчкі Дрылянкі ў Дзвінасу ёсць Замчышча ва ўрочышчы Дварышча, дзе жыла нібыта нейкая княгіня Орская. Пры наступленні шведскага войска ў час вайны яна схавалася ў сваім замку. Неўзабаве шведы яго падпалілі, і ў выніку княгіня загінула.

У XIX ст. у вёсцы Замасцяны Валожынскага раёна было запісана паданне пра гару Замчышча, аточаную непраходнымі балотамі і густа парослую лесам. Паданне расказвае:

*Некалі на гэтым месцы стаяў княскі замак. Адзінага князева сына гадавала простая вясковая дзяўчына. І вось хлопчык пабег купацца на рэчку ды ўтапіўся. Дзяўчына паляцела з роспачы да крыніцы, з якой выцякала рэчка, і закрыла яе патэльняй. Ад тае пары рэчка стала перасыхаць і зрабілася тут балота. А ўсё таму, што ніяк не знойдзецца смелы і адважны чалавек, які б дастаў з крыніцы тую патэльню. Людзі баяцца, каб не знесла іх вялікая патока вады.*

Паданні пра ўзвядзенне гарадзішчаў з назвамі *Замак* вельмі падобныя да паданняў пра гарадзішчы з назвамі *Гарадзішча, Гарадок, Гарадзец.* Найчасцей расказваецца, што



*Гарадзішча Замкавыя валы ў в. Горы, Горацкі р-н.*

іх насыпалі салдаты варожага войска. І зазвычай зямлю яны насілі ботамі або шапкамі. А ў Грэску на Случчыне цяпер кажуць па-іншаму: гару Замак нанасілі людзі з усёй Беларусі, прычым кожнаму досыць было кінуць па жменьцы. На гары Замак каля вёскі Цілеўцы, што на Браслаўшчыне, паводле падання, некалі месціўся «*ўмацаваны лагер войскаў Сапегі ў час вайны з Напалеонам*», а ў нізіне пад назвай *Выгарады* трымалі вайсковых коней.

Гарадзішчы з назвай *Замак* у паданнях вельмі часта звязваюцца з якім-небудзь князем або княгіняй. У сярэдзіне XX ст. у Замосці на Уздзеншчыне пра гару Замчышча гаварылі, быццам там некалі стаяў *замак славянскага князя, а цяпер там закапаныя залатыя вароты і скрыні з залатымі манетамі. Сярод гары ёсць маленькае возера, у вадзе якога адлюстроўваецца частка замкавай сцяны.*

У мястэчку Раманава (цяпер Леніна) Слуцкага раёна на гары Замак нібыта жыў князь Раман. Яго дачку хацелі выдаць замуж, але ад вянца яна ўцякла з царквы ў замак па падземным ходзе, потым выбегла на ўмацаваны вал і адтуль кінулася ў студню. Згодна з іншым паданнем, на гэтым месцы стаяў замак князёў Алелькавічаў. У вёсцы Зборск Асіповіцкага раёна ў старажытным замку жыла некалі княгіня

(каралева) Домна. Гальшанскі (Альшанскі) замак, паводле падання, належаў жонцы князя Вітаўта Юліі Альшанскай. Сустракаюцца і такія назвы, як *Мсцібаў Замак, Глінскі Замак*. Шмат якія замчышчы на Беларусі звязаны з каралевай Бонай. І паданні пра гэтую каралеву пашыраны менавіта ў тых мясцінах, дзе былі яе ўладанні. Гэта вёска Воўпа ў Ваўкавыскім раёне, Сялец — Бярозаўскага, Клецку, Пінску, Рагачове і іншых месцах...

# Татарскія, Шведскія і Французскія горы

Вельмі часта ўзвядзенне гарадзішчаў або замчышчаў прыпісваецца захопнікам, асабліва татарам, шведам і французам. Зазвычай у такіх паданнях пашыраны тры варыянты сюжэтаў. Адзін кажа, што гэтыя горы-гарадзішчы захопнікі нанасілі сваімі ботамі або шапкамі. Паводле другога, на гэтых гарадзішчах некалі стаялі гарады, якія ў час навалы ворагаў праваліліся пад зямлю. А згодна з трэцім, на гарадзішчы некалі абедала французскае або шведскае войска, якое, спяшаючыся, закапала пад гарой або на самой гары посуд ці грошы.

Каля вёскі Баруны на Ашмяншчыне Татарская Гара нібыта складзена з трупаў татараў, якія загінулі ў бітве з літоўцамі. Гарадзішча ў Лоску на Валожыншчыне мае некалькі назваў: *Царкавішча, Татарская Гара, Замкавая Гара.*

Шведскую Гару каля Радашковічаў Маладзечанскага раёна паданне звязвае з месцам адпачынку шведскага караля. Яго салдаты, каб у час абеду схаваць свайго военачальніка ад вачэй мясцовага насельніцтва, абгарадзілі гэтае месца валам. Зямлю для насыпу яны нанасілі шапкамі. У Шклоўскім раёне занатавана паданне, паводле якога гарадзішча — гэта шведскія рэдуты, на якіх у часы Паўночнай вайны стаялі гарматы.

Гарадзішча ў Ваўкавыску завецца *Шведская Гара.* Расказваюць, што яна насыпана шведамі ў час вайны з рускімі. І зямлю на гару таксама насілі шапкамі. А потым шведы наклалі заклён, што гарадзішча толькі тады можна будзе знесці, калі зямлю на старое месца ізноў паперацягваць у шапках. Згодна з другім варыянтам, пры заняцці шведамі Ваўкавыска быў забіты іх вялікі военачальнік. Шведы пахавалі яго, а гару над магілай зноў жа насыпалі шапкамі.

Сустракаюцца такія назвы гарадзішчаў, як *Шведаўка* ў вёсцы Заскаркі Полацкага раёна, *Шведскі Вал* у мястэчку Сапоцкін каля Гродна, *Шведская Магіла* каля Юрацішак Іўеўскага раёна, інш. З шведамі звязваецца гарадзішча Гарадок каля вёсак Гарадок і Тупічын у Касцюковіцкім раёне. Тут, згодна з паданнем, вайсковым шляхам праходзілі шведы і спыняліся на адпачынак.

Многія гарадзішчы суадносяцца з вайной 1812 г. і завуцца *Французская Гара*, як у вёсцы Пілаты Шаркаўшчынскага раёна і Войстам — Смаргонскага. У Ашмянскім раёне адно з гарадзішчаў нібыта ўзведзена ў 1812 г. на загад рускага генерала, а зямлю туды салдаты насілі ботамі. Даволі часта сустракаюцца і такія паданні, у якіх, згодна з сюжэтам, шведы ці французы закопваюць на гарадзішчах свае багацці. Шэраг назваў гарадзішчаў звязваецца з імёнамі правадыроў розных войскаў. Успамінаюцца і Карл XII, і Пётр I, і Напалеон. Так, гарадзішча ў Копысі Аршанскага раёна завецца Пятроўскі Вал.

Апроч шведаў, татар і французаў, у падобных паданнях фігуруюць прусы — Пруская Гара каля вёсак Аравічы і Тульгавічы Хойніцкага раёна; туркі — Турэцкая Гара каля Жыровічаў Слонімскага раёна.

# Царкавішчы і Касцелішчы

Пра гарадзішчы з назвамі *Царкавішча* або *Царкоўе, Цэрква, Званіца, Царскія вароты, Касцелішча* і да т. п., як правіла, існуюць паданні, згодна з якімі там некалі стаялі храмы, а потым праваліліся пад зямлю. У народзе лічыцца, што гэта была кара за грахі людзей.

У вёсцы Гародна Шумілінскага раёна расказваюць, як маці за нейкую правіннасць пракляла сваю дачку. Адбылося гэта якраз у той момант, калі яны разам праходзілі каля царквы. Пасля матчыных слоў «Каб ты правалілася!» царква і сапраўды правалілася. Яшчэ людзі кажуць, што ў возеры, якое ляжыць побач, затоплены званы ад той царквы. У вёсцы Сенькава Верхнядзвінскага раёна на адно з святаў, як сцвярджае паданне, у царкве сабралася вельмі шмат грэшных людзей, таму царква таксама правалілася.

Часта ў паданнях дадаецца і такая дэталь: пасля таго як храм правальваецца, з-пад зямлі можна пачуць гукі ягоных

званоў. Але адбываецца гэта толькі па пэўных днях, прыкладам, у чырвоную суботу перад Вялікаднем, на Вялікдзень, а то і проста ў нядзелю, бо нядзеля таксама лічылася святым днём. У Шклоўскім раёне пра адно з такіх Царкавішчаў бытуе паданне, быццам там правалілася царква, і таму ў вялікія святы, калі да зямлі прыкласці вуха, можна пачуць водгалас царкоўных званоў. А калі надыходзіць найбольшае свята, Вялікдзень, на паверхню выходзяць нават залатыя вароты. Адно што пачуць і ўбачыць усё гэта могуць «*дастойнейшыя з старых*».

Паданні пра царкву, якая правалілася на гарадзішчы, можна пачуць і сёння ў вёсках Зубкі Глыбоцкага раёна, Гарадок — Лёзненскага, Цвеціна — Мёрскага, Смарыгі — Полацкага, а таксама каля Бяларучаў Лагойскага і ў вёсцы Лекараўка Мінскага раёнаў. У вёсцы Чаркасова Аршанскага раёна, згодна з паданнем, стаяла на гарадзішчы белая царква з залатымі купаламі, якая таксама аднойчы «апусцілася» ў зямлю. А ў Юравічах Калінкавіцкага раёна распавядаюць, што рэшткі ад царквы, якая тут некалі правалілася, выплылі ажно ў Кіеве. Мала таго, калі потым у правал апусцілі на вяроўцы зайца, дык той таксама трапіў у Кіеў.

У некаторых паданнях расказваецца, што царква правалілася разам з горадам ці мястэчкам. На тэрыторыі былой Красналуцкай воласці — цяпер Чашніцкі раён Віцебскай вобласці — пры левым беразе ракі Эсы на гарадзішчы ў лесе, згодна з паданнем, пайшла пад зямлю царква, а разам з ёй і горад. Апоўначы перад Вялікаднем там можна пачуць з-пад зямлі званы і царкоўныя спевы. У вёсцы Вясея каля Слуцка быў некалі гарадок, дзе стаяла царква, якая неўзабаве струхлела, а звон ад яе скаціўся ў рэчку. Потым у час набажэнства ён азываўся сваім непаўторным гулам на бой усіх слуцкіх храмавых званоў.

Вельмі часта каля гарадзішчаў з назвамі *Царкавішча* і іншымі падобнымі б'юць святыя крыніцы. Прыкладам, у вёсцы Лебедзева Маладзечанскага раёна, Дабрынёва — Лагойскага. Падобная з'ява — гэта яскравы знак даўнейшых культавых аб'ектаў: у найстарадаўнейшыя часы — капішчаў, а пазней — хрысціянскіх храмаў.

Пра гару Замак у Грэску на Случчыне ў канцы XIX ст. зафіксаваны дзве версіі падання. Паводле адной з іх, царкву ў час вайны перарабілі на стайню, і за такое святатацтва разам з людзьмі яна правалілася пад зямлю. У святочныя дні вельмі глуха, але ўсё ж чуваць там гукі званоў. Згодна з

другой версіяй, на гары невядома калі і невядома хто будаваў храм і чамусьці ён паволі апускаўся ў зямлю. Работнікі бачылі, што, колькі б яны ні стараліся, апусканне не спыніць, і канца будоўлі не будзе ніколі. Таму яны паспяшаліся зрабіць дах. Пасля гэтага царква раптам выйшла з-пад зямлі і ўзнялася на некалькі дзясяткаў сажняў у вышыню. Неўзабаве яна стала падымацца ў паветра і знікла ў нябёсах. У вёсцы Гарадок Лёзненскага раёна таксама расказваюць пра царкву, якая некалі праваліласа, а потым памалу стала выходзіць з-пад зямлі. Першым выйшаў крыж ад макаўкі — нейкі малы пастушок выпадкова наступіў на яго і ўкалоў сабе нагу. Жыхары вёскі пачалі спешна выкопваць царкву, але, як толькі яны вызвалілі купал, яна зноў у адзін момант пайшла пад зямлю.

Часта ў паданнях падкрэсліваецца, што праваліўся менавіта касцёл, як, прыкладам, у вёсцы Варганы Докшыцкага раёна, Жупраны — Ашмянскага, Пруднікі — Мёрскага, Вялікія Споры — Пастаўскага, інш. Каля вёскі Петкавічы ў Баранавіцкім раёне таксама расказваюць, як у час абедні разам з ксяндзом і людзьмі касцёл пайшоў пад зямлю. Яшчэ нейкі час на паверхні заставалася частка крыжа, а потым і яна знікла. Калі на тым месцы пачалі капаць, каб вызваліць касцёл, дык, выкапаўшы вялікую яміну, так нічога і не знайшлі. Але мясцовыя хлопчыкі-пастушкі ў нядзелю і ў іншыя святочныя дні, калі ладзілася абедня ў касцёле суседняга мястэчка Ішкальдзь, з-пад зямлі заўсёды чулі гул званоў. А ўночы, расказваюць, бачаць на гэтым месцы сінія агеньчыкі.

У Навасёлках Маладзечанскага раёна, згодна з паданнем, на гары стаяў касцёл, які потым таксама праваліўся. Калі ў бліжэйшым парафіяльным касцёле званы запрашаюць да набажэнства, то разам з імі чуюцца і званы падземнага касцёла. Людзі тлумачаць гэта тым, што пад зямлёй касцёл вельмі добра захаваўся, і там, як і на зямлі, ксёндз правіць набажэнства, а перад гэтым званар падымаецца на касцельную званіцу і б'е ў званы.

# Гарадзішчы-свяцілішчы

Сярод усіх гарадзішчаў вылучаюцца тыя, якія абнесеныя валам і ровам, але вельмі кампактныя і невялікія памерамі. Культурнага пласту на іх амаль не існуе, і ўсё ж знойдзеныя

там нешматлікія рэчы дазваляюць аднесці гэтыя аб'екты да другой паловы I тыс. Пра іх прызначэнне дагэтуль не спыняюцца спрэчкі. Большасць даследчыкаў схільныя лічыць іх культавымі аб'ектамі — гарадзішчамі-свяцілішчамі. Найяскравейшы прыклад — свяцілішчы ў вёсцы Верхаўляны Бераставіцкага раёна, Залатаміно — Кармянскага, Шадзінцы — Гродзенскага, Гарадок — Веткаўскага.

Верхаўлянскае гарадзішча мае пляцоўку дыяметрам каля 7 метраў. З усіх бакоў яна абнесена ровам, які ніжэй за яе амаль на паўметра, а дзе і на 2 метры. Культурны пласт — каля 20 см. Як культавы аб'ект свяцілішча выкарыстоўвалася з X—XI ст. да XVI — пачатку XVII стст.

Гарадзішча каля вёскі Аношкі ў Нясвіжскім раёне вядома пад назвай *Перунова Гара*. Некалі ў навакольных вёсках расказвалі, што на гары было Перунова капішча і стаялі ідалы, якім у ахвяру прыносілі казлоў. Таксама казалі, быццам каля гарадзішча ў возеры было шмат русалак, бо ў ягонай вадзе некалі скончылі жыццё самагубствам многія сельскія красуні, падманутыя падступнымі княжычамі са змрочнага замка, што на гары. На Купалле русалкі выходзілі з возера і вадзілі на беразе карагоды. Але аднаго разу ў такі дзень паднялася страшэнная навальніца, ляснуў пярун і разбіў замак на ашчэпкі.

Гарадзішча каля вёскі Гарадок у Веткаўскім раёне размешчана ва ўрочышчы Баяршчына, або Катлаван. У вёсцы і цяпер расказваюць, што некалі «пасля турэцкай вайны» гару насыпалі шапкамі (каскамі). І насыпалі яе рускія ды турэцкія салдаты разам. Потым у цэнтры пляцоўкі паставілі стол з царкоўнымі атрыбутамі і малітоўнікам. А ў час набажэнства замірыліся. З боку рускіх абрад выконваў праваслаўны святар, а туркі прывезлі свайго служку. Тут на пляцоўцы гарадзішча нібыта пахавалі і турэцкага военачальніка, апранутага ў дарагія строі, у высокія боты з завернутымі ўверх насамі і ў мяккай шапцы. Пахавалі яго стоячы. Пацалавалі зверху ў шапку і закапалі. Мясцовыя людзі яшчэ помняць, што вельмі даўно на гары знайшлі чалавечы чэрап і лук.

Высокія валы на некаторых малых гарадзішчах, паводле падання, тлумачацца тым, што «*на гары гулялі паны, а каб іх не бачылі, яны ўзвялі абгароду*» (вёскі Мурава і Лысуха Бярэзінскага раёна). Многія з такіх гарадзішчаў вылучаюцца сваімі назвамі: *Капішча, Пагулянка, Ігрышча, Гулебшчына, Дзявочая Гара, Паненская Гара*. Пра многія з іх бытуюць паданні пра «храм, што праваліўся» (гл. папярэдні раздзел).

Значная частка падобных паданняў датычыць менавіта свяцілішчаў. Ёсць паданні і пра капішчы, якія праваліліся. У 1920-ыя гады пра гарадзішча ў Крэве на Смаргоншчыне было занатавана такое паданне:

*За часамі паганства тутэйшыя людзі верылі, што Бог, якога яны шанавалі, праяўляе сябе ў абраным ім дрэве. У засені такога дрэва яны ставілі бажніцу, насыпалі ўзгорак і чынілі там свае набажэнствы. А ў лесе на высокім узгорку каля мястэчка Крэва рос вялізны дуб. Вестка пра яго дайшла да галоўнага святара. Ён наказаў збудаваць пад дубам капішча і паслаць туды паганскіх святароў. Усім абвясцілі, што ў гонар пануючага князя гэтая гара будзе называцца Гара Міндаўга. Капішча доўгі час было ў вялікай пашане. Сюды прыходзілі натоўпы людзей. Сны, убачаныя пад кронаю дуба, яны тлумачылі па-свойму і рабілі прагнозы на будучыню.*

*А тым часам пад Крэвам жыў адзін пустэльнік. Даведаўся ён пра капішча і стаў павяртаць людзей да хрысціянскай веры. Яго палымяныя прамовы падзейнічалі. Пачулі людзі Божае Слова і адзін за адным сталі звяртацца да новай веры. Тады паганскія святары абвясцілі, што манах гэтак накліча на іх бяду і няшчасце. Яны й кажуць да яго: хай спраўдзіць сваю веру цудам, хай капішча знікне пад зямлёю. Пустэльнік пагадзіўся, але пры ўмове, што яму дадуць на гэта тыдзень часу. Яму дазволілі. І цэлы тыдзень манах пасціўся ды прасіў у Бога цуду. На сёмы дзень на месцы капішча паганцы ўбачылі вялізную яміну. А манах, удзячны Богу за ўчынены цуд, разам з другімі хрысціянамі паставіў каля гарадзішча касцёл.*

Шмат на Беларусі такіх гарадзішчаў, на месцы якіх доўгі час існавалі паселішчы і дзе знаходзяць сляды культавых язычніцкіх пабудоў канца I тысячагоддзя. Скажам, у вёсцы Хотамель Столінскага раёна, у Тураве. Пра гарадзішча на беларускай этнічнай тэрыторыі каля вёскі Дзямідаўка непадалёк ад Смаленска, дзе ў час раскопак было адкрыта свяцілішча ранняга жалезнага веку, існуе ўнікальнае паданне. У ім распавядаецца пра нейкага волата, які жыў у гэтых мясцінах і праз Днепр перакідваўся з другім волатам каменнай сякерай. Апроч таго, асілак шыў людзям рознае адзенне. А каб атрымаць вопратку, трэба было прынесці кавалак тканіны, пакінуць яе на гарадзішчы і папрасіць волата пашыць тое, што трэба. На наступны дзень на месцы пакінутага кавалка тканіны ўжо ляжала гатовая вопратка. А самога волата ніхто ніколі не бачыў. Але



*Гарадзішча каля в. Замошша, Сенненскі р-н.*

неяк прыйшоў адзін чалавек і папрасіў сшыць яму «*ні тое, ні сёе*». Асілак выканаў недарэчную просьбу, і той чалавек атрымаў адзенне пашытае абы-як, але пасля гэтага пакрыўджаны волат кінуў шыць наогул, колькі б яго ні прасілі. Дарэчы, такі матыў падання мае падабенства з паданнямі пра камяні-краўцы і камяні-шаўцы, дзе фігуруюць міфалагічныя персанажы, звязаныя з хтанічнай сферай і замагільным светам.

Сустракаюцца і такія паданні пра гарадзішчы, згодна з якімі на гэтых аб'ектах існавалі некалі паганскія капішчы. Прыкладам, у вёсцы Васькаўцы Маладзечанскага раёна, Войстам — Смаргонскага, Свір — Мядзельскага, Лоск — Валожынскага, Бяліца — Мінскага, Горная Веравойша — Аршанскага і г. д. Пра гарадзішча Гарадок каля Пагоста Зарэчнага — Ровенская вобласць на Украіне — у пачатку XX ст. гаварылі, што там была святыня агню. А на гарадзішчы каля вёскі Васькаўцы Маладзечанскага раёна ў паганскія часы, згодна з паданнем, адбываліся ахвярапрынашэнні. На Аршаншчыне каля вёскі Сімахі на беразе Дзевінскага возера ёсць гарадзішча пад назвай *Царкавішча*, дыяметр пляцоўкі і вышыня якога па 20 м. Паміж гарой і возерам ляжыць курганны могільнік. Старажылы

помняць, як на гэтым месцы некалі стаяла драўляная царква. Мабыць, тут калісьці было капішча, прысвечанае культу Багіні-Дзевы і звязанае з культам сонца і ўрадлівасці.

На гарадзішчы каля вёскі Радагошча Навагрудскага раёна не выявілі пры раскопках слядоў інтэнсіўнай гаспадарчай дзейнасці, а ў цэнтры пляцоўкі не было культурнага пласта. Затое тут знайшлі каштоўны скарб бранзалетаў VIII—X стст., якія можна лічыць ахвярным. Усё гэта, а таксама назва вёскі, аднайменная з назвай буйнога сакральнага цэнтра палабскіх славян, плюс назвы суседніх урочышчаў *Бабіна Гара* і *Крашчаніца* сведчаць пра культавае прызначэнне гарадзішча.

Хутчэй за ўсё язычніцкім свяцілішчам было і гарадзішча пад назвай *Талерка*, што каля вёскі Саннікі Дзятлаўскага раёна. Амаль круглая пляцоўка гэтага гарадзішча ў вышыню 12 м, з дыяметрам больш за 30 м, берагі яе трохі прыўзнятыя. Каля падножжа насыпу знайшлі фрагменты керамікі XI—XV стст. Вядома таксама, што першы касцёл у гэтай мясцовасці ўзвялі толькі ў XV ст., што ўскосна сведчыць пра даволі доўгае існаванне тут паганскага капішча.

У паданні пра гэтае гарадзішча гаворыцца, што некалі тут была царква, якая потым знікла. Неяк адна мясцовая кабета паднялася на гару, каб памаліцца. Толькі яна пачала скардзіцца Богу на свой цяжкі лёс, як убачыла дзіўны ланцуг, што выходзіў з-пад зямлі. Кабета моцна ўчапілася за ланцуг рукамі і пацягнула. Урэшце яна выцягнула цэлы крыж ад царквы, які, як ні намагалася жанчына, ніяк не выцягваўся дарэшты. Тады яна надумала клікнуць каго на дапамогу. Але як толькі пачала крычаць, то ўмомант зніклі і крыж, і ланцуг.

Язычніцкае капішча існавала і каля вёскі Бярвішчы Уздзенскага раёна. На памяці старых на валу вакол пляцоўкі некалі стаялі ідалападобныя камяні. Згодна з паданнем, пры месячным святле можна было ўбачыць, як тут блішчыць параскіданае золата.

## Архаічныя паданні пра старыя гарады

На тэрыторыі Беларусі існуе шмат гарадзішчаў, з якіх пачыналіся сённяшнія вялікія гарады. Усім нам вядомыя такія паданні, як, прыкладам, пра ўзнікненне горада Мінска, які

быў заснаваны асілкам Менескам, прыхаднем з Польшчы, Турава — заснаваны варажскім князем Турам, Петрыкава — заснаваны хрышчаным яцвягам Пятром, Пружанаў — заснаваны каралевай Бонай і г. д. Архіўныя звесткі і фальклорныя запісы XIX ст. падаюць і шэраг іншых старадаўніх паданняў. Так, гару Замак у Тураве паданне звязвае з закапанай у ёй мядзведжай скурай, напоўненай золатам. Паводле іншага падання, назва Турава пайшла ад слова *тура* — вежа. Расказваецца, што на вяршыні гары якраз і стаяў замак з сямю вежамі. У XIX ст. у Тураве зафіксавана паданне пра святых Марціна і Кірылу, мошчы якіх нібыта захоўваюцца на Барыса-Глебскіх могілках. У тыя часы казалі, што на ўскрайку горада быў манастыр, вакол якога выкапалі канал. Аднаго разу ў час моцнай паводкі хвалі Прыпяці пагражалі затапіць манастыр. Святы ўгоднік Марцін пакінуў свой затвор і выйшаў паглядзець на небяспечныя хвалі. У гэты самы момант ён убачыў выявы святых Барыса і Глеба.

У Ваўкавыску ўзвядзенне гарадзішча прыпісваецца хеўры разбойнікаў, у прыватнасці, іх завадатарам — Волаку і Вісеку. Апроч таго падання, існуе і паралельнае, згодна з якім гару-гарадзішча нанасілі шапкамі шведы.

Пра замак у Навагрудку захаваліся паданні, навеяныя падзеямі войнаў з шведамі ў XVII—XVIII стст. У адным з іх расказваецца:

*Шведы ніяк не маглі ўзяць замак штурмам і задумалі пайсці на хітрасць. Яны падаслалі да наваградскага князя красуню-шведку. Князь закахаўся і прапанаваў ёй руку і сэрца. Шведка пагадзілася ўзяць з князем шлюб, але пры ўмове, што ён здасца без бою. Яна гарантавала захаваць замак цэлым. І князь пагадзіўся, але шведы ўварваліся ў замак, разбурылі яго ды перабілі ўсіх людзей у Наваградку.*

Горад Крычаў быў нібыта заснаваны вялікім князем Мсціславам. На адной з горак ён паставіў замак, дзе размясціў склад зброі. Яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. у Магілёве было папулярным паданне пра двух асілкаў, якіх звалі Гвоздзь і Машэка і якія былі рабаўнікамі і забойцамі. Усе берагі Дняпра параслі магіламі іх ахвяр. Паводле адной версіі падання, магілёўскае гарадзішча насыпана над магілай Машэкі. А яшчэ гарадзішча называюць *Змяёўка*.

Пра Гродна занатавана паданне, што некалі ў гэтай мясцовасці валадарыў сын Відэватовы Літво, які ад імя свайго сына назваў горад Гарто (Гродна). У сярэдзіне XIX ст. запі-

сана паданне пра назву гродзенскай Барыса-Глебскай царквы — Каложу. Нібыта назва яе пайшла з таго, што ў 1406 годзе князь Вітаўт пасяліў каля храма палонных пскавічоў, захопленых у прыгарадзе Калож'я, які адпаведна існаваў на месцы гарадзішча ў Апочкаўскім павеце, што на Пскоўшчыне. Слонім атрымаў сваю назву нібыта ад таго, што каля яго знаходзілі шмат сланавых або мамантавых костак.

Паходжанне Мазыра звязана з паданнем пра двух братоў, якія вялі гандаль «жырам» (тлушчам). Аднойчы яны паспрачаліся і пачалі крычаць: «Мой жыр! Мой жыр!». Адсюль быццам бы і назва горада: *Можыр — Мозыр — Мазыр.*

У шмат якіх паданнях фігуруе каралева Бона. У адным месцы яна быццам бы жыла, іншае месца заваявала, у трэцім заклала замак і г. д. Як прыкладам, у Давыд-Гарадку, Пінску, Клецку, Смалянах, Мядзелі, Рагачове, інш. Пра горад Ігумен, сучасны Чэрвень, паданне расказвае, што яго назвалі ў гонар жаночага Ігуменскага манастыра, які пабудавала ігуменнягрэчанка на месцы язычніцкага мольбішча.

У дакументах аб некаторых гарадах Беларусі часам трапляюцца звесткі пра змены назваў гарадзішчаў. Так, у Слуцку гарадзішча ў розныя гістарычныя часы фігуруе пад назвай *Верхні Замак, Саборная, Вялікая* і нават *Бязбожная Горка.*

# Скарбы, здані, забабоны

Шырока бытуюць на Беларусі паданні пра закапаныя на гарадзішчах скарбы. І ў якасці скарба можа выступаць як бочка з золатам, так і залатая карэта, як куфар, лодка з каштоўнасцямі, так і зброя. Згодна з такімі паданнямі, скарбы на гарадзішчах зазвычай закопваюць чужаземцы, тыя, з кім тутэйшыя за ўсю гісторыю не раз змагаліся: татары, рускія, шведы, французы, туркі ды інш., або нехта з кіраўнікоў тых варожых дзяржаў: Карл XII, Пётр I, Напалеон, Кацярына II і г. д.

Так, незлічоныя скарбы нібыта схаваныя пад Замкавай Гарой у Капылі, залатая карэта закапаная на гарадзішчы Малышкі Вілейскага раёна, а каля вёскі Глінскія ў Полацкім раёне ў 1812 г. на гары Замак французы закапалі карэту, поўную золата. Усярэдзіне гарадзішча, што каля вёскі Укля на Браслаўшчыне, нейкае неазначанае войска пакінула цэлы склеп з каштоўным посудам.



*Гарадзішча на беразе воз. Неспіш,*
*дзе, паводле падання, затоплена залатая лодка,*
*в. Маскавічы, Браслаўскі р-н.*

Паслядоўнасць гэтых паданняў у тым, што легендарныя скарбы час ад часу з'яўляюцца на гарадзішчах. Прыкметай такой з'явы лічацца сінія або жоўтыя агеньчыкі, якія зіхацяць уначы на валах гарадзішча. Калі хто з людзей пабачыць такое дзіва, то адразу кідаецца шукаць скарб, але дарма. Зазвычай скарб выходзіць на паверхню на Купалле, так, прыкладам, кажуць у вёсках Дзехцярова на левым беразе ракі Дрысы і былой Латыгава Верхнядзвінскага раёна.

Захавалася шмат паданняў пра скарбы Езярышчанскага гарадзішча ў Гарадоцкім раёне на паўночным усходзе Беларусі. У адным з іх гаворыцца, што ў час нападу рускіх на замак стары пастух збег адтуль па возеры, а як плывучы сродак ужыў звычайныя дзверы. Пасля разбурэння горада ён вярнуўся і знайшоў у валах гарадзішча склеп з усялякім багаццем. Ёсць і другая, больш падрабязная, версія падання:

*У мястэчка да рыбака Вяхоткі завіталі неяк уночы трое невядомых і папрасілі, каб перавёз іх праз возера да гарадзішча, якое ляжыць там на востраве. Як толькі Вяхотка перавёз тых на востраў, яны падышлі да аднаго вала, а там расла*

*даволі вялікая разлапістая рабіна, вывернулі яе з коранем — і адкрыліся цяжкія жалезныя дзверы. Адзін незнаёмы адамкнуў іх ключом. І ўсе чацвёра ўвайшлі ў пакой. Там пры запаленай свечцы на невялікім куфэрку сядзела дзяўчына, а ля ног у яе ляжаў велічэзны сабака. Калі вочы звыкліся да святла, то стала бачна, што ў пакоі ёсць яшчэ адныя жалезныя дзверы. У другога незнаёмага былі ад іх ключы. Адамкнуўшы і гэтыя дзверы, усе разам увайшлі ў пакой і ўбачылі, што ён ці не да столі поўны грашыма. Тыя людзі сказалі рыбаку, хай бярэ сабе грошай, колькі пажадае, і возіць іх дадому, пакуль яны будуць снедаць. За сняданак Вяхотка паспеў завезці сабе тры мяхі грошай. А калі ўжо апошні раз вярнуўся на востраў, незнаёмыя чакалі яго, каб зноў плыць на бераг. Развітваючыся, яны аддалі рыбаку ключы ад дзвярэй і сказалі, што пакідаюць усе гэтыя багацці на яго і што ён можа карыстацца нават тымі грашыма, але толькі сам для сябе і з умовай, што нікому пра гэта не раскажа.*

*Рыбак неўзабаве вельмі разбагацеў, але не ведаў, куды падзець тыя грошы, і стаў піць. На ўсе роспыты, адкуль у беднага рыбака раптам узяліся грошы, ён упарта маўчаў. Але неяк не вытрымаў і расказаў усё свайму сыну. Калі яны разам паехалі на востраў і падышлі да рабіны, то ніякіх дзвярэй там ужо не было.*

У падобных паданнях праяўляецца светапогляд нашых далёкіх продкаў. Апісаныя гарадзішчы былі культавымі, і там чыніліся адпаведныя рытуалы. З часам гэтая прастора стала недатыкальнай, населенай таямнічымі духамі продкаў, якія ахоўваюць уваход у іншасвет, дзе схаваныя незлічоныя багацці. Праўда, зрэдчас таямнічыя незнаёмыя ў абліччы зданяў або нават жывых істот могуць прапаноўваць тыя скарбы простым смяротным. Але толькі абраным і не проста так, а з нейкай умовай, без выканання якой усе гэтыя багацці знікаюць.

У паданні пра Гальшанскае гарадзішча Ашмянскага раёна расказваецца:

*За вёскай каля гары-гарадзішча просты селянін Людзвіг Гарадзецкі араў сваю невялікую палоску. Стаміўшыся, ён прылёг адпачыць і прысніў надта харошую жанчыну, якая клікала яго за сабою. Людзвіг схамянуўся і памкнуў у кустоўе на гары, дзе схавалася тая незнаёмая. Рассунуў ён галлё, аж глядзіць — стары касцёл. Людзвіг зайшоў туды і каля вялікага куфра з скарбамі бачыць тую самую жанчыну. А дзіўная*

*красуня й кажа: «Набяры сабе багацця, колькі можаш за раз забраць. Але толькі на зваротнай дарозе, глядзі, не азірайся». Людзвіг набраў усяго як рукамі абняць і стаў спускацца з гары. Але няўдала ступіў, зачапіўся за куст ды незнарок азірнуўся. І адразу за дзвярыма ў касцёле пачуў кабецін голас: «Пагубіў ты мяне!». А ўзятыя багацці ўмомант абярнуліся каменьчыкамі.*

Пра Замкавую Гару Ламіху ў Віцебску некалі расказвалі, што ўсярэдзіне гары ў сваім падземным палацы даўным даўно жыла красуня-царэўна. Прыбраная ў белае адзенне і асветленая агнямі, яна сядзела на залатым троне, а каля яе ног ляжалі горы золата і дыяментаў. У час Купалля яна выходзіла на паверхню і рассыпала вакол сябе прыгаршчы дыяментаў. Як толькі да іх датыкалася чалавечая рука, яны адразу парахнелі. А калі набліжалася варожая небяспека, царэўна па начах званіла ў мясцовым саборы ў званы. Але абы толькі хто наблізіўся да яе — адразу знікала.

Здані на гарадзішчах зазвычай уяўляюцца ў выглядзе жанчыны ў белым адзенні, часта са свечкай у руках. Паданні пра іх зафіксаваны ў вёсцы Малышкі Вілейскага раёна, Вялікія Споры — Пастаўскага, Вішчын — Рагачоўскага. Тым часам на навагрудскім замчышчы з'яўлялася прыгожая дзяўчына з маленькім сабачкам. Пра гарадзішча каля мястэчка Баруны на Ашмяншчыне расказваюць, што яно населена рознымі духамі. А ў падзямеллях пінскага гарадзішча нібыта ходзіць шведскі рыцар з залатой шпорай.

## Сляды селішчаў

У народнай памяці беларусаў захаваліся звесткі пра сляды неўмацаваных старажытных паселішчаў, ці паводле археалагічнай тэрміналогіі — селішчаў. У тапаніміцы сустракаюцца такія назвы, як *Селішча, Царкавішча, Прыстань* і г. д. Самая пашыраная назва месцаў аселасці ранняга жалезнага веку — *Селішча*, а феадальнай эпохі — *Старое Сяло, Стараселле, Царкавішча*. Ёсць таксама і іншыя: *Замікальшчына, Ігрышча, Сялецкі Роў, Пасадскае, Белая Гара, Дзедаў Шпіль*.

З селішчамі звязваюцца і паданні пра заснаванне вёсак. Прыкладам, пра вёску Добрае на Мсціслаўшчыне кажуць, быццам на яе месцы некалі існаваў горад Матан, які дарэшты

разбурылі ў час бітвы, у якой браў удзел Пётр I. У вёсцы Стары Пагост на Мёршчыне бытуюць старадаўнія паданні пра горад Багоцк, які раней стаяў на месцы іхнай вёскі. Расказваюць, што гэты горад некалі праваліўся пад зямлю і толькі ў пэўныя дні выходзіць на паверхню. Але ўбачыць яго могуць не ўсе, а толькі бязгрэшныя і добрыя людзі. У іншых версіях падання фігуруе яшчэ жанчына ў белым адзенні. Завецца яна Белая Пані.

*У тыя часы, калі горад паказваецца з-пад зямлі, бачаць і тую пані, якая выязджае са сваіх палацаў, што пад горкай каля Пагосцкага возера, і едзе яна па горадзе ў карэце, запрэжанай чацвёркай белых коней. Некалі палац яе разам з горадам праваліўся скрозьдонна. А ўбачыць яго можна толькі на Купалле, калі апоўдні зямля на ўзгорку расступаецца і адчыняюцца дзверы ў палацы. Зачараваная Белая Пані сядзіць на куфры, а вакол месяцца аграмадныя каваныя скрыні, поўныя грошай і золата. Бедная пані горка плача, бо не можа сысці з месца, у яе пад нагамі ляжаць чатыры чорныя вялізныя сабакі з надта бліскучымі вачыма. I калі хто адважны падыходзіць да палаца, яны грозна гырчаць. Пакуль што не знайшлося такога чалавека, каб наблізіўся да скарбаў, забраў іх і гэтак зняў заклён з Белай Пані, вызваліў яе ад цяжкой павіннасці ахоўваць скарбы. Тады, кажуць, і палац, і гэны горад выйшлі б на паверхню, і чароўная пані магла б жыць разам з людзьмі.*

Пра колішні старадаўні горад расказваюць сёння і ў вёсцы Кукарава Бярэзінскага раёна. Кажуць, быццам тады жыў на гэтым месцы вялікі і заможны пан Кукар разам з сваім магутным войскам.

Пра вёску Семігосцічы (Сямікосцічы), што ў Столінскім раёне, у сярэдзіне XIX ст. расказвалі такое паданне:

*У гэтай мясцовасці было шмат балотаў, а сярод іх вылучаліся ўзгоркі, дзе жылі сем замужніх сёстраў, адна за адну харашэй і разумней. Мужы іх хадзілі ў лес на касматага звера і вазілі яго ў далёкія краі. Ды неяк раз, як сёстры былі адныя, ехаў ладны асілак на белым кані, увесь прыбраны ў золата і срэбра. I кожная сястра стала зваць яго ў госці. Асілак сказаў ім, хай збяруцца ўсе ў адзін дом, і сам пайшоў туды. Мінуў час, ладнаму дзецюку трэба ўжо ехаць, але сёстры не хочуць яго пускаць. Аж перасварыліся яны міжсобку. I тады*

*ён паддаўся на ўгаворы, застаўся яшчэ на колькі дзён. Але неўзабаве вярнуліся гаспадары. Жонкі сталі адмаўляцца ад сваіх мужыкоў, кажная гатова была ехаць з рыцарам хоць за свет. І ўсчалася бойка паміж мужыкамі ды жонкамі. За жонак заступіўся асілак. А ён быў чарадзеем і клікнуў чорных духаў на помач, перабіў мужыкоў. Чарадзею заставалася толькі выбраць сабе жонку і ехаць з ёю. Але кожная хацела за яго замуж. Асілку ж ніводная не падабалася. Дык ён наказаў лясным духам з'явіцца ў ягоным абліччы і пабрацца шлюбам з сямю сёстрамі. Сам тым часам хуценька ўцёк на кані. А мужоў пахавалі на сямі ўзгорках. Адсюль быццам бы й назва вёскі Сямікосцічы (Сямігосцічы), ад тае пары яе лічаць прытулкам чараўнікоў і ведзьмаў.*

Цікавае паданне вядома пра вёску Крайск у Лагойскім раёне. Расказваецца, што на месцы вёскі некалі існаваў горад Райск. Але ішла вайна, і на полі бою сышліся рускія і шведскія войскі. Людзей загінула гэтулькі, што ад пралітай крыві выйшла з берагоў мясцовая рэчка Крашчанка. Горад Райск быў амаль што вынішчаны, засталася толькі крайняя вуліца. Адсюль і назва — *Крайск*. А ў вёсцы Лочын Асіповіцкага раёна кажуць, быццам ва ўрочышчы Вокны некалі даўным-даўно стаяла вёска, а потым раптам правалілася пад зямлю.

# Літаратура

*Бруевич, Н. И.* Малые городища Посожья / Н. И. Бруевич // Славянский мир Полесья в древности и средневековьи : (Материалы международной научной конференции 19—20 октября 2004 г. — Гомель, 2004. — С. 24—28.

*Бруевич, Н. И.* Малое городище в Посожье — Городок-I / Н. И. Бруевич // Археалогія эпохі сярэдневякоўя: Матэрыялы па археалогіі Беларусі. — Вып. 12. — Мінск, 2006. — С. 77—88.

*Булгаковский, Д.* Исторический очерк Волковыска, уездного города Гродненской губернии / Д. Булгаковский. — 1881.

*Глацёнак, В.* Некаторыя з помнікаў Асьвейскага раёну / В. Глацёнак // Наш край. — 1930. — № 3 (54). — С. 55—57.

Городища и курганы Минской губернии // Древняя и Новая Россия. — СПб., 1875. — № 4. — С. 415.

*Губина, В. В.* Предания старины глубокой: (легенды о белорусских храмах) / В. В. Губина // Исторический поиск Беларуси. — Минск, 2006. — С. 175—181.

*Дмитриев, М.* Несколько слов краткого исторического обозрения русско-литовского Новогрудка со времени основания этого города русским князем Ярополком Владимировичем, сыном Владимира Мономаха в 1116 году до конца XIV столетия / М. Дмитриев // Вестник императорского русского географического общества: Ч. 24. — СПб., 1858. — № 12. — С. 224—240.

Донесения о первых успехах путешествия в России Зоряна Долуга-Ходаковского: 1822 // Русский исторический сборник, издаваемый императорским обществом истории и древностей Российских: Т. 7. — М., 1844.

*Дучыц, Л. У.* Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў / Л. У. Дучыц. — Мінск, 1993.

*Зайкоўскі, Э.* Асноўныя тыпы язычніцкіх свяцілішчаў на тэрыторыі Беларусі / Э. Зайкоўскі // Медобори і духовна культура давніх, середньовічных словъян (до 150-річчя виявлення Збруцького «Святовита»): Матеріали наукової конференції (8—9 жовтня 1998 р., Гримайлів). — Львів, 1998. — С. 97—102.

*Зайкоўскі, Э. М.* Раскопкі гарадзішча каля вёскі Аношкі Нясвіжскага раёна / Э. М. Зайкоўскі, А. М. Мядзведзеў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. — Мінск, 2001. — № 3 — С. 63—77.

*Зайкоўскі, Э.* Пра адзін з тыпаў узгоркавых свяцілішчаў / Э. Зайкоўскі // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 55—63.

*Зайковский, Э.* Предания о языческих культовых памятниках Беларуси и археология / Э. Зайковский // Kultūras krustpunkti: 3 Laidiens. — Riga, 2006. — С. 163—182.

Замечательности Северо-Западного края. — Вып. II. — Вильна, 1868.

*Ісаенка, Ул. Ф.* Юравічы над Прыпяццю / Ул. Ф. Ісаенка. — Мінск, 2000.

*Калядзінскі, Л. У.* Народныя паданні як крыніца тлумачэння паходжання назваў старажытных гарадоў Беларусі: (паводле матэрыялаў з паселішча Капыль) / Л. У. Калядзінскі // Народныя традыцыі і нацыянальная культура: Кн. 1. — Мінск, 2001. — С. 64—68.

*Корзун, Э.* Легенды Гальшанскага краю / Э. Корзун // Куфэрак Віленшчыны. — Маладзечна, 2001. — № 2 (4). — С. 28—33.

*Крукоўскі, А.* Старадаўны Тураў і яго ваколіцы / А. Крукоўскі // Наш край. — 1926. — № 8—9 (11—12). — С. 52.

*Ластоўскі, В.* Выбраныя творы / В. Ластоўскі. — Мінск, 1997.

Легенды і паданні. — Мінск, 1983.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. — Мінск, 1879.

Опросные листы 1924 года // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. — Справы № 69—73.

*Панченко, А. А.* Православная церковь: археология и фольклор / А. А. Панченко // Новгород и Новгородская зем-

ля (история и археология). — Вып. IX. — Новгород, 1995. — С. 263—272.

*Поболь, Л. Д.* Археологические памятники Белоруссии. Железный век / Л. Д. Поболь. — Минск, 1983.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по подготовке в Вильне IX Археологического съезда. Приложение. — М., 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильно, 1895.

Примечательные местности в Чериковском уезде Могилевской губернии // Журнал Министерства внутренних дел. — 1853. — Июль. — С. 3—8.

*Романов, Е.* К археологии Северо-Западного края России: (Археологический очерк Гомельского уезда) / Е. Романов // Записки Северо-Западного отделения Императорского Русского географического общества: Кн. 1. 1910. — Вильна, 1910. — С. 97—128.

*Русанова, И. П.* Языческие святилища древних славян / И. П. Русанова, Б. А. Тимощук. — М., 1993.

*Сапунов, А.* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / А. Сапунов, В. Друцкий-Любецкий. — Витебск, 1896. — С. 216—217.

Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия Археологической Комиссии. — М., 1903. — С. 1—64.

*Сементовский, А.* Памятники старины Витебской губернии / А. Сементовский. — СПб., 1867.

*Соколова, В. К.* Типы восточнославянских топонимических преданий / В. К. Соколова // Славянский фольклор. — М., 1972.

Справа № 12 Археалагічнай камісіі БАН. 1929. // Архіў Інстытута гісторыі НАН. — Справа № 213. — С. 4—8.

*Тарасенко, В. Р.* Раскопки на городище Барсучья Горка // Краткие сообщения Института истории материальной культуры. — Вып. XV. — М., 1947. — С. 102—141.

*Тимощук, Б. А.* Об археологических признаках восточнославянских городищ-святилищ / Б. А. Тимощук // Древние славяне и Киевская Русь. — Киев, 1989. — С. 74—83.

Труды Первого археологического съезда в Москве. 1869. — М., 1871.

*Хмяльніцкая, Л.* Гісторык з Віцебска (жыццяпіс Аляксея Сапунова). — Мінск, 2001.

*Шпилевский, П.* Мозырщина: (Из путешествий по западно-русскому краю) / П. Шпилевский // Архив исторических и практических сведений, относящихся до России: Кн. 3. — 1859. — С. 1—49.

*Штыхов, Г. В.* Археологическая карта Белоруссии / Г. В. Штыхов. — Вып. II. — Минск, 1971.

*Horoszkiewicz, R.* Natatki archeologiczne z Pińszczyzny / R. Horoszkiewicz // Ziemia. — 1926. — № 19. — S. 296—297.

*Jodkowski, J.* Grodno i okolice w zarania dziejowi Litwy i Rusi nad Niemnem / J. Jodkowski. — Grodno, 1928.

*Starosciak, J.* Horodyszcze (z podań ludowych) / J. Starosciak // Młada mysl. — Oszmiany, 1928/1929.

*Tyszkiewicz, K.* Wiadomość historyczna / K. Tyszkiewicz // Teka Wileńska. — Wilno, 1858. — №5. — S. 181—196.

# Курганныя могільнікі і народныя ўяўленні пра іх утварэнне

На беларускай зямлі ад даўніх часоў пазаставалася шмат курганоў. Гэта штучныя ўтварэнні, насыпы над магіламі нашых продкаў. Іх так багата, што ўсіх і не злічыць. Нездарма ў папулярнай песні пяецца: *Колькі ў нас курганоў, // Старыны ўспамінаў, // Колькі песень у нас, // Дзіўных казак, былінаў.* І ўсё ж гісторыкі, археолагі і этнографы зрабілі пэўныя падлікі. Як выявілася, у нашай краіне больш за 2400 курганных могільнікаў.

Курганныя могільнікі датуюцца ў асноўным канцом I — пачаткам II тысячагоддзя. Сустракаюцца курганы эпохі бронзы, ранняга жалезнага веку і часоў позняга сярэднявечча. Дарэчы, свята аберагаліся не толькі насыпы з рэшткамі пахаванняў. Паданні пра курганы таксама захоўваліся ў народнай памяці ды перадаваліся з пакалення ў пакаленне, адлюстроўваючы светабачанне як усяго грамадства, так і паасобных людзей. Народная памяць, увасобленая ў мікратапонімах і паданнях, — гэта каштоўная крыніца этна-археалагічных звестак пра падзеі старажытнай гісторыі, пераказаных у своеасаблівай сістэме вобразаў.

Народныя ўяўленні пра ўтварэнне курганоў вельмі разнастайныя. Але збольшага яны трактуюцца як насыпы над пахаваннямі загінуўшых падчас якой-небудзь вайны. Прыкладам, у часы нашэсця хана Батыя, вайны з туркамі, шведамі, французамі і г. д. Паводле паданняў, у некаторых насыпах нібыта пахаваныя самі багі, асілкі, вялікалюды або проста — жаўнеры, палякі, саксонскія ваякі, літоўцы і нават кітайцы і японцы. На Полаччыне ў адным з паданняў гаворыцца, нібыта ў курганах ляжаць звычайныя жаўнеры, а вышэйшыя чыны пахаваны побач на могілках. Сустракаюцца паданні пра тое, што курганы насыпалі над магіламі ўдзельнікаў вяселля або саміх маладых, якія загінулі ў бойцы. У такіх паданнях — за-



*Курганы каля в. Каханаўшчына, Мінскі р-н.*

звычай вельмі старажытных паводле сваіх вытокаў — гаворыцца пра канфлікт паміж двума вяселлямі.

Каля вёскі Капцэвічы ў Петрыкаўскім раёне курганы завуць *Дзявічыя Магілы* і кажуць, што ў іх пахаваны дзяўчаты-воіны. Згодна з некаторымі сюжэтамі паданняў, на месцы курганоў ваявалі два князі, у іншых варыянтах — каралі ці паны, нейкая «баба», дзве сястры. Так, пра курган, што каля Заслаўя пад Мінскам, расказваюць:

*Было дзве сястры: старэйшая — прыгажуня, а малодшая — брыдкая. І от дзіва! У брыдкую закахаўся менскі князь. Дык старэйшая задумала звесці суперніцу са свету чароўным зеллем. Але калі яна несла зелле праз лес, то спужалася нейкае здані, што заступіла ёй дарогу. З перапуду красуня кінулася ў рэчку і загінула. А шчаслівейшая малодшая сястра насыпала над яе магілай курган.*

У паданнях пра курганы вельмі часта падкрэсліваецца, быццам яны ўзніклі таму, што салдаты нанасілі зямлю шапкамі або каскамі, нават пілоткамі. У іншых версіях — ботамі або жменямі. Пра некаторыя курганы кажуць, быццам гэта насыпы адмыслова ўзведзеныя для назірання за ворагам. Курганы каля Смаргоні паданне атаясамлівае з месцам першай ваеннай сустрэчы шведаў з расейцамі. На гэтым месцы быццам бы Карл XII збіраўся даваць генеральны бой, і таму шведы пачалі насы-

паць узвышшы. Але рускія перашкодзілі, і шведскі кароль падаўся на Палтаву. Адзін з курганных могільнікаў, што каля ракі Бярэзіны, у народзе лічыцца лагерам рускіх вояў у час вайны цара Івана Жахлівага з каралём Стэфанам Баторыем.

Курганныя насыпы ў Капылі паданне атаясамлівае з месцам бойкі «нейкага князя Радзівіла з князем Міхаілам Глінскім дзеля дачкі слуцкага князя Алелькі Анастасіі». Пра курганы ва ўрочышчы Пагоня каля мястэчка Моладава Іванаўскага раёна кажуць, што «гетман Вялікага Княства Літоўскага Міхаіл Глінскі збіраў свае войскі супраць шведаў і стаяў з булавой на найвышэйшым з кургаНоў».

У 20-я гады XX ст. у вёсцы Дусаеўшчына Капыльскага раёна пра курган і Змееў Дуб расказвалі паданне. Быццам бы ляцеў некалі з захаду на ўсход вялікі змей і сеў адпачыць на прыдарожны дуб. Тады дрэва разам са змеем спалілі, а на гэтым месцы насыпалі вялізны курган. На беразе аднаго з азёр у Дубровенскім раёне тры курганы называюцца *Змеевы Магілы*. Паводле падання, у возеры жыў паганы змей, які патрабаваў у ахвяру людзей і жывёл. Але неўзабаве з'явіўся асілак і рассёк таго змея на тры часткі. Над кожнай з іх насыпалі курган, а зямлю на змяіныя магілы дастаўлялі на вазках, запрэжаных пеўнікамі.

У курганах каля вёсак Бярвішчы Уздзенскага раёна і Дабрынёва Дзяржынскага, паводле паданняў, закапаны скарбы. У якасці скарбу ўвогуле выступаюць: залатая шапка, залатая брычка, карэта з золатам, куфар з багаццем, грошы і да т. п. У вёсцы Гронаў Чэрыкаўскага раёна, дзе курганных насыпаў больш за сотню, падкрэсліваюць, што скарб закапаны менавіта ў сто першым кургане. У вёсцы Обча Бабруйскага раёна лічаць, што ў адным з курганоў куфар з багаццем закапаў сам Напалеон. У вёсках Сарокі і Берагоўцы Шчучынскага раёна, Сухая Гара і Селішча Лагойскага расказваюць, нібыта ў мясцовых курганах закапана залатая калясніца. Мясцовыя людзі з вёскі Анусіна каля Мінска лічаць, што ў іх курганах шведскае войска хавала свае запасы.

Самае цікавае — часам высвятляецца, што такія паданні зусім не выпадковыя. Сапраўды, здаралася, на курганах або каля курганоў знаходзілі скарбы. Згодна з даўняй традыцыяй, месцы пахаванняў у нашай культуры заўсёды лічыліся сакральнымі і недатыкальнымі. Таму людзі ў час небяспекі і хавалі свае багацці на святым месцы. У 20-ыя гады XX ст. каля мястэчка Грозава на Капыльшчыне ў адным з курганных насыпаў дзеці знайшлі пяцьдзесят медзяных і срэбных манет, датаваных канцом XVIII ст.

Рэчавы скарб часоў Кіеўскай Русі быў знойдзены каля курганоў недалёка ад вёскі Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна.

Іншым разам народныя паданні вельмі своеасабліва тлумачаць велічыню таго ці іншага кургана. Так каля вёскі Далёкія на Браслаўшчыне ў вялікіх курганах нібыта пахаваны коні, а ў меншых — людзі. У канцы XIX ст. на Случчыне людзі расказвалі, як некалі іх прапрадзеды былі няхрышчаныя. І калі хто паміраў, то кожны сваяк мусіў прынесці на магілу прыпол зямлі. Калі мінаў год, то ў дзень памінання нябожчыка абрад зноў паўтаралі. Так доўжылася, пакуль жыла памяць пра чалавека. І чым больш было сваякоў, тым большы станавіўся курган.

# Валатоўкі і волаты

У народзе да гэтай пары найбольш пашырана думка пра курганы, што гэта магілы волатаў-асілкаў. Менавіта волаты-асілкі ў народнай свядомасці маюць дачыненне да старадаўніх продкаў беларусаў і завуцца або *веліканамі*, або *вялікалюдамі*, або *паганскімі воямі*. Гэтыя ўяўленні, відавочна, пайшлі ад папулярнага падання пра першых людзей на зямлі, якія былі вельмі магутныя і валодалі надзвычайнай сілай.

Найменне курганоў *Валатоўкі* найбольш пашырана на поўначы Беларусі і ў асноўным супадае з арэалам рассялення крывічоў. Апрача таго, назва *Валатоўкі* ў дачыненні да курганоў зафіксавана ў пісьмовых крыніцах XVI—XVII стст. Дзе-нідзе валатоўкамі называюць і грунтовыя сярэднявечныя могільнікі. Але не выключна, што ў старажытнасці побач з гэтымі насыпамі існавалі старэйшыя курганы, а іх назва проста перайшла на пазнейшыя пахаванні.

Назва *Валатоўка* мае варыянты: *Малатоўкі, Калатоўкі, Талатоўкі, Валаваткі, Вілаваткі, Вілатоўкі, Валотка, Валошына, Валосаўка*, ці ўдакладненні: *Валатоўка Барысаўская, Напалеонаўская, Французская* і г. д. А некаторыя курганныя насыпы маюць па дзве назвы: *Валатоўкі* і *Капцы*. У 20-ыя гады XX ст. на Чэрвеньшчыне старыя людзі называлі курганы *Валатоўкі*, а моладзь — *Капцы*. У гэтым жа раёне бытавала паданне пра волата, які некалі нарабаваў шмат золата і схаваў яго ў лясной крынічцы сярод валатовак. У курганным могільніку каля вёскі Валынеж Касцюковіцкага раёна вялікі насып называлі *Волатава Магіла*. Паданне кажа, што малодшы брат каменнай сякерай

забіў старэйшага і пахаваў у кургане. Каля Мазыра пра Каршакову Гару апавядаюць, што гэта магіла волата Коршака.

Курганы на тэрыторыі былой Талачманскай воласці (цяпер Свіслацкі раён Гродзенскай вобласці) у XIX ст. называлі *Капцамі* або *Са́самі*. Лічылася, што ў іх пахаваны вялікалюды. Пра другі могільнік у гэтым самым раёне занатавана паданне, згодна з якім некалі на месцы курганоў нейкае войска размясціла свой лагер. Раптам сярод Сакольскага атрада з'явіўся велікан. Ён з каранямі вырваў з зямлі дуб і перабіў ім усіх ваяроў. Забітых пахавалі пад гэтымі насыпамі. Дарэчы, волат або асілак — гэта галоўны персанаж беларускіх паданняў і казак, якія ўвабралі ў сябе матывы былін IX—XII стст. Тут волаты зазвычай падаюцца героямі, што перакідваюцца міжсобку вялізнымі камянямі і каменнымі сякерамі, карчуюць дрэвы.

Існуюць розныя тлумачэнні паходжання слова *волат*, якое абазначае дужых людзей-веліканаў і паходзіць ад слоў *валачы* 'звозіць у адно месца' ды інш. Паданні пра такіх асілкаў-волатаў вядомыя ад Балтыйскага мора да Каўказскіх гораў. Некаторыя фалькларысты прыйшлі да высновы, што гэтыя паданні сягаюць глыбіняў ірана-цюркскага эпасу і звязаны з родавым культам продкаў. У беларускай старажытнай культуры фальклорныя волаты звязаны з богам замагільнага свету і ўрадлівасці Вялесам. У нашых легендах прадстаўлены таксама старажытныя вобразы жанчын-асілкаў, валатоўнаў, дзяўчат-вояў. Гэта адгалосак яшчэ старажытнейшага культу Вялікай Багіні, што некалі бытаваў на нашых землях і быў прадстаўлены трыма іпастасямі: Багіняй-Дзевай, Багіняй-Маці і Багіняй-Смерцю. Дарэчы, беларуская валатоўна мае паралелі ў кельцкай, германскай і прускай міфалогіях.

# Татарскія, Шведскія, Французскія і іншыя магілы

Амаль па ўсёй тэрыторыі нашай краіны як найбольш пацярпелай ад усялякіх войнаў, бытуюць паданні, быццам у курганах пахаваныя захопнікі: татары, туркі, шведы, французы, інш. Часта гавораць пра курганы як магілы воінаў, што загінулі ў час нападу ворагаў. Прыкладам, пра магільныя насыпы каля вёскі Грэск на Случчыне ў другой палове XIX ст. расказвалі, што яны «засталіся ад нашэсця манголаў». Два курганы каля мястэчка Стары Дольск Валынскай вобласці

Украіны падзялялі на той, у якім нібыта пахаваны воі князя Дольскага, і той, дзе ляжаць забітыя імі татары.

У вёсках Шклянцы і Нябышына Докшыцкага раёна і сёння яшчэ расказваюць, што курганы засталіся ад вайны з туркамі. У Шклянцах нібыта быў некалі вялікі бой і загінула шмат вояў. На пахаванне раптам прывезлі грошы, падрыхтаваныя для аплаты іх вайсковых паслуг. Было вырашана залатыя манеты пакласці разам з ваярамі ў магілу. У вёсцы Смаляры Барысаўскага раёна каля курганоў, як кажа паданне, існавала некалі вялікае паселішча з прыгожай царквой, дзе знаходзіўся цудадзейны абраз Багародзіцы. А ў час вайны з Турцыяй адзін з турэцкіх ваякаў ударыў штыком у абраз і прабіў Багародзіцы шчаку. Божая Маці зазлавала і зрабіла так, што ўсе турэцкія воі пачалі біцца міжсобку. Біліся яны датуль, пакуль сярод іх не засталося ніводнага жывога жаўнера. Людзі закапалі туркаў і насыпалі курганы.

У паданнях, занатаваных у канцы XIX — пачатку XX стст., часам гаворыцца, што курганы засталіся «ад часоў напасці Батыя», або па вайне «шведаў з Ардой», «шведаў з туркамі», «ад таго часу, калі была вайна туркаў і французаў» і г. д. Курганы каля вёскі Верацеі на паўночным захадзе Віцебшчыны — гэта нібыта магілы шведаў, якія разам з забітымі шмат схавалі маёмасці. На Вілейшчыне расказваецца, што каля вёскі Рускае Сяло на курганах стаялі шведы, а за вёскай — рускія воі, якімі кіравала царыца Кацярына. Адзін з курганных могільнікаў на Сенненшчыне завуць *Шведскія Магілы*, але звязваюць іх і з татарамі, і з белымі фараонамі. Каля вёскі Грушава ў Кобрынскім раёне курганы лічацца магіламі, якія засталіся «пасля вайны шведаў з саксонцамі».

Курганы каля вёсак Тарасавічы і Убалацце Асіповіцкага раёна ў XIX ст. называлі *Шведскімі Курганамі*. Паводле падання, на гэтым месцы было разбіта шведскае войска. Пасля бойкі на поле прыйшоў селянін з вёскі Убалацце і ўбачыў сярод забітых жывога шведа, які паранены заснуў. Вясковец зняў з яго зброю, схаваўся ў кустах і стаў чакаць, што будзе. Швед прачнуўся і папрасіў вярнуць зброю. Селянін так і зрабіў, тады ваяр прызнаўся, што ён не мужчына, а жонка забітага шведскага афіцэра, якая пераапранулася ў вайсковую форму, каб заўсёды быць побач з мужам. Неўзабаве гэтая жанчына выйшла замуж за селяніна, а іх нашчадкаў у народзе празвалі *Шведзюкі*.

У канцы XIX ст. археолаг У. Завітневіч раскопваў дрыгавіцкія курганы і звярнуў увагу на тое, што народныя назвы і паданні пра курганы вельмі цікавыя з боку гістарычнай псіхалогіі.



*Курганны насып каля в. Малы Азярэцк, Сенненскі р-н.*

У вёсцы Чэрнікаўшчына Дзяржынскага раёна на беразе ракі Усы навуковец выпытваў у мясцовых людзей, хто, на іх думку, пахаваны ў курганах. Сяляне адказвалі: «мусіць, французы», а адзін з іх, вельмі стары, заўважыў: «гэта паганскія магілы». Пазней даследчык апытваў жыхароў з навакольных мясцін Барысава. Мясцовыя людзі тады называлі курганы «шведскімі магіламі», а на пытанне, чаму не французскія, людзі падкрэслівалі, што курганы не могуць быць французскімі магіламі, бо жывуць яшчэ тыя, хто памятае вайну 1812 г. Але на пачатку XX ст. у Аздзяцічах на Барысаўшчыне ўжо гаварылі пра мясцовыя курганы як пра рэшткі напалеонаўскага адступлення. У Кахоўцы каля Віцебска расказвалі, што ў курганных насыпах пахаваны «французы напалеонаўскага войска 1812 года» і г. д.

Часта ў выніку напластаванняў у свядомасці людзей розных эпох блытаюцца назвы, падзеі, асобы, і тады яны паўстаюць у паданнях з розных гістарычных рэалій. Так, на Гомельшчыне адзін з курганных могільнікаў успамінаецца як месца баёў «шведаў, французаў і Чынгіз-хана». Пра курганы на левым беразе ракі Басі, што каля Чавусаў на Магілёўшчыне расказвалі, быццам адныя насыпы ўзведзены над загінулымі татарамі і літоўцамі, а другія — магілы смаленцаў. Курганы каля былой вёскі Спіцы ў Сенненскім раёне паданне звязвае з прусамі.

Пра некаторыя курганныя могільнікі можна прывесці па некалькі варыянтаў паданняў. Прыкладам, археолаг У. Бага-

мольнікаў у вёсцы Дзяніскавічы Жлобінскага раёна зафіксаваў шэсць матываў у падачы паданняў і гэтулькі сама варыянтаў назваў: *Шведскія Магілы; Магілы ад французскай вайны; Турэцкія Магілы; Магілы ад страшнай «руіны», якая касіла людзей; Курганы Пятра I і абарончыя збудаванні, за якімі некалі хаваліся у час войнаў.*

# Вялікія і адзіночныя курганы

На некаторых могільніках сярод насыпаў вылучаецца адзін вялікі курган. Як прыкладам, у вёсцы Патока Клічаўскага раёна, Чарневічы і Перавоз — Глыбоцкага. Адзін вялікі курган у могільніку мае зазвычай уласную назву накшталт *Волатава, Асілкава, Княжая* або *Дзявічая Магіла, Княжы* або *Дзявічы Курган* і да т. п. У кургасніку могуць быць два ці тры вялікія насыпы, і зазвычай яны месцяцца сярод невялікіх курганоў. Прыкладам, лічыцца, што ў вялікім насыпе курганна-жальнічнага могільніка каля вёскі Сухая Гара ў Лагойскім раёне пахавалі забітага вайсковага начальніка, а паводле іншай версіі — закапалі залатую карэту. Паблізу гарадскога пасёлка Урэчча Любанскага раёна вялікі курган меў назву *Княжая Магіла* або *Княжы Курган*. Пра яго запісаны тры версіі паданняў. Адна кажа, што там пахаваны князь, які па-геройску загінуў у час шведскай вайны, другая — што гэта магіла князя, забітага з рэўнасці; трэцяя версія сцвярджае, што менавіта тут закапана залатая шапка. Яшчэ ў XIX ст. курган раскапалі і знайшлі там мужчынскі шкілет, сякеру, спражкі і гліняны гаршчок.

Некалі каля Пінска былі два курганы. Большы меў назву *Магіла Міндоўга*, яшчэ яго называлі *Магіла Войшалка.* Калі ў сярэдзіне XX ст. тут праводзіліся археалагічныя раскопкі, выявілі багатае пахаванне паводле абраду трупаспалення, якое датуецца канцом X — пачаткам XI стст. Пра два курганы пад назвай Княгінкі, што на Лепельшчыне, расказвалі, быццам там пахаваны князь з сваёю жонкай, якую ён забіў за тое, што яна не дачакалася яго з вайны і выйшла замуж за іншага. Потым князь забіў і сябе. У канцы XIX ст. гэтыя курганы раскапалі, у адным з іх знайшлі жаночы касцяк, скураны пояс з меднымі бляшкамі, а на руках два бранзалеты. У другім — мужчынскі шкілет з дзідай, а на лобнай частцы чэрапа срэбны паўтрош Жыгімонта II Аўгуста (XVI ст.).



*Курган у дуброве. Чыгуначны прып. Рошча, Мінскі р-н.*

У вёсцы Воля Кухоцкая на Брэстчыне ў XIX ст. было зафіксавана паданне пра тры вялікія курганы. Адзін насып называлі *Татарскі*, други — *Жыдоўскі*, а трэці — *Дзехцяроўскі*. У першым, паводле падання, нібыта пахаваны татары, у другім — прыгнаныя аднекуль габрэі, а ў трэцім — хрысціяне.

Асабліва ў народзе вылучаюць адзінкавыя курганы. На мяжы Пскоўскай вобласці і Гарадоцкага раёна такі курган завуць *Дзявічая Гара*. Згодна з паданнем, у ім пахавана дзяўчына, якую забіў багатыр. Курган у вёсцы Пігасы Драгічынскага раёна лічыцца месцам пахавання рускіх вояў, якія загінулі ў бойцы з мангола-татарамі. Курганны насып каля вёскі Пратасы Акцябрскага раёна завуць *Княжым* і ўспамінаюць, што там пахаваны князь і ягоная дружына. Курган на высокай гары, што на левым беразе Прыпяці каля Турава, лічыцца магілай двух вояў з аховы князя Вячаслава. Курган каля вёскі Ніўкі Барысаўскага раёна называлі *Магіла Купца* або *Малатоўка* і расказвалі, што купец прасіў людзей, каб па смерці яму насыпалі над магілай вялікі курган і нават пакінуў для гэтага шмат грошай. Каля вёскі Савенічы ў Сенненскім раёне, паводле падання, у кургане пахаваны «арап» і г. д.

На Ушаччыне ёсць курган з цікавай назвай *Сліва-Магіла*. Расказваюць пра яго і дзіўнае паданне. Быццам жыла некалі вяль-

можная пані Паладдзя, і быў у яе сын Сліва. І вось сабраліся неяк маці з сынам у падарожжа, але па дарозе за нешта пасварыліся. Пані пакрыўдзілася і абцасам чаравіка забіла сына. Толькі далёка яна ўжо не ад'ехала. Праз дзве вярсты разам з карэтай, коньмі і слугамі пані праваліласся ў бездань. А на гэтым месцы ад тае пары ўтварылася бяздоннае возера, на беразе якога над магілай сына Паладдзі насыпалі курган і празвалі яго Сліва-Магіла.

Адзіночныя курганы маюць яшчэ і такія назвы, як *Міцькава, Волатава, Дзявічая Магіла* або *Магіла Маладых*. Завуць іх таксама *Федзькін, Еркін, Грошавы, Саксонскі, Турскі Курган* і г. д. Сярод навукоўцаў ёсць розныя меркаванні наконт прычын насыпання вялікіх курганоў. Некаторыя лічаць іх пахаваннямі князёў, другія — былымі свяцілішчамі і г. д. Як бы там ні было, народная памяць захавала пра такія насыпы безліч паданняў.

# Разнастайнасць паданняў

Ні адзін з курганных могільнікаў і адзіночных курганоў людзі не абыходзілі ўвагай і з пакалення ў пакаленне перадавалі аповеды пра іх. У некаторых мясцінах да нашага часу захаваліся вельмі старажытныя назвы і паданні. У другіх на даўнія паданні накладаліся пазнейшыя. Таму нават у адной вёсцы можна пачуць некалькі версій пра той самы археалагічны помнік. Часам навукоўцам удаецца вылучыць цэлыя гістарычныя пласты: язычніцтва і перыяд пашырэння хрысціянства, часы татарскай, шведскай і французскай навалаў. У канцы XIX — пачатку XX стст. фіксавалі яшчэ такія паданні, дзе з'яўленне курганоў тлумачылася паганскімі пахаваннямі. Прыкладам, у 20-ыя гады XX ст. у вёсцы Сухая Гара на Лагойшчыне яшчэ казалі, што «такім спосабам хаваў сваіх нябожчыкаў нейкі народ паганусь».

Курганы паміж вёскамі Лістападавічы і Саковічы Салігорскага раёна маюць назву *Сінія Горкі.* Сіні колер у народнай культуры звязаны з архаічнымі ўяўленнямі пра замагільны свет, з культам памерлых. Пра курганы каля вёскі Маркавічы ў Гомельскім раёне расказваюць, быццам у адным з насыпаў закапаны воз з золатам і некалі каля курганоў прамывалі золата і срэбра. А каля вёскі Брашэвічы Драгічынскага раёна курганы лічацца магіламі вояў і іх ворагаў, якіх узначальваў нейкі Кош. Урочышча, што побач, так і завецца *Кошын Луг.* У гэтым самым раёне ёсць яшчэ дзве вёскі, якія захавалі не

менш цікавыя і адметныя паданні пра мясцовыя курганы. Так, у вёсцы Сіманавічы расказваюць, што ў курганах пахаваны «страннікі», а ў вёсцы Гошава курганы лічацца або магіламі жаўнераў лёгкай беларускай конніцы — лісоўчыкаў, або шведаў, або наогул нейкіх «мамалюкаў».

У народзе вядомыя і такія сюжэты паданняў, дзе фігуруюць вяселлі. Так, пра курганы каля вёскі Мялешкавічы Мазырскага раёна расказваецца, што адна пара маладых ехала ад вянца, а другая, наадварот, — пад вянец. Паводле старажытных забабонаў, зварочваць з дарогі ў такім разе нельга. Зразумела, што ніхто і не хацеў саступіць. У выніку завязалася бойка, і абедзве пары маладых загінулі. Над іх магіламі насыпалі курган.

Ёсць паданні, дзе курганы тлумачацца як насыпы над магіламі памерлых ад чумы, халеры або вялікага голаду. Каля вёскі Гарадок на Ушаччыне курганы маюць назву *Галодныя Магільнікі* і жыхары ўпэўненыя, што там закапаныя дзве роты французскіх салдатаў. Каля былога хутара Бедні Браслаўскага раёна на беразе возера Укля ў лесе месціцца каля дзесяці курганных насыпаў. Мясцовыя людзі называюць іх магіламі загінулых у баях 1812 года. А некаторыя старыя людзі дадаюць, быццам паміж узгоркаў пахаваны і верхавыя коні.

Вылучаецца шэраг паданняў, дзе расказваецца пра пэўных гістарычных асоб. Найчасцей гэта Стэфан Баторы, Карл XII, Пётр I, Кацярына II, Напалеон, інш. З Баторыем звязана і такая назва кургаіоў, як *Батураўшчына*, што каля вёскі Стары Пруд у Чэрвеньскім раёне. У гэтым жа раёне каля вёскіВаладута курганы лічацца слядамі пахода Карла XII у 1708 г. Курганы каля вёскі Галічы Клімавіцкага раёна звязваюць з месцам бою паміж войскамі шведскага караля Карла XII і рускага цара Пятра I. У Слонімскім раёне бытуе паданне, што адна з курганных групаў насыпана ў час нейкай вайны ў гады праўлення Кацярыны Вялікай. Напалеон у такіх паданнях зазвычай закопвае ў курганах свае скарбы пры адступленні з нашых земляў. Да гэтага дадаецца, што да скарба прыкладзена карта мясцовасці, якая закапана ў пэўным курганным насыпе (гл. раздзел XII).

# Ушанаванне курганоў

Здавён курганы лічылі святымі і недатыкальнымі. Нават на пачатку XX ст. іх шанавалі, а на некаторых ставілі вялізныя драўляныя крыжы. Яшчэ ў 80-я гады XX ст. на адным з курга-



*Курганны насып каля в. Селішча, Лагойскі р-н.*

ноў у Лёзненскім раёне стаяў вельмі стары чатырохканцовы дубовы крыж. У канцы XIX ст. жыхары вёскі Валынеж Касцюковіцкага раёна звярталіся да святара, каб дазволіў паставіць крыж на кургане, што лічыўся магілай волата. Ім адмовілі. Тады людзі абсадзілі курган маладзенькімі бярозкамі. Цяпер на гэтым месцы могільнік, сярод якога ўзвышаецца знакаміты курган, а вакол шуміць лістотай бярозавы гай. На дрэве каля кургана Княжая Магіла недалёка ад пасёлка Урэчча Любанскага раёна некалі заўсёды віселі драўляная шабля і стрэльба.

У сярэдзіне XIX ст. граф Канстанцін Тышкевіч вывучаў на Лагойшчыне курганы, а дапамагалі яму ў гэтым прыгонныя сяляне. Калі яны, раскопваючы курган, даходзілі да касцяка пахаванага некалі чалавека, то з жаху адразу кідалі рыдлёўкі і пачыналі маліцца за спакой гэтага нябожчыка. Ніхто і нішто не магло іх у гэты час прымусіць раскопваць курган далей. Графу нічога не заставалася, як самому далей капаць. Тады сяляне былі ўпэўненыя, што грэх за зробленае застанецца толькі на ім. У канцы таго самага стагоддзя святар Сынкавіцкага храма Я. Міхайлоўскі ў Зэльвенскім раёне надумаўся таксама раскапаць курган, які знаходзіўся каля вёскі Новыя Орлавічы Слонімскага раёна, але мясцовыя лю-

15 Зак. 492

дзі ўчынілі актыўны супраціў і нават пагражалі бязбожнаму святару смерцю.

Этнографы ў сваіх запісах часта згадваюць звычай запальвання на могілках у памінальныя дні вогнішчаў або высыпання там вуголля, прынесенага з хатняй пячы. І калі вуголь высыпалі, дык гаршчок, у якім яго неслі, разбівалі ўшчэнт. Прыкладам, такі звычай зафіксаваны ў XIX ст. на Падняпроўі. Паленне вогнішчаў на могілках каля Бягомля ў Докшыцкім раёне адбываецца і ў наш час. Сляды вогнішчаў і пабітага посуду XVI—XVIII стст. на вяршынях курганоў пад дзірваном выявілі ў час археалагічных раскопак, што сведчыць пра другасную рытуалізацыю старажытных насыпаў. Гэта зафіксавана ў вёсках Сухая Гара і Селішча Лагойскага раёна, Маяк — Бабруйскага, Малявічы — Вілейскага, інш.

У Дзісенскім і Ігуменскім паветах яшчэ на пачатку XX ст. у час Радаўніцы існаваў звычай перад наведваннем магіл сваякоў заходзіць на мясцовыя курганы. Тады пяту пафарбаванага яйка закопвалі на самай вяршыні насыпу, сядалі вакол і частаваліся прынесенымі прысмакамі, частку якіх потым пакідалі. На Чэрвеньшчыне ў 20-я гады XX ст. мясцовыя старажылы яшчэ ўспаміналі, як у дні іх маладосці курганы аздаблялі зелянінай, а потым вадзілі там карагоды. Пад тое яны спявалі: «А, валатка, валатка, чаго кругом цябе гадка?». У 1990 г. у вёсцы Жарнасекава Бешанковіцкага раёна этнограф Уладзімір Лобач зафіксаваў цікавы звычай. У памінальныя дні мясцовыя людзі, прывёўшы да ладу магілы сваякоў, спраўляць трызну ішлі толькі на суседнія курганы.

## Забабоны, звязаныя з курганамі

Паколькі курганы лічыліся зачараванымі і недатыкальнымі месцамі, то за спробу парушыць святыню, паводле народных уяўленняў, чалавека чакала кара. Так, кажуць, што ў мястэчку Лукомль Чашніцкага раёна некалі спрабавалі араць на курганах. Дык пасля гэтага ці конь, на якім аралі, некуды знікаў, ці пачынаў невылечна хварэць сам араты. А ў вёсцы Вялікі Лес на Міншчыне расказвалі, як аднаго разу нейкі селянін ссек на кургане высокую хвою і стаў будаваць там млын. Будоўлю ён так і не скончыў, бо неўзабаве памёр. Другі селянін, разворваючы сваё поле, выпадкова зачапіў частку суседняга капца. У той жа дзень адзін з ягоных валоў знік, быццам таго і не было.

Каля вёскі Кузьмічы Вілейскага раёна ёсць камень, які ў народзе лічыцца акамянелыміваламі. Побач з каменем захаваўся адзін курган ад некалі вялікага могільніка. Кажуць, адтуль часам можна пачуць гукі званоў.

Каля вёскі Хваенск Жыткавіцкага раёна пры ўтоцы рэчкі Сцвігі ў Прыпяць ёсць маляўнічы курган з дубам. Мясцовыя людзі раней лічылі, што тут пахавана княгіня Аўгіння. Не толькі курган, але і дуб той лічыўся недатыкальным ды святым. Вераць, што, пакуль ён будзе стаяць, ніякая пошасць не зачэпіць жывёлу.

Вельмі часта курганы выкарыстоўвалі і дзеля лекавання. Так, у вёсцы Буда Рагачоўскага раёна ў XIX ст. у курганным насыпе была пракапана шырокая траншэя, праз якую кожны год праганялі свойскіх жывёл дзеля засцярогі іх ад пошасці. Дарэчы, падобныя выпадкі зафіксаваны і на тэрыторыі паўднёвай Расіі. У земляным праходзе зазвычай запальвалі розныя гаручыя рэчывы і такім спосабам абкурвалі жывёлу.

Як ужо ўспаміналася, у пэўных курганах нібыта схаваны ўсялякія скарбы. Згодна з сюжэтамі такіх паданняў, ноччу на кургане, дзе закапаны скарб, з'яўляюцца агеньчыкі, на паверхню выходзіць, скажам, куфар з багаццем. Часам можа заспяваць певень ці людзі бачаць там салдат, якія ахоўваюць каштоўнасці. Так, на кургане каля вёскі Лятохі Віцебскага раёна нібыта з'яўляецца белы конь і скача паміж насыпамі. У Гарадоцкім раёне на адным з курганных могільнікаў можна ўбачыць двух аграмадных коней, а на другім — белую буду, запрэжаную тройкай белых коней. На поўначы нашай краіны некалі былі запісаны паданні, дзе расказвалася пра рыцара ці сівога дзеда, якія з'язджалі з мясцовых курганных насыпаў на белых конях, адтуль жа мог збегчы бык або казёл, таксама белай масці. Белы колер тут невыпадковы. У міфалогіі ён выступае як сімвал смутку і смерці, пераходу ў іншы стан.

На Гарадзеншчыне ёсць курган Кудычка, дзе, згодна з паданнем, пахаваны гвалтоўна памерлы. Калі людзі праходзілі каля кургана, то зазвычай кідалі на яго камяні, палкі і іншыя рэчы. Лічылася, што калі гэтага не зрабіць, то можа здарыцца якое ліха. Падобны забабон існуе і пра курган Жаніхоўшчына, што таксама на Гарадзеншчыне. Паводле падання, тут сустрэліся некалі два вяселлі і не хацелі адно аднаму саступіць дарогу. Усчалася жорсткая бойка, у выніку аднаго з жаніхоў забілі. А над ягонай магілай насыпалі курган. Потым людзі сталі насіць туды ўсялякія трэскі, салому, траву і г. д. Лічылася, быццам потым гэта спальваў сам нябожчык, які час ад часу выходзіў з насыпу.

# Літаратура

*Авдусин, Д. А.* Ровики славянских курганов / Д. А. Авдусин // Древности Восточной Европы. — М., 1969. — С. 11—16.

*Акоронко, И.* (св.) Летопись Пинского уезда и благочиния Лещинской Успенской приходской церкви / И. Акоронко // Минские Епархиальные ведомости. — 1874. — № 10. — С. 316—332.

*Аникиевич, К. Т.* Сенненский уезд Могилевской губернии / К. Т. Аникиевич. — Могилев, 1907.

*Бараг, Л. Г.* «Асілкі» белорусских сказок и преданий: (к вопросу о формировании восточнославянского эпоса) / Л. Г. Бараг // Русский фольклор. — Вып. 8. — М. — Л., 1963. — С. 29—40.

*Веревкин, М.* Записка об археологических памятниках Витебской губернии / М. Веревкин // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильно, 1893. — С. 187—224.

*Вуглік, І. Р.* Міфалогія беларусаў / І. Р. Вуглік. — Мінск, 2005.

*Говорский, К.* Поездка (14 сентября 1852 г.) из Полоцка по направлению так называемой Ольгердовой дороги / К. Говорский // Записки императорского археологического общества: Т. V. Приложение. — СПб., 1853. — С. 88—97.

*Дучыц, Л. У.* Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў / Л. У. Дучыц. — Мінск, 1993.

*Дучыц, Л.* Да пытання аб вялікіх курганах Беларусі / Л. Дучыц // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Вып. XV. — Мінск, 2000. — С. 76—80.

*Дучыц, Л.* Этнаграфія і міфалогія курганоў Беларусі / Л. Дучыц // Гістарычна-археалагічны зборнік. — Вып. 21. — Мінск, 2006. — С. 119—124.

*Зайцаў, А.* Сакральная геаграфія Вілейшчыны: (паганскія культавыя помнікі Вілейшчыны) / А. Зайцаў // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 64—73.

*Іваноў, С.* Волаты — міф або рэальнасць / С. Іваноў // Беларускі гістарычны часопіс. — 1999. — № 3. — С. 63—65.

*Касьяровіч, І.* Вывучэнне валатовак на Чэрвеншчыне. / І. Касьяровіч // Наш край. — 1929. — № 5. — С. 67.

*Касьяровіч, М. І.* Казкі пра волатаў на Чэрвеншчыне / М. І. Касьяровіч // Наш край. — 1929. — № 6—7 (45—46). — С. 77—78.

*Касьяровіч, М. І.* Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі: (першапачатковыя вынікі даследавання) / М. І. Касьяровіч // Наш край. — 1929. — № 6—7. — С. 84—89.

*Кустинский, М.* Из заметок о курганах Лепельского уезда / М. Кустинский // Полоцкие Епархиальные ведомости. — 1903. — № 7. — С. 232—235.

*Кухаренко, Ю. В.* Пинские курганы / Ю. В. Кухаренко // Славяне и Русь. — М., 1968. — С. 87—90.

*Лобач, У.* Да вынікаў археолага-этнаграфічнай экспедыцыі ў мястэчку Бачэйкава і яго ваколіцах / У. Лобач // Матэрыялы II міжнароднай канферэнцыі па праблемах музеефікацыі унікальных гістарычных тэрыторый. — Полацк, 1996. — С. 45—48.

*Максимов, С. В.* Бродячая Русь Христа ради / С. В. Максимов // Отечественные записки: Т. 227, отд. 3; Т. 229, отд. 1. — СПб., 1875.

*Михайловский, Е.* Археологические очерки Слонимского уезда Гродненской губернии / Е. Михайловский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильно, 1893. — С. 165—186.

Опросные листы 1924 г. // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. — Справы № 69—73.

*Писаренко, Ю. Г.* Могили волотів на Русі / Ю. Г. Писаренко // Український історичний журнал. — 1988. — № 5. — С. 123—129.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Приложение. — Вильна, 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильна, 1895.

Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия археологической комиссии. — Вып. V. — СПб., 1903, С. 1—64.

*Сементовский, А.* Заметки для археолога / А. Сементовский // Витебские губернские ведомости. Неофициальная часть. — 1863. — № 44.

*Сементовский, А.* Памятники старины Витебской губернии / А. Сементовский. — СПб., 1867.

*Сементовский, А.* Белорусские древности / А. Сементовский. — 1890.

*Сербаў, І.* Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі / І. Сербаў // Запіскі аддзелу гуманітарных навук: Кн. 2. Працы археалагічнай камісіі: Т. 2.— Менск, 1930. — С. 91.

*Сергеева, З. М.* Народные названия курганов на северо-востоке Беларуси / З. М. Сергеева // Древности славян и Руси. — М.,1988. — С. 67—72.

*Тарановіч, В.* Старасветчына Мазыршчыны ў матэрыяльных помніках / В. Тарановіч // Наш край. — 1928. — № 8—9 (35—36). — С. 37—44.

*Тышкевич, К.* О курганах в Литве и Западной Руси / К. Тышкевич. — Вильно, 1865.

*Чоловский, С. Ю.* Дневник курганных раскопок, произведенных по поручению г. начальника Могилевской губернии А. С. Дембовецкого в течение июля 1893 г. в трех уездах Могилевской губернии / С. Ю. Чоловский. — Могилев, 1893.

*Янчук, Н.* К истории и характеристике женских типов в героическом эпосе / Н. Янчук // Известия Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. Труды этнографического отделения: Т. 14. — М., 1900. — С. 348—367.

*Янчук, Н.* По Минской губернии: (Заметки из поездок в 1886 году) / Н. Янчук // Труды этнографического отдела Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии: Кн. 9. — Вып. 1. — Т. 61. — 1889. — С. 57—102.

*Jeleńska, E.* Szwedzi, tatarzy i turcy w wyobraźni ludu białoruskiego / *E.* Jeleńska // Wisła, 1894. — S. 589—590.

Poszukiwania archeologiczne w powiecie Ihumeńskim, gubernii Mińskiej w r. 1875 i 1883 dokonane przez Tytusa Sopodzkę. — Podgórze, 1889.

*Tyszkiewicz, K.* Wiadomość historyczna / K. Tyszkiewicz // Teka Wileńska. — Wilno, 1858. — № 5. — S. 181—196.

# Паданні
# пра паходжанне могільнікаў,
# іх апісанне

Па ўсёй тэрыторыі нашай краіны можна сустрэць старадаўнія грунтовыя могільнікі, на некаторых захаваліся каменныя надмагіллі і крыжы, скляпенні, капліцы ды калоны. Такія пахаванні таксама вельмі шануюцца, пра іх ёсць безліч паданняў і легендаў. Калі паходжанне курганных могільнікаў міфалагічная традыцыя звязвае з асілкамі ды волатамі, з месцам пахаванняў вояў, як сваіх, так і чужых, то паданні пра паходжанне познесярэднявечных могільнікаў больш разнастайныя. Прыкладам, у вёсцы Шыбкі на Вілейшчыне расказваюць, што мядзведзь недзе некалі адкапаў нябожчыка ды прынёс у поле за вёскай, і з таго часу на гэтым месцы ўзніклі могілкі. Ёсць і адваротнае паданне, дзе тлумачыцца, чаму на старых могілках нікога ўжо не хаваюць. Быццам на могілкі некалі панадзіўся хадзіць вялізны мядзведзь, які выкопваў з магіл памерлых і некуды зносіў. Ад тае пары могільнік зачынілі.

У Чамярах Мёрскага раёна старыя магілы называюць *Панскі могільнік* і расказваюць, быццам там пахаваны кароль з сваёй дружынай. Часта можна пачуць, што такія могільнікі — гэта вынік даўнейшых войнаў, як кажуць у вёсцы Кульшычы Валожынскага раёна, Бакуны — Пружанскага; ці вынік колішніх польска-шведскіх войнаў, як паведамляюць у Камянцы; ці магілы 1812 г. рускіх і французаў, як цвердзяць у вёсцы Высокая Гара Бярэзінскага раёна і мястэчку Антопаль — Драгічынскага. На гомельскім Палессі пра адзін з старых могільнікаў паданне кажа, быццам там пахаваны нейкі татарын, які ваяваў з Літвой. У мястэчку Ружаны Пружанскага раёна гаварылі, што стары могільнік застаўся ад «вайны з палякамі пры Кацярыне II".

У Кудзінавічах Капыльскага раёна на могілках стаіць капліца, а каля яе камень-следавік з высечаным на ім крыжам. Па-



*Укрыжаванне на старых могілках у лесе каля былой в. Кустаўніца, Мазырскі р-н.*

водле падання, тут лютавала страшэнная халера, а могілак яшчэ не было. Людзі прасілі ў каменя, каб ён збавіў іх ад пошасці. Але марныя былі іх просьбы і намаганні, з кожным днём колькасць памерлых большала. І тады пастанавілі на гэтым месцы ўзвесці храм, каб маліцца там за збавенне грэшных душ. Тады вакол храма і зачалі хаваць памерлых ад жудаснай хваробы. З часам могільнік зрабіўся месцам пахавання для ўсіх тутэйшых.

Як і пра іншыя сакральныя аб'екты, пра старыя пахаванні таксама бытуюць паданні, быццам на месцы могілак некалі праваліўся храм. Такія паданні зафіксаваны ў вёсцы Папялы на Глыбоччыне, мястэчках Чарнаўчыцы каля Брэста, Кублічы на Ушаччыне і ў Чашніках. У вёсцы Гарадзец Кіраўскага раёна лічыцца, што на месцы старых могілак правалілася царква, але некаторыя людзі выратаваліся. А па святах, калі ў падземным храме ідзе набажэнства, можна пачуць гукі званоў. У вёсцы Стража таго самага раёна паданне кажа, што некалі ў час адпявання нябожчыка на могілках раптам правалілася капліца разам з людзьмі.

У вёсцы Малы Рожан Салігорскага раёна старыя могілкі некалі звалі Папоўшчынай. Паводле падання, на іх месцы ні-

быта стаяў праваслаўны манастыр. Была і царква са званіцай. Усё гэта пабурылі шведы ў час вайны. Адзін з званоў кінулі ў рэчку. І з таго часу штогод у першы дзень па Вялікадні яго глухія гукі могуць пачуць толькі людзі, якія дагадзілі Богу. У Крупскім раёне на тэрыторыі былой Ухвальскай воласці на гары Падгай ёсць стары могільнік, дзе магілы абкладзены камянямі. Кажуць, што некалі на гэтым месцы стаяла царква і ў час набажэнства а 10 гадзіне раніцы за першым ударам Дабравеста разам з людзьмі ўвайшла ў зямлю. Потым людзі яшчэ доўга чулі на гары царкоўныя спевы і гул званоў.

Можа, таму, што ёсць такія сюжэты, а можа, і з іншых прычын вельмі часта самі могілкі называюць *Царкавішчам*, як у мястэчку Кублічы Ушацкага раёна, або *Касцелішчам*, як у былой вёсцы Рыбакоўшчына Сенненскага раёна.

Усякія могілкі, а старыя і пагатоў, выклікаюць у людзей пашану і містычны страх. Вядома, усё, што звязана з светам памерлых, наводзіць людзей на такія пачуцці. Кожны, бадай, і сёння бачыў, як людзі, мінаючы старыя могілкі, жагнаюцца, а мужчыны здымаюць шапкі. А пры ўваходзе на могілкі звяртаюцца да памерлых дзядоў з прывітаннем. Пры выхадзе ж пакідаюць на брамах могілак ці кавалак хлеба, ці кветкі. Усё гэта выглядае як рэшткі нейкага старадаўняга культу, звязанага з замагільным светам, светам памерлых продкаў, які захаваўся ў сэрцах і душах людзей у выглядзе забабонаў ды ўшанавання да могілак, боязі, што за непавагу чалавека чакае Божая кара. Лічылася, што на яго нападзе нейкая хвароба, а ўначы і нябожчыкі могуць патурбаваць.

На многіх старых вясковых могілках ёсць багатыя надмагіллі, каменныя і чыгунныя крыжы. Апошнія былі фабрычнага вырабу, але трапляюцца і каваныя мясцовымі майстрамі. Такія можна ўбачыць і сёння ў вёсках Аталезь Стаўбцоўскага раёна і Ліпень — Асіповіцкага. На некаторых старадаўніх могілках дагэтуль захаваліся асобныя дзялянкі з рэшткамі шляхецкіх пахаванняў. Прыкладам, у вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна, Багданава — Валожынскага, Камена — Лагойскага, у горадзе Узда. У Кукавічах Капыльскага раёна на могілках стаяць сем вялізных металічных крыжоў, вышынёй каля двух з паловай метраў, надпісы на якіх адносяцца да пачатку XX стагоддзя. Мясцовыя кажуць, што пад крыжамі пахаваны паны, якія жылі ў бліжэйшым маёнтку. Некалі побач з пахаваннямі стаяла і каплічка, а каля яе ляжаў камень з таямнічымі выявамі. На Узвіжанне каменю ахвяравалі грошы, кветкі, палотны...



*Усыпальніца на могілках у г. п. Узда*

Вельмі часта на агульных могільніках, як, прыкладам, у вёсках Лебедзева Маладзечанскага раёна, Калюжыца — Бярэзінскага, Нача — Воранаўскага, Хрулі — Лідскага, Ізюмава (Дурынічы) — Бабруйскага, трапляюцца шляхецкія пахавальні. Скляпы-пахавальні будавалі і ў парках пры вялікіх маёнтках, асабліва па берагах рэк, як у вёсцы Барбароў Мазырскага раёна, Гняздзілава — Докшыцкага, Сула — Стаўбцоўскага. Пахаванні заможных людзей, якія ахвяравалі частку сваіх грошай на будоўлю храмаў або займаліся дабрачыннай дзейнасцю, можна сустрэць у храмах, побач з імі ці ў храмавых сутарэннях. І ўласціва гэта як каталіцкай, так і праваслаўнай традыцыі. Такія пахаванні ёсць у Нясвіжы, у вёсцы Варонча Карэліцкага раёна, Нача — Воранаўскага, Данюшава — Смаргонскага, Беліца — Маладзечанскага, Раванічы — Чэрвеньскага і г. д. У канцы XIX — пачатку XX стст. на тэрыторыі За-

ходняй Беларусі быў звычай: пры пабудове храма ў яго сцены ўмуроўвалі надмагіллі з старых, даўно закінутых могілак. Так было ў вёсках Старыя Васілішкі і Ляцк Шчучынскага раёна, Крошын — Баранавіцкага. Існавалі і асобныя манастырскія могільнікі, як у мястэчку Зембін Барысаўскага раёна, Пінску і ў Куцеінскім манастыры ў Оршы. На манастырскіх могільніках таксама часам хавалі і багатых людзей.

Вельмі мала інфармацыі пра гарадскія могілкі часоў Сярэднявечча. Вядома, што нябожчыкаў гараджане заўсёды хавалі па-за межамі паселішча. Гарады ж маюць уласцівасць з цягам часу расці, таму такія пахаванні рана ці позна апыналіся ў абсягах горада, а праз некаторы час і наогул забудоўваліся. І толькі дзякуючы дэталёваму археалагічнаму вывучэнню гарадскіх пластоў, мы можам цяпер атрымаць нейкую інфармацыю пра сярэднявечныя гарадскія могільнікі. Прыкладам, у Слуцку знайшлі пахаванне XVI ст.: нябожчык у дубовай калодзе і каля яе каменны крыж. На тэрыторыі старажытнага Турава не раз знаходзілі каменныя саркафагі з оўруцкага шыферу, а ў Пінску ў XIX ст. выявілі пахаванні ў рачных чоўнах.

Вельмі цікавыя і старыя пахаванні іншых этнічных груп, якія з часоў сярэднявечча жылі з карэнным насельніцтвам Беларусі: яўрэі, татары, расейцы-стараверы, немцы-лютэране і г. д. Старыя яўрэйскія могілкі захаваліся ў Лыскаве Пружанскага раёна, Радуні — Воранаўскага, Дукоры — Пухавіцкага, Плісе — Глыбоцкага. Старыя татарскія — у Некрашунцах Воранаўскага раёна, Дукоршчыне — Чэрвеньскага, Іўі, Докшыцах, Навагрудку, інш. Даўнейшыя могільнікі старавераў ёсць каля вёсак Краснагорка Браслаўскага раёна, Капусціна — Кіраўскага і г. д.

## Народныя назвы

Старыя могілкі маюць вельмі разнастайныя назвы. Некаторыя з іх нагадваюць назвы курганоў, скажам, *Татарскія Магіліцы*, *Турэцкія* або *Французскія Магілы*, *Шведскае Кладбішча* і да т. п. Пісьмовыя крыніцы XVII—XVIII стст. фіксуюць тагачасныя найменні могільнікаў: *Магіліцы*, або *Моглiцы*, *Цвінтар*, *Ямы*, *Дзеўка*, *Дзедка*, *Дзяды*, *Кладбішча*, *Кладавішча*, інш. У гэтай тэрміналогіі праглядаецца некалькі культурных традыцый: народная беларуская, лацінска-польская і царкоўнаславянская.

Пра могільнікі з найменнямі *Галодны Могільнік, Галоднік, Халернік* і падобнымі дагэтуль кажуць, што там пахаваны памерлыя ад голаду і эпідэмій. Могільнікі з такімі назвамі пашыраны на тэрыторыі Докшыцкага, Лепельскага, Глыбоцкага, Вілейскага і суседніх з імі раёнаў. У вёсцы Перавоз Глыбоцкага раёна курганны могільнік паступова пераходзіць у каменныя курганы, а потым у каменныя магілы і нарэшце канчаецца магіламі, дзе камяні стаяць толькі пры галовах і нагах. Мясцовыя людзі курганныя насыпы завуць *Валатоўкамі*, а суседні з імі познесярэднявечны могільнік з камянямі — *Галодны Могільнік*. Каля вёскі Чарніца ў Лепельскім раёне на Галодным Могільніку нібыта «закапана дзве роты французскага войска».

У XIX ст. каля вёскі Гожа недалёка ад Гродна на вяршыні вялікай гары, дзе некалі быў могільнік, стаяў высокі драўляны крыж. Месца гэта называлі *Крыжацкія Магілы*. У вёсцы Вайча Докшыцкага раёна стары могільнік з камянямі зафіксаваны пад рознымі назвамі: *Мангольскае, Турэцкае* або *Французскае Кладбішча*, ці *Каменка*. У ваколіцах вёскі Пратасы Акцябрскага раёна ёсць сляды старога могільніка з замшэлымі камянямі, на якіх высечаны незразумелыя знакі. Урочышча, дзе месціцца могільнік, завецца Кашчэеў Лог. Згодна з паданнем, на гэтым месцы жылі палонныя. Каля вёскі Лістападавічы Салігорскага раёна месца старога могільніка ў народзе называлі *Магілы*. Пасля таго як у 20-ыя гады XX ст. на гэтыя пахаванні звярнулі ўвагу археолагі, сярод мясцовых пайшлі чуткі, быццам там знайшлі сто магіл. Так з'явілася новая назва — *Стамагілы*.

Каля вёскі Сомры ў Крупскім раёне захаваўся могільнік з каменнымі надмагіллямі XVII ст. Мясцовыя жыхары называюць яго *Лацінскі*, або *Уніяцкі Могільнік*. Стары уніяцкі могільнік ёсць каля вёскі Лявонавічы Вілейскага раёна, дзе шмат каменных крыжоў і надмагілляў з надпісамі. На Беларусі часта сустракаюцца і такія назвы, як *Шляхецкія Могілкі*, прыкладам, каля вёскі Барок Крупскага раёна, Вараксы — Стаўбцоўскага, Замосце — Пухавіцкага раёнаў. У Пеклічах Любанскага раёна наогул два могільнікі, якія падзяляе дарога. Адзін могільнік мае назву *Шляхецкі Клад*, а другі — *Мужыцкі Клад*. Кажуць, што раней на кожным могільніку было па паклонным камені з следам Багародзіцы. Захаваўся толькі камень на Шляхецкім (каталіцкім) могільніку. Да яго яшчэ ў першай трэці XX ст. ладзілі хрэсныя ходы і чынілі побач набажэнствы.

У час этнаграфічных экспедыцый навукоўцы зафіксавалі і такія назвы могільнікаў, як *Паганскі Цвінтар, Старыя Клады*, або — *Аўстрыйскія, Рускія, Скамарошыя*, а таксама *Літоўскія*,



*Стары могільнік каля в. Майск, Бялыніцкі р-н.*

*Мікалаеўскія* і *Старасвецкія Магілы*. Ёсць назвы могільнікаў, якія ўтварыліся ад імёнаў ці прозвішчаў тых людзей, што быццам пахаваны ў гэтых магілах. У Навагрудку ёсць гара, дзе з XVII ст. да 20-ых гадоў XX ст. быў могільнік. Пра яго і сёння можна пачуць, быццам там пахаваны кароль Міндоўт разам з сваім залатым тронам. Назва *Хрысцініны Лядцы* каля Бягомля Докшыцкага раёна нібыта паходзіць ад таго, што першай на могільніку была пахавана нейкая Хрысціна. Зафіксаваны і такія назвы, як *Дуніч-Магіліцы* і *Цыклідзін Курган*.

Існуюць назвы, звязаныя з асобнымі надмагіллямі. Яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. у Пінску на могілках пры Фёдараўскай царкве ляжаў вялікі камень, які звалі *Княжы*, або *Княжацкі*. Але потым ён нібыта ўвайшоў у зямлю, а паводле іншай версіі, быў перанесены на новы могільнік.

# Скарбы і здані

На могілках, як і на курганах, згодна з паданнямі, часта закапаныя скарбы, каля іх, асабліва ўначы, з'яўляюцца здані. У вёсцы Дзераўной на Лагойшчыне на старых могілках нібы-



*Старадаўні могільнік у в. Карытніца, Бялыніцкі р-н.*

та закапана скрыня з грашыма. Апоўначы, кажуць мясцовыя, можна пабачыць сполахі агню, а потым і нейкую «барышню» з скрыняй у руках. Але не паспее чалавек уцяміць што да чаго, як скрыня адразу ператвараецца ў белага мядзведзя. Каля вёскі Імянін Драгічынскага раёна пра старыя могілкі некалі апавядалі, быццам штогод у Вялікую Суботу ў час змяркання і да поўначы тут з'яўляюцца сполахі, падобныя да языкоў полымя. Яны бываюць або белыя, або чырвоныя, або сінія. Лічыцца, што гэта сушацца заклятыя грошы, закапаныя тут некалі шведамі.

І пра могілкі на вяршыні высокай гары сярод балота, што каля вёскі Санікі на Беласточчыне, кажуць, быццам у той гары закапаныя грошы ды ўсялякая зброя. Пра ўсё гэта пісалася на каменнай пліце, якая некалі ляжала на самай вяршыні. Але тую пліту неяк скінулі долу аб'езнікі памежнай варты. Яны не хацелі, каб гаспадар гэтай зямлі мучыў людзей і прымушаў іх раскопваць гару. Пліта звалілася і затанула ў балоце. Ад тае пары ўсярэдзіне ў гары ўтварылася глыбокая дзіра, а ў ёй дзверы.

У вёсках Васількоўка Лагойскага і Дамашкавічы Докшыцкага раёнаў пра стары могільнік у лесе на мяжы гэтых раёнаў людзі расказваюць, быццам на Тройцу тут бачаць жанчыну ў белым адзенні, чуюць нечыя галасы, плач. Каля былой вёскі Старына непадалёк ад мястэчка Пліса Глыбоцкага раёна на ста-

радаўніх могілках можна ўбачыць людзей у архаічных строях. Язэп Драздовіч у 1930-я гады так пераказаў народныя аповеды: «...Самым поўднем летам, з могільніку ідуць два нейкія старасвецкія старычкі, адзетыя па-даўнейшаму, шапкі з «аглоблямі», вушатыя, а пры боку ў кожнага з іх на рамянях карзінкі (каліты). Сышліся ды й гаворацць: «А ці помніш ты, як на гэтым месцы даўней праходзіў на Полацк бойкі-бойкі гасцінец?».

Вельмі часта ў паданні пра могільнік можна сустрэць і чорта, які перш як з'явіцца перад людзьмі, можа прыняць ці выгляд чалавека, ці нейкай жывёлы: сабакі, барана, казла, а можа *ўдаваць* і просты пень. На могілках каля былой вёскі Курганы, што на захад ад горада Докшыцы, селянін скасіў нeяк траву і завёз яе дадому. А ўначы да яго прыйшоў нябожчык і сказаў: «Нашто ты мяне абадраў?». Назаўтра той селянін павёз траву назад. З тых часоў больш ніхто не датыкаўся да могілак. У мястэчку Вязынь Вілейскага раёна расказваюць, што некалі на старых могілках разваліласся лядашчая царква, а нейкі чалавек забраў сабе дадому цудам ацалелае бервяно. І ўначы яго сталі турбаваць розныя нябожчыкі, ён мусіў завезці тое бервяно на даўнейшае месца.

У некаторых мясцінах Беларусі бытавала думка, быццам тыя людзі, якія на Радаўніцу першыя прыйдуць наведаць могілкі, могуць пачуць ад нябожчыкаў, дзе там закапаны скарб. Уяўленні пра «жывых» нябожчыкаў, надзеленых надпрыроднай сілай, што выходзяць з магілаў і чыняць розныя кпіны, здзекі з людзей, сеюць хваробы ды смерць, характэрныя для міфалогіі і фальклору шмат якіх народаў.

# Забабоны пра могільнікі, надмагіллі, капліцы

Вышэй была ўжо гаворка пра ашчаднае стаўленне да могільнікаў. Дык зацемім, што на гэты конт у беларусаў ёсць шмат гісторый і забабонаў. У вёсцы Латыгаль на Вілейшчыне расказваюць, як адзін селянін спрабаваў разараць частку могілак, і валы ў яго сталі падаць. А ў мястэчку Ілья Вілейскага раёна панскі аканом, як кажа паданне, загадаў заараць старыя могілкі, вядомыя як *Паганскае Кладбішча*, і неўзабаве ў яго адняло ногі. На Дзятлаўшчыне ёсць вёска Хвінявічы, дзе расказваюць пра двух

аканомаў, што забралі з старых могілак масіўную каменную пліту і паклалі яе пад ганак у доме. Раптам у іх пайшлі ўсялякія няшчасці, і давялося тую пліту везці назад, на могілкі.

Існуе павер'е, быццам душа памерлага можа перайсці ў нейкую птушку. У сувязі з гэтым у народзе лічылі, што жыццё чалавека будзе шчаслівым і плённым, калі ён прыходзіў на могілкі наведаць пахаванні блізкіх яму людзей і сустракаў там ворана. Гэта быў добры знак, які яму падавалі ягоныя продкі. А ў вёсцы Асташкавічы Гарадоцкага раёна яшчэ ў 80-ыя гады XX ст. расказвалі:

*Некалі ў час халеры ў адну з магіл закапалі жывога пеўня, і адразу ж эпідэміі як не было. І цяпер апоўдні можна пачуць, як у магіле спявае той певень.*

Нямала павер'яў звязаны з пяском або зямлёй, узятай на могілках. Так, шмат дзе ў Беларусі верылі, быццам маці, у якой дзеці доўга і цяжка хварэюць, мусіць апоўначы прыйсці на могілкі, узяць жменю пяску з свежай магілы і, не азіраючыся, бегчы дадому. Потым гэты пясок жанчына мае зварыць, а ў вадзе выкупаць хворых дзяцей. Быццам, калі ўжо наканавана хвораму памерці, дык пасля купання ён хутчэй адмучыцца, а калі наканавана папраўіцца — хутчэй ачуняе. Паводле іншага забабону, калі карова памерлай жанчыны перастае даіцца, то яе таксама купаюць у пяску з магілы яе гаспадыні. А каб некага зачараваць ці сурочыць, варажбіткі і чараўніцы таксама бяруць пясок з свежай магілы і вараць яго ў вадзе, а потым даюць гэтую ваду выпіць сваёй ахвяры.

Нараджэнне чалавека, яго хрэсьбіны, вяселле і смерць у міфалагічных уяўленнях нашых продкаў заўсёды былі цесна знітаваны міжсобку. Людзі верылі, што іх дзяды і прадзеды, пакінуўшы гэты свет, неяк уплываюць на тутэйшае жыццё. Так, існавала павер'е, згодна з якім, вяртаючыся з хрэсьбін або з вяселля і едучы паўз могілкі, ці то старыя, ці то дзейсныя, мусіш прыпыніцца і прайсці небяспечны кавалак пехатой, дарэчы, немаўлятка таксама трэба несці на руках. А дзяўчына-сірата напярэдадні свайго вяселля мусіла завітаць на магілы бацькоў і запрасіць іх на свята.

Існуе шмат павер'яў і пра надмагільныя крыжы — драўляныя, каменныя, чыгунныя і г. д., пра каменыя надмагіллі, пра драўляныя «церамкі», пра нарубы і прыклады. Вядома, што да прыняцця хрысціянства знак крыжа шырока ўжываўся па ўсім свеце як паганскі сімвал. Так, яшчэ ў эпоху бронзы



*Надмагілле «церамок» на могілках у в. Баркі, Клічаўскі р-н.*

такі крыж лічыўся сімвалам сонца, культ якога ў тыя часы быў вельмі пашыраны.

У часы сярэднявечча надмагільныя крыжы найчасцей рабілі з сасны ці дубу. Калі крыж трухлеў і парахнеў, яго спальвалі, а попел закопвалі каля новага крыжа. Не так даўно з беларускіх могілак зніклі надмагільныя хаткі, гэтак званыя «церамкі». Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць іх па выгляду з храмамі ідалапаклоннікаў. Навукоўцы высветлілі, што церамкі з'явіліся ў эпоху ранняга жалезнага веку. Пазней яны сустракаюцца ў славянскіх курганных пахаваннях. Па знікненні курганнага абраду пахавання церамкі сталі ўзводзіць над звычайнымі магіламі. На нашай тэрыторыі такі звычай дзе-нідзе дажыў да сярэдзіны XX ст., асабліва на Усходнім Палессі, на Бабруйшчыне і ў Падняпроўі, прыкладам, у вёсках Баркі Клічаўскага раёна і Гацькаўшчына каля Оршы. У 20-я гады XX ст. «старыя дамоўкі» або «церамкі» сустракаліся і на тэрыторыі Падзвіння. На могілках у вёсцы Уюн Быхаўскага раёна можна знайсці сляды спарахнелых церамкоў. Тутэйшыя людзі яшчэ помняць, як у сярэдзіне XX ст., калі «дзядкавалі», то праз акенца ў церамку ставілі нябожчыкам памінальную ежу, часта ў гліняным посудзе.



*Надмагілле «наруб» на могілках у в. Хатынічы Ганцавіцкі р-н.*

Шмат дзе на Магілёўшчыне захаваўся стары звычай абкладаць магілу бярвеннямі ці звычайнымі дошкамі ў некалькі вянцоў. Такія старадаўнія надмагіллі называюцца *абрубамі*, *надгробнікамі*, *грабнічкамі*, *грабаўцамі*. Часам такі абруб рабіўся адразу на дзве магілы і болей.

Дзе-нідзе, асабліва на Пінскім Палессі і захадзе Брэстчыны, надмагіллямі служылі дубовыя калоды — *нарубы*, якія ставілі на свята восеньскіх Дзядоў. На Радаўніцу побач з імі ставілі высокія драўляныя крыжы. Лічылася, што нарубы робяць дзеля таго, каб нябожчыкі не вярталіся з могілак дадому. У адмысловы раскол на нарубе мог устаўляцца яшчэ і маленькі драўляны ці металічны крыж. Існаваў звычай пакідаць на дрэве, з якога высякалі наруб, невялікі сук, а да яго потым дадавалі гарызантальную перакладзінку, у выніку выходзіў крыжападобны сімвал. У Маларыцкім раёне на Брэстчыне разам з нарубам на магілу клалі яшчэ прут, якім мералі труну для нябожчыка. На магілы, дзе былі пахаваны мужчыны, клалі дубовыя калоды-нарубы з



*Яўрэйскія могілкі ў Ракаве, Валожынскі р-н.*

узнятым даверху сучком. Крыжы, якія стаялі на жаночых пахаваннях, прыбіралі льнянымі фартушкамі.

Каменныя крыжы, адкапаныя на месцах старых пахаванняў, лічыліся і цяпер лічацца рэчамі з высокім статусам сакральнасці. Каля мястэчка Лукомль у Чашніцкім раёне ў канцы XIX ст. на могілках неяк выкапалі такі крыж. Яго паклалі на воз, але коні, кажуць, не далі рады рушыць з месца. Запрасілі святара, той адслужыў набажэнства і пакрапіў крыж святой вадой. Тады, нібыта, коні ў адно імгненне дамчалі той крыж да царквы. А ставячы новую царкву — крыж заклалі ў падлогу.

Існуюць паданні і павер'і пра некаторыя капліцы на могілках. У вёсцы Світа Глыбоцкага раёна ў капліцы на могілках нібыта аб'явіўся цудатворны абраз Збаўцы. З гэтай нагоды побач з капліцай у канцы XIX ст. паставілі Крыжа-Уздвіжанскую царкву. У вёсцы Знамя (Старцавічы) Слуцкага раёна і цяпер расказваюць, што даўней на могілках была капліца, а ад яе цягнуўся падземны ход у манастыр, які стаяў на ўзвышшы сярод балот.

Сустракаюцца такія пахаванні, якія лічацца святымі і цудадзейнымі. Гэта зазвычай пахаванні нейкіх адметных асоб, якія пры жыцці доўга пакутавалі ці вялі аскетычны лад жыц-



*Яўрэйскія могілкі каля в. Ленін, Жыткавіцкі р-н.*

ця. Прыкладам можна лічыць вясковыя могілкі ў вёсцы Крысава Дзяржынскага раёна, дзе пахавана бажавольная Валянціна Мінская, што больш за трыццаць гадоў была прыкавана да ложка, але ўвесь гэты час лекавала і суцяшала людзей, прыводзіла іх да веры ў Бога. Праз сорак гадоў па смерці яе кананізавала царква і яна лічыцца мясцовай святой. Цяпер да яе магілы чыняцца масавыя паломніцтвы, людзі сюды ідуць, спадзеючыся на дапамогу.

Магільнікі, старыя пахаванні ўшаноўвалі ды сакралізавалі і іншыя народы, якія жылі на тэрыторыі нашай краіны. На Беларусі шмат яўрэйскіх, татарскіх, лютэранскіх і стараверскіх магільнікаў. Каля вёскі (Вялікія) Таронкавічы Лепельскага раёна ёсць вельмі стары магільнік, дзе яшчэ ў пачатку XX ст. была традыцыя збірацца ў жніўні ўсім навакольным яўрэям. Сюды прыязджалі нават яўрэі з Віцебска, Вільні, Мінска. Усе разам яны маліліся на роднай мове, ладзілі рэлігійныя спевы.

Даволі значнай яўрэйскай святыняй, якая захавалася на Беларусі, лічыцца і магіла слыннага знаўцы іудаізму, рабіна Ізраэля Меіра Кагана, больш вядомага як праведнік Хафец Хаім. Ён пахаваны ў мястэчку Радунь Воранаўскага раёна, дзе жыў і памёр у 1934 годзе. Тут у канцы 1869 года ён заснаваў адну з лі-



*Татарскі могільнік каля в. Асмолава, Клецкі р-н.*

чаных на тэрыторыі нашай краіны рэлігійных школ — іешыву, дзе дарослыя яўрэі паглыблена вывучалі Талмуд і Тору. Магіла Хафеца Хаіма захавалася на мясцовых могілках. Кожны год у пэўны дзень на радунскую святыню з усяго свету прыязджае каля дзвюх тысяч паломнікаў, тут яны шлюць малітвы Богу, спадзеючыся, што так хутчэй будуць пачутыя.

Некаторыя татарскія могільнікі на нашай тэрыторыі таксама ўважаюцца святымі. Гэта Новая Мыш у Баранавіцкім раёне і Смілавіцкі мізар — каля вёскі Дукоршчына Чэрвеньскага раёна. Татарскія могілкі каля мястэчка Сіняўка Клецкага раёна дапамагалі, як лічылася, жанчынам, што не маглі зацяжараць. Сюды ішлі не толькі мусульманкі, але і іудзейкі, і хрысціянкі. На кусціках ядлоўцу яны завязвалі ручнікі або чырвоныя стужкі.

З XVIII ст. і да нашых дзён асаблівай пашанай вылучаецца Лоўчыцкі мізар у вёсцы Католышы Навагрудскага раёна, дзе стаіць і мячэць. Асноўная святыня на могілках — гэта пахаванне пастушка Кантуся Эўліі, пра якое захавалася вельмі цікавае паданне.

*Шляхціц-мусульманін з Лоўчыцаў выправіўся да святых мясцінаў у Мекку. Покуль ён дабіраўся, у яго кончыліся грошы, і шляхціц нат не ведаў, як вярнуцца дадому. Але стала ведама, што ў гэтых мясцінах ці не штовечара бывае ягоны зям-*

*ляк. Вандроўны паспадзяваўся на помач. А ўвечары ён пазнаў у натоўпе свайго пастушка, татарына Эўлію, празыванага Кантусь. Той выслухаў пана і наважыўся яму памагчы. Эўлія дакляраваў, што перанясе пана ў паветры дадому, калі той пабожыцца нікому пра гэта не казаць, а не — Алах пакарае пастушка. Падзівіўся шляхціц і даў зарок.*

*— Трымайся за маё адзенне, ды мацней, — загадаў Кантусь.*

*Потым ён прашаптаў малітву, і яны паляцелі. Шляхціц не заўважыў, колькі мінула часу, пакуль яны ляцелі над азёрамі, рэкамі, як віталі іх спічастыя вежы замкаў і храмаў. І вось апусціліся яны недалёка ад роднай вёскі. Мінуў час, і жонка шляхціца бачыць, што яе мужык вельмі добры да пастушка, апякуецца ім, як родным сынам. Хітрасцю ды падманам яна выцягнула з мужыка праўду. А пастушок на вачох у людзей стаў ціха паміраць. Яшчэ кажуць, што ў дзень смерці пастушка зямля на старых татарскіх могілках сама ссунулася з месца, зрабіўшы яму магілку, а пасля пахавання ахутала ягонае цела ў саване.*

Ад тае пары магіла стала паклонным месцам. І дагэтуль сюды сцякаюцца татары нават з Мінска, Слоніма, Ляхавіч, Клецка, Іўя, Міра, іншых гарадоў, дый не толькі беларускіх. Бо гэтая магіла лічыцца святым месцам для ўсіх татараў свету. Наведваюць гэтыя могілкі і беларускія сяляне з навакольных вёсак, а часам нават і яўрэі.

# Жальнікі і каменныя магілы

Паняцці *жальнік* і *каменныя магілы* вельмі блізкія. Нават дакладней было б казаць пра курганна-жальнічныя могільнікі, бо зазвычай у адзін з такіх могільнікаў уваходзяць невысокія каменныя курганы, а таксама магілы, абазначаныя адным-двума валунамі каля галавы і ног, ці такія, на якіх камяні выкладзены ў форме круга, авала або чатырохкутніка. У галовах замест камянёў могуць стаяць каменныя крыжы або каменныя стэлы. Помнікі такога кшталту датуюцца XI—XVIII стст. Іх назвы тыпу *Жалі* або *Жальнікі* былі характэрныя для басейна верхняга цячэння Беразіны. Збольшага такія могільнікі ў народзе вядомыя пад назвамі кшталту *Каменныя Кругі*, *Камяніца*, *Галодны Могільнік*, *Старасвецкія*, *Паганскія*, *Баярскія* або *Яцвяжскія Магілы*. Трапляюцца яшчэ назвы *Дзявіц-Магілы*, *Лейцекапініс*, *Карначыха*, інш.



*Жальнік у в. Дакучын, Крупскі р-н.*

Згодна з народнымі паданнямі, у каменных магілах пахаваныя нашы продкі, воі, памерлыя ў час пошасці і голаду. Яшчэ лічыцца, што гэтыя магілы ўзніклі пасля нейкага пабоішча. А шмат камянёў тут, маўляў, дзеля таго, каб ваўкі і мядзведзі не павыцягвалі костак памерлых дзядоў. Сустракаюцца паданні, дзе гаворыцца, быццам у гэтых магілах пахаваны забітыя. Ці то ў бойцы паміж баярамі і крыжакамі, ці то ў вайну з татарамі, шведамі, французамі і г. д.

У Хаценчыцах Вілейскага раёна на месцы каменных магілаў некалі нібыта стаяў касцёл, які потым праваліўся пад зямлю. Пра могільнік *Баяры* каля вёсак Мілашэвічы і Навасёлкі Слонімскага раёна расказваюць, быццам раз на год баяры выходзяць з таго свету — і адразу пачынаецца навальніца, бліскаюць маланкі, ламаюцца дрэвы. А каму не пашанцуе апынуцца на могілках, таго разрывае на часткі. Часам баяры разам з ваўкамі цэлую ноч балююць, пяюць ваяўнічыя песні і да світанку паляць вогнішчы. У Навасёлках Ваўкавыскага раёна бытуе паданне, згодна з якім камяні, раскіданыя па полі, гэта не што іншае, як ператвораныя людзі. Яны былі ў працэсіі двух вяселляў, ехалі на шлюб і, як заўсёды ў паданнях такога тыпу, выпадкова сустрэліся па дарозе ў храм. Ніхто не хацеў схіляцца з дарогі, усчалася бойка, і Бог зазлаваў на іх ды ператварыў усіх у камяні.

У вёсцы Клепачы Слонімскага раёна расказваюць, што некалі на беразе возера Бяздоннага стаяла вялікая вёска. Аднаго разу ў вёску пад выглядам жабрака прыйшоў сам Бог і папрасіў есці. Што там былі за людзі, невядома, але ніхто не даў яму нават кавалачка хлеба. Апроч беднай жанчыны, якая падзялілася з жабраком сваёй небагатай ежай, нават апошнюю скарынку аддала на дарогу. Абураны сквапнасцю вяскоўцаў, Бог надумаў іх пакараць, а жанчыне загадаў ісці за ім і не азірацца. Але, калі яны выйшлі з вёскі, жанчына не ўтрымалася, каб апошні раз не паглядзець на сваю хату. Яна азірнулася. На месцы вёскі разлілося вялізнае возера, а побач на ўзвышшы валялася шмат камянёў. Гэты былі жыхары вёскі, ператвораныя ў валуны за сваю сквапнасць і негасціннасць. Што далей было з жанчынай, паданне не расказвае.

Каля вёскі Мікалаева, што недалёка ад Камянца, ёсць каменныя магілы. Яны раскінуліся каля невялікага ўзгорка. У вёсцы расказвалі, як на гары кожную ноч з'яўляецца высокі стары ў белым адзенні, з доўгай барадою. Ён распальвае вогнішча і доўга сядзіць каля яго. Лічылася, што хадзіць туды вельмі небяспечна, асабліва на Купалле, бо можна раптам памерці.

# Памінанне продкаў

У беларусаў шмат дзён прымеркавана да памінальнай абраднасці. Але найвядомейшы комплекс веснавых дзеянняў — Радуніца, восеньскіх — Дзяды. Аднак жа ў кожнай мясцовасці былі свае асаблівасці ў гэтых абрадах і свае задушныя дні. У ваколіцах Брэста да сярэдзіны XIX ст. дажыў звычай, калі на чацвёрты дзень па Вялікадні ўсе мясцовыя сяляне апраналі святочныя строі і збіраліся на вясковых могілках. Там яны выконвалі абрад галашэння і рытуальнага ўжывання прынесенай ежы, рэшткі якой пакідалі на магілах сваякоў. Потым моладзь скакала і вадзіла карагоды. Першы чацвер па Вялікадні на Піншчыне завецца Наўскі чацвер. У гэты дзень на могілках таксама ўспаміналі памерлых сваякоў, а на магільных насыпах пакідалі ежу, абавязковым там было чырвонае яйка. А назаўтра ўсё гэта збіралі падарожныя жабракі.

Веснавое памінанне продкаў у большасці раёнаў Беларусі адбывалася па аўторках — якраз праз тыдзень па Вялікадні, на Фаміным тыдні. Менавіта гэты дзень называлі *Радаўніца, Раду-*



*Радуніца на могілках, в. Будзішча, Чачэрскі р-н.*

*ніца, Радуніцкія Дзяды* або *Вялікдзень Мёртвых*. Амаль кожная сям'я ішла перш у царкву, а тады на могілкі. У некаторых рэгіёнах магілу палівалі мёдам і вадой. Потым рассцілалі на магільным насыпе абрус і пачыналі памінальны палудзень, частку страў і гарэлкі пакідалі «для мёртвых». А канчаўся дзень хатнім застоллем ці ў карчме. На ўсходзе Беларусі такі звычай існуе і цяпер. У некаторых мясцінах людзі ідуць на могілкі з самай раніцы, засцілаюць на магілах сваіх родных абрусы, моляцца і ідуць дадому. А дванаццатай гадзіне вяртаюцца і абедаюць, пераходзячы ад адной магілы да другой.

Даўней на тэрыторыі Падняпроўя перад днём памерлых разводзілі вогнішчы дзеля памяці кожнага нябожчыка, гэта называлася «грэць бацькоў». На памінальных вогнішчах пяклі рытуальную ежу — яечню, частаваліся ёю, потым скакалі праз вогнішча. Існаваў і такі звычай, калі на магілу высыпалі гарачае вуголле, якое прыносілі з хатняй печы. А гаршчок, у якім яго неслі, потым над магілай разбівалі ці ставілі ўверх донцам.

Пад канец кастрычніка — на пачатку лістапада пачыналіся восеньскія Дзяды. У гэтыя дні па некаторых рэгіёнах Беларусі таксама палілі памінальныя вогнішчы, клалі на магілы прыклады, ставілі крыжы і частаваліся рытуальнай ежай на памяць па памерлых. Паводле сведчанняў этнографаў, яшчэ ў сярэдзіне XIX ст.




*Старыя могілкі з нарубамі ў в. Гацькаўшчына, Аршанскі р-н.*

каля мястэчка Германавічы Шаркаўшчынскага раёна ў адну з восеньскіх памінальных начэй старыя людзі збіраліся ў каплічцы на могілках, дзе чынілі рытуальнае забойства казла. Потым яго рэзалі, варылі і з'ядалі, а тады спявалі памінальныя песні.

Успаміналі продкаў не толькі на Радуніцу ды на Дзяды, а шмат дзе і ў суботу перад Тройцай — на г. зв. Траецкія Дзяды. У некаторых вёсках па беразе Беразіны (Дняпроўскай) людзі ішлі на могілкі, дзе пахаваныя іх блізкія, «апраналі» крыжы ў своеасаблівыя фартушкі і стужкі або проста вешалі самаробную тканіну. Адзін кавалак тканіны праразалі пасярэдзіне, вешалі яго на крыж, потым падпярэзвалі стужкай або паяском. Выходзіла падобна на апранутую кашулю. Часам за паясок уторквалі штучныя кветкі.

А ў Докшыцкім раёне ў наваколлі Бягомля нябожчыкаў, памерлых да года, памілалі менавіта ў спасаўскія дні. Для гэтага блізкія родзічы прыходзілі на могілкі папалудні і распальвалі агонь на магіле сваяка якраз пры нагах у яго. Праз які час прыходзілі іншыя людзі з вёскі і таксама прыносілі ежу, дровы. Пакуль ішло частаванне, палілі агонь, падкідалі ў вогнішча дровы, бо гарэць яно мусіла цэлую ноч.

З памінаннем продкаў звязаны і сакральныя кладкі з дрэва. Яшчэ ў XIX ст. у некаторых раёнах Беларусі, скажам,

у Дзісненскім павеце, Валожыншчыне, трываў цікавы і вельмі архаічны звычай. Калі тут памірала жанчына, то яе сваякі мусілі праклясці драўляную кладку праз ручай ці балацінку, выразаць там слядочак і прозвішча памерлай. Хто з падарожных ішоў праз такую кладку, мусіў сказаць: «Памажы Божа!» і назваць імя жанчыны, на чый успамін рабілася кладка.

У 70-я гады XIX ст. святар з-пад Бягомля, апісваючы восеньскія хаўтуры, расказваў пра абрад пакладання такой кладкі:

*Запрошаныя мужчыны з гарэлкай і закускай ішлі ў бліжэйшы лес, знаходзілі там сасну з смалістай сарцавінай і ссякалі яе. Потым з аднаго боку на ўсю даўжыню абчышчалі камель. Калі гэта было зроблена, камель везлі ў прызначанае месца, клалі пляскатым бокам даверху і толькі глядзелі, каб кладка легла на сцежцы, якая вяла да сенакосу або ў лес. Пасля такой працы мужыкі выпівалі, закусвалі і вярталіся дадому. А дома ў гэты час усе жанчыны з роду нябожчыцы выходзілі на двор, сядалі пад акном з выпрастанымі валасамі, маліліся і галасілі. Потым плаканніцы вярталіся ў хату, дзе пачыналася застолле. Гарэлку на такім застоллі абавязкова пілі з драўляных коўшыкаў, наўмысна для гэтага зробленых і аздобленых разьбой, выявамі крыжыкаў. Пад канец застолля гаспадыня дома ставіла на стол два рашаты: у адным былі качаны капусты, у другім — вараная морква. Тады хто-кольвек са старэйшых гасцей браў у рукі качан капусты і кідаў яго ў гаспадара. Той адбіваўся і пачыналася жартоўная бойка капустай ды морквай, якая часта пераходзіла ў сапраўдную кулачную бойку.*

У вёсцы Іжа Вілейскага раёна такую кладку клалі на балоце, на ёй пазначалі дату смерці, а побач выразалі невялікую выяву сярпа. Калі памерлая была яшчэ дзіцём, то замест сярпа выразалі маленькія боцікі. Пасля такой працы ўсе, хто ў ёй браў удзел, станавіліся на калені і чыталі малітвы. І толькі потым сядалі на адмысловы помнік, выпівалі ды закусвалі, а хто ішоў у гэты момант тут, мусіў абавязкова пачаставацца памінальнай ежай. Завяршыўшы абрадавыя дзеянні, яго ўдзельнікі вярталіся ў хату да гаспадара, дзе іх чакала застолле.

У 20-я гады XX ст. на Валожыншчыне старыя людзі яшчэ памяталі пра старажытны звычай памінальных кладак, якія ставілі на ручаінах і балацявінах, але самі гэтага ўжо не рабілі, а толькі пакідалі невялікія дошчачкі на могілках.

# Літаратура

*Аникиевич, К. Т.* Сенненский уезд Могилевской губернии / К. Т. Аникиевич. — Могилев, 1907.

*Булгаковский, Д. Г.* Пинчуки / Д. Г. Булгаковский // Записки Императорского Русского географического общества по отделению этнографии: Т. XIII. — Вып. 3. — Спб., 1890. —С. 178—192.

*Вайцяховіч, А. В.* Бабруйскія гістарычныя могілкі / А. В. Вайцяховіч // Старажытнасці Бабруйшчыны. — Вып. II. — Мінск. — Бабруйск, 1998. — С. 12—15.

*Віцязь, С.* Звесткі пра камяні і могільнікі Полаччыны / С. Віцязь // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: (Матэрыялы III міжнароднай каферэнцыі). 1997. — Полацк, 1998. — С. 64—70.

*Губина, В. В.* Предания старины глубокой: (легенды о белорусских храмах) / В. В. Губина // Исторический поиск Беларуси. — Минск, 2006. — С. 175—181.

*Довнар-Запольский, М.* Заметки по этнографии белорусов / М. Довнар-Запольский // Живая старина: Т. III. — 1893. — С. 419—425.

*Драздовіч, Я.* Дзённік / Я. Драздовіч // Маладосць. — 1992. — № 2. — С. 113—130.

*Думін, С. У.* Беларускія татары: мінулае і сучаснае / С. У. Думін, І. Б. Канапацкі. — Мінск, 1993. — С. 194—195.

*Дучыц, Л. У.* Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў / Л. У. Дучыц. — Мінск, 1993.

*Дучыц, Л.* Познесярэднявечныя могільнікі Полаччыны / Л. Дучыц // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: (матэрыялы III міжнароднай канферэнцыі). 1997. — Полацк, 1998. — С. 94—100.

*Дучыц, Л. У.* 1. Вясковыя могільнікі. Агульная характарыстыка. Тыпалогія пахаванняў. 2. Пахаванні ў гарадах і мястэчках / Л. У. Дучыц // Археалогія Беларусі (Помнікі XIV—XVIII стст.): Т. 4. — Мінск: Беларуская навука, 2001. — С. 124—132.

*Дучыц, Л.* Старадаўнія могільнікі ў назвах, паданнях і павер'ях беларусаў / Л. Дучыц // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 44—54.

*Зайцаў, А.* Сакральная геаграфія Вілейшчыны: (паганскія культавыя помнікі Вілейшчыны) / А. Зайцаў // Культурны ландшафт Вілейшчыны. — Мінск, 2004. — С. 64—73.

*Ільянкоў, В.* Нарубы / В. Ільянкоў // Пінскі веснік. — 1998. — 29 мая.

*Квятковская, А. В.* Ятвяжские могильники Беларуси / А. В. Квятковская. — Вильнюс, 1998.

*Киркор, А.* Кн. Первобытные времена Литовского Полесья / А. Киркор // Живописная Россия: Очерк 1. — Т. 3. — Ч. 2. — СПб. — М., 1882.

*Крачковский, Ю. Ф.* Быт западнорусского селянина / Ю. Ф. Крачковский. — М., 1874.

Легенды і паданні. — Мінск, 1983.

*Миловидов, А.* Церковно-археологические памятники города Пинска: (Реферат, прочитанный на Десятом Археологическом съезде 11 августа 1896 года). — Минск, 1898.

*Михайловский, Е.* Археологические очерки Слонимского уезда Гродненской губернии / Е. Михайловский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно IX Археологического съезда. — Вильна, 1893. — С. 165—186.

Нечто из религиозных обрядов и суеверий в Бегомльском приходе Борисовского уезда // Минские Епархиальныя ведомости. — 1874. — № 7. — С. 227—282.

*Никифоровский, Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах / Н. Я. Никифоровский. — Витебск, 1897.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. Слуцкий уезд. — Минск, 1879.

Опросные листы // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. — Справы № 69, 71.

*Пашкевич, И.* (св.) Из характеристики некоторых местностей Брестского уезда / И. Пашкевич // Литовские Епархиальные ведомости. — 1865. — № 14. — С. 552—557.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно IX Археологического съезда. Приложение. — Вильно, 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильно, 1895.

*Покровский, Ф. В.* Случайная археологическая экскурсия в верховья реки Вилейки / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно IX Археологического съезда. — Вильно, 1893. — С. 122—133.

Предисловие к летописи Пинского Федоровского собора заключающее в себе сказание о гражданской и церковной судьбе г. Пинска // Минские Епархиальные ведомости, — 1874. — № 5. — С. 145—157.

*Савін, Н. І.* Раскопкі курганоў у Дарагабускім і Ельнінскім паветах Смаленскай губерні / Н. І. Савін // Запіскі аддзелу гуманітарных навук: Кн. ІІ. Працы археалагічнай камісіі: Т. 2. — Менск, 1930. — С. 219—252.

*Сапунов, А.* Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / А. Сапунов, В. Друцкий-Любецкий. — Вильно, 1896.

Сведения 1873 г. о городищах и курганах // Известия археологической комиссии. — Вып. V. — СПб., 1903.

*Свежинский, В. М.* Терминология погребального обряда в старобелорусских письменных памятниках / В. М. Свежинский // Конференция «Балто-славянские этнокультурные и археологические древности. Погребальный обряд»: Тезисы докладов. — М., 1985. —С. 67—69.

*Седакова, О. А.* Материалы к описаниям Полесского погребального обряда / О. А. Седакова // Полесский этнолингвистический сборник: Материалы и исследования. — М., 1983. — С. 246—262.

*Седакова, О. А.* Поэтика обряда. Погребальная обрядность восточных и южных славян / О. А. Седакова. — М., 2004.

*Серебренников, Ф.* Обычаи и обряды крестьян Себежского уезда при крестьянских свадьбах и похоронах / Ф. Серебренников // Памятная книжка Витебской губернии на 1865 год. — СПб., 1865.

*Соколова, В. К.* Предания о кладах и их связь с поверьями / В. К. Соколова // Фольклор и этнография. — Л., 1970. — С. 169—180.

Статистическое описание православных приходов Литовской Епархии (Н. Извелов). — Вильна, 1893. — С. 19—20.

*Чарновская, М.* Остатки славянского баснословия в Белоруссии / М. Чарновская // Вестник Европы: Ч. 102. — № 21—24. — М, 1818. — С. 53—56, 111—119.

*Шейн, П.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края: Т. 1. — СПб., 1893. — С. 426.

*Штыхов, Г. В.* Археологическая карта Белоруссии / Вып. II. — Минск, 1971.

*Юркевич, И.* Остринский приход Виленской губернии Лидского уезда / И. Юркевич // Этнографический сборник, издаваемый Императорским Русским географическим обществом. — Вып. I. — СПб., 1853. — С. 283—293.

*Demski, D.* «Najważniejsze żeby pamiętać...» cmentarz jako źrydło do badań tożsamosci zbiorowej mieszkańców wsi na Białorusi i ich weobrażeń na temat śmerci / D. Demski // Etnografia Polska: T. XLIV. — Z. 1—2. — 2004. — S. 79—98.

*Gloger, Z.* Encyklopedia staropolska ilustrowana: T. 1. / Z. Gloger — W-wa, 1972. — S. 248—251.

*Horoszkiewicz, H.* Notatki archeologiczne z Pinsczyzny / H. Horoszkiewicz // Ziemia. — 1926. — № 19. — S. 296—297.

*Pietkiewicz, Cz.* Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego / Cz. Pietkiewicz. — W-wa, 1938.

Rzymsko-katolicki cmentarz Kalwaryjski w Mińsku na Białorusi. — W-wa, 1996.

*Sawicki, L.* Notatki krajoznawcze z terenu obecnej Nowogródczyzny (dziady, niektóre zwyczaje pogrzebowe, «mahiûki») / *L. Sawicki* // Ziemia. — 1929. — № 21. — S. 370—375.

# Беларускія пячоры

Пячора, паводле міфалагічных уяўленняў, — гэта сакральнае сховішча, уваход у іншасвет, у падземнае царства. Шмат у якіх традыцыях вобраз пячоры — важны элемент антрапагенічных міфаў: першы чалавек з'яўляецца з падземнага свету і часам паўзе па дрэве праз пячору. Бывае, што пячора суадносіцца з нечай магілай. Згодна з Бібліяй, Аўраам пахаваў у пячоры Сару, а сыны — Аўраама. У пячоры ляжаў уваскрашоны Хрыстом Лазар. І труна з Ісусам стаяла ў нішы, вельмі падобнай да пячоры, высечанай у скале. Паміраючы і ўваскрасаючы, пад зямлю ў пячору можа адысці бог урадлівасці, а часам бог-грымотнік. Месца пячоры ці высока на гары, ці ў зямных нетрах, у цясніне. Яна адвернутая ад зямлі да неба або да падземнага царства. У першым разе пячора — гэта месца зліцця маці-зямлі з бацькам-небам, уздым у вышнія абсягі. У іншым — уваход у дольні свет, тут ужо пячора тоіць небяспеку, бо ў ёй могуць трапіцца ахоўнікі гэтага ўваходу, і вельмі важна ведаць правілы паводзінаў ды не парушаць рознага кшталту табу.

На тэрыторыі Беларусі вялікіх прыродных пячор няма, але ў старадаўнія часы ў скальных пародах людзі рабілі невялікія пячоры, якія тады выконвалі ролю язычніцкіх свяцілішчаў. І цяпер паданні пра незвычайныя пячоры можна пачуць у розных кутках нашай краіны. Многія з іх былі запісаны даследчыкамі яшчэ ў XIX — пачатку XX ст. У сярэдзіне XIX ст. вядомы даследчык даўніны Адам Кіркор, вывучаючы гарадзішча каля вёскі Рэчкі на Вілейшчыне, знайшоў у глыбіні гары незвычайны праход з своеасаблівымі калонамі з вапны і глыбокую адтуліну. Мясцовыя людзі гэтую гару і цяпер называюць *Гарадок або Замак.* У гэты ж час этнограф і публіцыст Павел Шпілеўскі ўспамінаў у сваіх запісах пра пячору *Татарка*, што каля Мазыра, і нават пераказаў мясцовае паданне, як на гэтым месцы загінула сотня перакопскіх татараў ад рук адважнага Базара. У канцы XIX ст. звесткі пра некаторыя пячоры друкаваліся ў археалагічных кар-



*Пячора на гарадзішчы Замак каля в. Рэчкі, Вілейскі р-н.*

тах Гродзенскай і Віленскай губерняў. Прыкладам, пячора каля былога маёнтка Гедэйкі каля вёскі Стульгі Ашмянскага раёна лічылася колішняй царквой і мела назву Царкоўе.

У той жа час было зафіксавана паданне пра пячору каля мястэчка Масты на Гродзеншчыне і пустэльніка, які жыў у той пячоры пад гарой і карміўся з жабрацтва. Ён выходзіў на дарогу з сваім столікам, маліўся каля яго, а калі заўважаў каго з вандроўных, дык адразу хаваўся ў лес. На столік, які ён пакідаў пры дарозе, людзі клалі свае ахвяраванні. Жабрака і стол-ахвярнік можна параўнаць з язычніцкім капішчам і адмысловым жрацом-святаром.

Часта ў паданнях пра пячоры расказваецца, як місіянеры новай хрысціянскай веры на святых для язычнікаў узгорках ці гарадзішчах выкопвалі пячоры і сяліліся, каб праз сваё аскетычнае жыццё звяртаць увагу тутэйшых людзей на новую рэлігію. Падобныя легенды існуюць пра Маркаў манастыр каля Віцебска, пра манастыр сярод балот каля вёскі Вяляцічы на Барысаўшчыне, у Бялынічах і г. д. Прыкладам, пра Вяляцічы ў паданні гаворыцца, што на гары сярод балота аб'явіўся абраз Божай маці. Яго заўважылі два старцы, вяртаючыся з Кіева з пілігрымкі. Пазней яны пасяліліся ў пячоры на ўзгорку.

Згадваюцца пячоры і на Казацкай Гары ў Мазырскім раёне. Кажуць, што ў час дванаццацігадовай вайны рускіх і турак на чале з каралямі Шведам і Шмелем, апошнія ўвесь гэты

час хаваліся ў пячорах. Калі каралі заўважалі рускіх салдат, яны высоўваліся з сваіх сховішчаў, хапалі небарак за ногі і цягнулі іх у падзем'і. Зрэшты, ад нястачы харчавання каралі мусілі здацца. Пра ўрочышчы Пагарышча і Царкавішча каля вёскі Залессе Глыбоцкага раёна паданне кажа, нібыта на гэтым месцы некалі быў горад з манастыром і замкам. У час шведскай вайны іх ушчэнт разбурылі. І толькі пад адным узгоркам нейкім цудам захавалася падзем'е-пячора.

Звесткі пра старадаўнія пячоры сустракаюцца ў «Апытальных лістах» (анкетах), якія ў 20-я гады XX ст. рассылаў Інстытут Беларускай культуры па ўсіх рэгіёнах рэспублікі. Прынамсі, там згадваецца пячора каля вёскі Турын Пухавіцкага раёна і тая, што знаходзіцца паміж вёскамі Сялібка і Ясны Лес Бабруйскага раёна і называецца ў народзе *Архіпава Хатка*. Кажуць, у апошняй разам з дванаццаццю разбойнікамі жыў бунтаўнік Архіп, які рабаваў паноў. У Асіповіцкім раёне каля вёскі Лазовае захавалася паданне пра яшчэ адну легендарную пячору. Быццам бы даўней на гэтым месцы ляжала вялізнае балота, з усіх бакоў абкружанае непраходным лесам. А на выспе сярод балота ва ўрочышчы Пацерабы была пячора, выкапалі яе пад старым дубам, дупло ў якім служыла за комін. У пячоры жылі разбойнікі, якія рабавалі паноў і багатых сялян, а сярод іх жыла і адна жанчына. Разбойнікаў, як і ў папярэднім паданні, было дванаццаць — лік відавочна сакральны.

# Падзямеллі і падземныя хады

Вобраз пячоры злучае ў сабе ідэі жыцця, смерці і ўваскрашэння. І нездарма пячоры выкарыстоўвалі як свяцілішча, а раннехрысціянскія храмы часам рабілі пад зямлёй у выглядзе пячораў. Апроч язычніцкіх, на тэрыторыі Беларусі трапляюцца пячоры першых хрысціян. Скажам, у Баярскім спуску на беразе ракі Сож у Гомелі археолагі выявілі дванаццаць падземных культавых збудаванняў. Адно з іх уяўляе сабой камору прастакутнай формы даўжынёю 2 м, шырынёю — 0,95 м і вышынёю — 2,1 м. У сцяне гэтага збудавання першыя хрысціянскія манахі зрабілі своеасаблівую нішу, вышыня якой 0,6 м, а глыбіня — 0,5 м. Як вядома, аналагічныя

нішы для абразоў ёсць у келлях падземных манастыроў і храмаў Кіева ды Чарнігава, у пячорах на Пскоўшчыне. З'яўленне такіх пабудоў выклікана місіянерскай дзейнасцю беднага манаства, што ў часы станаўлення хрысціянства мела разыходжанні з афіцыйнай царквой.

У познім сярэднявеччы, калі з'явілася шмат хрысціянскіх плыняў, нязгодных з лініяй афіцыйнай царквы, таксама ўзнікалі падземныя пячорныя кляштары. Сярод тых пячор даследчыкі вылучаюць нават асобныя тыпы: аднакаморныя з выхадам на паверхню, размешчаныя групай, паяднаныя калідорам і г. д. З позніх пячор найбольш вядомыя на тэрыторыі Куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў Оршы. Яго заснавалі ў 1636 годзе. А з часам ён набыў вядомасць як «Беларуская Лаўра». Пры манастыры была і свая друкарня. Пісьмовых звестак пра іх амаль што ніякіх, відаць таму, што Куцеінскія падзямеллі функцыянавалі нядоўга. Упершыню пра гэтыя пячоры стала вядома ў 1910 годзе, калі манахі Богаяўленскага манастыра пад старым падмуркам знайшлі вузкія сходы, якія і прывялі іх у пячорную царкву. Падземны храм плошчай 11 кв м меў крыжападобную форму і нізкія каменныя скляпенні. На месцы алтара стаяў высокі драўляны крыж, абкладзены ўнізе камянямі. Злева ад крыжа пачынаўся таямнічы падземны ход, але пайсці па ім манахі тады так і не адважыліся.

Другі раз Куцеінскія падзямеллі адкрылі ў 1926 годзе. У час краязнаўчай экскурсіі ва ўрочышча Дубкі адзін з вучняў праваліўся ў нейкую яміну. Калі яго выцягнулі, то ўбачылі, што зваліўся ён у падзямелле. Пра здарэнне паведамілі ў Інстытут Беларускай культуры. З Мінска прыехалі навукоўцы і абгледзелі таямнічую пячору. Як высветлілася, падзем'е мела выгляд калідора даўжынёю 5,5 м, вышынёю каля 2-х м і шырынёю 1 м. Улева адгаліноўваліся яшчэ два падобныя калідоры. Ува ўсіх трох праходах былі нішы і маленькія, з закураным верхам пячуркі, што сведчыла пра ўжыванне свечак. У пячоры знайшлі кавалак жалезнага нажа, а таксама невялікі металічны карабок ды накрыўку з дзіркай, апошнія, на думку навукоўцаў, служылі своеасаблівым каганцом.

Даследчыкі знялі план гэтай старажытнай падземнай пабудовы і надрукавалі яго ў часопісе «Наш край». У тыя часы адкрыццё раннехрысціянскіх падземных пячор было сенсацыяй, пра гэта пісалі ўсе рэспубліканскія часопісы і газеты.

Тады ж хадзілі чуткі, што такі самы падземны храм існаваў і ў Смалянах Аршанскага раёна. Дый сёння расказваюць, нібыта падзямелле злучае вежу Белы Коваль у Смалянах з Куцеінскім манастыром, а яшчэ падземны ход цягнецца ў бок вёскі Слабада. Ад пячорнай царквы Уваскрашэння Праведнага Лазара ў Куцеінскім манастыры ёсць падземны ход да дзядзінца самога горада і да былога базыльянскага манастыра, а ад яго яшчэ некалькі адгалінаванняў. Археолагі і краязнаўцы прыйшлі да высновы, што ў самой Оршы і ваколіцах мусяць быць і іншыя раннехрысціянскія культавыя пячоры. Але знайсці і вывучыць іх пакуль што не ўдалося.

У 1870—1880 гадах на старонках часопіса «Минские Епархиальные ведомости» неаднаразова расказвалася пра пячорную царкву ў Мар'інай Горцы Пухавіцкага раёна. Паводле падання, хвораму жыхару вёскі Ляды або Лядцы Ісідору аб'явіўся цудатворны абраз Багародзіцы, пасля чаго ён вылечыўся. У падзяку за гэта Ісідор пабудаваў на гары капліцу і паставіў там абраз Божай Маці. У капліцы ён і правёў усё астатняе сваё жыццё. У 1871 годзе на гэтай горцы было закладзена два храмы: пячорная царква ў гонар Успення Прасвятой Багародзіцы і верхняя царква ў гонар святога князя Аляксандра Неўскага.

У многіх нашых старажытных гарадах і мястэчках можна пачуць шмат паданняў і пра падземныя хады. Несумненна, такія хады існавалі ў свой час, што было выклікана абарончымі задачамі сярэднявечнага горада. Такія падзем'і вядомы і на тэрыторыі Мінска, і Крычава, і Ружанаў, і Мазыра, і Крэва і г. д. Прыкладам, у Мінску падземныя хады звязвалі бернардынскі касцёл і кляштар з кляштарам баніфратораў, што месціўся некалі каля пагорка ў канцы былой Казьмадзям'янскай вуліцы. Яшчэ адна сістэма падзем'яў ішла ўздоўж сучаснай Інтэрнацыянальнай вуліцы.

У Пінску ў канцы XVIII ст. ад былога Старосцінскага замка ішоў даўжэзны, амаль трохкіламетровы падземны ход. Потым тут знайшлі шмат іншых падзем'яў. Кажуць, што Пінск звязаны падземным ходам з даўнейшым манастыром у вёсцы Гарадзішча. У 1930-я гады пінскія падзем'і ўключылі ў турыстычныя маршруты. Скляпы, падзямеллі і падземныя хады пад замкамі ды храмамі завуцца яшчэ *лёхі*. Яны былі ў Гародні ў раёне Верхняга замка, а ў 1926 годзе лёхі адкрылі і ў раёне Юраздыкі па Фабрычнай вуліцы. У Магілёве таксама былі выяўлены падобныя падзямеллі, якія вядуць ад цэнтра

горада да Дняпра. У 1924 годзе там нават меліся правесці археалагічныя раскопкі дзеля вывучэння гэтых падземных хадоў, бо людзі ўвесь час натыкаліся на пласты цэглы, што вялі ў падзем'і, апрача таго, знайшлі нейкія пахавальні. І ў Віцебску скляпеністы падземны ход вёў ад Замкавай Гары аж да берага Віцьбы.

У Дуброўне падземны ход даўжынёю 4 км ішоў да вёскі Станіслававa, у 1960—70-я гады па ім можна было нават прайсціся, але потым яго засыпалі. На Случчыне падземныя хады нібыта ёсць пад гарадзішчамі ў мястэчках Грэску і Раманаве (сённяшнім Леніна). Яны быццам бы вядуць да Нясвіжскага замка. На Мядзельшчыне расказваюць пра існаванне падземнага хода паміж свірскім і засвірскім касцёламі. А ў Смаргонскім раёне ад крэўскага гарадзішча да самога замка таксама нібыта ішоў шырокі падземны ход, па якім мог праехаць шасцярык запрэжанах коней.

# Паданні і павер'і пра пячоры і лёхі

Вельмі часта пячоры, падзем'і і падземныя хады фігуруюць у паданнях як месцы, дзе схаваныя розныя скарбы. Так, у пячоры пад гарой (гарадзішчам) у Сароках Пастаўскага раёна нібыта схавана шмат зброі і залатых манет. А на схіле Глінкаўскага возера каля вёскі Барсукі на Падзвінні быццам бы закапаныя дзве карэты з золатам. Расказваюць, што ў падзямеллі пад гарадзішчам Залессе Глыбоцкага раёна ляжыць жалеззе, грошы і восем бочак гарэлкі. У некаторых архіўных дакументах успамінаюцца паданні пра скарбы ў пячорах каля вёскі Беражаны, што ў ваколіцах Гродна.

Шмат дзе па Беларусі можна пачуць паданні пра падзямеллі, у якіх прысутнічае вобраз нейкай дзяўчыны, што сядзіць на куфры з багаццем і ахоўвае яго, а каля ног у яе ляжаць дзве або чатыры сабакі на ланцутах. Падобныя паданні сустракаюцца пра гарадзішчы ў Віцебску, Гальшанах Ашмянскага, Езярышчах Гарадоцкага і ў некаторых старых вёсках, як Стары Пагост Мёрскага раёна. У пушчы Князёўка, што каля Лагойска, ёсць падзямелле, дзе нібыта ў жалезных скрынках захоўваюцца скарбы, а самі скрыні прыкаваныя ланцугамі да каменных слупоў. У тым жа паданні расказваец-



*Кажуць, што пад валамі Нясвіжскага замка знаходзяцца легендарныя падзем'і.*

ца яшчэ пра адзін скарб, які схаваны сярод Лапянецкага лесу пад вялізным валуном з рознымі знакамі. У Смалянах Аршанскага раёна кажуць, што па тунэлі паміж царквой і замкам на тройцы коней некалі ездзіла каралева Бона. А ў Пінску яшчэ ў сярэдзіне XX ст. верылі, быццам у падзем'і хаваецца рыцар з залатой шпорай.

Асабліва цікавыя міфы пра рознага роду пачвар або жывёл, што жывуць у пячорах. Так, каля вёскі Гогалеўка ў Чашніцкім раёне бытуе паданне пра нейкага чароўнага Змея, які нібыта мог гаварыць чалавечым голасам і часам нават ператвараўся ў чалавека ды жыў у пячоры пад агромністым каменем, які ў народзе так і прazвалі *Змееў Камень.* Пра пячору ў вёсцы Рэчкі Вілейскага раёна ёсць павер'е, згодна з якім у кожнага, хто ўсуне руку ў тую пячору, яна адсохне.

У замкавых лёхах, згодна з паданнямі, жывуць здані, як скажам, у сутарэннях нясвіжскага ды гальшанскага замкаў. Тут можна сустрэць духаў памерлых не сваёй смерцю. Успомнім здань Барбары Радзівіл з Нясвіжа, празваную ў народзе *Чорнай Дамай.* Легенда кажа, нібыта кожную ноч яна абходзіць не толькі пакоі ў замку, але і вялізныя падзем'і з шматлікімі хадамі часоў сярэднявечча.

# Яры і ямы

Яр, або роў, як і пячора, у міфалагічнай карціне Сусвету зазвычай лакалізуецца ў яго дольняй прасторы. Зафіксаваныя такія назвы, як *Святы Роў, Чырвоны, Чортаў* або *Кімбараўскі Яр, Змеева Ямка, Залатыя Вароты* і г. д. Каля вёскі Сянежычы Навагрудскага раёна ў лесе ва ўрочышчы Святы Роў цячэ лекавая крыніца, вада з якой нібыта лечыць хваробы вачэй і вяртае сляпым зрок. Але да яе людзі мусяць паўзці на каленях ад знакамітага мясцовага каменя-следавіка, што на высокай гары. Каля вёскі Абакумы Лоеўскага раёна мясцовы яр некалі называўся *Татарскі Каўдоб.* У Гомелі паміж ярамі Баярскі Спуск і Безыменны навукоўцы выявілі пячоры XI—XII стст., дзе знайшлі нават падземныя каморы з нішамі для абразоў (гл. вышэй).

Часта ў паданнях пра такія яры ў якасці персанажа фігуруе чорт. Так, у лесе ва ўрочышчы Неміроўшчына пры дарозе ад Уселюба да вёскі Рэцімля на Навагрудчыне, па расповедах, чорт меўся паставіць дом і выкапаў яму пад склеп. Але не паспеў дарабіць пачатае, як праспяваў певень. Пра Чортаву Яму каля вёскі Рацюнкі на Браслаўшчыне ёсць паданне. Кажуць, у гэтых мясцінах заўсёды вялося шмат гадзюк. Але аднаго разу ў вёсцы з'явіўся нейкі падарожны чалавек, які папрасіўся пераначаваць у адну хату. Гаспадары пачаставалі незнаёмага і паклалі спаць. Нараніцу чалавек спытаў, чым ён можа аддзячыць за дабрыню. Яму і расказалі пра гадзюк. Тады, не кажучы ані слова, вандроўны пайшоў у бліжэйшыя хмызнякі, пазбіраў там усіх гадзюк і закапаў у адну яму. А неўзабаве на тым месцы ўтварылася вялізная яміна-яр, якую празвалі *Чортавай Ямай*.

Ёсць паданні і пра рвы вакол гарадзішчаў. Пра яр (роў) вакол Навагрудскага замка паданне расказвае: калі шведы ўвайшлі ў замак, дзіця адной шведскай маркітанткі — гандляркі дробнымі рэчамі — звалілася ў роў і ўтапілася. Маркітантка была чараўніца, яна пракляла ваду ў яміне, і роў высах. На гарадзішчы ў Паўлавічах Клімавіцкага раёна некалі нібыта правалілася царква, бо дзяўчаты «дазвалялі сабе непрыстойнасці ў раўках гарадзішча». Ірвы вакол мсціслаўскага гарадзішча некалі называлі *Каралеўскія Рвы*.

Міфалагічную афарбоўку атрымалі і некаторыя глыбокія ямы. Скажам, пра яміну Паганаўка на Вілейшчыне кажуць,



*Замкавы роў у Лагойску.*

нібыта яна ўзялася з таго, што туды правалілася вясельная працэсія, якая тут спынілася і распачала скокі. А ўзнікненне ямы Бездань каля вёскі Навасёлкі Асіповіцкага раёна тлумачыцца тым, што на гэтым месцы была царква і за грахі людзей праваліласа, цяпер толькі добрыя ды бязгрэшныя людзі могуць пачуць з яе глыбіняў гукі званоў. У Докшыцкім раёне недалёка ад вёскі Беразіно круглая яма завецца *Карагодзішча.* Лічыцца, быццам даўней там чыніліся ігрышчы і танцы.

Зямінай на ўзгорку ў вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна звязана вялікая гісторыя. Мясцовыя жыхары надумалі знайсці рэшткі манастыра і ў 1872 годзе, пачынаючы ад Тройцы, цэлы месяц раскопвалі ўзгорак. Шмат хто з іх расказваў, якія цудоўныя рэлігійныя мроі і відзежы яны перажылі. У іх перад вачыма і вобраз Збаўцы праходзіў, і вобраз Божай Маці, і нейкага святога ў шатах, і выява цудадзейнага старца ў суправаджэнні чароўных дзетак з запаленымі свечкамі. Некаторым людзям здавалася, быццам яны ў сапраўдным храме і чуюць гукі набажэнства, а знойдзеныя ў пяску трэскі ўяўляліся ім абразамі святых. Ад іншых можна было пачуць, быццам на гэтым дзіўным месцы выкапалі з зямлі нейкую старажытную кнігу. Шмат чаго такога расказвалі тыя дзівакі, але галоўнае,



*Замкавыя валы і роў у Навагрудку.*

казалі яны, пабачыць такія незвычайныя рэчы могуць толькі маральна чыстыя людзі. І няма нічога дзіўнага, што пасля такіх аповедаў да яміны пайшлі шматлікія паломнікі.

Сюды імкнулі ўсе: і католікі, і праваслаўныя, яны прыязджалі і з Вільні, і з Слоніма, а тыя, хто жыў за Нёманам, перапраўляліся на пароме. Да ўзгорка трэба было ісці басанож, а мужчынам і без шапкі. Такім спосабам яны заходзілі ў яміну, бралі адтуль зямлю, завязвалі ў хусцінкі і з слязьмі ды малітвамі на каленях выносілі. На гэтым месцы лаўрышаўскі святар выслухваў людскія споведзі і маліўся за кожнага. Лічылася, што тут можна атрымаць духоўнае і фізічнае збаўленне. Дык яміну і празвалі *Святой*, а слава пра яе ўсё шырылася. Шмат хто прыходзіў сюды згодна з аброкам (абяцаннем). Але найвышэйшаму царкоўнаму начальству гэта не вельмі падабалася, і цудадзейную яміну закрылі, святара выслалі ў манастыр. А праз паўгода яму далі новую, бедную парафію. Ды неўзабаве па закрыцці святога месца ў абсягах Лаўрышаўскай парафіі маланкай забіла салдата і дзвюх жанчын, спаліла дзве хаты і капу жыта. Прычынаю ўсіх гэтых няшчасцяў сяляне лічылі закрыццё цудадзейнай і лекавай яміны.

# Лагчыны

Лагчыны, лагі, ці даліны, долы ў міфалогіі лічацца нейтральнай зонай, дзе тым не менш могуць адбывацца незвычайныя містычныя праявы. Згодна з павер'ямі, лагчыны, як і горы, утварыла вада, якая пасля патопу збягала ў мора. Кажуць, быццам у лагчынах даўней ішлі вялікія бойкі. Каля вёсак Полаўцы і Зубачы на тэрыторыі былога Брэсцкага павета (цяпер на тэрыторыі Польшчы) мясцовую лагчыну называлі *Крывавы Луг*, а суседнюю гару — *Бітва*. Даліна паміж двума ўзгоркамі каля вёскі Хажова Маладзечанскага раёна завецца *Чырвона Влока*. Назву такую яна займела пасля жорсткай бойкі ад пралітай тут крыві. Каля вёскі Брашэвічы Драгічынскага раёна ёсць лагчына Кошын Луг, на ёй — курган. Лічыцца, што тут магіла ваяра Коша або Кошына і яго ворагаў. У даліне Пятроў Луг каля Крычава некалі ў дзень Святога Духа чыніліся гарадскія гульбы. І нібыта на гэтым месцы Пётр I даваў святочны абед пасля перамогі над шведамі. Месца паміж Магілёвам і Буйніцкім манастыром называлі *Карлава Даліна*, а на беразе ракі Лабжанкі каля Клімавічаў — *Каралеўскі Луг*, тут нібыта стаялі войскі Карла XII. На беразе возера Недрава на Браслаўшчыне ёсць гара, дзе быццам бы жыў нейкі князь, а побач у даліне Княжае Поле ці Княжын Пожын стаяў замак княгіні Алены Полацкай.

Паданні, паводле якіх былыя цэрквы правальваюцца на месцы культавых гораў, курганоў, могільнікаў і іншых святыняў, не абыходзяць і лагі, скажам, лагчыну *Святая Лаза* каля вёскі Коўчыцы Светлагорскага ці аднайменную ля вёскі Рэчкі Вілейскага раёнаў. Пра апошнюю ёсць паданне, як жаніх і нявеста ў час набажэнства распачалі папойку перад храмам. Па заканчэнні службы, калі людзі выйшлі з царквы, а маладыя толькі наблізіліся да яе, ударыў пярун — і царква разам з маладымі правалілася пад зямлю. Каля вёскі Сваткі Мядзельскага раёна ёсць лагчына, якая не зарастае травой, бо ў даўнія часы тут нібыта таксама маладыя ўчынілі скокі на ўсяночнай, вадзілі карагод. І за гэты грэх усе зноў праваліліся ў зямныя нетры.

Сустракаюцца такія назвы лагчын, як *Дзеўчына Даліна*, *Дзявочы Карагод*, *Дзеўкін Брод* і да т. п. У вёсцы Прусы Салігорскага раёна пра ўрочышча Малькаўшчына кажуць, быццам апоўначы тут з'яўляецца дзяўчына ў белай сукенцы, і калі нехта гэтай парой там апынецца, дык яна будзе праводзіць



*Лагчына са святой крыніцай каля Замкавай Гары ў Капылі.*

таго чалавека да самай вёскі, а потым раптам знікне. Каля вёскі Дзеракі (сучасная назва Горная) у Вілейскім раёне лагчына завецца *Мар'янін Луг* і лічыцца месцам заклятай рэчкі. Расказваюць, што тут на беразе ў хатцы з адным акном жыла некалі варажбітка Мар'яна. А ў лагчыне каля вёскі Грыцукі Вілейскага раёна нібыта затануў млын, які нейкая цыганка пракляла, бо побач утапіўся яе сын.

Архіўныя дакументы расказваюць, што ў XIX ст. у Тураве былі дзве лагчыны — Вялікі Перадол і Малы. Паводле падання, сюды сышліся тры народы: шведы, туркі і трэці невядомы — «белякі». Яны аблажылі горад з усіх бакоў, але тураўская княгіня, якая ў тыя часы кіравала горадам, абаранялася рознымі магічнымі спосабамі. Калі праз перадол яна кідала на ворагаў звычайную шчотку з свіной шчэццю, то перад ворагам вырастала сцяна чароту ды зараснікі лазы, і тыя не маглі рушыць наперад. Калі ж чараўніца кідала курынае яйка, то перад жаўнерамі яно разлівалася вялікім морам, за якім не відаць было горада. А яе тоненькая хустачка абярталася густым туманам, праз які ізноў жа нічога не разгле-

дзець. Тым часам коні варожых войскаў, стоячы на месцы, выкапалі капытамі тыя перадолы.

Зафіксаваныя і такія назвы лагчынаў, як *Кашчэеў Лог* — вёска Пратасы Акцябрскага раёна, *Сіняе Вока* — Суботнікі Іўеўскага раёна, *Крашчаніца* — паміж Баб'яй Гарой і вёскай Радагошча Навагрудскага раёна, *Пагоня* — вёска Бездзеж Драгічынскага раёна, а таксама *Ідалаў Лог, Дзявічае Поле, Гукава, Крыжацкае, Варажскае, Святое, Крывавы Луг, Татарская Даліна, Варварына Просека* і г. д.

# Валы

У краязнаўчай і археалагічнай літаратуры сустракаецца цікавая інфармацыя пра рознага кшталту доўгія насыпаныя валы. Але навукоўцы пакуль што не засяроджвалі на іх асаблівай увагі. Прыкладам, вал каля вёскі Яршэвічы Валожынскага раёна ўзведзены, згодна з паданнем, атрадам рускіх войскаў дзеля прыкрыцця ад шведскіх стрэлаў. І яшчэ там нібыта схаваны скарб, які паказваецца перад людзьмі то ў абліччы валоў, то сабакі, то ў выглядзе агеньчыкаў. Вал каля вёскі Дакудава ў Лідскім раёне таксама ў народнай свядомасці звязаны з часамі шведскіх войнаў.

У розныя гады валы фіксавалі каля вёскі Козкі Талачынскага раёна (народная назва — *Пагранічны Вал)*, Васілішкі — Шчучынскага, Навасёлкі — Аршанскага, Іоды — Шаркаўшчынскага. Некаторыя валы ляжаць каля курганных ці познесярэднявечных могільнікаў: Старое Сяло Жабінкаўскага раёна, Дабрэйка — Віцебскага. Каля вёскі Ісакаўшчына на тэрыторыі былога Гарадоцкага павета (цяпер гэта паўднёва-ўсходняя частка Пскоўскай вобласці) некалі свой вал мясцовыя людзі называлі *Вінная Гара*.

Каля вёскі Завідзічы недалёка ад Лепеля вал даўжынёю каля 25 м і вышынёю 2,5 м вядомы як *Змяіная Магіла*. Валападобныя курганы ёсць каля вёскі Добрына ў Лёзненскім раёне і завуцца *Змяінкі*. Каля Гомеля ёсць гарадзішча *Змееў Курган*, а ў Магілёве — *Зміяў Гарадок*. У вёсцы Вішанькі Ельскага раёна адзін з курганоў завецца *Змеева Магіла*, у Камянецкім раёне ляжыць Змеева Гара. Назвы накшталт *Змеевы Валы, Змеева Магіла* існуюць таксама на тэрыторыі Украіны, на Пскоўшчыне — на тых землях, якія ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага.



*Вал Замчышча ў г. п. Копысь, Аршанскі р-н.*

Наогул, на тэрыторыі Беларусі найменні ландшафтных і археалагічных аб'ектаў даволі часта звязваюцца з словам *змей* або *змяя*, што, бясспрэчна, ёсць адгалоскам старадаўняга культу гэтай хтанічнай жывёліны і ў народнай свядомасці захоўваецца як адзін з наймагутнейшых міфалагічных архетыпаў. У шмат якіх былінах, баладах і паданнях, дзе адлюстроўваюцца падзеі хрысціянізацыі, змей яшчэ і сімвал язычніцтва. У звязку з гэтым вартае ўвагі паданне пра цар-змея, што «меў на галаве дыяментавы грабеньчык-карону» — яно запісана пад Полацкам яшчэ ў XIX ст.:

*...Неяк адзін пастушок надумаўся ўкрасці ў змея карону. Ён змайстраваў доўгую пугу і намазаў яе смалой. Малады вісус высачыў вужовага цара, зарваў у яго з галавы карону, а змей зачаў страшна сычэць. На тое сычэнне з усіх канцоў папаўзлі вужакі. Пастух з упуду кінуўся наўцёкі, а гадзіны — за ім. Доўга ішла пагоня, пакуль пастух не згледзеў манастыр, што пад Полацкам. І толькі зачыніўшы за сабой манастырскія вароты, хлопец ўратаваўся.*

# Літаратура

*Аникиевич, К. Т.* Сенненский уезд Могилевской губернии / К. Т. Аникиевич. — Могилев, 1907.

*Бедны, М.* Краязнаўчая праца ў Магілёве / М. Бедны // Савецкая Беларусь. — 1924. — № 273.

*Бобровский, Т. А.* К вопросу о типологии и датировке древнерусских пещерных монастырей // Российская археология. — 1993. — № 4. — С. 122—129.

*Василявичус Лаймутис.* Девичья рубашка на «звёздном камне» / Лаймутис Василявичус // Отечество: Краеведческий альманах. — Вып. XVIII. — М., 2000. — С. 125—133.

В поход по Пинщине: Сб. материалов для краеведов-путешественников по родному краю. — Пинск, 1958.

*Гордеев, Н. П.* Змея в обрядово-религиозных системах различных народов / Н. П. Гордеев // Этнографическое обозрение. — 2002. — № 6. — С. 45—60.

*Даўгяла, Д. І.* Аршанскія пячоры / Д. І. Даўгяла // Наш край. — 1926. — № 8—9 (11—12). — С. 45—50.

*Демидович, П.* Из области верований и сказаний белорусов / П. Демидович // Этнографическое обозрение. — 1896. — № 1. — С. 91—120.

*Друцкий-Подберезский, Р.* Литовские и жмудские предания / Р. Друцкий-Подберезский // Иллюстрация. — 1848. — № 28.

*Дучиц, Л.* Сведения о пещерах Беларуси / Л. Дучиц // Скелі й печери в історії і культурі стародавнього населения України. — Львів, 1995. — С. 36—37.

*Зянюк, Я.* З кіем па раёну / Я. Зянюк // Наш край. — 1926. — № 8—9 (11—12). — С. 62.

Игумен Минской губернии // Минские Епархиальные ведомости. — 1888. — № 3. Часть неоф. — С. 72.

*Киркор, А.* Этнографический взгляд на Виленскую губернию / А. Киркор // Этнографический сборник. — Вып. III. — СПб., 1858. — С. 179—186.

*Кучера, М. П.* Змиевы валы Среднего Поднепровья / М. П. Кучера // Труды V Международного конгресса славянской археологии: Т. 3. — М., 1987. — С. 125—132.

*Ляхницкий, Ю. С.* Мир пещерных приключений / Ю. С. Ляхницкий. — СПб., 2002.

*Некрылова, А. Ф.* Святая Варвара в народной культуре / А. Ф. Некрылова // Традиция в фольклоре и литературе. — СПб., 2000. — С. 52—65.

О Марьино-Горской церкви // Минские Епархиальные ведомости. — 1876. — № 1. Часть неоф. — С. 13—17.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. — Вып. V. Мозырский уезд. — Минск, 1879.

Опросные листы 1924 года // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. — Справы № 69, 70, 71.

Падземны ход у Грэску // Крывіч. — 1923. — № 1. — С. 44.

*Пазняк, З.* Рэха даўняга часу / З. Пазняк. — Мінск, 1985.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно IX Археологического съезда. Приложение. — Вильно, 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильно, 1895.

*Руденок, В. Я.* Первые спелео-археологические исследования в Гомеле / В. Я. Руденок, О. А. Макушников // Гомельщина. Археология, история, памятники. — Гомель, 1991. — С. 55—56.

*Савич, К.* (св.). Летопись Свято-Троицкой Сенненской церкви Новогрудского уезда / К. Савич // Минские Епархиальные ведомости. — 1874. — № 16. — С. 524—538.

*Сементовский, А.* Памятники старины Витебской губернии / А. Сементовский. — СПб., 1867.

*Татур, Г. Х.* Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ее археологическое значение / Г. Х. Татур. — Минск, 1892.

*Топоров, В. Н.* Пещера / В. Н. Топоров // Мифы народов мира: Т. 2. — М., 1992. — С. 311—312.

*Уртанс, Ю. В.* Результаты археологического исследования пещеры «Либиешу упурала» у реки Светупе / Ю. В. Уртанс // Известия АН Латвийской ССР. — 1980. — № 11.

Фонд Язэпа Драздовіча // Бібліятэка НАН Беларусі. Фонд. 2. — Вып. 1. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў. — 1939.

*Цехановіч, Е.* Пячорная царква і падземны ход у Варшанскім Кутэінскім манастыры / Е. Цехановіч // Наш край. — 1926. — № 2—3 (5—6). — С. 55.

*Шпилевский, П.* Мозырщина (Из путешествия по западно-русскому краю) / П. Шпилевский // Архив исторических и практических сведений, относящихся к России: Кн. III. — СПб., 1859.

*Шпилевский, П.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю / П. Шпилевский. — Минск, 1992 (факсимильное издание).

*Шынкевіч, А. М.* Аршанчына: спадчына мінулага / А. М. Шынкевіч. — Орша, 1997.

*Horoszkiewicz, R.* Horodyszcze / R. Horoszkiewicz // Ziemia. — 1926. — № 48 — S. 56—57.

*Jodkowski, J.* Grodno i okolice w zaraniu dziejowi Litwy i Rusi nad Niemnem / J. Jodkowski. — Grodno, 1928.

*Kowalczyk, E.* Żmij, Żmigrody, Wały żmijowe — odpowiedź R. Tomickiemu / E. Kowalczyk // Archeologia Polski: Vol. XXII. Z. 1. — Wrocław—W-wa—Kraków, 1977. — S. 192—212.

*Sieroszewski, W.* Kurhany, stare śmietniska, oraz cmentarze w widłach Niemna i Hańczy / W. Sieroszewski // Światowit: T. III. — S. 163—164.

*Tomicki, R.* Żmij, Żmigrody, wały żmijowe. Z problematyki religii przedchrześcijańskich słowian / R. Tomicki // Archeologia Polski. Vol. XIX: Z. 2. — Wrocław—W-wa—Kraków, 1974. — S. 483—508.

# Дарогі
# ў міфа-рытуальнай традыцыі

Беларусь, як вядома, ляжыць на скрыжаванні дарог з Захаду на Усход і з Поўначы на Поўдзень. А дарогі — гэта адна з найстаражытнейшых камунікацый. Менавіта праз іх народы пазнавалі сваіх далёкіх і блізкіх суседзей, развіваліся. Дарогі адкрывалі новыя абсягі ведаў, вялі да замежных універсітэтаў, распачыналі новыя гандлёвыя шляхі. Па дарогах можна было вандраваць. Безліч тэатраў, акцёраў і старцаўжабракоў ішлі ад сяла да сяла, ад места да места. Дарэчы, да падарожных старцаў нашы продкі ставіліся з вялікай пашанай, уважалі за божых людзей, і ці не кожнае ахвяраванне, якое прыносілі сакральнаму аб'екту, магло належаць і ўбогім старцам. Па дарогах рухаліся войскі, ехалі дыпламатычныя місіі, а паслы і ганцы везлі лісты і весткі.

У міфа-паэтычных і рэлігійных уяўленнях нашых продкаў дарога ўспрымалася як звязак паміж двума пунктамі прасторы. І разам з тым гэтая геаграфічная адзінка — нічыйная зямля, поўная таямніц, небяспекі. Асабліва небяспечнымі лічыліся скрыжаванні і ростані. Там, згодна з народнымі забабонамі, як на памежнай зоне маглі збірацца розныя нячысцікі і чараўнікі. Наогул, дарога ўспрымалася як страшнае і падазронае месца. Беларус быў глыбока перакананы, што ў гэтай прасторы няма аніякіх правіл паводзін, а выпадковы сустрэчны заўсёды мае невядомы статус. І само сабою, вобраз дарогі мы сустракаем у розных жанрах беларускага фальклору.

Праз усю гісторыю дарогі мелі ўласныя назвы, пра іх складалі легенды і паданні. Можна было пачуць, нібыта недзе пры дарозе закапаная бочка з золатам, скрыня срэбра ці каштоўная зброя. У большасці паданняў сустрэча чалавека з Богам у выглядзе вандроўнага старца, святога здараецца якраз на дарозе. Адно з такіх паданняў, якое ўспрымалася простымі людзьмі як



*Дарога ў лес каля в. Сафійск, Магілёўскі р-н.*

праўдзівае здарэнне, у 1882 г. друкавалася ў газеце «Литовские Епархиальные ведомости». Там расказваецца пра незвычайны цуд, што адбыўся на дарозе каля вёскі Шырвін у Бераставіцкай воласці — цяпер Пружанскі раён. Нейкая сялянка ішла па дарозе да знахара, а калі апынулася каля Вербава леса, дык убачыла перад сабою дзвюх незвычайных жанчын. На ўсе бакі ад іх праменіла ззянне. Жанчыны загадалі падарожніцы бываць на гэтым месцы не менш чым тры разы на суткі і чытаць малітвы ўсім святым. А неўзабаве пра тое здарэнне пайшла ў наваколлі пагалоска, і пацягнуліся туды паломнікі. Іх лік часам дасягаў пяці тысяч чалавек. У якасці ахвяраванняў яны неслі грошы, палатно і да т. п.

Ёсць паданні і пра тое, як знаходзілі на дарогах розныя абразы. Так, людзі верылі, што Смілавіцкі абраз Божай Маці з'явіўся менавіта на дарозе. У XIX ст. расказвалі пра ікону, знойдзеную каля дарогі, якая вяла з горада Сянно ў Віцебск. Часам у такіх паданнях падкрэслівалася, што абраз аб'яўляўся то на камені, то ля крыніцы пры дарозе.

На дарожных працягах вылучаліся месцы небяспечныя і святыя. Сакральны статус мелі і асобныя дрэвы пры дарозе, гаі, бары, камяні ды крыніцы. На нечы аброк, у гонар якой па-



*Скрыжаванне дарог каля в. Будзенічы, Барысаўскі р-н.*

дзеі ці як знак аховы пры дарогах узводзілі крыжы — часцей драўляныя, але часам і каменныя, ставілі каплічкі. Прычынай абрoку магла быць нечая хвароба, галодны год, пагроза эпідэмій ды інш. Пры дарозе, дзе каго спаткала нядоля, дзе хто загінуў, раней клалі камяні, галінкі дрэў ці рэчы загінулага. Сам звычай захаваўся дагэтуль, толькі цяпер такія месцы пазначаюць па-рознаму. На дрэва або на слуп, там, дзе адбылася трагедыя, чапляюць вянок, ставяць маленькі металічны крыж.

З дарогай звязваецца і чарада прымхаў ды забабонаў. Вядома, што калі гаспадар ішоў на поле сеяць і па дарозе сустракаў жанчыну, то адразу вяртаўся дахаты, а сваю працу адкладаў на наступны дзень. А калі ў сям'і чакалі папаўнення і хто з сваякоў знаходзіў на дарозе пугу, то гэта значыла, што народзіцца сын.

Асаблівая ўвага надавалася скрыжаванням, дзе магла сустрэцца ўсялякая нечысць. Праходзячы гэтае небяспечнае месца, трэба было абавязкова прыпыніцца, азірнуцца па баках і тройчы перахрысціцца. З скрыжаваннямі звязана шмат павер'яў і магічных дзеянняў. На Смаленшчыне быў звычай біць на скрыжаванні гаршчкі, з якіх абмывалі нябожчыка, ды спальваць салому, якая тым часам ляжала пад ім. У іншых

рэгіёнах Беларусі кумы, выпраўляючыся з дзіцем да хросту, на ростанях пакідалі для нячысціка гліну і соль, якія сімвалізавалі сабою нечалавечую ежу. А калі паміралі нованароджаныя дзеці, дык бацькі ішлі на ростані, каб запрасіць у кумы першых стрэчных, нібыта Богам пасланых якраз на гэта. Праводзячы гасцей, гаспадары разам з імі ішлі да скрыжавання і там жа іх сустракалі. На скрыжаванні дарог хавалі няхрышчаных дзяцей і самагубцаў.

## Грэблі Княжыя, Шведскія, Французскія і іншыя...

Пракладанне і насыпанне дарог, грэбляў народ прыпісваў міфічным істотам ці легендарным героям. Гэта маглі быць волаты і валатоўны, князі і князіні, каралі і царыцы, разбойнікі, чараўнікі, іншаземцы. Прыкладам, шлях ад хутара Волатава да возера Палік у Барысаўскім раёне называлі раней *Валатоўская Грэбля*. У канцы XIX ст. каля вёскі Гічыцы (Івацэвіцкі раён) дарогу цераз балота называлі *Князяя Дарога*. Згодна з паданнем, яе праклаў нейкі літоўскі князь, які раней жыў на месцы былога маёнтка Ількі.

Многія дарогі звязаны ў паданнях з князем Вітаўтам. Каля Варонічаў на Полаччыне ёсць Вітальдаў Шлях. Дарогу каля вёсак Валадута і Рудня на Чэрвеньшчыне называюць *Вітаў Шлях*. Вітаўтавы Дарогі ёсць каля Зябак на Глыбоччыне, на ўсход ад мястэчка Крупкі на Міншчыне. Сустракаюцца і такія назвы, як *Вітавы Гаці, Вітаўка*, інш. Знакамітым шляхам сярэднявечча быў Гасцінец Вялікі, або Альгердаў Шлях, які злучаў Вільню, Глыбокае, Полацк і Віцебск. Рэшткі гэтай дарогі захаваліся па сённяшні, асабліва на Глыбоччыне. Некалі на тэрыторыі Барысаўскага і Аршанскага паветаў пэўныя дарогі зваліся *Альгердавы*. На Полаччыне была дарога Стэфана Баторыя і г. д.

Усе гэтыя назвы — адгалоскі ваенных паходаў. Дарэчы, слова *шлях* паходзіць ад нямецкага *schlachen*, што значыць 'вайсковы паход', адсюль і наша слова *шляхціц* 'чалавек, галоўны абавязак якога — вайсковая справа'. Пра Альгердавы шляхі, а гэты знакаміты князь за час свайго кіравання Вялікім Княствам Літоўскім вёў шмат войнаў, як захопніцкіх, так і абарончых, гаворыцца ў хроніцы Мацея Стрыйкоўскага. Вядома, што на Дзмітрыя Данскога Альгерд хадзіў тройчы:

у 1368 г., у 1371 г. і ў 1372 г. Цікава, што шляхі яго войска пралягалі якраз па тых месцах, якія мясцовае насельніцтва сёння называе *Альгердавымі*.

У народных паданнях шмат якія старадаўнія дарогі ўспамінаюць у звязку з шведамі і французамі. На паўночным захадзе Беларусі каля вёскі Ваўкалата Докшыцкага раёна кажуць, што мясцовую дарогу праклаў шведскі атрад, які ўцякаў ад рускага войска. Шведская дарога ёсць і каля вёсак Макаўе ды Мсціж на Барысаўшчыне. У вёсцы Дамавіцк Чэрвеньскага раёна была *Дарога Шведаў*. Старую дарогу з Грынёўкі на Татаркавічы ў Асіповіцкім раёне і сёння называюць *Швэцкі Шлях*.

Каля вёскі Дрычын у Пухавіцкім раёне яшчэ ў 20-я гады XX ст. дарогу, якая ішла па лініі поўнач-поўдзень, называлі *Французская Дарога*. Расказвалі, што яе будавалі шведы, а рамантавалі ўжо французы. Нібыта французы, ходзячы па гэтай дарозе, назакопвалі там шмат ваеннага рыштунку і нават золата. Каля вёскі Мехаўка на Койданаўшчыне (Дзяржыншчына) у пачатку XX ст. людзі паказвалі закінутую *Сініцкую Грэблю* і казалі, быццам яе праклалі ў 1812 годзе французы пры адступленні. А недзе каля грэблі яны закапалі бочку з золатам.

У некаторых паданнях фігуруюць не толькі французы, але і сам Напалеон. Так, дарога з мястэчка Камень на Лепельшчыне ў мястэчка Бачэйкава Бешанковіцкага раёна завецца *Напалеонаўская Дарога*. Дарога каля вёсак Ключнікі, Галіца, Мачулішча і Бяларучы на мяжы Мінскага і Лагойскага раёнаў некалі звалася *Царскі Шлях*. Расказвалі, што па ёй уцякаў Напалеон. Старую дарогу з Бабруйска ў Глуск каля вёскі Обча і сёння завуць *Французская Дарога*, або *Французскі Шлях*. Старажылы ўпэўненыя, што на прыдарожным могільніку ў найбольшым кургане сам Напалеон закапаў куфар з багаццямі. Шмат у Беларусі гэтак званых *Кацярынінскіх Шляхоў* ці *Кацярынінскіх Дарог*. Па іх нібыта праязджала расейская царыца Кацярына II.

Апроч вышэйпамянёных найменняў, сустракаюцца і іншыя цікавыя, легендарныя назвы дарог. Так, у вёсках Даманавічы і Скаўшын Салігорскага раёна дарогу, якая некалі звязвала Слуцк і Тураў, старыя людзі называюць *Дзедаўскі Шлях*. У вёсцы Баравыя Чашніцкага раёна дарога, што вядзе да святой крыніцы, называецца *Касцёл*. Адна з дарог каля Віцебска даўней мела назву *Крывічанская Дарога*. А ў вёсцы Анісімавічы на Браслаўшчыне *Чортава Дарога* вядзе да каменя.

# Масты, пераправы і брады

Гаворачы пра дарогі, нельга абысці ўвагай масты, пераправы і брады, без якіх тыя самыя дарогі і шляхі, асабліва далёкія, не маглі б існаваць. У гісторыі нашай краіны некаторыя масты мелі нават народныя назвы і ўвайшлі ў паданні і легенды. У Чэрвеньскім раёне ёсць вёска Перуноў Мост, дзе і праўда праз дробную рачулку пракладзены невялічкі масток. Паводле аднаго з паданняў, назва вёскі ўзнікла з таго, што ў гэты масток часта б'е пярун. Паводле іншага падання, мост пабудаваў французскі генерал Перн. А паводле трэцяй версіі — «мост будаваў ці то немец, ці то француз па прозвішчу Пюры».

У розных мясцінах Беларусі зафіксаваны такія назвы, як *Чортаў Мост*. Прыкладам, недалёка ад вёскі Данюшава на Смаргоншчыне па рэчышчы Віліі нагрувашчаны вялізныя валуны, своеасаблівыя парогі, якія ў народзе называюць і *Чортавым Мостам*, і *Д'ябальскім*, і *Чортавым Перавозам*. На дарозе ў Вільню пад вёскай Бяздзедавічы Полацкага раёна некалі таксама быў *Чортаў Мост*. А пра вялікія камяні па рацэ Валынцы на Полаччыне людзі гаварылі, быццам гэта рэшткі Чортавага Маста.

Пра Бабін Мост каля вёскі Радзеж у Маларыцкім раёне паданне кажа, нібыта яго зрабілі жаўнеры нейкага войска, калі выбіраліся з непраходнага балота. А патрапілі яны туды з намовы нейкай бабы. Перш яна іх завяла, а тады недзе знікла. На Полаччыне ёсць назва *Князеў Мост*, а ў Асіповіцкім раёне каля мястэчка Свіслач — *Каралёў Мост*. Некаторыя масты, як і дарогі, у паданнях звязваюцца з імёнамі Вітаўта і Стэфана Баторыя. Вітаўтаў Мост ёсць каля вёсак Талуць і Любоўшы на Вілейшчыне, таксама каля Вяліжа на Смаленшчыне, а Батарыеў Мост — у мястэчку Ула Бешанковіцкага раёна.

Будаўніцтва мастоў, як і дарог, найчасцей прыпісваецца шведам ды французам. Так, каля вёсак Касута і Малмыгі на Вілейшчыне нават граду камянёў у Віліі лічаць рэшткамі моста, які быццам бы збудавалі шведы. Там падкрэсліваецца, маўляў, кожны салдат кідаў у ваду толькі па адным камені. У Смалявіцкім раёне недалёка ад вёскі Юр'ева каля Вялікага возера ёсць мост на палях, які, згодна з паданнем, зрабілі французы і заадно — шмат затапілі зброі. Мост гэты часамі называлі *Напалеонаўскім*. А мост каля вёскі Лейчыцы Бабруйскага раёна, як перакананы мясцовыя жыхары, таксама нібыта ўзвялі ў 1812 г. пры Напалеоне. Сустракаюцца і такія назвы мастоў, як *Дубовы*, *Калінавы*, *Пагарэлы*, *Зялёны* і да т. п.



*Мост праз р. Страча, Пастаўскі р-н.*

Каля мастоў і вадзяных пераправаў часта ставілі крыжы. Так, пры ўездзе ў вёску Пляцы Сенненскага раёна каля дарогі Орша — Сянно побач з мостам некалі стаяў каменны крыж. Пра ягонае паходжанне захавалася легенда. Лічылася, што гэтае месца выклятае, — праз мост без усякага следу некалі праваліліся княгіня Сангушка — і князь гэты мост пракляў. А праз пэўны час тут з'явіўся і крыж.

Апрача ўсяго іншага, мост у міфа-паэтычнай карціне свету сімвалізуе лучнасць розных пунктаў сакральнай прасторы. Дык невыпадкова, што гэтае стварэнне рук чалавечых так авеяна паданнямі і забабонамі. У Горацкім раёне маладыя, якія па шлюбе ехалі праз мост, мусілі кінуць у рэчку кавалачак хлеба. Каля моста або пад ім святкавалі розныя абрадавыя святы, варажылі, варылі сакральныя напоі і г. д. Паводле некаторых павер'яў, душы памерлых па мосце трапляюць у неба.

Масты часта ўспамінаюцца ў беларускіх песнях, казках і г. д. У адной з казак, запісанай на Навагрудчыне ў сярэдзіне XX ст., расказваецца, як на адным з мастоў Кацігарошак знайшоў багатырскую булаву. Матыў знаходжання булавы на мосце звязаны з вельмі старажытнымі абрадамі і паданнямі. У казках мост будуецца на вачах у вандроўных герояў у найадказнейшы момант і ў найнебяспечнейшым месцы. А пера-



*Мост праз раку Можа, в. Стары Сокал, Крупскі р-н.*

права на той свет можа адбывацца па медным, срэбным або залатым мосце. Да таго ж, залаты мост можа быць з цудоўнымі райскімі дрэвамі і птушкамі.

Вельмі часта ў фальклоры надаецца ўвага і плыткім месцам на рацэ. Маюцца на ўвазе брады, тыя мясціны, дзе можна без лішніх перашкод перайсці або пераехаць на другі бераг. Для ландшафта Беларусі характэрныя такія назвы брадоў, як *Дзеўкін Брод* (Вілейскі раён), *Князеў Брод* (вёска Вяшэўка Бярэзінскага раёна), *Татарскі Брод* (вёскі Малькавічы Ганцавіцкага раёна і Мялешкавічы Мазырскага), *Шведскі Брод* (вёска Любашава Ганцавіцкага раёна) і г. д.

Татарскі Брод у Малькавічах быццам утварыўся таму, што ў час вайны татары адступалі якраз праз гэтую вёску і пратапталі яго. У Мялешкавічах брод нібыта пратапталі татарскія войскі, калі змагаліся з Літвой. У вёсцы Любашава пра Шведскі Брод ёсць паданне. Некалі праз вёску ішлі шведы, іх камандзір загадаў мясцоваму дзеду Любашу правесці войска да партызанаў найкарацейшай дарогай, каб заспець тых знянацку. Любаш, натуральна, павёў іх у супрацьлеглы бок, праз непралазны брод, дзе шведы і знайшлі сваю пагібель.

У Светлагорскім раёне каля вёскі Паганцы (цяпер Пагонцы), што недалёка ад Парычаў, ёсць сярод балота Сіняе Возера, дзе, паводле падання, затанула царква. У час шведскай вайны побач з гэтым месцам быццам бы праходзіў кароль Віт ці Віцэ-кароль (Вітаўт). Ён ішоў праз лясныя ўрочышчы Карыта, Дубойшча і Брод. Дык па гэтым паходзе ўрочышча Брод і празвалі *Вітты Брод*.

# Прыдарожныя крыжы, камяні і капліцы

Ставіць пры дарогах крыжы — даўняя традыцыя, якая ў нашы дні вельмі хутка адраджаецца. На старых шляхах і сёння яшчэ трапляюцца старадаўнія каменныя крыжы. На некаторых з іх праглядаюцца незразумелыя літары ці таямнічыя знакі, а часам — цэлыя надпісы. Шмат якія крыжы сваім выглядам нагадваюць сапраўднага паганскага ідала. Бывае, яны адзетыя ў самаробныя фартушкі, перавязаныя дэдэронавымі стужкамі. На жаль, цяпер у сялянскіх хатах кабеты ўжо не займаюцца ткацтвам, дык даводзіцца танную штучную тканіну для абракання купляць у крамах.

Каменныя крыжы, якія нагадваюць ідалаў, навукоўцы адносяць да своеасаблівай групы культавых камянёў і называюць крыжамі-стодамі. Яшчэ нядаўна такі помнік стаяў пры дарозе з мястэчка Даўгінава ў вёску Жары Вілейскага раёна. Цяпер ён у сталічным музеі валуноў. Вышыня крыжа, высечанага з валуна, дасягае амаль двух метраў. У яго ёсць закругленая галава з ледзь азначанай шыяй, выцягнутыя ў бакі рукі, грудзі, а на ўзроўні жывата — пукаты знак у выглядзе дзіцяці. Усё гэта дае падставы лічыць, што Даўгінаўскі крыж не проста крыж, а выява нейкага жаночага боства, старажытная язычніцкая святыня. На думку гісторыкаў, знакі на даўгінаўскім ідале падобныя да знакаў, якія высякаліся на культавых камянях і значаць: «крыж крыжоў», «агняны крыж» або «крыж Мары».

Ува ўсіх індаеўрапейцаў багіня Мара была вельмі шанаваным боствам, яна пераняла асноўныя рысы боства яшчэ больш старажытнейшага — Вялікай Багіні Маці — і адказвала за свет памерлых, спрыяла працягу роду, апекавалася жанчынамі і г. д. Але ў нас замагільная функцыя багіні перайшла да нячысцікаў і злыдухаў. Апека над жанчынамі, спрыянне



*Прыдарожны каменны крыж у в. Заполле, Бялыніцкі р-н.*

плоднасці і ўрадлівасці адышло да іншых боствaў. Мабыць, Даўгінаўскі крыж ацалеў з тых часоў, калі Вялікую Багіню яшчэ не скінулі з п'едэстала, а ўсяляк шанавалі яе. Ужо вельмі даўно пра гэты крыж зафіксавалі два паданні. Згодна з адным, крыж пастаўлены Стэфанам Баторыем, а згодна з іншым — крыж паказваў на Кацярынінскі шлях.

Зазначым, у Беларусі пакуль што не выявілі аналагаў гэтага ідала-крыжа. Знаходжанне яго пры магістралі было занадта небяспечнае для старажытнага помніка, і дасведчаныя людзі надумаліся не пакідаць стод на адкрытым месцы, перавезці ў музей валуноў. Захоўванне крыжа ў музеі дазваляе паказаць яго большай колькасці людзей, даследаваць унікальны экспанат і расказваць пра яго ўсяму свету.

Прыдарожныя крыжы-ідалы таксама стаялі каля вёсак Грабаўцы і Залуззе Жабінкаўскага раёна. У 70-ыя гады XX ст. іх перавезлі ў Брэсцкі гістарычна-краязнаўчы музей. На скрыжаванні дарог каля вёсак Палачаны і Яхімоўшчына, што за 18 кіламетраў ад Маладзечна, ёсць мясцовая святыня — паклонны

каменны крыж. Крыж і цяпер вельмі шануюць і прыбіраюць фартушкамі, стужкамі, а на самым версе ляжыць невялічкі вяночак з штучных кветак. У каменны крыж некалі быў убіты крыж металічны. Цяпер ад яго засталося толькі малое паглыбленне наверсе, куды паломнікі ў наш час складаюць грошы. Сёння пра крыж можна пачуць такое паданне:

*Гэта было даўным-даўно... Аканому панскай сядзібы ў Яхімоўшчыне прысніўся незвычайны сон. Быццам прыходзіць да яго каменны крыж, а рос ён непадалёк — на яхімоўскім балоце, і кажа: «Перавязі мяне на крыжавыя дарогі». Прачнуўся аканом і забыўся на недарэчны сон, бо й так было шмат клопату. А на другую ноч зноў сніцца той самы камень-крыж і зноў кажа, але ўжо не просіць, а загадвае: «Перавязі мяне на крыжавыя дарогі!». Нараніцу пайшоў аканом да пана і расказаў яму пра свой сон. Пан здзівіўся, але даў коней і калёсы, каб перавезці той камень на крыжавыя дарогі. Калі ўсё было зроблена і камень лёг на скрыжаванні, пачаў ён прыцягваць да сябе людзей з усіх бакоў. Хто ні йшоў, хто ні ехаў, усе спыняліся каля каменя, хрысціліся і кланяліся яму. А ў Вялікую Пятніцу да каменнага крыжа ішлі жанчыны з вакольных вёсак, каб скласці ахвяраванні: грошы, яйкі, лён ці проста акрайчык хлеба.*

*Ажно даведаўся пра незвычайны камень ксёндз з вёскі Аборак і наказаў сваім парафіянам, каб перавезлі гэты камень да касцёла. Ксёндз думаў толькі пра адно: «Будзе вялікая ахвяра». Паехалі мужчыны на конях, хацелі зрушыць камень з месца, але не туды тое! Тады ксёндз наказаў запрэгчы валоў і перацягнуць камень-крыж. Толькі й валы не памаглі. А дзіва-камень так і застаўся на тым самым месцы, дзе яго паклалі. Неўзабаве выраслі тамака дзве харошыя ліпы. Гэта яшчэ больш вабіла падарожных, бо можна было пасядзець у цяньку, схавацца ад гарачыні ці пастаяць пад густою кронай, перачакаць дожджык. А то й проста спыняліся людзі, заглядваліся на гэтае хараство, зачараваныя пахам квітнеючых дрэў.*

*А скора тую мясціну так упадабалі, нібы дзіўная сіла цягнула сюды людзей! Дый зараз заўважылі, што й праўда ёсць у камяні нейкая сіла. Казалі, калі тройчы абысці каменны крыж і памаліцца, то ўсе хваробы знікаюць і чалавек тады як нанова народжаны...*

Паводле іншай версіі падання, гэты крыж таксама стаяў не на цяперашнім месцы, а на полі, зверху ж заўсёды ляжалі тры яблыкі. Але нейкі злы чалавек з'еў адзін яблык і адразу аслеп.



*Прыдарожная каплічка, Вілейскі р-н.*

Ён спалохаўся ды ад нечаканасці заенчыў. Пазбягаліся людзі, давялі вартага жалю небараку да вёскі і ўсё дзівіліся з такой праявы. А нараніцу гэты чалавек папрасіў, каб яго зноў завялі пад незвычайны крыж. Там ён пакаяўся, склаў ахвяраванне, і да яго адразу вярнуўся зрок. А крыж з тае пары лічыўся цудадзейным, яго перанеслі на скрыжаванне дарог Яхімоўшчына — Палачаны — Кабыльнікі (цяперашняя Зоранька).

Паданні пра гэты дзівосны камень жывуць не адно стагоддзе і перадаюцца ад бацькоў дзецям, тыя расказваюць іх сваім унукам і праўнукам. Мабыць, і Янка Купала, калі жыў і працаваў у Яхімоўшчыне, чуў пра камень. У гэта верыцца, бо ўся творчасць народнага паэта прасякнута адгалоскамі падобных легенд і паданняў.

У вёсцы Пліса Глыбоцкага раёна захаваўся вельмі стары каменны крыж. Некалі ён стаяў на Гасцінцы Вялікім або — на Альгердавым Шляху. Паводле падання, гэты крыж зрабілі

жыхары вёскі Крывічы пасля таго, як самасудам несправядліва спалілі за чарадзейства свайго аднавяскоўца. А даведаліся яны пра гэта толькі тады, калі дым ад кастрышча пайшоў роўна ўгору, што значыла: спалены чалавек быў святы і ягоная душа паляцела адразу на неба.

Для абароны ад ворагаў і розных эпідэмій каменныя крыжы вельмі часта ставілі на ўездзе або на выездзе з вёскі. Паводле старадаўняга беларускага звычаю, нябожчыка, перш чым завезці на могілкі, неслі да такога крыжа і там развітваліся. Потым на могілкі ішлі ягоныя сваякі і самыя блізкія.

Крыж-Баба, або Кацярынінскі крыж, і цяпер стаіць на ўзбочыне дарогі каля возера ў вёсцы Галошава Талачынскага раёна. Сваім выглядам ён таксама нагадвае чалавечую фігуру. Некалі Кацярынінскаму крыжу прыносілі грошы, кветкі, прыбіралі яго стужкамі, а на Вялікдзень — і ручнікамі. Расказваюць, што даўней крыж стаяў крыху далей ад берага, побач з курганамі. Вакол рос лес, а каля самога крыжа некалькі прыгожых бярозак. У 30-я гады XX ст. лес высеклі, крыж трактарам адцягнулі на самы бераг. Так ён і ляжаў да 1996 года, пакуль яго не паднялі і не ўмацавалі на бетонным пастаменце.

Пра Кацярынінскі, або Галошаўскі крыж, бытуе шмат паданняў. Паводле аднаго з іх, найбольш тыповага, на месцы возера некалі была вёска, дзе жылі сквапныя і няўдзячныя людзі.

*Бог, калі хадзіў па нашай зямлі пад выглядам старога жабрака, патрапіў і ў тую вёску. Ён папрасіўся на начлег, ды ніхто, апроч беднай удавы, не хацеў даваць яму прытулку. Жанчына, якая жыла на ўскрайку вёскі, накарміла падарожнага чалавека і паклала спаць. Нараніцу жабрак сказаў, што яна павінна хутка збірацца ды йсці за ім упрочкі, і ні ў якім разе не азірацца. Але, пачуўшы незразумелы шум, кабета азірнулася і заміж вёскі ўбачыла вялікае возера. Тут яна і скамянела.*

Паводле іншых версій, крыж або застаўся ад затопленага паселішча, або пазначаў мяжу паміж Друцкім і Мсціслаўскім княствамі, або паказваў месца, дзе былі закапаны скарбы, вывезеныя французамі з Масквы ў вайну 1812 года.

Ёсць яшчэ адна версія, згодна з якой каля вялікага крыжа стаяў яшчэ маленькі, яго потым паклалі ў падмурак мясцовага маёнтка. Але да гэтых падзей адбылася «жахлівая гісторыя»:

*Дачка тутэйшага пана закахалася ў конюха, які служыў яе бацьку. Пыхлівы і злосны пан, даведаўшыся пра патаемнае*

*каханне, раз'ятрыўся не на жарт ды забіў конюха, а тады расказаў дачцэ. А тая ўжо колькі тыдняў чакала дзіця. Яна не ведала, што й рабіць з гора, слёзы дзень і ноч цяклі з вачэй. Іх было так шмат, што на тым месцы, дзе яна стаяла, разлілося возера. А сама дзяўчына знікла ў салёных хвалях. А пан у памяць дачкі і ненароджанага дзіцяці паставіў два крыжы.*

Побач з палявой дарогай каля вёсак Зачысце і Пупелічы (цяпер Крынічка) у Барысаўскім раёне каменны крыж, згодна з паданнем, з'явіўся ў час вайны з Сігізмундам. А ў вёсцы Пабокавічы Бабруйскага раёна даўным-даўно стаяў пры дарозе каменны крыж з лацінскім надпісам. На пачатку XX ст. мясцовыя старыя яшчэ расказвалі, што пры крыжы французы закапалі «крамлёўскія скарбы».

Прыдарожныя каменныя крыжы захаваліся каля вёсак Воўкавічы Талачынскага раёна, былой Авечкі — Мёрскага, Бераснёўка — Докшыцкага і г. д. Каля дарогі, недалёка ад вёскі Шылавічы Слонімскага раёна, крыж з надпісам пастаўлены нібыта на магіле велікана-рабаўніка Семака-Разбойніка. А празвалі яго гэтак, бо рабаваў ён там роўна сем гадоў, пакуль не атруціў яго віном ягоны ж кухар, а тады яшчэ й апарыў. Быў прыдарожны каменны крыж і побач з горадам Заслаўем Мінскага раёна. Лічылася, быццам яго паставілі на месцы забойства нейкага Федзькі. Паводле падання, небараку забілі, каб забраць грошы, якія той атрымаў, прадаўшы карову. Крыжы пры дарогах былі таксама пазнакамі прасторавай адлегласці.

А яшчэ на скрыжаваннях ставілі абракальныя крыжы. Іх зазвычай абгароджвалі, абсаджвалі кветкамі, кустамі. Ёсць звесткі, быццам у Віцебску каля Пецярбургскага тракту ў канцы XVIII ст. стаяў высокі драўляны крыж, якраз насупраць касцёла святой Барбары. Ён быў пафарбаваны ў чырвоны колер, а знізу на невялікім жалезным лісце, прыбітым да крыжа, быў надпіс на польскай мове, прыгожа кляпаны. Маўляў, таму, хто будзе тут штодзённа маліцца, праз 200 гадоў адпусцяцца ўсе грахі. А хто будзе прыходзіць да крыжа штопятніцы — грахі спішуцца толькі на сем гадоў. Далей пісалася, што дазволіў такое адпушчэнне грахоў Айцец Пій VI на вечныя часы. Стаяла дата: 1777 год, мая 18 дня. Пад шыльдачкай вісела скарбонка для ахвяраванняў.

У вёсцы Вялікія Споры на Пастаўшчыне на ростанях стаяла капліца і каля яе — каменны крыж. Расказвалі, што пад крыжам закапаны каштоўны скарб. А ў Пухавіцкім раёне каля вёскі Парэчча пры дарозе стаяла каплічка, а ў ёй — святы каменны

крыж. У 20-я гады XX стагоддзя шмат каменных крыжоў стаяла на Бабруйшчыне, якраз пры дарогах былой Чачэвіцкай воласці, на мяжы сучасных Быхаўскага і Кіраўскага раёнаў.

У XIX—XX стст. па ўсёй Беларусі можна было сустрэць невялічкія прыдарожныя каплічкі або драўляныя крыжы з прымацаванымі да іх абразамі, пакрытыя зверху дахоўкай. У сярэдзіне XIX ст. пры ўездзе ў Нясвіж стаялі драўляныя крыжы, каплічкі, а таксама вялікія слупы з рэльефнымі выявамі Божай Маці, Збаўцы і Яна Прадцечы.

Каля вёскі Крынка Асіповіцкага раёна некалі пры дарозе стаяла невялічкая каплічка, якая мясцілася на слупочку. Каплічка мела назву *Езус*, і каля яе заўсёды абракаліся. Але ў часы калектывізацыі і змагання з рэлігіяй адзін з сялян знішчыў каплічку, а потым, паводле чутак, у яго адняло ногі.

У сярэдзіне XIX ст. па Мінскай губерні налічвалася 117 падобных прыдарожных каплічак. Вельмі часта ў сярэдзіне каплічкі была ніша, дзе стаялі фігуркі святых. Гэта маглі быць фігуркі Божай Маці і Хрыста, св. Яна, св. Роха, св. Ісідора, св. Ёсіфа, св. Антонія Падуанскага, інш. Побач з фігуркамі зазвычай стаялі скрыначкі для ахвяраванняў, якія ішлі потым у мясцовыя храмы.

# Калоны

Яшчэ і цяпер каля дарог трапляюцца высокія цагляныя ці мураваныя калоны. Але сёння на іх нічога няма, а даўней там стаялі жалезныя крыжы, скульптурныя выявы святых. Пра такія помнікі можна пачуць шмат паданняў. Шырока вядомую калону каля вёскі Лявонпаль у Мёрскім раёне і сёння называюць *Французскі помнік* і звязваюць яе з вайной 1812 года. А насамрэч, як сведчаць архівы, яе ўзвялі ў канцы XVIII ст. у гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года — асноўнага закона Рэчы Паспалітай.

З гэтай жа падзеяй звязваюць калоны ў Глыбокім, у вёсцы Бездзеж Драгічынскага раёна, у Казянах Браслаўскага. Вакол калоны ў Глыбокім, пра якую існуюць тры версіі паданняў, потым утварыліся могілкі. Паводле аднаго з паданняў, калона — гэта помнік у гонар касцёла, які тут меліся будаваць, ды так і не ўзяліся. Паводле другога — калона пазначае месца, дзе нібыта была смяротная бойка двух братоў за нейкую красуню. Паводле трэцяга — калону ўзвёў сам Напалеон.



*Калона пры дарозе, в. Ятвяск, Шчучынскі р-н.*

На Піншчыне каля дарогі Брэст—Гомель недалёка ад вёсак Ставок і Аснежыцы ва ўрочышчы Пясечна захавалася высокая калона Святога Яна. Некалі на ёй стаяла скульптура гэтага святога. Паводле аповедаў мясцовых людзей, калону паставіў пан як памятку па сваіх памерлых дзецях. Захаваліся калоны і каля вёсак Асошнікі Пружанскага раёна, Курчоўцы — Воранаўскага, Гарадзец — Шаркаўшчынскага, Вістычы — Брэсцкага, Фашчаўка — Шклоўскага і інш.

У XIX ст. у Мінску за Ігуменскай заставай стаялі пры дарозе, амаль побач, тры калоны. Месцічы казалі, нібыта іх узвялі над магіламі двух братоў Свентаржэцкіх, якія загінулі ў дуэлі за дзяўчыну. А трэцюю калону нібыта паставілі над магілай нейкай Феафілы Міладоўскай. Пры дарозе з Мінска на Навагрудак таксама некалі стаяла калона, якая называлася



*Прыдарожная калона, в. Дзярэчын, Зэльвенскі р-н.*

*Вікенцьеўскі Слуп.* Назва паходзіла ад драўлянай скульптуры дамініканскага манаха Вікенція, што месцілася на самым яе версе. Пра гэты помнік сярод мінчукоў вядома тры паданні: калона пастаўлена а) у 1824 годзе мінскім віцэ-губернатарам; б) на памяць аб збаўленні ад нейкай эпідэміі; в) паставіла маці губернскага радцы Вікенція Фрыбеса на памяць яго адмовы ад жаніцьбы з пакаёўкай губернатара Гецэвіча. У час паўстання 1863 года каля гэтай калоны маладыя людзі маліліся, спявалі гімны і збіралі грошы для паўстанцаў. Потым яе разбурылі царскія ўлады, а на тым месцы паставілі праваслаўную капліцу.

Да 1863 года пры ўездзе ў Лагойск з боку Мінска быў высокі каменны слуп, дзе ў залачоным арнаце стаяла статуя св. Яна, павернутая тварам да мястэчка. У адной руцэ святы

трымаў крыж, а ў другой — галінку. Пры дарозе з мястэчка Іўе на Суботнікі быў некалі высокі мураваны слуп у выглядзе прыдарожнай каплічкі, наверсе ў якой знаходзіўся крыжык. Паводле падання, кальвініст Кішка неяк выгнаў з Іўя айцоў бернардынаў. Пакорныя, яны пайшлі куды вочы глядзяць. Калі айцы мінулі дзве вярсты, Кішка аслеп. Тады ён загадаў вярнуць бернардынцаў, аддаў ім назад касцёл і кляштар, а на тым месцы, дзе манахі спыніліся, загадаў узвесці памятны манумент.

Пры дарозе з вёскі Камень Валожынскага на Дзяржынава Стаўбцоўскага раёнаў была некалі вялікая калона, якую называлі *Швэцкі Слуп*. Лічылася, што наверсе ў яе ляжала шведская пальчатка, па якую мусіў прыйсці нейкі швед. Паводле іншай версіі, шведы ўзвялі гэты слуп як арыенцір. Другія называлі слуп памежным. У Іванаве на Брэстчыне каменны слуп быццам бы стаяў у гонар езуіта Андрэя Баболі, забітага тут у 1657 годзе за пашырэнне каталіцызму. На калоне ў вёсцы Ятвеск Шчучынскага раёна раней быў крыж. Згодна з паданнем, адзін селянін зняў крыж і занёс дахаты — і шчаслівае ў яго жыццё скончылася: у ноч крадзежы здохлі дзве каровы, а потым і гаспадарка не заладзілася. Нарэшце ў сне да яго з'явіўся старац, які загадаў занесці крыж на старое месца. Селянін так і зрабіў: паставіў крыж каля слупа — і няшчасці спыніліся.

Калоны зафіксаваны і каля вёскі Здзітаў Бярозаўскага раёна, Чарнаўчыцы — Брэсцкага (у гонар заснавання царквы ў 1600 г.), Воўчын — Камянецкага («фігуру» склалі пры адступленні напалеонаўскія салдаты), Дзярэчын — Зэльвенскага, Пінкавічы — Пінскага і шмат дзе яшчэ. Пяціметровы слуп ёсць у вёсцы Скрыгалаў Мазырскага раёна. Пісьмовыя крыніцы адносяць яго да 1497 года, калі па дарозе з Вільні ў Кіеў спыніўся архіепіскап Макарый і яго тут забілі татары. Гэтую калону называюць *Стэла*.

Пры вялікіх дарогах — гасцінцах, трактах — захаваліся месцамі высокія, больш як па чатыры метры, прыдарожныя слупы, гэтак званыя *верставыя слупы*. Такія помнікі ёсць каля Талачына пры старым Кацярынінскім бальшаку, які вёў з Пецярбурга ў Крым. Іх яшчэ называлі ў народзе *Кацярынінскія слупы*. Захаваўся таксама верставы слуп каля вёскі Мішневічы ў Шумілінскім раёне і г. д.

# Літаратура

*Аникиевич, К. Т.* Сенненский уезд Могилевской губернии / К. Т. Аникиевич. — Могилёв, 1907.

Археологические известия и заметки, издаваемые Императорским археологическим обществом. — М., 1894. — № 3—4.

*Валодзіна, Т.* Ростані / Т. Валодзіна, У. Лобач // Беларуская міфалогія: энцыклапедычны слоўнік. — Мінск, 2006. — С. 431—432.

*Васілеўскі, Д.* З матэр'ялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі / Д. *Васілеўскі* // Наш край. — 1926. — № 6—7. — С 64—67.

*Віцьбіч, Ю.* Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман / Ю. Віцьбіч. — Мінск, 1995.

Г. Пружаны // Литовские Епархиальные ведомости. — 1890. — № 31. — С. 250—251.

*Гладышчук, А. А.* Цагляная калона ў ваколіцах Скокаў (Брэсцкі раён) — выдатны помнік эпохі асветніцтва / А. А. Гладышчук // Вестник Брестского государственного технического университета. — 2002. — № 6. — С. 93—95.

*Говорский, К.* Поездка (14 сентября 1852 г.) из г. Полоцка по направлению так называемой Ольгердовой дороги / К. Говорский // Записки императорского археологического общества: Т. V. — СПб., 1853.

*Губина, В .В.* Предания старины глубокой: (легенды о белорусских храмах) / В. В. Губина // Исторический поиск Беларуси. — Минск, 2006. — С. 175—182.

*Гурская, Ю. А.* Имя собственное в белорусской наивной картине мира / Ю. А. Гурская // Известия Гомельского государственного университета имени Ф. Скорины. — 2007. — № 3 (42). — С. 22—26.

*Иванов, В. В.* Славянские моделирующие семиотические системы: (Древний период) / В. В.Иванов, В. К. Топоров. — М., 1965.

*Квитницкая, Е. Д.* Каплицы Белоруссии / Е. Д. Квитницкая // Архитектурное наследие. — 1980. — № 28. — С. 119—132.

*Кулагін, А. М. З* архітэктурнай спадчыны / А. М. Кулагін // Памяць. Глыбоцкі раён. — Мінск, 1995. — С. 29—30, 65—66.

*Лобач, У.* Дарога. / У. Лобач // Беларуская міфалогія: энцыклапедычны слоўнік. — Мінск, 2006. — С. 133—134.

*Матусевіч, А.* Матэр'ялы да гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі / А. Матусевіч // Савецкая Беларусь. — 1923. — № 192.

*Москалевич, Р. М.* Логойск. Его историческая судьба в церковном и гражданском отношениях / Р. М. Москалевич // Вестник Западной России. Т. 2. — Кн. 4. — 1870. — С. 1—14.

*Мялешка, М.* Камень у вераваньнях і паданьнях беларусаў / М. Мялешка // Запіскі аддзелу гуманітарных навук: Кн. 4. Працы кафедры этнаграфіі: Т. 1. — Мінск, 1928. — С. 155—182.

На счет явления чудесности в нашей епархии // Литовские Епархиальные ведомости. 1882. — Вильно, 1883. — № 38. — С. 316.

*Невская, Л. Г.* Семантика дороги и смешанных представлений в проблемном образе / Л. Г. Невская // Структура текста. — М., 1980 — С. 228—239.

*Невская, Л. Г.* Концепт пути в фольклорной модели мира (от Балтии до Балкан) / Л. Г.Невская и др. // Славянское языкознание. XII Международный съезд славистов. — М., 1998. — С. 442—459.

*Николай-архимандрит.* Историко-статистическое описание Минской Епархии / Николай-архимандрит. — СПб., 1864.

Н.З. Ещё раз о фигурах святых и других памятниках религиозного значения // Минские Губернские ведомости. — 1868. — № 38. — С. 276.

Опросные листы 1924 года // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. — Справы № 69, 70, 71, 72.

*Паўлаў, М.* У ваколіцах селішча / М. Паўлаў // Голас Радзімы. — 1987. — 1 кастрычніка.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по подготовке в Вильне IX Археологического съезда. Приложение. — Вильно, 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильно, 1895.

*Попов, П.* Сооружение деревянных крестов в Юго-Западной России при дорогах / П. Попов // Руководство для сельских пастырей. — Киев, 1863. — № 7. — С. 561—571.

*Пропп, В. Я.* Исторические корни волшебной сказки / В. Я. Пропп. — Л., 1986.

*Рюмин, В.* Статуи римско-католических святых, каплицы и т. п. памятники в Западной Руси / В. Рюмин // Минские Губернские ведомости. — 1868. — № 35.

*Самцэвіч, В.* Помнікі кампаніі 1812 г. у г. Барысаве / В. Самцэвіч // Наш край. — 1927. — № 10—11 (13—14). — С. 46—48.

*Сардаров, А. С.* История и архитектура дорог Беларуси / А. С. Сардаров. — Минск, 1978.

*Сардаров, А.* Книга о дорогах: (дороги в человеческой цивилизации и культуре) / А. Сардаров. — Минск, 2000.

*Сементовский, А.* Белорусские древности / А. Сементовский. — СПб., 1890.

*Ставрович, Ф.* Опыт исторических и этнографических исследований о северо-западном крае / Ф. Ставрович. — Вильно, 1870.

*Ставрович, Ф.* По поводу придорожных юбилейных столбов / Ф. Ставрович // Виленский Вестник. — 1869. — № 62.

*Таўлай, Д. А.* Старажытныя дарогі Беларускага Палесся / Д. А. Таўлай // Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту: Зб. навуковых прац. — Мінск, 2003. — С. 85—89.

*Турбин, Н. М.* Раскопки 1885 года / Н. М. Турбин // Труды Московского археологического общества. Древности: Т. XI. — Вып. II. — М., 1886.

*Шпилевский, П. М.* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю / П. М. Шпилевский. — Минск, 1992. (Факсимильное издание).

*Щепанская, Т. Б.* Культура дороги в русской мифоритуальной традиции XIX—XX вв. / Т. Б. Щепанская. — М., 2003.

*Halicki, B.* Ze szlaków wodnych dorzecza Wiliji / B. Halicki // Ziemia. — 1934. — № 4. — S. 78—80.

*Jankowski, Cz.* Powiat Oszmiański: T. III. / Cz. Jankowski. — Kraków, 1890.

*Jarocki, St.* Głaz w Jachimowszczyżnie i tajemnicze cmentarzyzko / St. Jarocki // Ziemia. — 1933. — № 12. — S. 241—242.

*Lorentz, S.* Wycieczki Słonimskie / S. Lorentz. — Słonim, 1933.

*Makczak, M.* Przewodnik po Polesiu / M. Makczak. — Lwów, 1935.

*Rewieńska, W.* Miasta i miasteczka w północno-wschodniej Polsce. / W. Rewieńska. — Wilno, 1938.

*Sawicki, L.* Notatki krajoznawcze z terenu obecnej Nowogródczyzny / L. Sawicki // Ziemia. — 1929.— № 1. — S. 8—11.

*Wyslouch, S.* Dawnie drogi Polesia w XVI—XVIII w. / S. Wyslouch // Ateneum Wileńskie. — Cz. XII. — Wilno, 1937.

Раздзел XII

# МІФАЛОГІЯ І ГІСТОРЫЯ

## ў мікратапанімічных назвах і паданнях



# Язычніцкія боствы і хрысціянскія святыя

У ландшафтнай міфалогіі беларусаў даволі празрыста прасочваюцца старадаўнія рэлігійныя ўяўленні пра прыроду, яе сувязі з язычніцкімі культамі. Найстаражытнейшы культ, ушаноўванне жывёл, захаваўся ў такіх найменнях сакральных камянёў, як *Мядзведзь, Быкі, Валы, Кабыла, Котаў Камень*, інш. З культам змяі звязаны назвы гарадзішчаў *Змяінкі, Зміяў Гарадок, Змеева Гара* і г. д. Пра гарадзішча Змяёўка, што ў Магілёве, паданне кажа, быццам яно ўзведзена над забітым маланкай змеем-страшыдлам.

Для ўрочышчаў, дзе размешчаны курганныя могільнікі, характэрныя такія назвы, як *Дубавіна, Дубкі, Дубовіцы, Дубрава, Дубішча* і г. д. Вядома, што дуб лічыўся святым дрэвам і меў дачыненне да культу продкаў. Даўней менавіта ў дубровах хавалі нябожчыкаў. Славуты слонімскі каменны ідал таксама знойдзены ва ўрочышчы Дубы. З культам продкаў атаясамліваюцца найменні: *Дзеднае, Дзедаўскія Ямы*. Ёсць камяні з назвамі: *Дзед, Дзедаў Камень*, сакральныя гаі: *Дзедаўшчына*, балоты: *Дзед, Дзядок*, дарогі: *Дзядоўскі Шлях* і г. д.

Культ Перуна пакінуў свой след у найменнях узгоркаў і камянёў. *Перунова Гара* ёсць на выспе Асвейскага возера, каля вёскі Аношкі Нясвіжскага раёна, у лесе паміж вёскамі Буда Старадарожскага і Каўтары Асіповіцкага раёна, каля вёсак Вензаўшчына і Шчурок Шчучынскага раёна. Гара *Пяркунас* ёсць каля вёскі Цырклішкі на паўночны захад ад Лынтупаў Пастаўскага раёна — цяпер гэта тэрыторыя Літвы. Камяні, такія як *Перуноў, Пярун-Камень*, зафіксаваны каля вёскі Грыцкаўшчына Полацкага раёна, на беразе возера Дрывяты на Браслаўшчыне, каля вёсак Дубкі і Расходна Сенненскага раёна, Папялы — Глыбоцкага, інш. У Чэрвеньскім раёне ёсць вёска і мост з аднолькавым найменнем *Перуноў Мост*. Назву гэтых аб'ектаў тлумачыць пашыранае паданне, згодна з якім у гару або ў камень там часта б'е Пярун.



*Камень са следам Святога Антонія каля касцёла ў в. Струбніца, Мастоўскі р-н.*

З другім боствам, не менш важным для беларусаў, а першапачаткова, можа, і галоўным — Вялесам, або Воласам, звязана шмат сакральных аб'ектаў. Гэта бог падземнага свету, багацця і дабрабыту. Каля вёскі Крыжоўка пад Мінскам ёсць камень з назвай *Волас*, а на Ушаччыне — камень *Воласень*. Сустракаецца і найменне ручая — *Валосавіца*. Ужо за хрысціянствам гэтае магутнае язычніцкае боства прымае адмоўныя рысы, ператвараючыся ў вядомага ўсім нам чорта. Сустракаюцца такія назвы гарадзішчаў і ўзгоркаў, як *Чортава Гара, Чортаў Гарадзец, Чортаў Човен*. Культавыя камяні маюць назвы: *След Чорта, Чортаў Камень, Чортаў Ступень, Чортава Печ, Чортавы Дучкі, Чортава Грэбля*, азёры, ручаі, балоты, лагчыны і масты завуцца «чортавымі»: *Чортава Акно, Чортава Вока, Чортаў Ручай, Чортава Яма, Чортаў Мост*, інш.

Здаўна бытуюць і найменні *Божы Дар, Божая Хвала, Божы Камень, Божы Слядок, Балваны, Богава Гара, Божы Калодзеж, Бажкоў Лес, Бажніца*, інш. А сакральны дуб каля Ашмян яшчэ ў пачатку XX ст. называўся *Дэвайціс*, што ў перакладзе з літоўскай мовы значыць 'Боства'. Натуральна, з прыняццем хрысціянства язычніцкія багі папераўвасабляліся ў хрысціянскіх святых. Так, Пярун прыняў аблічча святога Іллі, Волас — святога



*Паклонны крыж на былой Юр'еўскай прошчы. Вёска Жабін, Салігорскі р-н.*

Мікалая, Ярыла — святога Юр'я або Георгія-Пераможца, а язычніцкі абрад Купалле быў прывязаны да св. Іаана (св. Яна). Каля горада Сянно па дарозе на Абольцы ёсць *Ільінская Гара*. 2 жніўня на свята Іллі ўшаноўваецца крыніца ў лесе пад вёскай Стайкі Ушацкага раёна, а ў вёсцы Баяры на Глыбоччыне крыніцы ўжо няма, але фэст, прысвечаны старадаўняму боству, застаўся. Па ўсёй нашай краіне можна сустрэць крыніцы, горы ды камяні-следавікі, якія носяць імя святога Мікалая.

З святым Юр'ем звязаны *Юр'еўскія Горы* каля Віцебска, у Крэве на Смаргоншчыне, па дарозе з Нясвіжа ў Навагрудак, у вёсцы Белавуша Столінскага раёна. Асабліва часта можна сустрэць такія назвы гораў і крыніц, як *Янавы* ці *Святаянскія*, скажам, такія крыніцы ёсць у вёсках Смаляры Барысаўскага раёна, Быстрыца — Астравецкага, Чарневічы і Бабруйшчына — Глыбоцкага. Ёсць возера *Янава*, ручай *Янаўка*, балота *Янкаўшчына* і г. д.

У беларускай ландшафтнай міфалогіі шмат дзе трапляюцца сакральныя аб'екты, звязаныя з Божай Маці (Багародзіцай) і Ісусам Хрыстом. Камяні-следавікі часта называюцца *След Багародзіцы, След Ісуса Хрыста, След Маткі Боскай, След Святой Панны.* А ў паданнях таксама фігуруе цудатворны абраз Божай Маці, які аб'явіўся то на крыніцы, то на камені, то на дрэве, а то проста прыплыў па рацэ. З хрысціянскіх святых у мікратапаніміцы сустракаюцца Мікалай, Антоні, Ілля, Міхаіл, Пётра і Павел, Барыс і Глеб. Згодна з пэўнымі паданнямі, гэтыя святыя пакінулі свае сляды на камянях, іх імёнамі называліся крыніцы, студні і ўзгоркі.

# Міфалагічныя асобы

Беларуская ландшафтная міфалогія вылучае шэраг істотаў незвычайнай сілы і антрапаморфнага выгляду. Самыя архаічныя з іх — гэта асілкі, веліканы, волаты і валатоўны, багатыры і багатыркі. Згодна з паданнямі, волаты спрычыняюцца да стварэння рэк і азёр. У рэчышчы Дняпра ніжэй Оршы ляжаць тры вялікія камяні. Лічыцца, што даўней імі забаўляліся волаты. Часам вытокі рэк звязваюць з часткамі цела саміх асілкаў. Паданне пра раку Волму кажа, нібыта яна пацякла з галавы волата, забітага ворагамі. А ў возеры Дзікім каля Чэрвеня (былы Ігумен) волаты затапілі царкву. З гэтымі міфалагічнымі героямі звязаны і шматлікія паданні пра курганы, дзе пахаваныя або продкі-волаты, або ваяры-волаты. Узгорак Каршакова Гара каля Мазыра лічыцца магілай магутнага волата Коршака. Волатамі вельмі часта называюць вялізныя камяні і магутныя дубы. А ў возеры, што ў Дубровенскім раёне, кажуць, некалі жыў Змей-Волат.

Часта замест волата ў паданнях з'яўляецца «багатыр» ці «багатырка». У Смалявіцкім раёне «багатырка гары Замак білася з багатыром Юзафоўскага замка, і то біліся на балоце, дзе цячэ рака Усяж». На Лепельшчыне існуе паданне пра тое, як багатырка перамагла волата і ягонае войска, а тады перакуліла і паставіла каранямі ўгару вялізную яліну. З жанчынамі-багатыркамі звязаная *Багатыр-Гара* на тэрыторыі Расонскага раёна і *Дароціна Гара* ў Верхнядзвінскім раёне. Дарэчы, старажытны вобраз багатырак як персаніфікацыя яшчэ старажытнейшага вобраза Багіні-Маці ў яе ваяўнічай іпастасі характэрны для ўсёй еўрапейскай міфалагічнай традыцыі.



*Курган, дзе, паводле легенды, пахаваны волат, в. Лявонцавічы, Мінскі р-н.*

Асілкаў легенды найчасцей падаюць як насельнікаў гарадзішчаў. У паданнях яны перакідваюцца камянямі, вялізнымі каменнымі сякерамі або нават жорнамі. У адным з такіх паданняў асілак вялізным молатам раструшчыў аграмадны камень.

Відаць, нашы продкі ўспрымалі волатаў і багатыроў як істот ваяўнічых, бо пазней іх заступілі такія самыя, не менш ваяўнічыя, міфічныя рыцары, разбойнікі, казакі, салдаты. Можна сустрэць такія найменні, як *Магіла Рыцара, Рыцарскі Замак, Казацкая Гара, Казацкі Лес*. Паданні пра разбойнікаў звязаны з узгоркамі, гарадзішчамі і заснаваннем таго ці іншага горада. А жаўнеры ў паданнях (зазвычай з варожага войска) насыпаюць гарадзішчы і курганы ці ботамі, ці шапкамі. Сустракаюцца і мірныя персанажы: пастух, старац, скамарох, каваль — у іх дзейнасці таксама ёсць элемент сакральнасці.

Сярод узгоркаў ёсць *Дзявочая (Дзеўчына) Гара*; сярод гарадзішчаў — *Дзявочыя Гарадкі, Дзявіч-Гара*; сярод камянёў — *Дзявочы Камень, След Дзяўчыны-Лебедзь, След Дзяўчыны-Валатоўны*; сярод азёраў — *Дзявіча-Возера*; сярод крыніц — *Дзявічы Калодзеж, Дзеўчына Крыніца*; сярод курганоў ды могільнікаў — *Дзявочыя Магілы, Дзявочы Курган*; сярод лагчынаў — *Дзеўкін Брод, Дзеўкіна Даліна, Дзявочы Карагод*;

а сярод ручаёў — *Дзевічынка, Дзявіца*. Ёсць камяні і каменныя крыжы, якія ў паданнях лічацца скамянелымі дзяўчатамі. Наогул, імя *Дзева* сягае старажытнага вобразу Вялікай Багіні, які існаваў у трох іпастасях: Багіні-Дзевы, Багіні-Маці і Багіні-Смерці. Кожная мела свой культ і культавае месца. Як бачым, на Беларусі быў вельмі пашыраны культ Багіні-Дзевы, характар якой увасобіўся ў вобразе валатоўны і чараўніцы.

Дык не дзіва, што адлюстраванне міфічнай Дзяўчыны мы знаходзім у многіх паданнях, легендах. У адным паданні, зафіксаваным пад Бягомлем Докшыцкага раёна, гаворыцца, як Спас, ідучы па моры, сярод воднай прасторы ўбачыў камень, а на ім прыгожую, але вельмі засмучоную дзяўчыну, яна сядзела і плакала, а з яе слёз утвараліся пчолы. Дарэчы, падобнае паданне адносіцца да этыялагічнага — тлумачальнага, яно ў міфічнай форме тлумачыць паходжанне той ці іншай прыроднай з'явы. У дадзеным выпадку — пчолаў. Дзяўчына — дзейсны персанаж паданняў пра крыніцы ў вёсцы Гамарня Быхаўскага раёна і каля былой вёскі Кліны — Слаўгарадскага. Пра Равучы Калодзеж у вёсцы Слабада Горацкага раёна ёсць паданне, як дзяўчына арала на конях, а тыя раптам панесліся і з іржаннем кінуліся ў студню. Потым доўга іх было чуваць адтуль. Пра гару Замак каля Навагрудка расказваюць, быццам там час ад часу з'яўляецца ўночы прыгожая дзяўчына з сабачкам. У вёсцы Вялікія Споры, што на Пастаўшчыне, на гары, дзе «праваліўся» касцёл, нібыта можна бачыць дзяўчыну ў белым. І *Дзевінай Гарой* некалі называлі замкавую гару ў Полацку. Цікава, што ў ваколіцах Бешанковічаў Заходнюю Дзвіну таксама завуць не *Дзвіна*, а *Дзевіна*.

Вельмі часта замест наймення *дзявічая* ўжываецца сінанімічнае — *паненская*. У Лагойску ёсць *Паненская Гара*, на якой да XX стагоддзя ставілі крыжы. На тэрыторыі Белавежскай Пушчы ёсць *Пані-Гара*, а ў Мсціслаўі на адной з гор, паводле падання, некалі жыла пані Войская. На беразе Шчары ў Дзятлаўскім раёне месца старажытнага паселішча завуць *Гарадкі Дзявічыя*, або *Гарадкі Паненскія*.

Адна з праяў Вялікай Багіні на нашых землях — старажытны вобраз Бабы, міфічнага першапродка беларусаў. Хто ж не чуў такія назвы, як *Бабіна Гара, Баб'я Горка, Бабіна Балота, Бабін Гай, Бабін Калодзеж* і г. д. Тэрмінам *баба* часта называюць каменныя ідалы і каменныя крыжы. Прыкладам, каля вёскі Грыцавічы Бераставіцкага раёна стаяла гэтак званая Грыцавіцкая Баба. Каменны крыж пад назвай *Баба*, або *Кацярынінскі Крыж*, ёсць на беразе возера Глухое, што каля вёскі Галошава ў Тала-



*Здань-камень каля в. Смаляры, Барысаўскі р-н.*

чынскім раёне. А каля вёскі Хрост у Барысаўскім раёне ёсць у лесе невысокі ўзгорак, на вяршыні якога стаіць стэлападобны камень, на ім высечаны нейкія знакі, а на адным з бакоў можна разгледзець выразны рэльефны крыж. Вакол каменя — круглая пляцоўка, абкладзеная валунамі. У вёсцы Вусце на Браслаўшчыне расказваюць, быццам калісьці там ваявала нейкая баба. А пасля паразы яе войска гналі ажно да самых курганоў, што за ракой. Пры той пераправе затанула шмат і людзей, і коней.

Апроч вобраза Бабы як першапродка, у беларусаў ёсць і мужчынскі персанаж — Дзед. Бываюць найменні *Дзедава Гара, Дзедаў Камень, Дзедавы Магілы, Дзедавы Ямы*. Пра гару Галубец у Гарадоцкім раёне казалі, што можна бачыць, як з яе з'язджае сівы дзед на белым кані і адразу, калі хто спрабуе да яго наблізіцца, знікае.

# Этнонімы

За некаторымі аб'ектамі нашага ландшафту, асабліва за курганамі і гарадзішчамі, замацаваліся назвы, якія паходзяць ад іншаэтнічных найменняў. А іншаземцы ў народнай свядомасці заўсёды асацыяваліся з чужым, варожым светам.



*Шведская Гара, Ваўкавыск.*

Найбольш пашыраныя тыя сюжэты і найменні, якія адсылаюць да вайны 1812 года з французамі, да Паўночнай вайны з шведамі. Прыкладам, у вёсцы Пілаты Шаркаўшчынскага раёна лічаць, што мясцовае гарадзішча насыпалі ў час вайны з французамі. А каля вёскі Воўкаўшчына ў Мёрскім раёне ёсць гара *Французскі Касцёл*, там касцёл нібыта і праваліўся. Гару ў вёсцы Залессе Глыбоцкага раёна, кажуць, таксама насыпалі французы. Асабліва часта з французамі звязваюць курганы: *Французскія Могілкі*, *Французскія Валатоўкі*, *Французскі Склад* і г. д. А ў вёсцы Чарніцы на Лепельшчыне ёсць каменны *Галодны Могільнік*, і мясцовыя жыхары лічаць, быццам там пахаваныя дзве роты французскіх салдат.

У паданнях пра старыя дарогі сказана, што іх «будавалі французы», а каля грэблі яны маглі закапаць золата, ваенны рыштунак ці крамлёўскія багацці. Ёсць паданні пра іх скарбы і каля культавых камянёў, каменных крыжоў. Старую сасну на кургане сярод поля недалёка ад вёскі Узрэчча на Глыбоччыне завуць *Французскай* і вераць, што пад ёй схаваныя скарбы. У вёсцы Івашкавічы Петрыкаўскага раёна пра ўрочышча *Вячэра* бытуе паданне, быццам у 1812 годзе тут разбілі французаў, якраз у час вячэры.

Шмат мікратапанімічных паданняў і назваў звязаныя з шведамі: *Гара Шведаўка, Шведская Гара, Шведскія Магілы.* У Ваўкавыску лічаць, што іх гару шведы некалі нанасілі шапкамі, а каля вёсак Гарадок і Тупічын Касцюковіцкага раёна на гары «шведы спыняліся каб адпачыць», у вёсцы Рымаўцы Бабруйскага раёна «шведы сядзелі з падводамі». Пра Шведаву Гару каля Заслаўя кажуць, быццам з яе «швед абстрэльваў горад». А недалёка ад вёскі Сычкава на Бабруйшчыне ў час вайны з шведамі было затоплена шмат зброі, паходных брычак, нават адна залатая. У Грэску на Случчыне швед пачаў здзекавацца з мясцовай цэркаўкі, і Бог пакараў чужынцаў: яны разам з царквой праваліліся пад зямлю, а на гэтым месцы сталася возера.

Вельмі частыя паданні пра шведскія дарогі, пераправы, брады і масты. У паданнях пра закапаныя скарбы яны таксама згадваюцца. На Тамілавай Гары, што каля Салігорска, швед нібыта закапаў тры бочкі золата, дый бочкі тыя не простыя, а на «залатых колцах». У вёсках Рудня Слаўгарадскага і Ліцвінавічы Кармянскага раёнаў расказваюць, быццам казакі ў час адной бойкі не далі шведам пераправіцца праз балота і пагналі іх далей. Тыя ж пакідалі свой рыштунак у багну і разбегліся па лясах. А іх начальнікі пад сасновым крыжам закапалі нарабаванае золата і срэбра, ды таксама пабеглі за сваім каралём.

У больш старажытных паданнях фігуруюць татары і туркі. Сустракаюцца назвы *Татарская Гара, Татарскія Магілы, Татарскі Калодзеж*, возера *Татарын* або — *Турэцкая Гара, Турэцкі Вал, Турэцкае Кладбішча, Турэцкая Студня, Турэцкія Могільнікі* і г. д. У Ашмянскім раёне Татарская Гара, згодна з паданнем, складзена з трупаў татараў, якія загінулі ў бітве з літоўцамі. Тураўскае балота на Палессі ўтварылася за турэцкімі войнамі, якраз тады, калі там стаяла коннае турэцкае войска і капыты сотняў коняў вытапталі вялікую яміну.

У многіх ландшафтных паданнях згадваюцца адначасова розныя этнасы і нават гаворыцца пра розныя гістарычныя эпохі. Так, у вёсцы Дрычын Пухавіцкага раёна занатавана паданне пра мясцовую старую дарогу, якую спачатку праклалі шведы, а потым ужо рамантавалі французы. Апошнія закапалі там шмат ваеннага рыштунку ды золата. У Старых Валосавічах на Лепельшчыне людзі кажуць, нібыта курганы засталіся ад тае пары, калі была вайна «з туркамі або французамі». У Гудзянятах Іўеўскага раёна ў 1970-я гады сцвярджалі, што на адным з камянёў шведы смажылі бараноў. Цяпер жа расказваюць, быццам тое самае рабілі немцы.

У паданнях пра прыродныя аб'екты часта фігуруюць «літоўцы». Сустракаюцца найменні: *Гара Літоўшчына, Літоўскі Камень.* А ў курганах, як мяркуецца, пахаваныя разам і шведы, і літоўцы. У курганах каля вёскі Сімахі на Аршаншчыне, згодна з паданнем, ляжаць палякі. Этнонім *яўрэі* (варыянт — *жыд*) сустракаецца ў такіх назвах, як *Жыд-возера, Жыдоўская Гара* на Валожыншчыне, камень *Жыдоўская Ярмолка* каля Суража (Віцебскі раён). З цыганамі звязваюцца назвы кшталту *Цыганская Гара* ў Міры, *Камень Цыганоў* пад Віцебскам. А гара на правым беразе Дзвіны ў Верхнядзвінскім раёне завецца *Цыганская Булка.*

Часта чараўніцамі ў паданнях выступаюць жанчыны — прадстаўніцы іншых этнасаў: шведкі, цыганкі, яўрэйкі. Яны помсцяць людзям ці прыродным стыхіям за нейкае няшчасце, праклінаюць возера ці раку, а тыя перасыхаюць. Зафіксаваныя мікратапанімічныя найменні, звязаныя з кітайцамі, японцамі, калмыкамі, інш. Ёсць і сляды старажытных этнасаў: прусаў — *Прусава Гара*, курганы, якія «засталіся ад напасці прусаў»; яцвягаў — горад *Петрыкаў*, што нібыта заснаваў яцвяжскі князь, возера *Яцвезь, Яцвяжскія Магілы*; варагаў — *Тураў* — заснаваны князем Турам, начальнікам варажскай дружыны, *Варажскае Поле* каля мястэчка Свіслач Асіповіцкага раёна і г. д.

Сустракаюцца найменні і паданні, дзе фігуруюць славяне і рускія. На Уздзеншчыне на адным з гарадзішчаў жыў славянскі князь. Каля вёскі Куранец на Вілейшчыне ёсць назва *Славянская Гара.* У Лагойскім раёне група курганоў завецца *Славянскія Магілы.* У вёсцы Шапчыцы на Рагачоўшчыне кажуць, што там адбылася «бойка славян з татарамі». Рускія найчасцей згадваюцца ў паданнях, звязаных з вайсковымі дзеяннямі паміж шведамі і французамі.

# Вітаўт і Баторый

Імёны выбітных гістарычных асобаў — Вітаўта і Стэфана Баторыя (Сцяпана Батуры) — шырока прадстаўлены ў ландшафтнай міфалогіі. Вітаўт (1350—1430) у 1392—1430 гг. быў вялікім князем літоўскім. Дзяржаўнае справаводства ў Вялікім Княстве ў час праўлення Вітаўта вялося на кніжнай старабеларускай мове.



*Калодзеж, абкладзены камянямі, в. Чэхі, Мядзельскі р-н.*

Наступнік Альгерда, Вітаўт працягваў ранейшую палітыку ў адносінах да Смаленска, Пскова, Ноўтарада, ладзіў ваенныя паходы на гэтыя гарады. Тэрыторыя нашай старажытнай дзяржавы шырылася, Літва рабілася магутным фарпостам на шляху крыжакоў і татараў, стрымлівала бясконцы ціск з боку Маскоўскага княства. Каб умацавацца ў геапалітычнай прасторы таго часу, вялікія князі старажытнай Літвы марылі пра тытул караля. Так, Вітаўт усё жыццё чакаў ад Папы Рымскага пачэснага тытулу, на жаль, гісторыя паставілася да яго мары непрыхільна. Але некалі народы Заходняй Еўропы з удзячнасцю будуць успамінаць, як нашы славутыя і адважныя продкі не прапусцілі на іх землі татарскай навалы, і рускі народ успомніць, што мы прыкрылі іх ад крыжакоў.

Вядома, хто больш прынёс дзяржаве славы і чэсці, той і застаецца галоўным героем у народнай памяці. З імем Вітаўта Вялікага звязаны сакральныя беларускія ўзгоркі, крыніцы, балоты, дрэвы, камяні, але найбольш — дарогі і масты. У сярэдзіне XIX ст. на адным з узгоркаў на Лепельшчыне знайшлі «каменнае блюда». Паводле падання, менавіта на гэтым месцы стаяла лагерам войска вялікага князя Вітаўта. А значыць, даўней тут магла размяшчацца паклонная святыня з

каменным ахвярнікам. Вітаўтава Гара ёсць і каля Вяліжа на Смаленшчыне. У беларускіх паданнях імя *Вітаўт* часта перадаецца як *Віт*, відаць, ад спалучэння двух найменняў: балцкага *Вітаўт* і ўсходнеславянскага *Святавіт*. Апошні лічыўся галоўным боствам і атаясамліваўся з сонцам.

У літаратуры сярэдзіны XIX ст. недалёка ад былой вёскі Масалае Крупскага раёна згадваецца *Вітаў Калодзеж*, які быў абкладзены камянямі. Паводле падання, студню выкапалі там, дзе Вітаўт абедаў у адным з паходаў. Кажуць, мясцовыя жыхары тады ахвяравалі яму некалькі валоў, за што атрымалі ад князя грамату на свабоду. Грамата доўгі час захоўвалася сярод вяскоўцаў, але ў час аднаго з пажараў згарэла — і людзі зноў патрапілі ў няволю. Вітаў калодзеж ёсць і ў нізіне каля вёскі Ніканавічы ў Быхаўскім раёне. Сёння там можна пачуць, што сваю назву ён атрымаў ад «гаспадара Віта». Але хто гэты гаспадар — ніхто не ведае. Хутчэй за ўсё, тое месца таксама звязана з князем Вітаўтам.

А святая крынічка ў вёсцы Вітаўка Дзяржынскага раёна і сёння радуе тамтэйшых людзей сваёй гаючай вадой. Крынічка *Вітаў Ключок* цячэ каля вёскі Рэчкі недалёка ад мястэчка Індрыца, што на Пскоўшчыне. Паданне кажа, нібыта Вітаўт вёў сваё войска ў паход на Ноўгарад. Ваяры стаміліся і надумалі адпачыць на высокім узгорку. А калі князь пакаштаваў мясцовай вады — яго вусны зморшчыліся. Такой нясмачнай яна яму падалася. Паводле ягонага загаду, на гары выкапалі новую студню, праўда, пакуль дакапаліся да вады, давялося нямала папрацаваць.

На Барысаўшчыне ёсць гара *Вітагор'е*, якая ўважаецца за месца начлегу «караля Віта». Каля мястэчка Пагост Бярэзінскага раёна і цяпер ляжыць вялікае асушанае балота. Паводле старадаўняй легенды, там даўней быў востраў, дзе раз «адпачываў князь Віцель (Вітаўт), які згубіў там золата». У вёсцы Грудзінава Бешанковіцкага раёна, згодна з дакументамі пачатку XVII ст., рос *Вітаўтаў Дуб*, а ў вёсцы Варонічы Полацкага раёна некалі ляжаў *Вітольдаў Камень*, на якім нібыта абедаў князь Вітальд (Вітаўт).

На поўначы і ў цэнтры Беларусі яшчэ і сёння некаторыя дарогі ды старыя гаці праз балота завуцца *Вітаўтавымі*. На Глыбоччыне ў раёне мястэчка Псуя выкладзеная бярвеннямі дарога, згодна з паданнем, была зроблена літоўскім князем Вітаўтам. *Вітаўтава Дарога* ёсць і на ўсход ад Крупак, а *Вітаўтавы Шляхі* — каля вёскі Валадута на Чэрвеньшчыне і каля

вёсак Варонічы і Заскаркі на Полаччыне. Каля вёскі Іжа на Вілейшчыне і каля Вяліжа на Смаленшчыне сустракаецца такая назва, як *Вітаўтаў Мост*. У дакументах XIX ст. прыводзіцца паданне пра нейкага караля Віта або Віцэ-караля (Вітаўта), які ў час шведскай вайны праходзіў недалёка ад вёскі Паганцы — цяпер гэта Пагонцы ў Светлагорскім раёне — праз лясныя ўрочышчы Карыта, Дубасішча і Брод. І быццам таму потым урочышча Брод стала звацца *Віттым Бродам*.

У XVI ст. знакамітай гістарычнай асобай быў вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль польскі — Стэфан Баторый, або Сцяпан Батура (1523—1586). У часы яго ўраду (1576—1586) Вялікае Княства Літоўскае вярнула сабе Полацкія землі, былі ўмацаваны дзяржаўны і ваенны апараты, заснаваны першыя вышэйшыя навуковыя ўстановы на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, пабудаваны замак у Гародні, які потым і зрабіўся рэзідэнцыяй Стэфана Баторыя. З імем гэтага караля звязаны найперш назвы старых дарог. *Батуравы Дарогі* можна сустрэць ад Невеля і да Себежа, а *Батурынскі Шлях* — у вярхоўі ракі Віліі. Назвы кшталту *Батурынскі мост* ёсць у кірунку ад Віцебска да Вялікіх Лук, а *Баторыеў Мост* ляжыць у мястэчку Ула Бешанковіцкага раёна. Вядомы назвы *Баторавы гаці*, інш. Каменны крыж пры дарозе каля Даўгінава ў Вілейскім раёне, паводле аднаго з паданняў, паставіў менавіта Стэфан Баторый.

Каля вёскі Вітунічы Докшыцкага раёна ва ўрочышчы Каралёў Стан, або П'яны Лес, ляжаў некалі каменны крыж, які ў народзе называлі *Каралеўскі Камень*. Цяпер крыж захоўваецца ў музеі валуноў у Мінску. У самай сярэдзіне ў крыжы высечана схематычная выява рыцара з мячом у правай руцэ і шчытом у левай. З бакоў у рыцара — маленькія крыжыкі, а над галавой — выява каралеўскай кароны. Пад нагамі ўяўнага рыцара літары RSB, а яшчэ ніжэй — адзін у адным два колы з выемкай у маленькім коле. Паводле краязнаўчай літаратуры, літары расшыфроўваюцца як Rex Stehanus Batoreus, а колы сімвалізуюць звычайную міску. Адзін варыянт падання расказвае нам, быццам крыж пазначае месца абеду караля Сцяпана Батуры. Ёсць і іншая версія падання:

*...каралёва войска размясцілася каля засценка беднага шляхціца. Разгуляўшыся, жаўнеры парэзалі ўсіх гаспадарскіх кароў і бараноў, абабралі сховішчы. Няшчасны шляхціц узяў жонку, малых дзяцей і пайшоў упрочкі. А ішоў ён па той самай*

*дарозе, па якой мусіў ехаць кароль. Шляхціц убачыў Стафана Баторыя, крыкнуў: «Стань, Круль!» — і спыніў ягонага каня. Здзівіўся кароль і пытае ў небаракі, чаго яму трэба. Тады шляхціц і расказаў каралю пра злачынствы ягоных жаўнераў ды папрасіў адплаты.*

*— Чым жа мне цябе ўзнагародзіць? — спытаўся кароль.*

*Шляхціц нізка ўкленчыў і ціха кажа:*

*— Каролю! Зямля, на якой ты стаіш, справядліва належыць табе. Але твая мосць можа і мне яе падарыць!*

*— Бяры і маўчы! — крыкнуў кароль і паехаў прэч.*

*На падараванай зямлі шляхціц пабудаваў два засценкі і адзін назваў Каралеўскім Станам або Крулеўскім Станам, а другі — Мільчам.*

Старадаўні валун з лацінскімі літарамі, што ляжыць каля вёскі Дразды ў былым Вяліжскім павеце (на мяжы сучасных Віцебскай і Смаленскай абласцей), таксама нібыта памятае, як «на ім абедаў знакаміты кароль Баторы». Потым у памяць пра гэта на камені і высеклі літары. На Мядзельшчыне ёсць возера *Баторын*. Каля Белавежы, на тэрыторыі Польшчы, ёсць *Баторава Гара*. На Заходняй Дзвіне каля горада Дзісны (Мёрскі раён) — выспа Баторыя. Сустракаюцца і крыніцы, названыя ў гонар караля. Так, у Камароўскім лесе на Вілейшчыне *Каралеўскі Калодзеж* быццам бы выкапаны на загад Баторыя. А калі кароль ехаў з Гродна і за шэсць вёрст ад Навагрудка спыніўся каля Срэбнага ручая, той празвалі *Каралеўскім*.

З Стэфанам Баторыем звязаны і назвы археалагічных помнікаў. Скажам, гарадзішча *Замак* у Езярышчы Гарадоцкага раёна быццам бы некалі браў штурмам кароль Баторый, потым ён схаваў там скарб у сутарэннях. У былой Чарняцоўскай воласці Невельскага павета (цяпер — поўдзень Пскоўскай вобласці) гарадзішча нібыта таксама ўзвялі «ў памяць караля Батуры». У канцы XIX ст. у басейне ракі Бярэзіны на тэрыторыі былога Барысаўскага павета пра адзін з курганных могільнікаў казалі, што ў вайну Івана Жахлівага з каралём Рэчы Паспалітай Стэфанам Баторыем тут быў лагер рускага войска. У Чэрвеньскім раёне каля вёскі Стары Пруд курганны могільнік ёсць ва ўрочышчы *Батураўшчына*. Цяпер у вёсцы пра караля Стэфана Баторыя ніхто не кажа, а распавядаюць толькі пра нейкага Батуру, які быццам бы жыў недзе ў тым месцы. Згодна з іншай версіяй падання, там жылі тры браты Батуры, кожны з якіх паставіў сабе каля кurганоў па сядзібе.

# Каралева Бона

Не менш выбітнай асобай у беларускай гісторыі лічыцца і каралева Бона (1494—1557), якая паходзіла з італьянскага роду герцагаў Сфорца. У 1518 годзе яна пабралася шлюбам з аўдавелым каралём Рэчы Паспалітай Жыгімонтам І Старым. Стаўшы каралевай, Бона ўмацоўвала сваю ўладу і абмяжоўвала ўплыў магнатаў. Яна адсудзіла да гаспадарскіх уладанняў многія занятыя феадаламі землі. Пры ёй у 1529 г. выйшаў першы Статут Вялікага Княства Літоўскага, праводзіліся рэформы ў сельскай гаспадарцы — гэтак званая валочная памера, многія гарады і мястэчкі атрымалі права на самакіраванне, будаваліся храмы, школы і шпіталі.

У 1556 г. Бона выехала назад у Італію і вывезла шмат каштоўнасцей. А маёнткі каралевы перайшлі ў спадчыну да яе сына, Жыгімонта ІІ Аўгуста. У Рэчы Паспалітай Бона пражыла 38 гадоў, перадусім у Вільні. Яна яднала вакол сябе прагрэсіўных і адукаваных людзей, добра ведала беларускую мову. Нават ворагі прызнавалі яе неардынарны розум, моцны характар. Боне было прысвечана мноства панегірыкаў. Аднак, як і ўсякая выбітная асоба, яна выклікала і зайдрасць, і раздражненне, таму былі на яе і злосныя пасквілі.

Добра ведаў сваю каралеву і хораша адзываўся пра яе беларускі народ. Але паколькі яна была чужаземкай, то ў народным уяўленні яе постаць здавалася яшчэ больш таямнічай. Так, у нашых паданнях і легендах каралева часам магла выступаць і як чараўніца. А легендаў і паданняў пра Бону вельмі і вельмі шмат, асабліва ў тых мясцінах, дзе былі яе ўладанні. Толькі заміж каралевы Боны часам можна пачуць імя *Бова*, або *Пані Бэня*, інш. Не трэба здзіўляцца, калі ў паданнях падзеі жыцця каралевы не стыкуюцца з іншымі гістарычнымі падзеямі, на тое гэта і паданні, дзе галоўны герой заўсёды жыве паводле канона, зададзенага міфам, і выконвае функцыі міфалагічнага персанажа або нейкага сакральнага боства.

У Беларусі пашырана паданне, як на месцы гарадзішча ці замчышча даўней стаяў палац каралевы Боны. Пра гэта гавораць у Мядзелі, Крычаве, Пінску, Радашковічах, каля мястэчак Воўпа і Мсцібава Ваўкавыскага раёна, Сялец Бярозаўскага раёна, каля Давыд-Гарадка і г. д. Паводле адных паданняў, каралева ў замку проста жыла, паводле другіх — яна гэты замак і пабудавала. Пра гарадзішча ў мястэчку Індура пад Гродна



*Гарадзішча, дзе, паводле падання, стаяў палац Каралевы Боны, в. Мсцібава, Ваўкавыскі р-н.*

кажуць, што, праязджаючы, каралева Бона загадала насыпаць тут гару пад альтанку. І ў мястэчку Радунь Воранаўскага раёна на гарадзішчы нібыта «жыла каралева Бона, але потым яна з'ехала ў Белавежскую Пушчу». Гарадзішча ў Рагачове, паводле падання, завецца *Замак каралевы Боны*. Расказваюць, што даўней там можна было пачуць цудоўныя гукі рога — адсюль назва горада. Пра адно з гарадзішчаў у Ваўкавыскім раёне кажуць, што там таксама некалі стаяў палац «пані Бэні», але яго разбурылі ў час вайны з палякамі. Ад тае пары тут нібыта кожную ноч чуваць енкі і плач, а часам можна ўбачыць і агонь, які пры набліжэнні чалавека раптам знікае.

*Замкам каралевы Боны*, або *Белым Ковелем*, называюць замак у Смалянах на Аршаншчыне. Кажуць, што там жыла некалі каралева Бона, але ў 1708 г. яго разбурылі рускія войскі. І сёння можна пачуць, што нібыта там на вежы часам з'яўляецца жанчына ў белым адзенні. Мясцовыя жыхары вераць, што гэта і ёсць каралева Бона. У XIX ст. было занатавана цікавае паданне пра Лідскі замак. Расказвалі, як адзін з літоўскіх князёў ажаніўся з польскай нявольніцай і так моцна яе кахаў, што для сваёй абранніцы збудаваў замак і назваў яго *Бона*. На Піншчыне ёсць *Скамарошая Гара*, дзе нібыта праязджала каралева Бона ў

карэце. Але раптам коні спужаліся мядзведзя, якога вёў скамарох, панеслі карэту, не разбіраючы дарогі, пакуль тая зусім не разваліласа. Каралева цудам засталася жывой. Скамароха на яе загад разам з мядзведзем жывым закапалі на гары. Таму ўзгорак і атрымаў сваю назву.

Шмат у якіх паданнях успамінаюцца і «ваенныя справункі» каралевы. Каля вёскі Забалаць Воранаўскага раёна пра стары могільнік расказвалі, быццам ён з'явіўся «пасля бойкі каралевы Боны з рускай царыцай Кацярынай». І гарадзішча каля вёскі Стары Талачын Талачынскага раёна нібыта ўзвяла для ваенных мэтаў каралева Бона. А паданне пра гарадзішча пад вёскай Рубель Столінскага раёна расказвае пра «польскую каралеву Бову», якая тут ваявала. Крыніцу каля вёскі Вылазы Пінскага раёна яшчэ ў сярэдзіне XX ст. называлі *Княжай*, або *Калодзежам Каралевы Боны*. Каля вёскі, згодна з паданнем, праходзіла каралева Бона і вяла за сабою войска. Войску трэба было адпачыць, і яны спыніліся. А каб набраць паболей вады, выкапалі студню. Кажуць, над крыніцай была арка, якую аздаблялі зелянінай і кветкамі, а побач стаяў крыж, але пазней вада ў крыніцы сышла.

Захапленне каралевы паляваннем адбілася ў паданні пра камень-следавік у вёсцы Плябанаўцы (Струбніца) Мастоўскага раёна. Там расказваецца, як каралева пагубляла на паляванні сваіх сабак. Тады яна стала маліцца каля каменя, і неўзабаве сабакі знайшліся. У вёсцы Стараселле Іванаўскага раёна ў канцы XIX ст. было запісана паданне, дзе Бона фігуруе як чараўніца:

*Неяк па возеры плыла ў чоўне каралева Бона з двума малымі дзецьмі. Адно з іх вывалілася ў ваду і ўтапілася. Бона раз'юшылася ды наслала на возера заклён, таму тое зарасло густым мохам. Мінула сто гадоў, і неяк на мшысты дзірван патрапіла пара валоў, якія пасвіліся непадалёк. Хісткае покрыва не вытрымала цяжару, валы праваліліся і затанулі. А праз месяц яны нібыта з'явіліся на адной з дняпроўскай мялінаў у выглядзе земляной жылкі.*

Паданні, дзе чараўніцы і чарадзейкі насылаюць заклёны на азёры і рэкі, досыць пашыраныя на Беларусі. Гэта, відаць, аскепак вельмі старажытнага міфа, які тлумачыць паходжанне таго ці іншага ландшафту. Натуральна, што ўпарадкаваннем гэтай прасторы займаўся не абы-хто, а нейкае старадаўняе і шанаванае боства, якое з цягам часу набыло рысы іншай, таксама не з гэтага свету, істоты — чарадзейкі або вядзьмаркі. У апошнім варыянце такой таямнічай асобай выступае сама каралева Бона.

# Карл XII і Пётр I

У 1697 годзе каралём Швецыі стаў Карл XII (1682—1718). Швецыя ў гэты час кантралявала Балтыйскае мора, і кіраўнікі суседніх дзяржаў утварылі супраць яе кааліцыю. Данія, Саксонія і Расія распачалі працяглую Паўночную вайну, якая доўжылася 21 год. Арэнай многіх баявых дзеянняў, на жаль, стала тэрыторыя нашай краіны. Гэта, натуральна, не магло не спрычыніцца да заняпаду і разбурэння нашых гарадоў і вёсак. Расійскія войскі ў некаторых бітвах ачольваў Пётр I (1672—1725 гг.), які ў 1682 годзе прыняў тытул рускага цара, а з 1721 года стаў імператарам. З сваім войскам ён пабываў у Полацку, Гродне, Оршы, Копысі, Мінску і каля вёскі Лясная на Магілёўшчыне.

Дык невыпадкова, што гэтыя падзеі адбіліся ў народных паданнях і назвах. На тэрыторыі Беларусі пашыраны шматлікія найменні археалагічных помнікаў і прыродных аб'ектаў, дзе ўспамінаюцца шведы і рускія, прыкладам: *Шведская Гара, Шведскія* або *Рускія Магілы, Шведава Балота, Курганы ад вайны з шведамі пры Пятры Вялікім* і г. д. Каля Смаргоні на месцы курганоў нібыта адбылася першая сустрэча шведаў з рускімі. Карл XII меўся тут даць генеральны бой. Шведы сталі насыпаць валы, але рускія перашкодзілі, і шведскі кароль падаўся на Палтаву. Каля Радашковічаў у Маладзечанскім раёне мясцовы ўзгорак называецца *Шведская Гара*, бо тут, маўляў, адпачываў Карл XII. Дарэчы, у Радашковічах Карл XII і сапраўды прастаяў адзінаццаць дзён, а мясцовыя жыхары яму спачувалі. Кажуць, менавіта за гэта Пётр I потым ушчэнт разбурыў мястэчка.

Недалёка ад вёскі Валадута на Чэрвеньшчыне курганы завуцца *Шведскае Поле* і гэта тлумачаць тым, што там некалі праходзіў з сваім войскам сам Карл Вялікі. У мястэчку Івянец Валожынскага раёна за сучаснымі могілкамі ва ўрочышчы Пішчуті ланцугом цягнуцца невялікія ўзвышшы. У народзе вераць, нібыта, адступаючы, шведы закапалі там свае скарбы. Паводле аднаго з паданняў, у нейкім узгорку закапана залатая карэта шведскага караля Карла XII. А недалёка ад вёскі Драчкава Смалявіцкага раёна на нейкай гары ў час вайны з шведамі нібыта закапалі калясніцу, але ўжо Пятра Вялікага з многімі ягонымі рэчамі ды грашыма. Пра *Тамілаву Гару* каля Салігорска ў 1920-ыя гады зафіксавана паданне,



*Каменная арка, дзе быццам праяздждаў Пётр I, в. Горка, Дзятлаўскі р-н.*

быццам бы тут некалі разбілі войска Карла XII. У час бойкі ў караля збілі шапку. І ўцякаючы, кароль усіх папярэдзіў, што за ёю ён яшчэ вернецца.

Узвядзенне некаторых гарадзішчаў прыпісваецца і Пятру I. Скажам, гарадзішча ў Індуры каля Гродна, паводле аднаго з паданняў, насыпана Пятром Вялікім у час вайны з шведамі. А на гарадзішчы Замачак у вёсцы Івань Слуцкага раёна быццам бы быў стан Пятра Вялікага. Гарадзішча ў мястэчку Копысь на Аршаншчыне называюць *Пятроўскі Вал*. У Мсціслаўскім раёне пра вёску Добрае расказваюць, што раней на гэтым месцы быў горад Матан, які ўшчэнт разбурылі ў час баёў, у якіх удзельнічаў Пётр I. Ва ўсходняй Беларусі ёсць назвы *Каралеўскі Луг* і *Пятроў Луг*. *Каралеўскі Луг* ляжыць на беразе ракі Лабжанкі пад Клімавічамі. Кажуць, там стаялі

войскі Карла XII. *Карлава Даліна* ёсць паміж Магілёвам і Буйнічамі. *Пятроў Луг* ляжыць каля горада Крычава, дзе, паводле падання, стаяў лагерам Пётр І.

У паданні, зафіксаваным у 2003 годзе экспедыцыяй этнагістарычнага цэнтра «Явар», Пётр І выступае яшчэ і як нейкі абстрактны «пан». Так, у старадаўніх народных уяўленнях беларусаў называліся розныя нячысцікі або чараўнікі. Паданне датычыць сакральнага каменя ў вёсцы Горка Дзятлаўскага раёна, які ляжыць на вяршыні вялізнай гары, дзе яшчэ месцяцца і старыя вясковыя могілкі. З часам пад каменем утварыўся ёмісты праход у выглядзе невысокай аркі. Паводле слоў цяперашніх вяскоўцаў, раней тут можна было праехаць тройкай коней. Адна версія падання кажа, што пад каменнай аркай праязджаў на тройцы рускі цар Пётр І, а яшчэ за ім бег маленькі сабачка. А ў другой версіі замест Пятра І тут фігуруе *нейкі пан*, які праскакаў тут конна ў час урачыстасцяў на Юр'я.

Такім чынам, імёны палкаводцаў двух варожых бакоў аднолькава ўвайшлі ў нашу сакральную геаграфію. Паданні пра іх вельмі падобныя паміж сабою: зазвычай Карл XII і Пётр І узводзяць гарадзішчы, насыпаюць курганы, закопваюць карэты або скарбы.

# Кацярына II

Кацярына II (1729—1796) — нямецкая прынцэса, якая ў 1744 г. выйшла замуж за будучага расійскага імператара Пятра III. З дапамогай гвардыі яна ўчыніла дварцовы пераварот і ў 1762 годзе заняла трон. Імперскія амбіцыі Расіі найбольш праявіліся ў час праўлення гэтай царыцы, якая заўсёды ўмешвалася ў справы Рэчы Паспалітай. У выніку — да Расіі адышлі землі Беларусі, Правабярэжнай Украіны і Літвы. У гады яе кіравання выбухнула і было задушана паўстанне 1794 года, на нашы землі пашырылася расійская падатковая сістэма, прыйшла рэкруцкая павіннасць, было скасавана магдэбургскае права, адбыліся і іншыя змены, што на стагоддзі адкінулі нашу краіну ў культурным развіцці назад.

Усе гэтыя пераўтварэнні і шматлікія падарожжы царыцы па нашых землях захаваліся ў народнай памяці і адбіліся ў



*Крыж, які стаяў паміж вёскамі Жары і Даўгінава, Вілейскі р-н.*

міфалагічных уяўленнях беларусаў. Часта вобраз расійскай царыцы накладаўся на вобраз хрысціянскай святой Кацярыны або ўбіраў у сябе рысы старажытнага паганскага боства. Таму шмат дзе фігуруе абагулены вобраз царыцы, які склаўся ў выніку кантамінацыі зусім розных персанажаў. Прыкладам, у вёсцы Бяздзедавічы каля Полацка ў XIX ст. было запісана наступнае паданне:

*Гэтым краем калісьці валодаў Батура. А як даведалася пра гэта асілак Кацярына, дык пазбірала рускае войска і накіравала яго на польскую раць Батуры. Потым разбіла рэшткі палякаў і пагнала іх у Дзвіну.*

Але большасць паданняў пра Кацярыну звязана з гарадзішчамі і старымі шляхамі. Звычайна расказваецца, што на гарадзішчах царыца адпачывае, а часам і абедае. Царыца «адпачывала» на гарадзішчах у вёсках Шчаткава і Міхалёва на Бабруйшчыне, Язна — Мёрскага раёна, Крынічка (былыя Пупелічы) — Барысаўскага і г. д. У Міхалёве расказваюць, быццам на гарадзішчы царыца згубіла залатую лыжку. У Жораўцы Пухавіцкага раёна на гарадзішчы Акоп, кажуць, у час вайны абедала Кацярына II. Але ёй перашкодзіла варожае войска, якое пачало наступаць. Уцякаючы, царыца не паспела захапіць з сабою посуд. Таму два вазы срэбнага і залатога

посуду закапалі недзе каля гары. У вёсцы Гарадзішча на Лагойшчыне пра мясцовую гару апавядаюць, быццам там абедала царыца Кацярына. У час яе абеду «туркі ботамі паспелі нанасіць гару».

Куды менш паданняў, дзе гаворыцца пра якія-кольвек ваенныя дзеянні Кацярыны. Пакуль што такога кшталту паданні зафіксаваныя толькі ў Верхнядзвінскім раёне, дзе кажуць, што *Урагаўскі Гарадок* утварыўся ў выніку бойкі Кацярынінскага войска з палякамі, і ў Кіраўскім раёне на Магілёўшчыне: там паходжанне гарадзішча прыпісваецца «воінству царыцы Кацярыны».

У вёсцы Славечна Ельскага раёна ў 20-я гады XX ст. расказвалі, што «гарадзішча насыпана з прычыны нараджэння ў Кацярыны II сына». Кацярынінскія шляхі, або Кацярынінскія тракты, можна сустрэць амаль па ўсёй Беларусі. Гэта і каля вёсак Лейчыцы на Бабруйшчыне, Спярыжжа Брагінскага раёна, каля Мазыра і г. д. У Спярыжжы Кацярына нібыта ехала ў залатой карэце, а потым закапала яе на Лысай Гары. У былым фальварку Гарадзец Верхнядзвінскага раёна Кацярына, паводле падання, таксама ехала на залатой карэце, але згубіла па дарозе залатое кола, і яно пакацілася проста ў крыніцу. Недалёка ад вёскі Валова Гара каля Бярэзінскага канала на Лепельшчыне вялікія дрэвы ў народзе называюць «кацярынінскімі» і лічаць, што іх пасадзілі на загад Кацярыны II. Недалёка ад мястэчка Даўгінава на Вілейшчыне лічылі, што каменны крыж пры дарозе ў вёску Жары даўным даўно паставіў кароль Стэфан Баторый. Паводле другога падання, крыж паказваў Кацярынінскі Шлях.

А курганы ў «кацярынінскіх» паданнях успамінаюцца толькі ўскосна. У вёсцы Сімгаравічы Бабруйскага раёна і цяпер ад старых можна пачуць, што «...курганы ў нас завуць *Шведскія Магілы*, а хто тут пахаваны і калі — мы не ведаем! Кажуць, тут калісьці праязджала Кацярына II». Каля мястэчка Свір на Мядзельшчыне ў канцы XIX ст. расказвалі, што на мясцовых курганах некалі стаялі шведы, а за вёскай — рускія. Разам з шведамі стаяла і Кацярына. Імя Кацярыны носіць каменны крыж на беразе возера каля вёскі Галошава Талачынскага раёна. Ён завецца *Кацярынінскі Крыж*, або *Крыж-Баба*. У XIX ст. палавецкую каменную бабу, прывезеную з поўдня Расіі ў Прапойск (цяпер Слаўгарад), называлі Кацярынай. На Мазыршчыне ёсць інфармацыя пра *Кацярынін Калодзеж* і *Кацярынін Курган*.

# Напалеон I Банапарт

Напалеон I Банапарт (1769—1821 гг.) — французскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, імператар Францыі з 1804 па 1815 год. Беларусь у ягонай геапалітыцы была галоўным плацдармам на ўсходзе. У чэрвені 1812 года агромністае войска з 600 тысяч чалавек, дзе ўласна французаў было менш за палову, перапраўілася праз раку Нёман у раёне Коўна і Гродна. Шмат хто з беларускай шляхты, якая жыла пад прыгнётам расійскіх чыноўнікаў, верыў у прэстыж Банапарта і пад ягонымі сцягамі змагаўся супраць расійскага агрэсара. Тлумачылася гэта тым, што Напалеон I Банапарт быў адзіным з усіх вялікіх палітыкаў, які прыхільна ацэньваў беларускую нацыянальную ідэю і дакляраваў адрадзіць ранейшую гістарычную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае.

Але французскі імператар вёў сваю буйную гульню, у ягонай галаве выспяваў план сусветнага панавання. І нездарма тыя намеры не спраўдзіліся. Пры адступленні ў канцы лістапада 1812 года ў водах Беразіны каля вёскі Студзёнка Барысаўскага раёна загінулі, паводле аднаго сведчання, больш за 20 тысяч французскіх жаўнераў, а паводле іншага — каля 50 тысяч. Наогул, напалеонаўская авантура каштавала Беларусі мільёна яе карэнных жыхароў — чвэрць насельніцтва! Дык зразумела, чаму вайна 1812 года надоўга засталася ў народнай памяці, чаму на многія ўзгоркі, курганы, іншыя аб'екты наслаіліся назвы, звязаныя з французамі і іх імператарам Напалеонам I Банапартам.

Паданні пра Напалеона, у адрозненне ад паданняў пра Кацярыну II, ахопліваюць шырэйшае кола аб'ектаў. Апроч гарадзішчаў і дарог, яны датычаць святых дрэў, курганоў, вадаёмаў, камянёў і г. д. У паданнях Кацярына зазвычай «адпачывала» і «абедала» на гарадзішчах, а Напалеон, як правіла, — пад дубамі і на камянях.

Пра «адпачынак Напалеона пад дубамі» і сёння гавораць у Опсе Браслаўскага раёна, Бешанковічах, Глыбокім, Лынтупах, іншых мясцінах. На такіх камянях, як у вёсцы Малькі Браслаўскага раёна і Язна Мёрскага, Напалеон «абедаў». На перашыйку паміж азёрамі Укля і Абстэрна на мяжы Браслаўскага і Мёрскага раёнаў, каля вёскі Снегі (Мёрскі раён) ляжыць вялікая колькасць валуноў рознага памеру. Згодна з паданнем, на самым вялікім з іх «адпачываў» сам Напалеон.



*Талеркавы камень каля в. Язна, Мёрскі р-н, тут, паводле падання, абедаў Напалеон.*

«Абедаў» Напалеон і на каменным крыжы каля вёскі Вітунічы ў Докшыцкім раёне. Праўда, паводле больш ранняга варыянта падання, «абедаў» на крыжы ўжо Стэфан Баторый.

З Напалеонам трэба звязваць і паданне пра камень у вёсцы Вярэйцы Асіповіцкага раёна. У 1920-ыя гады яго называлі *Камень з знакамі*. Паводле падання, праз гэтую мясцовасць праходзіў французскі генерал з войскам. Ён заўважыў камень, ударыў яго шабляй і сказаў, што калі камень разаб'ецца, то быць яму ў Маскве. Ад удару камень разляцеўся на дванаццаць частак. На памяць пра гэта генерал і выбіў на камені нейкія знакі.

У вёсцы Ціле́ўцы Браслаўскага раёна з гарой Замак звязваецца паданне, паводле якога там «за вайной з Напалеонам быў лагер Сапегава войска». Курганы недалёка ад Гарбацэвічаў на Бабруйшчыне лічацца рэшткамі напалеонаўскіх войнаў, а ў Аздзяцічах на Барысаўшчыне — рэшткамі напалеонаўскага адступлення.

Ёсць і Напалеонаўскія дарогі. Прыкладам, з мястэчка Камень на Лепельшчыне ў мястэчка Бачэйкава і з Пухавіч у мястэчка Свіслач. У наваколлі вёскі Бяларучы на мяжы Мін-

скага і Лагойскага раёнаў некалі гаварылі пра *Царскі Шлях*, па якім уцякаў Напалеон.

Найбольш пашыраныя паданні пра тое, як Напалеон закапаў ці ўтапіў залаты скарб, залатую карэту. Але ў кожным паданні ёсць доля праўды. Вядома, што пры адступленні Напалеона з Масквы да беларускіх земляў дайшлі абозы, гружаныя нарабаваным у Расіі дабром: мастацкімі каштоўнасцямі, золатам, срэбрам. І таму, што адыход быў хаатычным, а пераправа праз раку — надта цяжкай, па дарозе многае пазнікала. Цалкам мажліва, што частка нарабаваных багаццяў магла апынуцца ў самой рацэ, іншых месцах на шляху адступлення напалеонаўскага войска.

Прыкладам, паводле адных успамінаў, карэта ляжыць на глеістым дне Бярэзіны ці ў нейкім балотным возеры Палескай нізіны на Берасцейшчыне. Расказваюць таксама, што пры адступленні напалеонаўскага войска фігуравалі дзве драўляныя «кадушкі» залатых манет для выплаты афіцэрам. Але заплаціць грошы так і не паспелі, а закапалі іх на нечым палетку пад каменем. Той камень, які мусіў абазначаць месца скарбу, з часам знік — нехта забраў каменную глыбу на падмурак для сваёй хаты.

Некаторыя паданні даюць іншыя геаграфічныя каардынаты. Так, на Крупшчыне ёсць крыніца, дзе нібыта Напалеон патапіў карэту. У вёсцы Акцябр (раней — Хатаевічы) Лагойскага раёна скарбы Напалеона затоплены ў студні. Брычку з золатам Напалеон утапіў у затоцы Ліпнікі каля возера Саранчаны ў Пастаўскім раёне. У Дзятлаўскім раёне каля вёскі Каўпінскія ў лесе ёсць возера Глухое, ці Дзікае. Паводле падання, тут пры адступленні Напалеон затапіў свой скарб. Па начах з возера нібыта выходзіць здань, якая адразу душыць усіх, хто спрабуе адшукаць той скарб. Яшчэ расказваюць, што, ратуючыся, Напалеон утапіў у балоце каля вёскі Парэчча Пухавіцкага раёна карэту або сам праваліўся разам з карэтай на Ляшэўскім балоце недалёка ад вёскі Кукарава Бярэзінскага раёна. Каля вёскі Обча Бабруйскага раёна ў курганах нібыта пахаваны французы, а ў адным з насыпаў «сам Напалеон закапаў куфар з багаццямі».

І ў той жа час рускі бок вайны 1812 года прадстаўлены толькі адзінкавымі паданнямі. Так, адно з паданняў пра Вялікія Камяні каля вёскі Камяное Уздзенскага раёна расказвае, што тут быў штаб генерала рускага войска Баграціёна. Пра гэтага генерала зафіксавана і паданне ў вёсцы Раманава (сучаснае Леніна) на Случчыне. Кажуць, Баграціён схаваў у мясцовай царкве залатую шапку.



*Камяні-Быкі, в. Мсціж, Барысаўскі р-н.*

# Князі, героі і простыя людзі

У міфалогіі ландшафту адбіліся імёны розных гістарычных асобаў. На жаль, пра першых беларускіх князёў і княгіняў захавалася вельмі мала паданняў. Так, на возеры Дрыса ў Расонскім раёне на паўвыспе каля вёскі Перавоз ёсць *Рагнедзін Курган*, які яшчэ называюць *Гара Рагвалода і Рагнеды*. Згодна з паданнем, на гэтай гары ўдарам каменнай сякеры некалі быў забіты князь Рагвалод. Потым тут пахавалі і княгіню Рагнеду (Агнеду, Ягнеду). Паводле іншай версіі, на гары стаялі харомы, дзе ў няволі тамілася Рагнеда, а потым там і памерла. Адно з паданняў сцвярджае, што ўзгорак насыпаны над забітымі ў нейкай бойцы Рагвалодам і Рагнедай. Кажуць, што напярэдадні вайны з гары на белым кані з'язджае магутны вершнік у даспехах.

Рагвалод — першы вядомы нам полацкі князь. У 980 годзе яго забіў кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч. Вядома таксама, што Рагвалод быў варагам — пра гэта сведчыць летапіс: «Рагвалод прыйшоў з-за мора і трымаў уладу сваю ў Полац-



*Камень Варацішын-хрэст, в. Камена, Вілейскі р-н.*

ку». Яго скандынаўскае імя Рагнвалдр асімілявася як Рагвалод, што дало народную этымалогію «ўладар рога». Рог жа ў старажытнай беларускай культуры лічыўся сімвалам пладнасці і багацця. Таму насельніцтва Полацкага княства прыпісвала князю ўтрыманне народнага дабрабыту і багацця.

Яшчэ ў канцы XIX ст. у Заслаўі пад Мінскам існавалі старыя могілкі, якія раней называліся *Манастыршчына*. Расказвалі, тут даўней стаяў манастыр, заснаваны самой Рагнедай. Каля Заслаўя было возера *Рагнедзь* і *Рагнедзіны Лясы*, а адзін з узгоркаў да нашага часу захаваў назву *Магіла Рагнеды*. З імем Рагнеды звязана і замчышча ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёна.

З кіеўскім князем Уладзімірам звязана паданне пра гарадзішча Замак у вёсцы Панізоўе на Лагойшчыне. Лічылася, што некалі там жылі «сыны князя Уладзіміра, разбітыя ў бойцы князем Ягайлам».

Фігуруе ў паданнях і летапісны князь Тур, якога частка гісторыкаў лічыць выхадцам з Скандынавіі, а частка — славянінам. Гэтаму легендарнаму князю прыпісваецца заснаванне горада Турава. Там жа ёсць і старажытная студня, якая носіць




*Камень «Ценям Касцюшкі», в. Залессе, Смаргонскі р-н.*

імя князя Тура. У сярэдзіне XIX ст. у Тураве расказвалі, што нібыта на гарадскіх могілках «пахаваны тураўскі князь Вячаслаў Уладзіміравіч». Насамрэч гэтае імя насіў сын Уладзіміра Манамаха, і пахаваны ён быў у кіеўскім Сафійскім саборы.

Сустракаюцца паданні і пра ландшафтныя аб'екты, дзе фігуруе княгіня Вольга. Каля мястэчка Друя ў Браслаўскім раёне недалёка ад Заходняй Дзвіны ляжыць невялікае азярцо *Вальжанка*, або *Ольжанка*, дзе, паводле падання, княгіня Вольга хрысціла людзей. На Дзвіне даволі вялікі востраў завецца *Вальжанскі* (*Ольжанскі, Ольгін*), на ім тая ж княгіня быццам бы некалі заклала храм Прэабражэння Госпадава. Пазнейшая назва вострава — *Ксяндзоўскі*. Дарэчы, пра старажытны Віцебск ёсць даволі шмат паданняў, дзе таксама фігуруе ваяўнічая княгіня Вольга. Расказваецца, як княгіня, вяртаючыся з пахода на яцвягаў, пабудавала на месцы цяперашняга Віцебска два замкі і дзве каменныя царквы. Тут яна нібыта пражыла два гады, а потым вярнулася ў Кіеў. Існуе паданне і пра тое, як княгіня Вольга сама паклала камень у падмурак храма Дабравешчання — гэтым быў заснаваны Віцебск.

З князёў Вялікага Княства Літоўскага, апроч Вітаўта і Альгерда, у назвах сакральных аб'ектаў Беларусі фігуруюць і



*Камень Сцяпан, або Сцёп-камень, стаіць паміж вёскамі Краснікі і Баяры, Докшыцкі р-н.*

такія імёны, як *Міндоўг* (Навагрудак, Крэва, Пінск), *Войшалк* (Пінск), *Даўмонт* (гарадзішча ў Свіры на Мядзельшчыне), *Ягайла* (замчышча каля Ваўкавыска). Пра гарадзішча пад Барунамі на Ашмяншчыне расказваюць, быццам на яго месцы быў замак Вітаўтавай жонкі Юліі Альшанскай.

Увайшлі ў нашую мікратапаніміку і імёны адвечных ворагаў ды захопнікаў, з якімі нашы продкі вялі бясконцыя войны. Вядома, што ваяўнічае Вялікае Княства Літоўскае цягам некалькіх стагоддзяў ваявала з не менш магутным і ваяўнічым Маскоўскім княствам. Асабліва запомнілася нашым продкам і адбілася ў геаграфічных назвах імя такога рускага цара, як Іван Жахлівы (Грозны), цара, празванага так за сваю жорсткасць і нецярпімасць. Ягоныя войскі не раз праходзілі па нашых землях, прыносячы спусташэнне і заняпад. Паводле народных аповедаў, у вёсцы Зябкі Верхнядзвінскага раёна на мясцовай гары ў час сваіх лівонскіх і польскіх паходаў «адпачываў» Іван Жахлівы. «Адпачываў» ён і ў былым



*Рэшткі дуба Міцкевіча, в. Варонча, Карэліцкі р-н.*

мястэчку Грозава Капыльскага раёна, толькі ўжо пад дубам. А ў Домжарыцах Лепельскага раёна на месцы цяперашніх курганоў, паводле легенды, некалі быў «лагер рускага войска пад кіраўніцтвам цара Івана Жахлівага».

Успамінаюцца ў паданнях нават і імёны татарскіх захопнікаў, такіх як Чынгізхан і Батый. Так, у XIX ст. каля вёскі Казялужа ў Хойніцкім раёне мясцовыя курганы лічыліся «магіламі з часоў нашэсця хана Батыя», а каля вёскі Еўлічы на Случчыне — «месцамі баёў шведаў, французаў і Чынгізхана».

З выдатных гістарычных асобаў у паданнях згадваецца і Тадэвуш Касцюшка. Прыкладам, у вёсцы Сітцы Докшыцкага раёна пад дубам некалі «адпачываў Тадэвуш Касцюшка».

Дарэчы, вельмі пашыраны і такія паданні пра прыродныя аб'екты нашай Бацькаўшчыны, дзе фігуруюць міфічныя князі і княгіні, каралі і каралевы, цары і царыцы без імёнаў. Так, у вёсках Хабовічы Кобрынскага раёна, Чудзін — Ганцавіцкага ёсць *Княжыя Горы*. *Княгініна Гара* зафіксавана

ў вёсцы Поціна Верхнядзвінскага раёна. *Князь-Камень* ляжыць у вёсцы Бярозаўшчына (раней Божы Дар) Барысаўскага раёна і ў мястэчку Плешчаніцы — Лагойскага. *Князь-Возера*, або *Чырвонае возера*, ёсць на Палессі, *Княжае Возера* — каля Нароўлі, *Княжы Калодзеж* — у Княжым бары каля Ельска ў Гомельскай вобласці, *Княжая Дарога* — каля Слоніма, *Каралеўскі Калодзеж* — на Вілейшчыне і недалёка ад Пінска, *Царскі Шлях* — каля Бяларучаў на Лагойшчыне і г. д.

Часам у паданнях да слова *князь* дадаецца нейкае невядомае нам імя. Так, гарадзішча *князя Коршака* і замак *княгіні Домны* ёсць у вёсцы Зборск Асіповіцкага раёна, а гара *княгіні Орскай* — у вёсцы Акцябр (раней Хатаевічы) у Лагойскім раёне, замак *князя Рамана* — у Раманаве (цяпер Леніна) Слуцкага раёна і г. д. Варта адзначыць, што княгіня Домна часта фігуруе ў паўночна-рускіх баладах, а князь Раман — у баладах, дзе ўспамінаюцца часы Галіцка-Валынскага княства.

У вёсцы Княжыцы Верхнядзвінскага раёна на правым беразе ракі Дрысы ёсць гара *Гарадок*. Паданне кажа, што на гэтым месцы князь абпальваў цэглу. Каля вёскі Люсіна Ганцавіцкага раёна *Яшукова Гара* мае дачыненне да нейкага князя Яшука. І нібыта на гэтай гары быў некалі бой паміж шведамі і князем, у якім Яшука забілі, а потым пахавалі на гары.

Часта ў беларускіх паданнях фігуруюць не толькі князі, але і простыя людзі. Сустракаюцца такія назвы, як *Дароціна* і *Марціна Гара*; *Федзькін* і *Аўгінін Курган*; *Міцькіна, Ігнатава* або *Алёніна Магіла*; *Сасна-Куліна; Камень Сцяпан*; могільнік *Марфіна Ляда* і *Хрысцініна Лядца*. Зафіксаваны і такія выпадкі, калі ўзвядзенне гарадзішча прыпісваецца групе людзей. Прыкладам, насып на беразе ракі Шошы каля вёскі Перавоз Глыбоцкага раёна нібыта ўзвялі езуіты, якія жылі ў Глыбокім і г. д.

# Літаратура

*Азбеков, С. Н.* Историзм былин и специфика фольклора / С. Н. Азбеков. — Л.,1982.

*Азбеков, С. Н.* Отражение действительности в преданиях легендах, сказаниях / С. Н. Азбеков // Прозаические жанры фольклора народов СССР. — М., 1974. — С. 69—109.

*Александров, А.* Сопки и Ольгинская топонимика в Псковской земле / А. Александров // Беларусь у сістэме трансеўрапейскіх сувязяў у І тыс. н. э.: Міжнародная канферэнцыя.— Мінск, 1996. — С. 10—12.

*Аляксееў, Л.* Старажытныя жыхары Беларусі аб сваіх помніках даўніны / Л. Аляксееў // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. — 1985. — № 4. — С. 30—31.

*Аристов, Н. Я.* Руские народные предания об исторических лицах и событиях / Н. Я. Аристов // Труды Третьего археологического съезда в России: Т. 1. — Киев, 1878. — С. 337—343.

*Афанасьев, А.* Мифология катастроф / А. Афанасьев. — М., 2003.

*Балашов, Д. М.* Из истории русского былинного эпоса / Д. М. Балашов // Русский фольклор: Т. 15. — Л., 1975. — С. 26—54.

*Бараг, Л. Г.* «Асілкі» белорусских сказок и преданий: (к вопросу о формировании восточнославянского эпоса) / Л. Г. Бараг // Русский фольклор. — Вып. VIII. — М-Л., 1963.

*Баўтовіч, М.* Забраны край / *М.* Баўтовіч // Спадчына. — 2000. — № 1.

*Белова, О.* Чужие среди своих: (славянский образ «инородца») / О. Белова // Родина. — 2001. — Январь. — С. 166—170.

*Боричевский, И.* Повести и предания народов славянского племени / И. Боричевский. — СПб., 1840.

*Віцьбіч, Ю.* Плыве з-пад Сьвятое гары Неман / Ю. Віцьбіч. — Мінск, 1995.

Восточнославянский фольклор: Словарь научной и народной терминологии. — Минск, 1993.

*Гацак, В. М.* Устная эпическая традиция во времени / В. М. Гацак. — М., 1989.

*Гурская, Ю. А.* Имя собственное в белорусской наивной картине мира / Ю. А. Гурская // Известия Гомельского государственного университета имени Ф. Скарины. — 2007. — № 3(42). — С. 22—26.

*Довгяло, Д. И.* Вся епархия Полоцкая: (историко-статистические сведения) / Д. И. Довгяло // Полоцкие Епархиальные ведомости. — 1903. — № 1.

*Довгяло, Дм. И.* Петр Великий в Северо-Западном крае в 1705 г. / Дм. И. Довгяло. — Вильно, 1904.

*Дучыц, Л. У.* Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў / Л. У. Дучыц. — Мінск, 1993.

Екатерина II в воспоминаниях современников, оценках. — М., 1998.

*Жданов, И. Н.* Песня о князе Романе / И. Н. Жданов // Живая старина. 1890. — СПб., 1890. — № 1. Отд. II. — С. 18—19.

*Зайкоўскі, Э.* Беларусы ведалі сваіх герояў / Э. Зайкоўскі // Спадчына. — 1995. — № 2. — С. 193—200.

*Зайкоўскі, Э. М.* Месца Вялеса ў дахрысціянскім светапоглядзе насельніцтва Беларусі / Э. М. Зайкоўскі. — Мінск, 1998.

*Зайковский, Э.* Предания о языческих культовых памятниках Беларуси и археология / Э. Зайкоўский // Kultūras krustpunkti. 3. Laudiens. — Riga, 2006. — С. 163—182.

*Зайкоўскі, Э. М.* Раскопкі гарадзішча каля вёскі Аношкі Нясвіжскага раёна / Э. М. Зайкоўскі, А. М. Мядзведзеў // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. — Мінск, 2001. — № 3. — С. 63—77.

О статьях, доставленных К. А. Говорским из Полоцка. Известия императорского археологического общества: Т. 1. — СПб., 1859. — С. 239.

*Каупука, А.* К вопросу о топонимических записях в Виленском учебном округе в начале XIX века / А. Каупука // Конференция по топонимике северо-западной зоны СССР. — Рига, 1966. — С. 119—121.

*Котлярчук, А. С.* Шведы в этнической истории и преданиях белорусов / А. С. Котлярчук // Скандинавские чтения 1998 г. — СПб., 1999. — С. 187—194.

*Котлярчук, А.* Король Стефан Баторий в народной культуре белорусов / А. Котлярчук // Studia Russia XVIII. — Budapiest, 2000. — S. 375—380.

*Криничная, Н. А.* Персонажи преданий: становление и эволюция образа / Н. А. Криничная. — Л., 1988.

Легенды і паданні. — Мінск, 1983.

*Макушников, О. А.* О некоторых культовых памятниках земли радимичей / О. А. Макушников // Слов'яни і Русь у науковій спадщині Д. Я. Самоквасова. — Чернігів, 1993. — С. 63—66.

*Никифоровский, Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легенды и сказания в Витебской Белоруссии / Н. Я. Никифоровский. — Витебск, 1897.

*Николай-архимандрит.* Историко-статистическое описание Минской Епархии / Николай-архимандрит. — СПб., 1864.

Описание церквей и приходов Минской Епархии. — Минск, 1879.

Опросные листы 1924 года // Архіў Ін-та гісторыі НАН Беларусі. — Справы № 70, 71.

Памятная книжка Виленского генерал-губернатора на 1868 год. — Вільна, 1868.

*Плужникова, С. Н.* Образ осилков в белорусских преданиях и сказках / С. Н. Плужникова // Советская этнография. — 1960. — № 4. — С. 80—89.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Виленской губернии / Ф. В. Покровский // Труды Виленского отделения предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. — Вильна, 1893.

*Покровский, Ф. В.* Археологическая карта Гродненской губернии / Ф. В. Покровский. — Вильна, 1895.

*Прохараў, А. А.* Аб міфалагічным падмурку дынастычных паданняў першых славянскіх летапісаў / А. А. Прохараў // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. — Серыя III. — № 2. — 1999. — С. 13—16.

*Прохоров, А. А.* Князь Тур: история легенды: сакрализация княжеской власти у славян. — Минск, 2005.

*Семенов, П. Р.* История полувековой деятельности Императорского Русского географического общества. 1845—1895: Ч. I. / П. Р. Семенов. СПб., 1896.

*Сементовский, А.* Памятники старины Витебской губернии / А. Сементовский. — Спб., 1867.

*Скляревская, Г. Н.* Словарь православной церковной культуры / Г. Н. Скляревская. — СПб., 2000.

*Соколова, В. К.* Русские исторические предания / В. К. Соколова. — М., 1972.

*Стражев, В.* Петр Великий в народном предании / В. Стражев // Этнографическое обозрение. — 1902. — № 9. — С. 94—121.

*Сумцов, Н. Ф.* Сказки и легенды о Марке богатом / Н. Ф. Сумцов // Этнографическое обозрение. — 1894. — № 1. — С. 9—29.

*Шырков, С. А.* Предания об иноземном нашествии: крестьянский нарратив и мифология ландшафта (по материалам северо-восточной Новгородчины) / С. А. Шырков // Автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата исторических наук. — М., 2001.

*Akielewicz, M.* Słowko o bogach litewskich / *M. Akielewicz* // Biblioteka Warszawska. — 1858. — T. III. — S. 192—195.

*Bogucka, M.* Bona Sforza / M. Bogucka. — W-wa, 1989.

*Jeleńska, E.* Szwedzi, tatarzy i turcy w wyobraźni ludu białoruskiego / E. Jeleńska // Wisła. — 1894. — S. 589—590.

*Hirschberg, A.* Maryna Mniszchówna / A. Hirschberg. — Lwów, 1906.

*Rozwadowski, J.* Białoruskie podania o Witoldzie / J. Rozwadowski // Czas. — 1898. — № 119.

*Skirmund, K.* Mindog król Litwy / K. Skirmund. — W-wa, 1909.

*Tyszkiewicz, E.* Opisanie powiatu Borysowskiego / E. Tyszkiewicz. — Wilno, 1847.

*Szukiewicz, W.* Niektóre wierzenia, przesądy i zabobony ludu naszego, legendy i podania / W. Szukiewicz // Kwartalnik Litewski. R. 1. T. 2. — 1910. — Czerwiec. — S. 90.

# Заключэнне

Даўнейшая вера, народнае бачанне гістарычных падзей дайшлі да нас у форме паданняў і забабонаў. Дзе-нідзе трапляюцца вельмі архаічныя сюжэты і найменні, а сям-там на іх наслаіліся пазнейшыя вобразы. Але, так ці інакш, у глыбіні кожнай такой гісторыі прасочваюцца адбіткі агульных паганскіх уяўленняў, фігуруюць персанажы, якія некалі складалі вышэйшы ўзровень рэлігійна-міфалагічнай сістэмы нашых продкаў. Вера ў старых багоў, захаванне дзедаўскіх, лічы язычніцкіх, абрадаў і звычаяў у неафіцыйных сферах культуры трымалася амаль да XX ст.

Шмат якія ўзгоркі захоўваюць сляды язычніцкіх капішчаў. І таму невыпадковыя назвы: *Перунова Гара, Дзявочая, Бабіна, Святая*. Археалогія паказвае, што на ўзгорках з найменнямі кшталту *Лысая Гара* таксама былі паганскія мольбішчы. Назва *Красная Горка* паходзіць ад свята ў гонар вясны. Апроч таго, у найменнях узгоркаў адбілася класічная для беларусаў колеравая трыяда: *белы, чырвоны і чорны*, да іх далучаюцца і паэтычныя азначэнні *залаты* ды *срэбны*. А жыццё моцных і ўплывовых людзей, чые ўчынкі былі навідавоку, адбілася ў такіх назвах, як *Княжыя, Каралеўскія* і *Царскія Горы*.

Кожны з нашых вадаёмаў не толькі экасістэма, але і духоўны асяродак, які мае сваю гісторыю і свой сакральны свет. Культ вады з далёкіх часоў быў такім трывалым, што захаваўся і па сённяшні дзень. З многімі азёрамі звязаны паданні пра храм, які праваліўся за чалавечыя грахі. Значнае месца ў міфалагічных уяўленнях займаюць рэкі, асабліва тыя, што нібыта закляла падступная чарадзейка. Высокім статусам сакральнасці вылучаліся астравы на азёрах і рэках. У нашай краіне, ці не часцей як у якой іншай, сустракаюцца паданні пра разнастайныя скарбы, у тым ліку і затанулыя.

З лекавай сілай вады, асабліва крынічнай, звязаны ўсялякія забабоны. Паводле народных уяўленняў, такая вада памагае ад хваробаў вачэй, страўніка, ад болю галавы. Хрысціянская царква ўзяла пад сваю апеку большасць крыніц, якія ўшаноўвалі нашы продкі. І сёння па пэўных рэлігійных святах да крыніц ідуць паломнікі, нясуць грошы, кветкі, стужкі, ручнікі, хлеб, садавіну.

На святы каля крыніц ладзяцца фэсты і кірмашы, а вада лічыцца асабліва дзейснай. Да адных крыніц ідуць у асноўным на Вялікдзень, да другіх — на Тройцу, да трэціх — на Купалле. Усюды па Беларусі можна пачуць паданні пра з'яўленне на крыніцы цудадзейнага абраза і нават самой Божай Маці. Апавядаецца, як яна паказвае сляпым дарогу да святой вады, і тыя, прамыўшы вочы, робяцца відушчымі. Святасць гэтага Божага дару ніколі не ставіцца пад сумнеў і пад страхам кары не мусіць абражацца.

Найадметнейшая частка нашага ландшафту — балоты. Яны займаюць значнае месца ў міфа-паэтычнай карціне свету. Іх уяўлялі як уваход у краіну памерлых, што ахоўвалася міфічным Змеем ці Цмокам. Каб улагодзіць таямнічую сілу гіблых багністых мясцінаў, ім прыносілі ахвяры. У найдаўнейшыя часы гэта былі чалавечыя ахвяры, пазней — рэчы. Нездарма народная памяць захавала шмат паданняў пра затопленыя на балотах скарбы, што выходзяць на паверхню ў выглядзе агеньчыкаў. Але найразнастайнейшыя тыя паданні пра ўтварэнне балот, дзе іх стваральнікам выступае чорт — персаніфікацыя старажытнага Цмока. Відаць, таму некаторыя балоты называюць *Чортавымі*.

Ад першабытных часоў вядзе свой пачатак і культ камянёў, якія ўвайшлі не толькі ў матэрыяльную, але і ў духоўную спадчыну беларусаў. У нас заўсёды верылі, што камяні час ад часу растуць, што раней некаторыя з іх былі жывымі істотамі, а потым з нейкай нагоды акамянелі. Да святых камянёў, як і да цудадзейных крыніц, ходзяць па пэўных святах. Дажджавая вада з выемак на культавым камені лічыцца святой. Амаль ува ўсіх раёнах Беларусі сустракаюцца каменныя крыжы, высечаныя з ледавіковых валуноў.

Вылучаюцца таксама камяні-капішчы і камяні з разнастайнымі паглыбленнямі, ямкамі. Вялікую групу сакральных камянёў складаюць камяні-следавікі. Іх называюць *Божы След, След Ісуса Хрыста* і г. д. Часта сустракаюцца валуны, якія лічацца акамянелымі людзьмі, жывёламі: дзяўчына або жанчына з дзіцем, цэлыя вясельныя працэсіі, аратыя з валамі, пакараныя за працу на Вялікдзень. Адметная беларуская асаблівасць — паданні пра камяні-краўцы і камяні-шаўцы. У такіх камянях нібыта жылі краўцы або шаўцы. Яны ўкамянелі ад праклёну за працу на Божае свята. Гэтыя камяні ў светаўспрыняцці беларусаў-язычнікаў маюць лучнасць з хтанічнай сферай і замагільным светам.

Абагаўленне прыроды праявілася і ў кульце дрэў. Нашы продкі лічылі, быццам дрэвы могуць хадзіць, гаварыць, як паміж сабой, так і з чалавекам. Сярод дрэў асаблівую пашану мелі дуб ды сасна. З імі звязана шмат забабонаў. Ліпа, бяроза, клён і груша таксама часта прылічваліся да святых дрэў. Паводле паданняў, на гэтых дрэвах знаходзілі цудадзейныя абразы. Сакральнымі лічыліся некаторыя гаі і лясы, што раслі на месцы святога ўзгорка, могільніка, разбуранага храма ці капліцы.

У народнай свядомасці не абыдзены ўвагай амаль усе археалагічныя помнікі: гарадзішчы, курганы, старадаўнія могільнікі і нават месцы старых вёсак. Вельмі часта ўзвядзенне гарадзішчаў і курганоў прыпісваецца іншаземным захопнікам: татарам, шведам, французам, інш. Захавалася шмат паданняў пра закапаныя на месцы паселішчаў ды пахаванняў розныя каштоўнасці і скарбы, пра з'яўленне там прывідаў, зданяў. Многія археалагічныя помнікі да гэтай пары ў вялікай пашане. У старажытных пячорах, падзем'ях і падземных хадах, згодна з паданнямі, таксама жывуць здані, хаваюцца скарбы. А ў такіх месцах беларускага ландшафту, як яры, яміны ды лагчыны, паводле міфалагічных уяўленняў, чыняцца розныя містычныя рэчы.

Дарога як звязак паміж двума пунктамі прасторы таксама фігуруе ў розных жанрах беларускага фальклору. Пракладанне і насыпанне дарог прыпісваецца ўсякім міфічным істотам, іншаземцам, легендарным героям. Не абыдзены ўвагай масты, пераправы і брады. Іх найменні таксама міфалагізаваныя: *Дзедаў* або *Татарскі Брод*, *Шведская* або *Французская Грэбля* і г. д. Прыдарожныя камяні, крыжы, капліцы і калоны ў не меншай ступені авеяны паданнямі.

Нашы продкі ў паданнях пра ландшафтныя аб'екты значнае месца адводзілі і гістарычным асобам. Там фігуруюць князь Вітаўт і кароль Стэфан Баторы, каралева Бона і княгіня Вольга, Пётр I і Карл XII, Кацярына II і Напалеон Банапарт, інш. Даволі часта ў такіх паданнях сустракаюцца выдуманыя асобы: міфічныя князі і княгіні, каралі і каралевы, цары і царыцы.

Вядома, у кнізе падаецца толькі невялічкая частка інфармацыі пра міфалагічнае бачанне нашымі продкамі беларускага ландшафту. Таму краязнаўцам, навукоўцам і ўсім тым, хто цікавіцца роднай гісторыяй ды культурай, працаваць у гэтым кірунку яшчэ вельмі рупліва і бясконца.

# Народныя назвы археалагічных і сакральных ландшафтных аб'ектаў Беларусі

### Найбольш распаўсюджаныя назвы гарадзішчаў

Акоп, Акопішча, Акопы Кацярыны, Батарэя, Верхні Замак (Верхні Горад), Гара каралевы Боны, Гарадзец, Гарадзішча, Гарадок, Груд, Груда, Грудка, Грудок, Дварэц, Дзявочая Гара, Дзевіна Гара, Замэчак, Замкавая Гара, Замкавіска, Замкавішча, Замак каралевы Боны, Замчышча, Змееў Курган, Капец, Касцёл, Касцельная Гара, Курган, Малы Гарадзец, Могілкі, Ніжні Гарадзец, Ніжні Замак, Пагулянка, Папоў Гарадзец, Папова Гара, Прыстань, Рудавец (Рудовец), Талерка (Тарэлка), Татарская Гара, Турэцкая Гара, Французская Гара, Царкавішча, Царкавішчына, Чорная Гара, Чортава Гара, Шведава Гара, Шведскія Акопы.

### Адзінкавыя назвы гарадзішчаў

Авідзіева Гара, Адамава Гара, Адамухава, Аколіца, Акольніца, Акунь-Горад, Акураўшчына, Альтанская Гара, Альшчына, Амеціна Гара (Аранскі Гарадок), Асеча, Асінавы Гарадок, Асінгарадок, Астравок, Ашуркі, Баб'е, Бабравіны, Бабы, Багатырская Гара, Бамбізаўшчына, Барань-Горад, Баравіны, Барок, Барон, Барсукова Горка, Барыслаўль-Гарадок, Баторыева Гара, Батура, Баярскі Бутор, Баяршчына, Белая Гара, Бесава Гара, Благадаць, Бобы, Божы Дар, Божая Хвала, Братскія Магілы, Бруждзелева Гара, Буда, Буклеўка, Буслава Гара, Бык, Былы Старасцінскі Замак, Бярозавая Гара, Ваенны Гарадок, Вакунь-Горад, Вал, Вал Скрыгалоўскі, Валы, Валы Кацярыны, Варганская Гара, Васіліха, Вежа, Весялуха, Відзіўш-Гара, Вінная Гара, Вір Курганскі, Віршупка, Вокунь-Гара, Воран-Гара,

Востраў, Востраў-Гарадок, Высокае, Высокі Гарадзец, Выспа, Выспянская Гара, Вялікае Гарадзішча, Вялікі Гарадок, Габрылёк, Газбуч, Гара, Гара Адама Міцкевіча, Гара Вітольда, Гара княгіні Домны, Гара Літоўская, Гара Машэўка, Гара Маяк, Гара Сілёнка, Гараватка, Гарадзінка, Гарадні, Гара Магіла, Гара Прэступніца, Гаранец, Гарбарова Гара, Гарбоўшчына, Галодныя Магілкі, Гараватка, Гарадзілава, Гарадзінец, Гарадзінка, Гарадзіска, Гарадзішча князя Корсага, Гарадзішчайка, Гарадкі, Гарадніца, Гарадчэнь, Гародна, Гарадцы, Гаршок, Гарышча, Гарэлы караул, Гаштольдава Гара (Кальвіншчына), Германы, Глінскі Замак, Горад, Горбуч, Горкі, Градня, Грудзінск, Грудка, Губеня, Гулебшчына, Гульбішча, Гуркі, Гуслішчы, Дварышча, Дворышча, Дзевоскае Гарадзішча, Дубовае, Дубок, Дымакуры, Елізавеціна Гара (або Карлаўка), Жаваранкава Гара, Жагіянскае Гарадзішча, Жаўнерава, Жыганская Гара, Жыдова Гара, Жыжняны, Забуклевечча, Загорнае, Залатая Горка, Замкавіска, Замкаўшчына, Замкоўка, Замчыска, Замак Галіцына, Замак князя Кміты, Зарэцкі Гарадок, Засека, Званіца, Земляное Гарадзішча, Змеева Гара, Змееў Курган, Зміяў Гарадок, Змяёўка, Ігрышча, Каза, Казацкі Стан, Каменная Гара, Камітэт, Капавішча, Кап'ё, Капан-Горад, Капішча (Копішча), Капішча Перуна, Капліца, Касцялок, Касцяная Гара, Катвіны, Каціна Гара, Кіян-Горад, Клецішча, Княгінкі, Княжая Гара, Княжаскае, Княжына Гара, Князевы Горы, Кобань, Копішча-Кіян, Копная Гара, Кравянец, Крайская Зямля, Красік, Красная Гара, Круглая Гара, Круглы Стол, Крутагор'е, Крывуля, Крыкаў, Крэм-Горад, Крэпасць ад швядоў, Куроўская Гара, Курган Вялікі, Курганне, Кухцікава Гара, Кучугур, Ламіха (Замкавая Гара ў Віцебску), Ліпняк, Лесішча, Лісья Гара, Літова, Літоўская Гара, Лоіна Гара, Локаць, Лысая Гара, Лысуха, Любашкава, Магіліцы, Магілы, Малая Ніва, Малое Гарадзішча, Малы Гарадок, Манастыр, Маргач, Марыліна Гара, Маскоўкіны Горы, Маяк, Месіхорава Гара, Мізарскі Замак, Морган, Мошкі, Мсцібаў Гарадок, Муравельнік, Мармажава, Навіна, Нікольская Гара, Пабеднікі, Пагарышча, Пагібла, Пагранічны Вал, Падгор'е, Падкаленца, Падкапцоў'е, Падкопцы, Пад'ямец, Пажары, Пакальніс, Паненская Гара, Панская Гара, Панскі Замак, Папоў Гарадзец, Пескавацік, Печ, Пілікала, Пілекальніс, Піліс, Піля, Пінікала, Пісарава Гара, Піўніца, Польская Гара, Прачысценская Гара, Пятроўскі Вал, Раманава Гара, Рымшава Гара, Сакольля Гара, Саксонскі Курган, Салавіца, Саламярэцкі Гарадок, Салдатава Гара, Салдацкая Слабада,

22 Зак.492

Селішча, Сівая Гара, Сінінковая Гара, Сіняя Гара, Сісянёва, Сіянка, Скабеева Гара, Скаварада, Спасская Гара, Старажавая Гара, Старая Крэпасць, Старніна Гара, Старое Гарадзішча, Старое Сяло, Стары Акоп, Стары Замак, Стары Насып, Стары Рэдут, Старына, Старынны ваенны лагер, Столпня, Сторож, Сыпаная Гара, Тартак, Тарылава, Таўкач, Тура, Турава Гара, Туроўская Гара, Турынскі Гарадок, Тур'ева Гара, Узгорскі Замак, Французская Батарэя, Халоп'я Гара, Чортаў Гарадзец, Чортаў Гарадок, Чортаў Човен, Цэркавішчына, Цатаўшчызна, Цербахунь, Цыганка, Шалыгі, Шансы, Шведавы Горы, Шведскі Вал, Шведскія Акопы, Шведскія Умацаванні, Шчыгуз, Юркава Горка, Ягэ, Язы, Ян, Янава Гара.

## Стаянкі каменнага і бронзавага вякоў

Аксінаў Груд, Асавец, Аўрамаў Бугор, Бабін Бугор, Бабулін Бугор, Баравіца, Барок, Барысава Гара, Бацяніха, Беркава Гара, Боркава Гара, Бочачкі, Бруснае, Бугры, Бярозавая Града, Бярозаўскі Поплаў, Вітаўт, Востраў, Выдзьма, Высокая Гара, Высокая Грыва, Галынкава, Ганчароўка, Гарадзішча, Гарадок, Гарадчызна, Гарынец, Горка, Града, Грудзіца, Грудкі, Груды, Гумбішкі, Дварэц, Дварышча, Дзедкаў Барок, Дзёмкіна Грыва, Дзівінскія Горы, Дзівінскія Пяскі, Дзявочыя (Паненскія) Гарадкі, Дубовы Лог, Дубраўка, Завалле, Завальна, Загуменька. Замагіркі, Замчышча, Збішча, Ігрышча, Казлова Гара, Казялец, Калодзенскі, Калодна, Каралёў Востраў, Кашаланы, Кашчэева, Какаўня, Ключыха, Красная Горка, Кругліца, Крыжы, Ксяндзова Гара, Курган, Курганка, Курганне, Ліпавы Бугор, Літоўскі Бераг, Лысая Гара, Ляды, Магіліца, Мельнікава Грыва, Мішурова Грыва, Негацень, Падлужжа, Пад Навіною, Падселіца, Палон, Паповы, Папова Грыва, Пацерабы, Печанеж, Печышча, Плітніца, Плошча, Прыстань, Рубанаў Курган, Селішча, Скок, Старое Аднаполле, Старое Сяло, Страліца, Стрэліца, Стрэчава, Сяльцо, Тураўшчына, Узлужжа, Фядоткава Грыва, Хвойнікі, Царкавішча, Цітаў Бугор, Цыганскі Бугор, Уялец, Чачуроўка, Шведскія Акопы.

## Селішчы розных гістарычных эпох

Астровіца, Баб'е, Балонне, Барочак, Баркі, Барок, Белая Гара, Більдзюча, Вераб'ёва Гара, Востраў, Вострая Гара, Вусце, Высокая Гара, Вялікая Ляхавіца, Гай, Гарадзіны, Гарадошча,

Гарадок, Гарадзькі, Гарбуч, Гасцінец, Голіцкае Поле, Горка, Горліца, Грабелькі, Градка, Груд, Грудзіца, Грэбелька, Гузска, Дварэц, Дварышча, Дубраўка, Заазерская Гара, Завала, Залатая Горка, Замак, Замікальшчына, Замэча, Заставочча, Звань, Ігрышча, Калыскаўка, Камень, Капылец, Качубееўка, Князевы Горы, Крыжы, Курган, Курганка, Курганкі, Любча, Лысая Гара, Майдан, Млынішча, Млынок, Муравін, Падагуж'е, Падселіца, Палачышча, Пасадскае, Печышча, Прусава Гара, Прыстань, Раі, Рыбуня, Селішча, Сіняе Вока, Сіянская Гара, Стар, Стараселле, Старое Аднаполле, Старое Сяло, Старык, Старыя Клады, Стонча, Сялец, Сялецкі Роў, Федзькін Курган, Царкавішча, Цемшава Поле, Цэсь, Чорная Зямля, Шутава Гара, Шчыткавіца.

## Найбольш распаўсюджаныя назвы курганных могільнікаў

Аўстрыйскія Магілы, Бугры, Валатоўкі, Горкі, Горы, Гурбаны, Гуслішчы, Даўнія Магілы, Дзеднае, Дзедаўка, Дзедаўскія Магілы, Дзедаўскія Ямы, Дзеднае, Дзяды, Дзявочыя Магілы, Змяінкі, Капцы, Княжае Кладбішча, Княжныя Магілы, Крыжацкія Магілы, Курганы, Курганкі, Курганне, Курганні, Магілкі, Могліцы, Напалеонаўскія Валатоўкі, Напалеонаўскія Капцы, Напалеонаўскія Магілы, Панскія Магілы, Саксонскія Магілы, Сопкі, Старыя Кладкі, Татарскія Магілы, Татарскае Кладбішча, Турэцкія Магілы, Французскія Магілы, Чумнае Кладбішча, Шведскія Капцы, Шведскія Магілы.

## Адзінкавыя назвы курганных могільнікаў

Абалонійка, Адамуха, Акопы Кацярыны, Аладэнскія Клады, Асады, Астоў, Атокі, Бабіна Берва, Бабейка, Баварскія Магілы, Басіна Гала, Балваны, Баравая, Баравінка, Баравіца, Баравое Балота, Барок, Бароўскае, Батураўшчына, Бацэвіцкі Стан, Бежанскія Магілы, Белыя Магілы, Богава Гара, Божа Хвала, Божы Дар, Братнія Магілы, Брацкія Магілы, Бугры, Буклейка, Бункеры, Бурты, Буслоўшчына, Братняе Кладбішча, Бугры, Бычок, Бярозавік, Вайкоўшчына, Валасоўка, Валатковае Поле, Валоска, Валотка, Валошыны, Валошкавы Горкі, Ваяўнічыя Магілы, Верхаполле, Вілаватка, Вілатоўка, Вінчэс, Вітаў Лог, Вішнікі, Востраў, Воўкаўшчына, Выскадніца, Высокія Магілы, Высокія Могліцы, Выцерабак, Гаёк, Гай, Галабурдаўшчына, Гальцэ, Гарадзінка, Гарадзішча, Гарадок,

Гарбоўшчына, Гарэле, Гарэлік, Гіра, Гірына, Глінішча, Горы, Грабоўшчына, Грабы Паганскія, Града, Грудак, Грыгорушка, Гумнішча, Гурбаны, Гуркі, Гуры, Дварэц, Дворнае, Дворны Хойнік, Дзедаўка, Дзівілуч, Дзявіч-Магілы, Доўбішча, Драніца, Дубавіна, Дубавіца, Дубіна, Дубкі, Дубнік, Дубовіцы, Дубок, Дубрава, Дуброва, Дудкі, Дуплішча, Жаўнароўка, Жыхуцькава Поле, Забуклявечча, Завужэлле, Задубеннае, Замагільнікі, Запечча, Заручайскія Валатоўкі, Здзевоцкія Ямы, Зелянец, Зімніца, Змееў Бор, Змееў Лес, Змяінец, Змяіны Бор, Зуевы Ляды, Зязюлька, Кабылы Горы, Казацкія Ямы, Казлоўка, Казлоўшчына, Казлова Курганне, Казялец, Калатоўка, Калдоба, Калечыя Горы, Калядкі, Камуна, Камяное, Канчар, Капавішча, Капаная Ель, Капішча, Капліца, Капліцы, Карагодзіца, Кардон, Кахоўка, Карпаш, Кідаўка, Кірганы, Кісялі, Кітайскія Курганы (Магілы), Кладавейцы, Клубіны, Кобрынец, Копкі, Красная Горка, Красніца, Кровішча, Крутлавіца, Кружкі, Крыжы, Крэст, Крэў, Кстовая Гара, Купы, Курганка, Курганкі, Курганне за Свірыдавым шляхам, Курганнік, Курганы пад сонцам, Курганы Пятра I, Курганы ад дзядоўшвядоў, Курганы са шведскай вайны, Курганы часоў мангольскага іга, Курганы часоў нашэсця манголаў, Кургонья, Лавы, Лагер, Латоўкі, Латоша, Латышы, Лаўскае, Ліпавец, Ліпня, Лісіныя Горы, Літоўскія Магілы, Ліцэўскія Магілы, Лысыя Горы, Лэнгі, Любенская Рошча, Лядзецкае, Лядзіна Прыстань, Ляскаўшчына, Ляторын, Ляхава, Ляхаўка, Магілы Велікanaў, Магілы Воінаў, што загінулі ў час татарскага нашэсця, Магілы для забітых воінаў, Магілы жрацоў-крыветаў, Магілы з часоў нашэсця Батыя, Магілы паганскага народу, Магілы пасля бітвы шведа з саксонам, Макоўза, Малатоўкі, Маргі, Магільцк, Маршалкоўшчына, Маскоўскія Магілы, Масціца, Масцішча, Маханіца, Машукоўшчына, Месца баёў шведаў, французаў і Чынгізхана, Мёртвае Поле, Мікалаеўскія Магілы, Млынок, Могільнік, Морака, Мошка, Мошчанае, Мядзвежая Галава, Нахвойнік, Нежыборка, Ростаў, Пабоішча, Паганскія Магілы, Паганскія Цвінтары, Пагоня, Паграбішча, Паграбы, Пагулянка, Падбудзішча, Падземішча, Падзамча, Падкаралеўе, Падкопцы, Падлужжа, Падручча, Палачанка, Палоны, Панскае, Пасякі, Патоўсты Востраў, Пель, Перасоў, Перахрэсце, Пілекі, Піскож, Піўніца, Пішчугі, Праклятае Поле, Пранцузскія Магілы, Прыбітуха, Прыстань, Пяскі, Пугачэнец, Пяці-Копцы, Пяцічна Гара, Рагавыя Капцы, Рачыца, Рвы, Ровіншчына, Рубіжнік, Руніца, Руслаў-

ка, Салаўіха, Салдацкія Надзелы, Сапрыцкі Кардон, Сапцы, Сасы, Свінорна, Свінарэчча, Свяцец, Селішча, Сечышча, Сівец, Сіні Вір, Сінія Горкі, Сітнікі, Сіянск, Скапцы, Славянскія Магілы, Слупка, Смаляры, Смедзіна, Сомік, Сопачкі, Сопіцы, Сопцы, Сорач, Стамагілы, Старадаўнія Грабніцы, Старажэнная, Старасвецкія Капцы, Старына, Старынныя Магілы, Старыя Кладкі, Стваленец, Стражы, Струбогі, Сувораўскія Магілы, Сутокі, Сямібраты, Таболкі, Табары, Талатоўкі, Татарка, Трэль, Туравы Горы, Тур'і, Турова, Турэцкі Хвойнік, Турэцкія Курганы, Тур'я, Узгоркі, Уніяцкія Могілкі, Усобіна, Французскі Склад, Французскія Горы, Французскія Магіліцы, Французы, Хвілянскія Магілы, Хвоіна, Хвойнікі, Хвойня, Хімкіны Горы, Хоршава, Храсты, Хрусткі, Хрыстоў Лес, Царкавішча, Царковішча, Цымбалы, Цярнеж, Чорная Атока, Чорны Бераг, Чортава Гара, Шведава Поле, Шведзіха, Шкапцы, Шкопцы, Язвінкі, Язычніцкія Магілы, Ямішчэ, Янова, Японскія Магілы, Яўрэйскія Магілы.

### Назвы адзіночных кургаоў

Алатова Магіла, Аленіна Магіла, Асілкава Магіла, Бабруйкава Гара, Баторыева Гара, Буды, Валатоўка Барысаўская, Божы Дар, Віскаўшчына, Волатава Магіла, Волатава Поле, Галубец, Гара, Гарадок, Гара каралевы Боны, Гара Міндоўга, Графшчына, Грошавы, Дайніца, Дубішча, Грыцэвіцкая Баба, Дзявічая Гара, Дзявічая Магіла, Езьвіца, Еркін Курган, Жаніхова Магіла, Змеева Магіла, Зялёнка, Ігнатава Магіла, Капец, Капітан, Капітанка, Капішча, Караліха, Кацярынін Курган, Кудычка, Княжная Гра, Княжаная Магіла, Красная Ніва, Лавачнік, Лысая Гара, Магіла Купца, Магіла Маладых, Магіла Міндаўга (Магіла Войшалка), Магіла Рагнеды, Магіла страшнага князя Волата, Магіла французскага генерала, Малатоўка, Малахаў Курган, Марфіна Лядца, Маскаліха, Міцькіна Магіла, Напалеонава Магіла, Патоўсты Востраў, Прусава Гара, Прыдаткі, Саксонскі Курган, Сечышча, Сіні Вір, Сліва-Магіла, Супруніха, Татарская Горка, Татарская Магіла, Турскі Курган, Турэцкі Курган, Федзькін Курган, Хвойня, Янава Гара.

### Назвы вялікіх насыпаў у курганных могільніках

Волатава Магіла, Дзявіч-Гара, Дзявічы Курган, Княжая Магіла, Міцькіна Магіла.

## Назвы двух курганоў

Буды і Галубец, Вользіна Пахаванне і Аўтінін Курган, Караліха і Маскаліха, Княгінкі, Князевы Горы, Пабядзінец.

## Могільнікі эпохі бронзы і ранняга жалезнага веку

Баб'я Гара, Белая Гара, Гарадзішча, Дзявіч-Гара, Крупленшчына, Курган, Леваноўшчына, Лешча, Пад'ямец, Радышава Гара, Сіянскія Горы, Турска.

## Сопкі

Боханаўка, Французская Горка, Турэцкая Магіла.

## Каменныя курганы

Выскадніца, Каменныя круті, Паганскія Магілы, Шведскія Капцы, Шведскія Магілы.

## Каменныя Магілы

Аўстрыйскія Магілы, Баярскае Кладбішча, Баярскія Магілы, Баяры, Галоднік, Галодныя Могілкі, Галодныя Магіліцы, Ганчарыха, Голуб, Дзявіц-Магілы, Доўбы, Дуніч-Магіліцы, Жальнік (Жальнікі), Каменка, Камяніца, Карначыха, Круглік, Крыжацкія Магілы, Курганы, Курган Лейцэкапінэс, Мазічай, Мангольскае Кладбішча, Могільнік, Паганскія Магілы, Старасвецкія Магілы, Сьцяглінскія Могілкі, Татарскія Магілы, Турэцкае Кладбішча, Французскае Кладбішча, Халернік, Хрустні, Царковішча, Шведскія Капцы, Шведскія Магілы, Яцвяжскія Магілы.

## Познесярэднявечныя могільнікі

Бабіна Гара, Баб'я Горка, Баранішкі, Барок, Белыя Магілы, Брускавішча, Ваеннае Татарскае Кладбішча, Ганчарыха, Гільдзіна Магіла, Дзед, Дзедавы Ямы, Дзедка, Дзявіц-Магіла, Дуніч-Магіліцы, Жыдоўскія Магіліцы, Залатая Горка, Заляшша, Замчышча, Змееў Курган, Ільінскія Могілкі, Каладзішча, Камяніца, Капцы, Касцейшча, Клад, Кладавішча, Кладаўе,

Кладбішча, Кладзенка, Кладзішча, Копішча, Крыжовая Гара, Літовськэ Моглыцэ, Ліцаўскія Магілы, Ляшча, Ляшчэўнік, Магільнік, Магіліцы, Магілкі, Магілкі Скамарошыя, Маліцвіна, Манастыршчына, Маскоўскае, Мёртвае Поле, Мільга, Могілкі, Могілкі з часоў Напалеона, Могілцы, Паганскае Кладбішча, Паганскі Цвінтар, Паганскія Магілы, Памецішча, Пліткі, Плітніца, Прыстань, Роў, Рускія Магілы, Рэшткі Напалеонаўскага адступлення, Сіянская Гара, Старасвецкія Магілы, Старынныя Могілкі, Старыя Клады, Стрэліца, Татарскае Кладбішча, Татарскія Могіліцы, Татаршчызна, Турска, Турэцкія Магілы, Французскае Кладбішча, Французскі Склад, Хаткі, Халернік, Хрыстоўшчына, Царава Гара, Царкавішча, Цвінтар, Цыклідзін Курган, Цыганка, Чорная Круча, Чэрнішкі, Чумнае Кладбішча, Чумныя Могілкі, Шведскае Кладбішча, Шведскія Магілы, Шведскія Могліцы, Язычніцкае Кладбішча, Яма, Яўрэйскае Кладбішча, Яцвяжскія Могілкі.

### Язычніцкія капішчы

Божнічышча, Гара Весялуха, Замак, Капішча (Копішча), Касцелішча, Гара Таўкачоўка, Царкавішча.

### Найбольш распаўсюджаныя назвы культавых камянёў

Акамянелая Жанчына, Божая Ножка, Божая Стопка, Божы Камень, Божы След (Слядок), Быкі, Волас, Волат (Волаты), Вужыны Камень, Вялікі Камень, Дзявочы Камень, Дзявочы След, Змееў Камень, Камень Напалеона, Камень са Следам, Капавішча, Князь-Камень, Кравец, Пярун, Святы Камень, След Анёлка, След Багародзіцы, След Багародзіцы з немаўляткам, След Валатоўны, След Ісуса Хрыста, След Маткі Боскай з Прадвечным Немаўляткам, След Святога Мікалая, След Святой Панны, След Хрыста, След Чорта, Стапа Багамацеры, Сцяпан, Чортаў Камень, Чортаў Ступень.

### Адзінкавыя назвы культавых камянёў

Адамаў Камень, Алтар, Апякун, Асілак, Ахвярны Камень, Баран, Барашкаў Камень, Белы Камень, Блудны Камень, Божае Крэсла, Божая Печ, Буры Камень, Валіла, Васькаў Камень, Ведзьмін Камень, Ведзьміна Печ (Ломіна Печ), Верабей,

Вітаўтавы Відэльцы, Вітаўтавы Талеркі, Вол, Волас, Воласень, Волат, Вор, Гарэльнік, Гарэх, Гомсін Камень, Гусак, Гусь, Даждзьбог, Дайніца, Дзева-Блюдас, Дзед, Дзедаў Камень, Дзюравы Камень, Дзям'ян і Мар'я, Дубрава, Залатыр, Засульскія Турэ, Захараў Камень, Званец, Здань-Камень, Змееў Камень, Зцяты Камень, Зязюлька, Ізэрэдка, Кадрыль, Казак, Калач, Каменнае Ярмо, Каменныя Валы, Каменныя Вароты, Камень Баграціёна, Камень Багушэвіча, Камень з адзнакамі, Камень з Дзіркай, Камень з Крыжам, Камень з Падковай, Камень Касцюшкі, Камень Кахання, Камень Кунцэвіча (Іасафатаў Камень), Камень Марыны Мнішак, Камень Міцкевіча (Камень Філарэтаў), Каменны Масток, Камянец, Канапа, Капец, Касцелішча, Князь-Брод, Князь-Камень, Козі Камень, Котаў Камень, Красны Камень, Культавы Камень, Ластаўка, Лекавы Камень, Лешы Камень, Літоўскі Камень, Магіла Казака, Макрагузы, Маньчын Камень, Маркаў Камень, Марцін Камень, Мар'ян, Міхалка, Мохавы Камень, Мураваны Камень, Мядзведзь, Мядзвежая Галава, Нага Пятра, Нявесцін Камень, Пастухоў Камень, Пеўнік, Пісаны Камень, Проліца, Пястун, Рабінавы Камень, Радушына, Рамановіч, Расколаты Камень, След Святога Антонія, Седлавы Камень, Сіні Камень, Скаварада, Скамянелая Баба, Скамянелая Вёска, Скамянелыя Валы, Скарбавы Камень, След Бычка, След Д'ябла-абжоры, След Лебедзі, Стары, Стук-Баба, Ступня Магдалены, Субоцін Камень, Сцёп-Камень, Сямі-Гаюн, Тапчак, Тур'і Горы, Турэцкая Шапка, Уладыка, Царкавішча, Цітаў Камень, Цмок Вяль, Цудадзейны Камень, Чаечнік, Чартолле, Чортава Грэбля, Чортава Дарожка, Чортава Лапа, Чортава Печ, Чортавы Дучкі, Чэслаў Камень, Шалёны Камень, Шатанскі Камень, Язэпаў Камень, Ясеў Камень.

### Назвы каменных крыжоў

Два Браты, Кацярыненскі Крыж, Крыж-Баба, Крыж Корсакаў, Маісееўскі Крыж, Макараўскі Крыж, Скарпіён, Стан-Круль (Каралеўскі Камень), Чэсны Крыж.

### Узгоркі

Адамуха, Бабіна, Бабруйкава Гара, Бабуліна Гара, Багатыр-Гара, Бараняя Гара, Барысава Гара, Белая Гара, Богава Гара, Ботвіна-Гара, Валатоўка, Валовая Гара, Варганская Гара,

Весялуха, Відушава Гара, Вясёлая Гара, Гара Вялікая, Гара Гарадзішча, Гара Крыжоў, Гара Кумата, Гара Табола, Горад, Гуменная Гара, Дзеўкіна Гара, Дзіві-Груд, Дзявіч-Гара, Дзявочая Гара, Дзявочы Курган, Дуб, Елісеева Гара, Еўцава Гара, Залатая Гара, Замак, Змеева Гара, Ігрышча, Ільіна Гара, Кадзідла, Казлова Гара, Калнас, Капішча, Капішча Перуна, Капказ, Капліца, Каралева Гара, Каршакова Гара, Касцельная Гара, Касцёл-Гара, Клубінішча, Кляштар, Княгінка, Коз'я Гара, Копішча, Копная Гара, Красная Гара, Крыжовая Гара, Купалка, Купстос, Лігаліна, Літоўка, Ліцьвінава Гара, Лысая Гара, Магіла Рыцара, Мар'іна Гара, Маркава Гара, Марціна Гара, Маруленя, Мацешская Гара, Міндоўтава Гара, Мір-Гара, Нежынская Гара, Пабедня Гара, Пагулянка, Паненская Гара, Папова Гара, Перунова Гара, Піваварава Гара, Піляканя, Порзіца, Пырава Гара, Пярунка, Пяцічна, Святая Гара, Святая Грыва, Святаянская Гара, Святы Ян, Сівая Гара, Сіняя Гара, Скамарохава Гара, Славянская Гара, Сонная Гара, Судова Гара, Сярэбраная Гара, Тамілава Гара, Тарэлка, Турава Гара, Турская Гара, Турэцкая Гара, Французская Гара, Французскі Касцёл, Царкавішча, Царскія Вароты, Цыганская Булка, Цэрква, Чорная Гара, Чортава Гара, Чырвоная Гара, Шайтан-Гара, Шарая Гара, Шпілеўская Гара, Юр'ева Гара, Янава Гара.

**Азёры**

Бабіна Возера, Бабінец, Багданаўскае, Багушэўка, Балваны, Бараняе, Баторын, Белавод, Белае, Белая Вада, Бірутэ, Бэзодня, Бяздоннае, Бязодніца, Валовае, Валова Азярына, Вітава, Вочка (Выкаль вока), Гарадзішча, Гародня, Глухое, Гуслішчы, Дабрыня, Дзевіна, Дзевінскае, Дзевіцы, Дзедава, Дзедавы Штаны, Дзеднае, Дзівінскае, Дзікае, Дзявічае, Дуб, Дубавец, Дунай, Жаночае Возера, Жыценскае, Жыцкае Возера, Замкавае, Зміева, Ігра, Ігрышча, Камень, Каменскае, Княгіненскае, Княгінка, Княж, Княжае, Княжынка, Князь-Возера, Краснае, Красны Стаў, Крывое, Крыж, Крэсцішча, Купелішча, Лебедзь, Літвін, Літэзэра, Лось, Лысае, Любань, Любанскае, Мёртвае, Мядзведзь, Мядзвежае Уха, Окана, Охнішча, Освята, Паганоўка, Паганішча, Паганы Пруд, Падкова, Паненскае, Панское, Перыца, Піянерскае, Равучае, Рагнедзь, Свіцязь, Свядава, Свята-Гошч, Святазер'е, Святасць, Святое, Святцо, Святцэ, Святэ-Возерце, Свяцец, Свячанка, Сіньша, Сіняе, Старык, Стаячае, Страшное, Татарын, Тур, Тураў-

ля, Хотам'е, Хрысцінка, Царкавішча, Царква, Царкоўе, Цётча, Цыганскае, Чорнае, Чорнае Ляда, Чортава, Чортава Акно, Чортава Вока, Чырвонае, Юр'еўскае, Янава, Яцвязь.

## Крыніцы і калодзежы

Астрэйцава Крыніца, Бабін Калодзеж, Багародзіца, Багародзіцкая Крыніца, Белая Крыніца, Белы Калодзеж, Божы Калодзеж, Божы Ключ, Бразгун, Вітаў Калодзеж, Вітаўтаў Ключык, Вользін Калодзеж, Дзявіч-Калодзеж, Дзявічы Калодзеж, Дзяўчына-Калодзеж, Добрая Вада, Добры Калодзеж, Езус, Еўчын Калодзеж, Жывая Вада, Жывая і Мёртвая Вада, Здаравец, Зімнік (Шальціна), Іезусік, Ільянка, Калодзеж Каралевы Боны, Калодзеж св. Антонія, Калодзеж св. Міхайлы, Калодзеж Ундзіны, Капліца, Каралёў Калодзеж, Каралеўскі Калодзеж, Катлы, Кацярынін Калодзеж, Карлава Крыніца, Кіпучка, Кіпятак, Кіпячык, Кіпячка, Кіпяцень, Ключы, Княжы Калодзеж, Князеў Калодзеж, Князь-Калодзеж, Крыж-Калодзец, Макавей, Макавей-Крыж, Макавейкі, Марозаў Ключ, Мацюшына Крыніца, Мікольска Крыніца, Міхееўская Крыніца, Мядзвежая Крыніца, Оленушчэнэ Акно, Отмыт, Памоцная, Панскі Калодзеж, Прошча, Пятніцкі Калодзеж, Пяцінка, Равучы Калодзеж, Русалім, Свянцоны Калодзеж, Святая Вада, Святая Крыніца, Святаянская Крыніца, Сваточніца, Святы Калодзеж, Святы Ручай, Святыя Ключы, Святуха, Святы Роў, Сізёнаў Калодзеж, Сіні Калодзеж, Студзянец, Сувораўскі Калодзеж, Татарскі Калодзеж, Тройцын Калодзеж, Тур-Калодзеж, Турэцкая Студня, Удовін Калодзеж, Усцінава Крыніца, Усцінін Ключ, Царкавішча, Царкоўе, Цёплы Калодзеж, Чарнагразе, Чорны Ручай, Шальціня, Шведава Крыніца, Янава Крыніца, Янаўская Крыніца, Янкава Крыніца.

## Рэкі і ручаі

Бабенка, Бабка, Баранаўка, Белая Натопа, Беліца, Белы, Валосавіца, Вялікая Рака, Глухаўка, Дзевічынка, Дзевіца, Дзедаў Ручай, Дзвіна, Дзівінка, Дзедава, Дубавец, Дубаўка, Дубенка, Дубраўка, Дунаец, Дунай, Залатоўка, Залаты Ручай, Залаціна, Зміеўка, Змяіны Ручай, Іграеўка, Казлоўка, Казлякоўка, Княгінка, Княжа, Княжанка, Княжая, Кравец, Краснадубка, Красны Рог, Красны Ручай, Краўцоў, Крывавы, Любавенка, Любіца, Любка, Мёртвы Ручай, Міртвіца, Мядзведаўка, Пагрэбніца, Світка,

Свяда, Святазерка, Святчык, Святы Ручай, Свяца, Свяцілаўка, Свяціца, Серабранка, Сін, Сініца, Сінія Воды, Сіняя, Стогараўка, Сякеркі, Татарка, Тур'я, Царкоўка, Чарнарэчка, Чарнаўка, Чарнушэнка, Чарняйка, Чарняўка, Чорная, Чорная Гразь, Чорная Натопа, Чорнавочка, Чортаў Ручай, Юр'ева, Янаўка.

### Сакральныя астравы

Волахаў Востраў, Гульбішчанскі Востраў, Манастыршчына, Папоўскі Востраў, Рагнедзін Востраў, Русальчын Востраў, Святы Востраў, Царкавішча, Юр'еў Востраў.

### Балоты

Баба, Бажніца, Балваны, Батураўшчына, Белае, Белае Балотца, Белая Лужа, Блудзяшчык, Вялікае Балота, Глухое, Гуслішчы, Дзед, Дзядок, Дрыстуха, Дубовае, Жыдоўскае Балота, Закляты Мох, Замглай, Ігрышча, Кабыліна Балота, Кабылічча Балота, Каза-Балота, Казакі, Камароўскае Балота, Капліца, Каралеўскае Балота, Караліха, Кравяное, Краснае, Леляшоўскае, Лукомскае, Любіна Балота, Люцень, Малані Рог, Пагоня, Паненскае, Панскае, Папова Возера, Пеннае, Прускае, Сваха, Святая Лаза, Свяцце, Свяцец, Сівое, Слепяшчына, Сыч, Тураў Мох, Тураўскае, Царкавішча, Чарцякова Вока, Чорнае, Чорная Гразь, Чорная Лужа, Чортава Акно, Чортава Балота, Чортава Вуліца, Чортава Лазня, Чартова Сцежка, Шалёнае Балота, Шведава Балота, Шведава Ярута, Юраўскае, Янкаўшчына, Ясціня.

### Сакральныя гаі і лясы

Бабі Гай, Бабі Лес, Бажкоў Лес, Белы Лес, Божы Дар, Вялікі Дуб, Гаёк Марылі, Гай Міндоўта, Дзедаўшчына, Дубіны, Дубны Лясок, Залатая Дуброва, Залаты Бор, Змееў Лес, Казловіцкі Лес, Каралеўская Дубрава, Княжая Дубрава, Княжы Бор, Красны Гай, Любенская Рошча, Пеўняў Лес, П'яны Лес, Райскае, Сівы Бор, Старына, Татарванка, Царкоўка, Ялаўскі Лес.

### Культавыя дубы

Асілак, Вітаўтаў Дуб, Волат, Дуб-Дзядуля, Дуб Ягайла, Дэвайціс, Касцюшкаў Дуб, Красны Дуб, Напалеонаўскі Дуб, Святы Дуб, Стары, Сувораўскі Дуб, Трохгранны Дуб, Цар-Дуб, Юсціянаўскі Дуб, Якубаў Дуб.

**Культавыя сосны**

Галяшова Сасна, Княжая Сасна, Красная Сасна, Марына Сасна, Напалеонаўская Сасна, Пятрова Дрэва, Сасна Куліна, Святая Сасна, Святая Хвоя, Французская Сасна, Шведава Сасна.

**Іншыя культавыя дрэвы**

Трохгранная Вярба, Трохгранная Ліпа.

**Пячоры**

Архіпава Хатка, Пацерабы, Царкоўе.

**Сакральныя палі**

Гукава Поле, Дзявічае Поле, Крыжацкае Поле, Маскоўскае Поле.

**Лагчыны, яры**

Божы Брод, Дзеўкін Брод, Дзеўчына Даліна, Дзявочы Карагод, Залатыя Вароты, Ідалаў Лог, Князеў Брод, Княжова Пель, Крывавы Луг, Напалеонаўскі Равок, Сцяпанкаў Роў, Татарская Даліна, Татарскі Брод, Турэцкі Брод, Царкевіца, Чортава Яма, Чырвона Влока, Яўрэйскі Роў.

**Сакральныя дарогі**

Альгердава Дарога, Валатоўская Грэбля, Вітаўтава Дарога, Волатава Грэбля, Дарога Стэфана Баторыя, Дзедаўскі Шлях, Касцёл-Дарога, Кацярынінскі Шлях, Напалеонаўская Дарога, Напалеонаўская Трапа, Старая ваенная дарога, Старык-Дарога, Французская Грэбля, Царскі Шлях, Швэцкі Шлях.

**Сакральныя масты**

Бабін Мост, Вітаўтаў Мост, Вітольдаў Мост, Дубовы Масток, Зялёны Мост, Каралёў Мост, Князеў Мост, Напалеонаўскі Мост, Перуноў Мост, Рабы Мост, Татарскі Мост, Французскі Мост, Чарністы Мост,Чортаў Мост, Шведскі Мост.

# Геаграфічны паказнік

## Раздзел I
## *Узгоркі*

## Раздзел II
## *Азёры і рэкі*

## Раздзел III
## *Крыніцы*

## Раздзел IV
## *Балоты*

## Раздзел V
## *Камяні*

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**



**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

## Раздзел VI
## *Дрэвы*

## Раздзел VII
## *Гарадзішчы і селішчы*

## Раздзел VIII
## *Курганы*

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**



**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**



**МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**



**МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ**

## Раздзел IX
## *Старыя могільнікі*

**Раздзел X**

## *Пячоры, падзямеллі, яры...*

## ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



## МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



## МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## Раздзел XI
## *Дарогі*

## Раздзел XII.
## *Міфалогія і гісторыя ў мікратапанімічных назвах і паданнях*

# Змест

Навукова-папулярнае выданне

**ДУЧЫЦ** Людміла Уладзіміраўна
**КЛІМКОВІЧ** Ірына Яўгенаўна

# САКРАЛЬНАЯ ГЕАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ


Рэдактар *А. А. Карп*
Мастак *А. А. Жданоўская*
Камп'ютарная вёрстка *Л. В. Касцюкевіч*
Стыльрэдактар *А. А. Карп*

Падпісана ў друк 18.02.2011. Фармат 60×90 1/16.
Папера афсетная. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 24,0. Ул.-выд. арк. 21,59.
Тыраж 1100 экз. Заказ 492 .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Літаратура і Мастацтва».
ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009.
Вул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, г. Мінск.



Душа Беларусі — у паданнях і легендах, створаных прадзедамі і з глыбокай верай перададзеных нашчадкам. Гэта нацыянальнае багацце, якое немагчыма поўна выявіць ані ў архівах, ані падчас археалагічных раскопак. Паданні і легенды тлумачаць карціну свету, у міфічных вобразах малююць наш непаўторны ландшафт. І нават сёння іх можна пачуць ад тых, хто захаваў у сваёй памяці старажытныя расповеды продкаў.

Аўтары «Сакральнай геаграфіі Беларусі» больш за дзесяць гадоў вандруюць па Радзіме, наведваюцца ў самыя патаемныя яе куточкі, даследуюць апетыя ў міфах і паданнях сакральныя мясціны. Дзякуючы гэтым падарожжам і з'явілася на свет кніга, якую вы трымаеце ў руках.



ISBN 978-985-6941-85-9